АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ ЛІТАРАТУРЫ імя ЯНКІ КУПАЛЫ

# БЕЛАРУСКАЯ ДАКАСТРЫЧНІЦКАЯ ПАЭЗІЯ




МІНСК 1967

Зборнік мае на мэце пазнаёміць чытача з беларускай паэзіяй пачатку XX ст. (1905—1917 гг.).

Прадметам увагі даследчыкаў да апошняга часу была паэзія галоўным чынам вядучых паэтаў. У той час як мастацкая спадчына менш або мала вядомых аўтараў абміналася. Галоўная прычына такога становішча ў тым, што творы гэтых паэтаў у савецкі час не перавыдаваліся. Раскіданыя па розных дакастрычніцкіх перыядычных выданнях, якія даўно сталі бібліяграфічнай рэдкасцю, яны былі недаступны не толькі шырокаму чытачу, але і спецыялістам.

У зборнік увайшлі творы 45 аўтараў. Побач з агульнавядомымі імёнамі паэтаў у ім прадстаўлены вершы шматлікай групы прадстаўнікоў так званай масавай паэзіі.

Зборнік упершыню дае ў сабраным выглядзе лепшыя творы беларускай паэзіі пачатку XX ст. Ён будзе садзейнічаць паглыбленню ранейшых уяўленняў аб развіцці дакастрычніцкай беларускай літаратуры і з'явіцца дапаможнікам для студэнтаў, настаўнікаў і ўсіх, хто вывучае родную літаратуру.

Рэдактар
народны паэт Беларускай ССР
*П. У. Броўка*

Складальнік
доктар філалагічных навук
*В. В. Барысенка*

Зверка тэкстаў, заўвагі і тлумачэнні да іх
*А. Д. Атаевай*

## Ад складальніка

У апошнія гады беларускія літаратуразнаўцы паспяхова працуюць над тым, каб адрадзіць усе незаслужана забытыя пісьменніцкія імёны і мастацкія творы і тым самым у нейкай меры зменшыць колькасць «белых плям», якія ўсё яшчэ ёсць на карце развіцця беларускай літаратуры.

У 1965 г. у выдавецтве «Навука і тэхніка» выйшаў зборнік «Беларуская дакастрычніцкая проза»[1], у якім упершыню змешчаны ў сабраным выглядзе найбольш значныя творы беларускай мастацкай прозы пачатку XX ст. Наш новы зборнік мае на мэце пазнаёміць чытача з беларускай дакастрычніцкай паэзіяй таго ж самага перыяду.

У новай беларускай літаратуры (у адрозненне ад старажытнай) паэзія доўгі час займала пануючае становішча. Аднак і яна, таксама як і беларуская літаратура ў цэлым, развівалася на працягу доўгага часу вельмі павольна, замаруджана. Прычынай таму былі надта цяжкія сацыяльна-палітычныя ўмовы, у якіх не адну сотню год знаходзіўся беларускі народ — спачатку пад прыгнётам польскіх паноў, а затым — царскага самаўладства. І толькі ў пачатку нашага стагоддзя, дакладней кажучы толькі пасля бурнага і гераічнага 1905 г., становішча беларускай літаратуры шмат у чым змянілася ў лепшы бок. Чым жа гэта тлумачыцца?

У канцы XIX — пачатку XX ст. перад Расіяй, у тым ліку і Беларусіяй, на парадку дня стаяла неадкладная задача ліквідацыі перажыткаў феадалізму ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Рэшткі прыгонніцтва і патрыярхальнага быту моцна тармазілі і стрымлівалі эканамічны, сацыяльны і культурны прагрэс і з'яўляліся крыніцай варварскай эксплуатацыі і прыгнёту працоўных. На рашучае знішчэнне ўсіх перажыткаў прыгонніцкіх адносін, на дэмакратызацыю

[1] Беларуская дакастрычніцкая проза. Мінск, 1965 г. Склаў В. В. Барысенка.

эканамічнага і палітычнага ладу краіны і была накіравана першая руская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя, рухаючымі сіламі якой былі рабочы клас і сялянства.

Магутная народная рэвалюцыя прывяла ў рух усе класы беларускага грамадства. Яна абудзіла ад спрадвечнай забітасці народныя масы, узняла іх на барацьбу за сваё сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне.

Сацыяльна-палітычныя зрухі, якія ўнесла рэвалюцыя ў беларускае жыццё, выклікалі істотныя змены і ў нашай нацыянальнай літаратуры. Менавіта з моманту рэвалюцыі 1905—1907 гг. у яе гісторыі пачынаецца новы перыяд, які працягваецца аж да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. За гэты невялікі, але насычаны важнымі гістарычнымі падзеямі перыяд беларуская літаратура зрабіла імклівы рывок наперад, значна ўзбагацілася якасна новымі рысамі, абумоўленымі новай рэвалюцыйнай эпохай. Выдатны паэт і дасканалы знаўца роднай літаратуры М. Багдановіч слушна аб гэтым пісаў: «Новы перыяд у гісторыі беларускай літаратуры мае сваім зыходным пунктам 1905 год, які зрабіў глыбокі пераварот у псіхіцы народных мас; перад імі паўстаў, высунуўшыся з ценю на свет, цэлы шэраг новых пытанняў, якія патрабавалі неадкладнага вырашэння, а традыцыйных адказаў на іх вёска яшчэ не мела. Узнікла гарачае імкненне разабрацца ў падзеях, рассунуць поле свайго зроку, а, значыць, узнік вялікі попыт на ідэалагічныя каштоўнасці. У гэты час беларускае друкаванае слова зрабілася настойлівай неабходнасцю і хутка атрымала небывалы размах» [1].

І сапраўды! Сама гістарычная абстаноўка, рэвалюцыйны час настойліва патрабавалі ад усіх без выключэння класаў разабрацца ў незвычайна складаных гістарычных падзеях і неадкладна даць адказ на пастаўленыя самім жыццём важнейшыя народна-нацыянальнага значэння пытанні. Зразумела, што кожны з іх імкнуўся разабрацца ў наспеўшых праблемах часу, зразумець і правільна ацаніць гістарычныя працэсы, прадугледзець іх ход і развіццё з тым, каб скіраваць іх у належным для сябе напрамку. Кожны клас выкоўваў і адточваў патрэбную сабе ідэйна-палітычную зброю.

Натуральна, што такая магутная і дзейсная ідэалагічная зброя, як мастацкая літаратура, не магла застацца ў баку ад вырашэння надзённых патрэб грамадскай барацьбы, вы-

[1] М. Багдановіч. Творы, т. II. Мінск, 1928, стар. 24.

зваленчага руху. Не магла, безумоўна, не адгукнуцца на задачы нацыянальна-гістарычнага развіцця і маладая беларуская паэзія — найбольш чуткая да грамадскіх змен і найбольш развітая ў той час галіна нашай нацыянальнай літаратуры. І яна сапраўды голасна адгукнулася на патрабаванні эпохі, на хуткі рост нацыянальна-вызваленчага руху ў краіне, яскрава адлюстравала ўздым рэвалюцыйнай барацьбы рабочых і сялян. Маладая беларуская паэзія становіцца выразніцай шырокага вызваленчага руху «самих масс».

Каб узняцца на ўзровень агульнанацыянальных задач і належным чынам садзейнічаць іх вырашэнню, беларуская літаратура ў цэлым, і паэзія ў прыватнасці, павінна была як мага хутчэй пераадолець сваё працяглае адставанне. І яна, напружваючы ўсе свае сілы, мабілізуючы ўсе свае магчымасці, настойліва ішла да таго, каб стаць «с веком наравне».

Рэвалюцыя 1905—1907 гг. адкрыла перад беларускай літаратурай новыя і больш шырокія гарызонты. Перш за ўсё яна вярнула ёй правы грамадзянства, адабраныя ў яе польскімі панамі яшчэ дзве сотні год таму назад. Па-другое, рэвалюцыя заваявала, нарэшце, для беларускай літаратуры легальную трыбуну. І наогул, рэвалюцыя 1905—1907 гг. карэнным чынам змяніла само становішча літаратуры ў беларускім грамадстве, устанавіла новыя ўзаемаадносіны і ўзаемадачыненні пісьменніка і чытача, літаратуры і грамадства.

Агульнавядома, напрыклад, што аж да самага пачатку XX ст. літаратурай у нас займалася толькі невялікая кольсасць, па выразу М. Багдановіча, «любителей белорусской литературы». Займацца беларускай літаратурай лічылася ў тыя часы справай пераважна аматарскай, прыватнай і, дарэчы сказаць, далёка не небяспечнай. Да таго ж наша літаратура не мела яшчэ і больш-менш шырокай і сталай чытальніцкай аўдыторыі, што складалася тады пераважна з тых жа самых аматараў беларускай славеснасці.

І толькі ўжо ў новую, рэвалюцыйную эпоху, і асабліва пасля падзей 1905 г., становішча беларускай літаратуры, як мы адзначалі, істотна змяняецца да лепшага.

Сацыяльна-эканамічныя і культурныя змены ў беларускім жыцці, выкліканыя рэвалюцыяй 1905—1907 гг. у значнай меры ўзмацнілі і паскорылі працэс нараджэння і кансалідацыі народнай інтэлігенцыі. А з яе асяроддзя галоў-

ным чынам і рэкруціраваліся нацыянальныя пісьменніцкія кадры.

Новая рэвалюцыйная эпоха сфарміравала і новы тып пісьменніка, які істотна адрозніваўся ад літаратурнага дзеяча папярэдняга перыяду. Гэта ўжо не проста разначынец, а выхадзец з тоўшчы народа, косць ад косці і плоць ад плоці самой працоўнай масы. Часцей за ўсё — гэта вясковы настаўнік, дробны служачы, таленавіты самавучка-селянін, рамеснік, радзей — рабочы. Усё гэта людзі справы, а не слова, як адзначаў той жа М. Багдановіч. Яны не толькі паходжаннем, а часта і ўмовамі свайго жыцця моцна звязаны з народам, складаюць яго неад'емную частку і таму глыбока адчуваюць і ведаюць народныя патрэбы і выступаюць у літаратуры паэтычнымі выразнікамі народных інтарэсаў.

Пісьменнікі менавіта такога тыпу, такога сацыяльнага асяроддзя займалі тады ў беларускай літаратуры цэнтральнае месца. Найбольш перадавыя з іх з'яўляліся галоўнымі дзеячамі не толькі літаратурнага, а і рэвалюцыйна-вызваленчага руху.

З другога боку, усё тая ж народная нацыянальная інтэлігенцыя складала тады і асноўнае ядро чытачоў. Праўда, кола гэтых чытачоў не абмяжоўвалася толькі гэтай сацыяльнай праслойкай. Пасля рэвалюцыйнага 1905 г. нацыянальна-культурны рух пачынае пранікаць у самую тоўшчу народнага асяроддзя. Як ніколі раней, людзі фізічнай працы цягнуцца да асветы, ведаў, літаратуры, узрастае попыт на кнігу, на духоўныя каштоўнасці. «Новы» дэмакратычны чытач, як адзначаў М. Горкі, «паглынае кнігі як страву духоўную, а не як прыправу да сумнага і шэрага жыцця».

Адным словам, творчая энергія беларускіх працоўных, прыведзеная ў рух народнай рэвалюцыяй, уліваецца таксама і ў беларускую літаратуру. Менавіта ў паслярэвалюцыйнае дзесяцігоддзе яна перажывае заметны ўздым, які з'яўляецца непасрэдным вынікам і яркім выяўленнем небывалага рэвалюцыйнага абуджэння да гістарычнай дзейнасці і творчасці найшырэйшых пластоў беларускага народа.

Рэвалюцыйна-вызваленчая барацьба беларускіх працоўных на чале з пралетарыятам за свабоду і дэмакратыю, за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне была той гістарычнай глебай, сокамі якой жывілася перадавая беларуская літаратура, той жыватворнай крыніцай, якая апладатварала нашу нацыянальную літаратуру перадавымі ідэямі і адкуль

яна чэрпала сваё натхненне, брала сілу і моц для творчага ўзлёту.

Шматгранная, жывая і цесная сувязь з вызваленчым рухам з'яўляецца адной з найбольш істотных асаблівасцей перадавой беларускай літаратуры пачатку XX ст. Гэта адна з яе баявых традыцый.

Пад плённым уздзеяннем «руху саміх мас», пад яго магутным подыхам беларуская літаратура пачынае паскорана развівацца. Падобна казачнаму волату, яна расце, як гаворыцца, не па днях, а па гадзінах. Яна чутка адклікаецца на патрэбы нацыянальна-гістарычнага развіцця, умацоўвае сваю сувязь з рэвалюцыйнай рэчаіснасцю, узбагачаецца ідэйна, удасканальвае сваё мастацкае майстэрства.

І чым далей, тым усё больш узмацняецца і пашыраецца ўздзеянне літаратуры на грамадскую свядомасць, павялічваецца яе роля ў духоўным жыцці народа, нацыі. Наша літаратура паступова выходзіць на пярэдні край ідэйнай барацьбы, становіцца справай вялікага нацыянальнага значэння.

Аднак нельга думаць, што імклівы рост беларускай літаратуры адбываўся без сур'ёзных цяжкасцей і перашкод. Зусім наадварот. Гэта быў складаны і супярэчлівы працэс, абумоўлены асаблівасцямі гістарычнага і культурнага развіцця краіны, характарам класавай барацьбы.

Адзначым, напрыклад, што беларуская літаратура і пасля рэвалюцыі 1905—1907 гг. усё яшчэ знаходзілася ў вельмі неспрыяльных сацыяльна-палітычных і нацыянальна-культурных варунках. Будучы ўжо і на легальным становішчы, яна ўвесь час падвяргалася безупынным рэпрэсіям і ўціску з боку царскай цэнзуры. Царскі ўрад бачыў у адраджэнні нацыянальных літаратур прыгнечаных народаў Расіі вельмі небяспечную для сябе тэндэнцыю, «тэндэнцыю, — як адкрыта пісаў адзін царскі цэнзар, — разбіць і аслабіць літаратурнае і нацыянальнае адзінства, а ў выніку гэтага і палітычную магутнасць рускага народа».

Маладой беларускай нацыянальнай літаратуры даводзілася адбіваць безупынныя атакі і з боку сваіх даўніх і заўзятых ворагаў у асобе польскіх і рускіх памешчыкаў і буржуазіі гэтых дзвюх нацый, якія адмаўлялі нават самую магчымасць самастойнага гістарычнага існавання і развіцця нацыянальнай культуры беларускага народа. Ды і рэакцыйныя нацыяналістычныя сілы ў самой беларускай нацыі таксама перашкаджалі паспяховаму росту перадавой бела-

рускай літаратуры. Яны імкнуліся збіць яе з перадавых, дэмакратычных пазіцый, звярнуць яе са шляху рэалізму і народнасці, падпарадкаваць літаратуру інтарэсам нацыяналістычнай буржуазіі.

Апрача ўсяго гэтага, перад нашай літаратурай, якая яшчэ толькі што пачала складвацца як нацыянальная літаратура, паўсталі немалыя цяжкасці і пры вырашэнні чыста творчых, спецыфічна літаратурных задач. Вядома, напрыклад, што выпрацоўка сталых літаратурных норм нацыянальнай мовы — першая і абавязковая ўмова для стварэння вялікай нацыянальнай літаратуры. А беларуская літаратура да пачатку XX ст. яшчэ не паспела выпрацаваць іх.

Гэта вялікая агульнанацыянальнага значэння задача легла на плечы маладога пакалення пісьменнікаў, якое прыйшло ў літаратуру ў час рэвалюцыйных падзей 1905—1907 гг. або неўзабаве пасля іх. Яму належала агульнымі намаганнямі ў кароткі гістарычны тэрмін выпрацаваць на шырокай народнай аснове сталыя нормы нацыянальнай літаратурнай мовы. Выдатную ролю ў гэтым адыгралі, безумоўна, нашы класікі, і ў першую чаргу заснавальнікі беларускай нацыянальнай літаратуры Янка Купала і Якуб Колас. Але разам з класікамі ўносілі свой пасільны ўклад у фарміраванне літаратурнай мовы і так званыя другарадныя пісьменнікі.

Адной з карэнных творчых праблем, якія павінна была неадкладна вырашаць наша тагачасная літаратура, была таксама праблема рашучага павышэння ідэйнай і мастацкай якасці твораў. Гэтага настойліва вымагалі прынцыпова новыя мастацкія задачы, якія ўзніклі перад беларускай літаратурай у эпоху рэвалюцыйна-дэмакратычнага перавароту. Каб паспяхова справіцца з імі, беларуская літаратура павінна была значна пашырыць свой кругагляд, крута ўзняць свой ідэйна-мастацкі ўзровень, пераадолець і сваю стылёвую неразвітасць, аднастайнасць, якія дасталіся ёй у спадчыну ад папярэдніх часоў. Яна павінна была як мага хутчэй авалодаць самымі разнастайнымі мастацкімі сродкамі для праўдзівага і глыбокага адлюстравання народнага жыцця.

Маладая беларуская літаратура знайшла ў сабе досыць творчых сіл, каб паспяхова вырашаць гэтыя складаныя праблемы, таму што была цесна звязана з жыццём народа, з вызваленчым рухам, таму што яна абапіралася на здабыткі фальклору і папярэдняй айчыннай літаратуры, а так-

сама на багатыя заваёвы і перадавыя традыцыі суседніх брацкіх літаратур, і ў першую чаргу вялікай літаратуры рускага народа.

На творах новай беларускай літаратуры выразна адчуваецца жыватворны ўплыў генія Пушкіна, Гогаля, Някрасава, Горкага, Шаўчэнкі, Міцкевіча і іншых класікаў славянскіх літаратур.

Са сказанага можна, нам думаецца, уявіць найбольш істотныя рысы і асаблівасці той канкрэтнай гістарычнай абстаноўкі, ва ўмовах якой беларуская літаратура ўступіла ў пару свайго бурнага развіцця, тыя першачарговыя задачы, што паўсталі перад ёй, і тыя цяжкасці, якія прыйшлося ёй пераадолець.

Каб узняць маладую літаратуру на ўзровень задач часу, патрабавалася вялікае напружанне ўсіх перадавых літаратурных сіл. На вышыню сапраўднага творчага подзвігу ўзняліся пісьменнікі, якім выпала на долю пачэсная і шматрудная місія стаць асновапалажнікамі беларускай нацыянальнай літаратуры, заснавальнікамі сучаснай літаратурнай мовы.

Літаратурнае абуджэнне і актывізацыя творчых сіл у перыяд паміж 1905 і 1917 гг. найбольш прыкметна адбілася ў паэзіі. Паэзія ў гэты час развівалася больш інтэнсіўна, чым нацыянальная проза і драматургія, якія знаходзіліся яшчэ ў зародкавым стане, рабілі толькі першыя самастойныя крокі, заваёўвалі свае першыя творчыя здабыткі. Паэзія ж мела к таму часу больш трывалыя і больш развітыя традыцыі. Менавіта на паэтычным участку галоўным чынам засяроджваліся тады асноўныя пісьменніцкія сілы. Асабліва актыўна і плённа ў паэзіі працуюць такія майстры мастацкага слова, як Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Змітрок Бядуля, Цішка Гартны і інш. Перш за ўсё ў галіне паэзіі выступалі, прабавалі свае мастацкія сілы таксама і здольныя пісьменнікі-самавучкі, таленавітыя прадстаўнікі так званай масавай, самадзейнай літаратуры.

Адным словам, паэзія ў той час ішла на чале ўсіх іншых літаратурных жанраў. Яна складала і вызначала сабой асноўны змест беларускага літаратурнага працэсу.

Народжаная масавым рэвалюцыйным і нацыянальна-вызваленчым рухам, перадавая беларуская паэзія пачатку XX ст. наскрозь прасякнута ідэямі рашучага пераўтварэння сацыяльнай рэчаіснасці на новых дэмакратычных пачатках, ідэямі рэвалюцыйнай перабудовы карэнных асноў

народнага жыцця. Усім сваім зместам, мастацкай формай, сваёй мовай яна звернута да народа, зацікаўлена яго інтарэсамі, яго лёсам, яго мінулым, сучасным і будучым.

Тэмы — радзіма, народ, рэвалюцыя — гэта магістральныя, галоўнейшыя тэмы беларускай паэзіі. Міма іх не праходзіў ні адзін з больш-менш значных паэтаў. Гэтыя тэмы распрацоўваюцца паэтамі самых розных напрамкаў, у самых розных аспектах і паэтычных жанрах.

У сваіх лепшых паэтычных творах беларускія паэты натхнёна ўслаўляюць сваю «маці-радзіму», мастацкі ўзнаўляюць яе цяжкую, але гераічную мінуўшчыну, яе поўную рэвалюцыйнага руху і сацыяльных змен сучаснасць, празорліва заглядаюць у яе светлую будучыню. Яны глыбока пранікаюць у духоўны свет, псіхіку і настроі роднага народа, апяваюць яго рэвалюцыйную барацьбу за свабоду і дэмакратыю.

І ўсё гэта лепшымі паэтамі мастацкі адлюстравана, выяўлена і ўвасоблена ў праўдзівых, нацыянальна самабытных, маляўнічых паэтычных вобразах.

Цесная сувязь з сучаснасцю, пастаноўка важнейшых праблем народнага жыцця, высокі грамадзянскі пафас і задушэўны лірызм, рэалізм і народнасць, выдатнае паэтычнае майстэрства, паслядоўная арыентацыя на дэмакратычнага чытача — вось найбольш характэрныя асаблівасці беларускай паэзіі азначанага перыяду.

Наш зборнік і мае на мэце пазнаёміць чытача з беларускай паэзіяй перадкастрычніцкай пары. Змешчаныя ў ім творы даюць, на нашу думку, патрэбнае ўяўленне аб ідэйных і эстэтычных асаблівасцях маладой беларускай паэзіі, аб асноўных яе жанрах, культуры вершаскладання і г. д.

У зборніку побач з творамі вядомых паэтаў вялікае месца адведзена найбольш значным вершам і мала вядомых нашаму чытачу або незаслужана забытых паэтаў перадкастрычніцкай пары. У яго ўключаны таксама найбольш цікавыя паэтычныя творы і тых пісьменнікаў, якія выступалі пераважна як празаікі або драматургі і мала вядомы нам як паэты, хаця яны і пакінулі заметны след у паэзіі (Ядвігін Ш., К. Каганец і інш.).

Многія з паэтычных твораў, што ўвайшлі ў зборнік, публікуюцца ў савецкім друку ўпершыню.

Пісьменніцкія імёны і мастацкія творы размешчаны ў зборніку ў гістарычна-хранікалагічным парадку. Паэты падаюцца па часу іх выступлення ў літаратуры.

Тэксты друкуюцца ў асноўным па сучаснай арфаграфіі за выключэннем выпадкаў, калі асаблівасці правапісу паэта адлюстроўваюць найбольш характэрныя для тагачаснай літаратурнай мовы асаблівасці лексікі, марфалогіі і сінтаксічных канструкцый, а таксама і ў тых выпадках, калі змена арфаграфіі парушае рытмічны лад або рыфмоўку верша.

*В. В. Барысенка*

**Францішак Багушэвіч**

## МАЯ ДУДКА

Эх, скручу я дудку!
Такое зайграю,
Што ўсім будзе чутка,
Ад краю да краю!
Ой! то будзе гранне,
Як на павітанне
І як на вяселле,
Нядоўга тыкеле:
Прэндка скончу песні...
Покі дудка трэсне,
Ці паглохнуць людзі,
Ці высахнуць грудзі,
Сілы надарвуцца
На радаснай дудцы
І выцекуць слёзы
На сухія лозы...
Выйдзе душа парай,
Падымецца з хмарай,
Туманом па рэчцы,
Расой разліецца,
Каласочкі зрося,
Каб жыта ўдалося.
А хлеб з'ядуць людзе,
І зноў сляза будзе.
Ну, дык грай жа, дудка,
Каб жа была чутка,
Каб аж вушы драла;
Каб ты так іграла,
Каб зямля скакала!
Зайграй так вясёла,
Каб усе укола

Узяўшыся ў бокі
Ды пайшлі у скокі,
Як віхор у полю —
Аж выючы з болю,
Каб аж рагаталі,
А усё скакалі...
Каб скакалі горы,
Як хваля на моры,
Як паны на балі,—
Каб вот як скакалі!
Каб аж пыл курыўся,
Каб свет заваліўся
Ды усё круціўся,
Як ў нашага брата
У п'янога хата...
Га! Чаму ж не граеш?
Хіба ты не знаеш,
Не ведаеш хіба,
Што, як тая рыба
Ды на лёдзе б'ецца,
Так вот я, здаецца,
Сорак гадоў б'юся,
Ніяк не звярнуся,
Ніяк не натраплю
Вадзіцы хоць каплю,
Ды такой вадзіцы,
Ды з такой крыніцы,
Што, як хто нап'ецца,
Дык вольным стаецца.
Грай, вясёла ж грай,
Альбо долю дай!..
. . . . . . . . .
Енчыш безумолку!
Не, не будзе толку!
Кіну ж дудку тую,
А зраблю другую.
Цяпер зраблю дудку
Ад жалю, ад смутку.
Га! Зраблю ж другую,
Жалейку смутную,—
Ды каб так заграла,
Каб зямля стагнала,
От каб як заграла:

Каб слязьмі прабрала,
Каб аж было жудка,
О т   т о   м а я   д у д к а!..
Вот зрабіў такую!
Дай жа папрабую...
        Ну, дык грай жа, грай жа,
Усё спамінай жа...
Штодзень і штоночы
Плач, як мае вочы,
Над народу доляй,
І плач што раз болей.
Плач так да астатка,
Галасі, як матка,
Хаваючы дзеці,
Дзень, другі і трэці.
Іграй слёзным тонам
Над народу сконам!
Каб ты так іграла,
Каб немарасць брала.
Як слязы не стане,
Заціхне ігранне,—
Кінь наўкола вокам,
Дык крывавым сокам —
Не слязой — заплачаш,
Як усё абачыш.
Як крыві не стане,
Тагды кончу гранне!

## ДУРНЫ МУЖЫК, ЯК ВАРОНА

Весь свет кажыць, б'ець у звона:
«Дурны мужык, як варона!»
Гэта тыкі справядліва:
Ён дурнейшы ад вароны,
І не дзіва — было б дзіва,
Каб мужык, ды быў вучоны.
Дык крычыце ж, біце ў звона:
Дурны мужык, як варона!
Да навукі ён не браўся,
Закасіўся, загараўся;
Дурнем умрэ, як радзіўся,
Сам сабой дурным зрабіўся.
Ведама, мужык, хамула,
Ад навукі адвярнула!
Дык крычыце ж, біце ў звона:
Дурны мужык, як варона!
Ці ж не дурань мужык гэта:
Гарэ, сее усё лета,
А як прыйдуцца дажынкі,
Няма збожжа ні асмінкі,
А даждаўшы на каляды,
Мужыкі мякінцы рады.
Дык крычыце ж, біце ў звона:
Дурны мужык, як варона!
Усю зіму возам цягне
Да вакзалу ружнэ збожжа,
Ногі змерзнуць, сам засмягне,
А на хлеб кажух заложа,
Каб дажыць як да крапівы,
Абы ў поле выйшаў жывы.
Дык крычыце ж, біце ў звона:
Дурны мужык, як варона!

Ад Пятра і да Якуба
Ён касой махаў ад рання:
Наклаў стагоў, людзям — люба,
Ў хаце ж сена — ані звання:
Равець з голаду скаціна,
Хоць кінь, бяжы за вачыма!
    Дык крычыце ж, біце ў звона:
    Дурны мужык, як варона!
Глядзі, касцёл аж да неба,
Воласць бляхамі пакрыта!
Срэбрам скрые, калі трэба,
Бо за гэта яго біта,
А сам жывець ў мокрай яме,
Дзверы заткнуў анучамі!
    Дык крычыце ж, біце ў звона:
    Дурны мужык, як варона!
З камаровы нос сякерку
Сцісне, крэкне, замахае,—
Зробе пушчу, як талерку,
Свет дравамі закідае!
А у хаце,— зварыць страву,
Пашчапае стару лаву!
    Дык крычыце ж, біце ў звона:
    Дурны мужык, як варона!
Глядзі! Горы паразрыты,
А чыгункай свет абвіты:
Ўсё з мужыцкай цяжкай працы,
Усе едуць у палацы;
Ў мужыка ж няма білета!
Ці ж не дурань мужык гэта?
    Дык крычыце ж, біце ў звона:
    Дурны мужык, як варона!

## ВОЎК І АВЕЧКА

Злавіў воўк ягнятка
І панёс жывое!
Плачуць сын і матка,
Як бабры, абое.
Воўк над маткай злітаваўся,
Як які аконам,
У аўчынку перабраўся
Ды ідзець з паклонам.
«Прыйшоў, кажа, я здалёчку
Расказаць пані авечцы
Добру вестку аб сыночку,—
Як яму цяпер жывецца.
Не пазнала б ты ніколі,
Такі стаў дасужы
І жывець сабе на волі,
Без бяды, без нужы.
Зубы выраслі з клыкамі
І адпалі рожкі,
Ножкі цяпер з пазурамі,
Хвост даўжэйшы трошкі.
І ўжо воўка не баіцца,
Ў хлеў ніхто не гоне;
Мае чым абараніцца
І другіх бароне!
Прыйдзі, імасць, да нас ў госці,
Справім сабе вечарынку:
Будзе мяса, будуць косці,
Будзем есць без адпачынку!»
«Дзякуй, дзякуй, ягамосці,
За весці такія!
Няхай прыйдзе сын у госці,

Пагляджу, ці вые?
Бо, кажуць, між вамі
Трэба выць ваўкамі.
Я ж па-воўчу не умею
Ні выць, ні есці, ні лгаць.
Ды скінь скурку, дабрадзею,
Бо зубкі відаць».
І авечка, хоць дурная,
А воўка ж пазнае!

## ПРАУДА

Ой, цяжка ж, цяжка,
Не сярмяжка цяжка,
Але з гэтай доляй,
А ўсё штораз болей!

Ох, цяжкая ж доля! От так бы, здаецца,
Скрозь зямлю прапаў бы б ці ў слёзы б разліўся!
Ці мне жыць на свеце, ці мне куды дзецца?
Ой, божа ж мой, божа, нашто ж я радзіўся?!
Ой, нашто ж мне дана тая мая мова,
Як я не умею сказаць тое слова,
Каб яго пачулі, каб яго пазналі,
Каб яго, то слова, ды праўдай назвалі;
Каб і разышлося то слова па свеце,
Як праменні сонца цёплага у леце;
Каб на тое слова ды людцы зрадзелі
Так, як тыя дзеткі на святой нядзелі;
Каб жа тое слова ды людцоў з'яднала,
Каб на тое слова ворагаў не стала,
Каб людцы прызналі братоў ды братамі —
Дзяліліся б доляй і хлеба шматамі;
А без таго слова я — нямы калека!
Хоць бы занямець мне і да канца века!
Ой, нашто ж мне вочкі, ой, нашто ж мне ясны?
Каб глядзеў, які я ад усіх няшчасны?
Каб душа балела, гледзячы на долю,
Каб сэрца шчымела і рвалася з болю?
Каб было чым плакаць і ўдзень і уночы?!
Ой, божа ж мой, божа, вазьмі ж мае вочы!
Нашто ж тыя вушы, як не чуць нічога
Ні ад людцоў добрых, ні з неба ад бога?
Ой, ці не на тое ж, каб чуць людску лайку
Ды тую плачонцу дудку-самаграйку,
Нашую жалейку, што енча, не йграе,—

Хоць як выйгравай ты, а яна смутная!
Ой, ці не на гэта ж, каб чуць, як звякаюць
Ланцугі на людцах, што з хат уцякаюць.
Не здзекуйся ж, божа, нада мной, над імі:
Парабі усіх нас, як камень, глухімі!
Вазьмі ж змыслы, покі прыйдзе праўда,
Бо жыць без яе нам не вяліка наўда!
Прасіў бога ласкі: «Адвярні ты, божа,
Злую нашу долю на сухія пушчы,
Адвярні на камень ці на бездарожжа,
На вялікі ройсты, на пяскі сыпушчы,
Ды каб не зазнала ніяка стварэнне
Гэтай долі нашай да веку скончэння!»
Не пачуў ён енку, не увідзеў мукі,
Крыж уеўся ў плечы, ланцугі у рукі!
Прасіў я суседзяў са мной падзяліцца,
Памагчы крыж несці, як «з богам не біцца».
Абсмяялі людзі мяне, як дурнога,
Да цябе пасланалі, да самаго бога,
Там, казалі, Праўда, тут тыкеле сіла,
Даўней, кажуць, Праўда па свеце хадзіла,
Жабруючы ж, змерла, а людцы схавалі,
Каменнем накрылі, зямлю пааралі,
Каб не чуць, не ведаць аб ёй ані весці,
Ды цяпер і кажуць: «Праўда ў небе гдзесьці!»
Ды пашлі ж ты, божа, Праўду сваю тую
З неба на зямельку, слязьмі залітую!..
Пасылаў ты сына, яго не пазналі,
Мучылі за праўду, сілай паканалі;
Пашлі ж цяпер духа, да пашлі без цела,
Каб уся зямелька адну праўду мела.

## БОГ НЕ РОЎНА ДЗЕЛЕ

Бог сіроты любіць,
але долі не дае.
(Прыказка).

Чым то дзеецца на свеце,
Што не роўна дзеле бог?
Адзін ходзе у саеце,
У золаце з плеч да ног,
А другому, каб прыкрыцца
Хоць анучай,—велькі труд;
Ўвесь, як рэшата, свіціцца,
Адны латы, адзін бруд!
Адзін мае хатаў многа,
А вялікіх,— касцёл моў;
Увясці б туды хоць бога,
І той бы з іх не пайшоў.
У другога ў сцяне дзюры,
Вецер ходзе, дым і снег;
Тут карова, свінні, куры...
Тут пакута, тут і грэх!
Гэты едзе у вагоне,—
Цёпла, мякка, толькі жыць!
А ляціць, як віхар гоне,
А ён сабе толькі спіць!
Той ў мяцеліцу, ў марозе,
Што аж вон яму прэ дух,
Паўзе з клункам па дарозе,
У снягу увесь па брух!
Гэты хлеба і не знае,
Толькі мяса ды пірог,
І сабакам выкідае
Усё тое, што не змог.
А той хлеб жуе з мякінкай,

Хлёбча квас ды лебяду,
Разам жывець і есць з свінкай,
З канём разам п'ець ваду!
Аднаму дзесяткі-служкі
Зарабляюць сотні сот;
Рукі ў яго, як падушкі,
Як кісель, дрыжыць жывот!
Другі ж сам аж на дзесятак
Працуючы, лье свой пот,
А высахшы, як аплатак,
Цянюсенькі, як той кнот.

## КЕПСКА БУДЗЕ!

Як я толькі нарадзіўся —
Бацька сказаў: «Кепска будзе!»
Ну дык жа ж не памыліўся:
Здзекавалісь бог і людзе.
А чым кепска? — бо на марцы
Я радзіўся — (пост праўдзівы,
Цяжкі месяц гаспадарцы.
Як пражыў хто,— будзе жывы).
Пераеўся хлеб да крышкі,
Бульбы толькі як пасеяць,
І прыварку ані лыжкі,
І скаціна,— хоць развеяць;
Ні саломкі, ні то сена,
Хоць бы на раз для скаціны;
А тут дроў ані палена,
А тут яшчэ нарадзіны!
Трэба ж бабе бохан хлеба
І гарэлкі ж трэба пляшку,
Яшчэ ж хрысціць хлопца трэба...
Вот і думай, як сярмяжку
Нясці жыду пад заставу,
Ці прадаць каня, кароўку?
«Сеў, казаў ён, я на лаву,
Узяўшыся за галоўку,
І заплакаў, аж заліўся,
Так як бацьку пахаваўшы...
Кепска зрабіў, што радзіўся,
Кепска будзе, свет пазнаўшы!»
Ці то слова йшло урокам,
Што сказаў у кепскім часе,
Ці хто кінуў такім вокам?..

Ну і доля ж удалася!
І збылося ж бацькі слова!
Вот у тыдзень вязуць гэта
Хрысціць мяне да Макрова
Кумоў двое і кабета.
У Аборках мост сарвала...
А я ж быў — чуць жывы, слабы;
Рада — ў раду, на тым стала,
Што ахрысцяць з вады бабы.
З Бяразіны жменяй вады
Кума сама зачарпнула,
Паматала сюды-туды,
Трэйчы на мяне лінула.
«Вот і хрэст увесь тут, кажа,
І ксёндз хрысце гэтак сама.
Толькі яшчэ чымсь памажа,
А хлопцу ўсё роўна — яма!
Хоць бы жывым хоць давезці,
Каб дарогай не сканала,—
Скажуць — кепска везла гдзесьці,
Або, туга спавівала!..»
Гэтак мяне пахрысціўшы,
Вязуць назад ўжо да маткі,
Вочы добра пазаліўшы,
Ледзьве унясці да хаткі.
Закусіўшы тут як трэба,
Пакумаліся і квіта!—
Баба ўзяла бохан хлеба,
Пляшку водкі, торбу жыта;
Разышліся і паснулі.—
Матка ж мяне калыхае:
«Люлі,— шэпча,— сынок, люлі...»
А як зваць? — сама не знае.
Вот назаўтра спазарання
Бяжыць матка да кумошкі
Ды пытае: як празванне
Далі сыну? Лёну трошкі
Тут прынесла пры здарэнню,
Трошкі сала, круп са жменю...
А кума ж была праворна:
Хоць што збрэша — не запнецца;
Круце сабе ў сенях жорна,
Трэба ж салгаць! Куды ж дзецца?

«Імя, кажа, твайму сыну
Ксёндз хацеў даць па кантычцы,
Думаў ён можа з гадзіну,
Узяў ксёнжку, як стаў рыцца,
Дык даў потым з каліндарка».
Матка прандзей з хаты ў сені,
Як бы цівун гнаў па карку,
Усё шэпча то іменне:
«Аліндарку, Аліндарку!»
Прыляцеўшы так дадому,
За калыску узялася
І зрадзела, як святому,
Што аж слязьмі залілася.
І калыша і галосе,
Надта імя спадабала,
Надта добрае здалося,
Што такога і не знала!
Вот і клікаць мяне сталі
Скаліндаркай, Аліндаркай...
Ну, як зналі, так і звалі.
Але вот што з гаспадаркай? —
Наперш конь здох таго ж лета,
І цялушка, як лань, пала...
Матка ж, ведама, кабета,
Затужыла і запала,
Гадкоў зо тры пацягнула,
Ў марцы й ручанькі згарнула.
(А ўсё ў марцы, трэба ж гэта!
А разумная была кабета!)
З таго гора бацька бедны
Стаў маркотны, як магіла.
Было сядзіць такі бледны...
«Што ж ты гэта нарабіла?!»
Гэтак скажа і заплача.
(Хто ж пачуе, хто забача?)
Потым дай памалу сватаць;
Трэба ж, ведама, жаніцца,
Каб было каму палатаць,
Каб было у што змяніцца,
А так усё памарнела:
Куры, гусі, навет свінні,
І свіння дзяцей паела,
І карова марне гіне...

Ўвосень давай шукаць пару,
Ды ніводная не хоча;
Аднэй бедны, другой стары,
Трэцця, чорт ве — што тароча:
«Аддай, кажа, Аліндарку
Куды-кольвек хоць на людзе,
Сядзь на нашу гаспадарку,
Тагды выйду, добра будзе».
Бацька кідаўсь зо тры тыдні,
Яшчэ горай зажурыўся,
Прадаў сякі-такі злыдні,
Разлайдачыўся, распіўся,
І умёр так пад гародам,
Устраміўшы ў плот галоўку!
Шапку найшлі аж за бродам,
І у шапцы залатоўку.
А назаўтра прывёў соцкі
Асэсара, паноў трое.
Труп той зрэзалі на клёцкі...
(А у марцы ж было й тое!)...
Мяне цётка, у апеку
Ўзяўшы, трошкі падрасціла,
Ды якомусь чалавеку,
Як за сына, адпусціла.
Незадоўга змёрла цётка:
Я стаў круглая сіротка.
Ці гдзе днюю, ці начую,
А ўсё бяду сваю чую!
Пастухі збяруцца ў гаю,
Пяюць песні ля бярозы,
А мне чагось, сам не знаю,
Смутна, цяжка, цякуць слёзы.
Рос я гэтак за вачыма,
Ужо трэйчы спавядаўся,
Калі зімой да айчыма
Ды ураднік заблукаўся.
Я сяджу сабе на печы,
Пляту лапці, ўюю аборы,
Ён паказуе праз плечы:
«Што-то? сын твой, кажа, хворы?»
— То не сын,—айчым той кажа,—
Узяў сіротку; дзякуй богу,
Добры ўдаўся: позна ляжа,

Рана ўстане і адлогу
Не запусце... спагадлівы;
Маю сына, хоць не родны.
Ажаню, як буду жывы.
Будзе богу й людзям годны!
— А лет колькі?— той пытае.
— Дваццаць, кажа, мусіць, мае!
— А звамь як?— Да Каліндарка!..
Ураднік піша усё шпарка:
Як радзіўся, гдзе хрысціўся...
Пісаў, пісаў дый паехаў!
Бацькі яго угасцілі,
Далі торбачку гарэхаў...
 После таго, так не далей,
Як у тыдзень і асэсар
Шусць у хату (і з медаляй).
«А гдзе, кажа, твой пасэсар,
Твой Ліндарка, ці як звецца,
Што хаваецца з някруцтва,
Пляцець лапцікі на печцы?..
Ашуканства, баламуцтва!..»
. . . . . . . . . . . . . .
А я ж ехаць меў па дровы,
Бацька клікнуў, іду ў хату...
А асэсар — той — здаровы!..
Лясь! мне ў морду, потым тату.
Я ж узяў яго за грудзі
І піхнуў лыбом у дзверы.
Ён як раўкне: «Гэй вы, людзі,
Тут разбой! Прыміце меры!..
Тут рыштант, брадзяга скрыты,—
Вот і лэб калісь быў брыты!..
Вяжы ўсіх, нараджайся!..»
Мяне лясь! «Ты хто?
Сазнайся!..»—
«Скаліндар, кажу, сірота!..»
Пацягнулі па дарозе,
Завязалі і варота,
Мы ж спынуліся ў астрозе...
. . . . . . . . . . . . . .
Астрог, братцы, паглядзеўшы
Мімаходам, выглядае
І нічога: дык не еўшы

І ў астрозе не бывае.
Але лепшы ў хаце голад,
У дарозе велькі холад,
Найцяжэйша праца ў полі,
Як у той астрожнай долі!
Відзеў пташку я у клетцы,
Як галоўкай потым б'ецца,
Аж скрыдэлкам затрапоча —
І сканае... жыць не хоча!..
Раз лісіцу адкапаўшы,
Прывязалі мы да кола:
Стала ж грызці, што папаўшы,
Сабе бруха распарола,
Растрыбушылась на часці,
Каб не жыць так, хоць прапасці...
Нашто — гадзіну, мядзянку,
Пусці ў шклянае начынне,—
Сама сябе без прастанку
Будзе жаліць, покі згіне!..
Як ужо ж скаціна тая
Або гадзіна праклята —
І та цану волі знае,
Што ж для нашага то брата,
Меўшы розум не скацінны,
Як знаць волю мы павінны?..
А ў астрозе ж няма волі,
Ні ў чым няма і ніколі!
У жалезе тыя дзверы,
Пры дзвярах стаяць жаўнеры,
А народ усё сярдзіты —
Так, як бы яшчэ не сыты
Людскіх слёзаў, мукі, енку;
Не гаворацць памаленьку,
А ўсё зыкам, а ўсё з лайкай,
А ўсё з боем, ўсё з нагайкай.
. . . . . . . . . . . . . . .
У дзядзінец нас як пхнулі,
Дзвярмі тымі як грукнулі,
Дык і свет мне тым закрыўся,
Як бы у труну забіўся...
Зараз старшы ўзяў за плечы,
Хляснуў трэйчы, так, без рэчы,
Ключы кінуў: «У халодну!»

І аблаяў матку родну.
Нас піхнулі, як у яму,
Ў цёмну хату чвараграну,
Далі хлеба, вады меру
І запёрлі, як за веру
У цямніцах калісь гэта
Замыкаліся ад света.
Цёмна, зімна... прытуліцца
Няма куды! А каганец,
Як бы губка, толькі тліцца...
Заспявалі мы ражанец:
Пяём, плачам, аж галосім,
Божай ласкі — праўды просім!
Ў такім енку, са слязамі
І паснулі у той яме!
Абудзіўся я з здзівення:
Глядзіць ў шчэлачку праменне!
Я падумаў: ласка ж божа
І сюды пралезці можа?
Аглядаюся вакола,
Як бы шукаў і тут бога.
Мне зрабілася вясёла,
Не баюся я нікога,
Зноў ражанец: «Буг уцечка!»
Бляю сябе, як авечка.
Калі бразць ключом у дзверы,
І крычыць хтось: «Гэй! вы зверы,
Вы бунтоўнікі, паскуды,
Выбірайцеся адсюды,
Тут важнейшым трэба сесці,
Вас у вобшчу здадзём гдзесьці!..»
Павялі нас аж на гору
Па якомусь калідору...
Дзверы! дзверы! ў дзверах дзюрка
І у каждай жа хвігурка
Як бы тая ж выглядае,
Гдзе ні глянеш, усё ж тая:
Блішчаць вочы, твар, як гліна,
І абросшы, як скаціна...
У турме, як у тым гробе,
Ў адну твар усіх паробе!
Ішлі, ішлі гэтак з гоні.
А смрод такі, што ад воні

Мне аж дух у грудзях спёрла,
Як бы цісне хто за горла.
Тут нам хату паказалі,
Упусцілі, развязалі,
Вады далі, трохі хлеба
І запёрлі зноў як трэба.
Тут народу шмат сядзела.
Глянуў я — душа самлела:
Як падушкі у іх твары!
Ў хаце пуста, толькі нары.
Ляжаць усе, з нас рагочуць,
Нават мейсца даць не хочуць.
«Давай, кажа, хоць на пляшку;
А не даўшы, дык парашку
Цёнгле ты выносіць мусіш,
А ўжо хлеба — дык не ўкусіш,—
Мы табе наб'ём аскому,
Покі вернешся дадому!»
Я спалохаўся, баюся:
«Войча наш!» кажу, малюся...
Бог даў спомніць: залатоўка
Гдзесь была ў кашулі ўшыта,
Што дала калісь удоўка,
Як падвёз у млын ёй жыта.
Прэндка сарваў тую лату,
Кінуў злоты той на хату...
І не ўгледзеў, як хапілі,
Толькі відзеў — водку пілі.
Тагды сталі нас пытацца,
Ці застаўся хто у хатцы?
Адкуль? За што пасадзілі?
Па якіх турмах хадзілі?
Іншы вуча, на пытанне
Якое даць паказанне:
«Кажы, кажуць, знаць не знаю,
Чый я ёсць, з якога краю.
Малым быўшы, сляпых вадзіў;
А падросшы і сам брадзіў;
Не прыпісаны да сказкі,
І так жыву з божай ласкі.
Бог мой бацька, зямля матка;
Знаць не знаю!» — уся гадка!
Так да марца сядзім ціха,

Не чуваць дабра, ні ліха,
А у марцы шлюць бумагу,
Каб дастаўлена брадзягу,
Супрацiўнiка уласцi,
Улажэння першай часцi,
Што мянуецца «Ліндарам»
Ды йшчэ б'ецца з асэсарам.
Ды каб быў ў ланцуг закуты,
На нагах каб былі путы,
Праважацелі каб срогі,
Каб не сходзілі з дарогі,
А каб проста да начала...
І ці мала там пісала?!
Вот назаўтра рана-рана
Нам адзежка наша дана;
Паскідалі мы сярмягі,
Салдат узяў дзве бумагі,
Нас звязалі — і ў дарогу!..
Я падумаў: «Дзякуй богу!
Хоць нас слоначка сагрэе!
Вецерчык на нас павее!
Мoжа дождждык срыбны змоча!
Можа птушка засвяргоча...
Аж заплакаў я, зрадзеўшы!
От, здаецца б, і не еўшы
Быў бы сыты на свабодзе,
Як той кролік у гародзе,
Тут, здаецца, і сканаў бы,
За свабоду жыццё б даў бы!»
. . . . . . . . . . . .
Скаўроначкі бога хваляць,
А пастушкі агонь паляць,
А і слоначка прыграла,
Аж мне ў душы паяснела.
Да палудня ішлі гэтак;
Пры дарозе шмат і кветак:
То пралескі, то сасонка,
Выгравае божа слонка!
Так пад вечар ў мейсцы сталі,
У халоднай начавалі,—
Было позна. Заўтра з рання,
Якраз у дзень звеставання,
Клічуць мяне да дапросу,

(Задаваць то ўжо часу!)
Той судзебнік маладзенькі,
Такі быстры, хоць маленькі,
Ўсё пытаецца ды піша,
І нагой усё калыша.
Як спытаўся мяне, хто я?
Я і спомніў сабе тое,
Як вучыў там той з астрога:
«Знаць не знаю я нічога!»
І старога тут клікнулі,
Папыталіся, раскулі
І да дому павярнулі.
А мне кажа: «Ты, брадзяжка,
Сакрыў званне, будзе цяжка:
Сорак розаг, потым роты!
Скажы лепей — адкуль, хто ты?»
А ўсё піша, піша, піша
І нагой усё калыша.
Пісаў, пісаў, даў другому,
І сам пайшоў кудысь з дому.
Мяне зноў жа да астрогу,
Толькі цяпер, дзякуй богу,
Адзінокі я застаўся.
Айчым плакаў, як жагнаўся:
«Помні, кажа, мяне, сыну,
А я, хіба што сам згіну,
А цябе вярну да вёскі,
Хіба ж ужо гнеў быў боскі,
Або б Праўда гдзесьці змёрла!—
Вырву цябе ім із горла:
Бог паможа, проці сілы,
Праўда выйдзе, як з магілы!»
Сказаў гэта, пакланіўся
Ды ізноў слязьмі заліўся.
І мне стала ў вачах цьмяна,
Зашчымела ў сэрцы рана,
Як бы штосьці адарвала.
Сам не знаю, што мне стала?
Калі гляну, ачунеўшы,—
Я ў шпіталі, захварэўшы...
Галава мая абрыта,
Твар вадой ці чым абліта,
А піць хочацца... здаецца,

Рэчку б выпіў, каб пры рэчцы!
Так я праляжаў тры тыдні,
Прадаў усе свае злыдні;
Надта есці стаў памногу,
І паправіўсь, дзякуй богу!..
Я ж тут ляжу і ні рэчы,
Што там стары гаспадара.
А ён торбу ўзяў на плечы,
Па начальству просьбы жара.
Трэйчы Вільню, сем раз Ліду
Ён адведаў. Трэба ж ведаць,—
Прысягнуў, покі я не выйду,
Навет дома не абедаць!
Раздабыў усе паперы,
Запісаў мяне у сказку...
Што і бацька б можа шчэры
Не зрабіў такую ласку.
Так увосень, ў замарозкі
Прывялі мяне да вёскі,
Пазбіралі шмат суседаў!..
Кожны гаварыў, што ведаў:
Як я тут, калі радзіўся,
Як і бацька мой жаніўся...
Паказалі усё чыста,
І што імя мне «Каліста»,
Што завуць мяне «Ліндарка»
Так, на смех, што чыста гол,
Як ліндар, што на фальварку,
Ўвесь маёнтак — ён ды вол.
Асэсар быў ужо новы,
Чалавечак так, нічога,
Якісь ціхі, нездаровы
І цярплівы... хваліць бога!
Пасля таго праз паўгоду,
Ў марцы ж мяне на свабоду,
Дзякуй богу, адпусцілі
У той дзень, як і хрысцілі!

## У АСТРОЗЕ

Паперы прыйшлі ў турму з акружнога,
Што зараз зачнецца суд после каляд.
Сядзела ж там нашага брата і многа,
Было і нявінных памежы нас шмат!
Быў пан, што у банку краў грошы чужыя,
Быў пісар, што выдаў паперы благія...
Я сам тут сядзеў, а за што? как спыталі,
Дык я б не сказаў, і яны бы не зналі.
А пісана так: «Што страбіў жывы знак».—
Калок на капцы (быў гнілы, як бурак)
Пры полі маім мне стырчаў так, як скула,—
Наехаў кабылай, і слуп той звярнула.
Каб жа люльку паліць было чым не красаўшы,
Агонь разлажыў, той калок пашчапаўшы.
Прыехаў дадому, пасеяўшы грэчку,
Закінуў кабыле, забраўся на печку.
Назаўтра, праспаўшыся добра уранку,
Завець мяне сотнік, стукнуўшы па ганку:
Ураднік склікае народ аж на поле,
Пісаць там штось трэба яму ў пратаколе.
Пайшоў жа, гляджу я — аж ён штось пытае:
«Чыя то граніца і грэчка от тая?
Хто слуп асмяліўся спаліць самапраўна?
Калі-то было? — ці даўно, ці нядаўна?..»
Ураднік жа піша, а я дык смяюся,
Кажу: «Ох, я надта цябе ды баюся!»
Пытаю: «Ці брат твой, ці бацька гніляк,
Што ўзяўся пісаць пратакол шчыра так?
Ці можа той кол толькі ёсць твой зямляк?
А можа вялікі якісь быў начал,
Ці спраўнік, ці большы яшчэ ганарал?

Прыблуда! схавайся, адкуль ты прыйшоў,
У нас ужо досыць такі прыбышоў,
І кожны згніе, бо, як кол тут убіўся,
А зрублены пень там згніе, гдзе радзіўся!..
Кабыла мая дык усіх вас паверне
Не то што чапаць, але толькі як п...»
А людзі рагочуць, зыйшоўшыся з хат,
Бо кожны ўтапіць бы урадніка рад.
А ён дыкі тое, што я кажу, піша;
Другі раз спытае, чаго не паслыша.
Мяне ж яшчэ болей ды смеласць бярэ.
А дзядзька мой блізка за гоні гарэ;
Я ж, біч яго ўзяўшы, ды ззаду зайшоў,
Урадніку трэйчы як дам меж вушоў!
Аж ён закрычаў: «Калавур, тут разбой!»
І зноў запісаў, ўзяў паперы з сабой,
Як сеў на каня, даў, аж пыл закурэў!
Народ жа са смеху увесь аж памлеў.
Смяёмся сабе, а таго неўдагад,—
Урадонік — начальнік, не то, што наш брат.
За тыдзень жа сотнік павесткі прыпёр,
Каб мы усе заўтра з'явіліся у двор
Тут пан прыляцеў, аж на тройцы з званком,
Распытываць будзе пад строгі закон.
Тут некуды дзецца, назаўтра, чуць свет,
Мужчын з два дзесяткі, дванасце кабет
Ідзём да двара, за малым не дзве мілі,
Ідзём, а чаго? Каб мы знаді, хоць снілі!
Адзін кажа: «Выйшаў то пэўне указ,
Каб скінуць падаткі якія із нас»,
Другі — што зямлі дададуць ці аброк
Даруюць за прошлы ці гэты хоць рок.
Лгуць бабы, што біскупа вернуць ізноў,
Ці можа біць розгамі будуць паноў
За тое, што немцам усё прадалі
І надта пашмат што даўгоў завялі:
У банках усе аж па вушы сядзяць,
Кідаюць двары, на Парыжу глядзяць;
Ўсе пушчы змялі ў жыдоўскі кішэнь
І жывуць так без заўтра, абы з дня ды на дзень.
Ніхто не згадаў, чаго клічуць у двор,
Ніхто не паняў, што сотнік прыпёр!
Прыходзім у двор,— той начальнік ёсць тут.

Выходзе да нас, апрануўшы сурдут,
Пытаецца так: «А за што вы, рабяты,
Урадніка здулі, ледзь трапіў дахаты?»
«За тое, мы кажам, што надта ён ласы:
Што любе яешню, курэй і каўбасы;
Унадзіўся надта ён лазіць па хатах
Ды нюхаць, каторай муж служа ў салдатах;
Свіннёй гаспадарыць у нашым гародзе,
Праз дзверы улазе, праз вокны выходзе;
Ды надта цікавы, каторы што мае,
Не тое, што ў свірны, ў кішэнь заглядае;
На полі слупкі — і да іх яму наўда;
Таго ж не ўтаропе, гдзе крыўда, гдзе праўда.
Ён гад, каб пісаць, а рабіць ніц не робе,
А нам — дык ён так, як той кашаль ў хваробе!»
Мы ж гэтак лапочам, а ён усё піша,
Пытаецца толькі, а сам — як не слыша;
А потым чытае: «Такія-то людзі
Урадніка білі, цягалі за грудзі;
Прызналіся самі і як, і чым білі,
І зналі самі, што закон праступілі
Супроці начальства, законнай уласці!
І змовілісь вёскай ударніка ўкласці!
Зачыншчык жа я,— або я той калок
Спаліў, а другіх я у бунт увалок;
Дык мяне у астрог той жа час запярці
І судзіць найстражэй па вялікай стацці!»
Чытае ён гэтак, а мне дык здаецца,
Ён з нашага брата і з праўды смяецца;
Ў законе ж ўсе роўны — і пан, і мужык,
А што ж то ураднік за велькі індык?
Як ён каго трэсне, дык гэта нічога,
Яго ж не даткні, так як Юр'я святога!
То так думаў я, ажно вышла не тое;
Ураднік на службе, то дзела другое;
Тагды сцеражы ты яго, як той скулы,
Бо ён — то не ён, а то ёсць артыкулы,
Раздзелы, стацці і ўсе зводы закона!
Мужык жа, наш брат, той усюды — варона.
Здалося ж мне так, што ці дурню, ці шэльме,
Ці хітры ён будзе, багаты хоць вельме,
Мундзір хоць надзене, жупан хоць бы новы,
А дурнем жа будзе дурны, безгаловы;

А шэльму жа нюхам пачуе сабака,
І ўсюды для шэльмы чэсць будзе еднака.
І прыказка ж кажа, што бог — не цяля,
З усёй грамады пазнае круцяля!
Законы ж, ад думачкі нашага брата,
Як ноч, а то — дзень, гэта будні, то свята!
Вот гэтых законаў паняць я не мог,
За гэта ж цяпер я папаўся ў астрог.
Цяпер ужо тут дык мне вочы працёрлі,
Пазнаў, як у бацькаву хату запёрлі...
Ото ж і завуць і мяне на той суд —
Вучыць шанаваць і начальства, і кнут,
І слуп, што гніець, стаючы ля дарог.
Бо начал, кнут і слуп — то даў бог!

## ПЕСНЯ

Чаго бяжыш, мужычок?
— Паганяе мароз.
Чаго ляжыш, мужычок?
— Бо ураднiка вёз.
Чаго ты п'еш, мужычок?
— Бо i хлеба не еў.
За што ты б'еш, мужычок?
— Бо i сам тое меў.
Нашто ты краў, мужычок?
— Бо свайго не пазнаў.
Чаму ты лгаў, мужычок?
— Бо хтось праўду украў.
Чаму чорны, мужычок?
— Бо у хаце курыць.
Не праворны, мужычок?
— Бо ўсякi журыць.
Чаму цёмны, мужычок?
— Бо пад цёмным сяджу.
Чым бяздомны, мужычок?
— Бо чужога гляджу.
Чаму хiцёр, мужычок?
— Бо дурны, як варона.
Чаму ўмёр, мужычок?
— Уцякаў ад «закона»!

## КАЛЫХАНКА

Люлі, сынок, люлі, люлі!
Усе курачкі паснулі;
Ой, паснулі і курчаткі
Пад скрыдэлкам сваёй маткі,
А ты чаго не спіш, сынку,
Як бы чуў ліху гадзінку?
Можа будзеш калі панам
Ці вялікім капітанам,
А як матка прыйдзе ў госці,
Ой, то будзе ёй радосці...
Сядзе матка ў кут на лаве,
Сын хлеб-соль прад ёй паставе,
Ручкі, ножкі пацалуе,
Памілуе, пажалуе;
Пачастуе мядком сытным,
Блінком мякенькім падсітным,
Піражочкам і з начынкай,
Верашчачкай гарачынькай...
Люлі, сынок, люлі, люлі...
Бо ўжо курачкі паснулі!..
Ой, то будзе рада матка,
Хоць і простая салдатка,
А усякі шапку здыме,
Як дазнаецца аб сыне,
Люлі, сынок, люлі, люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі.
Можа будзеш калі панам
Ці вялікім капітанам,
Людцоў божых будзеш біці,
Цяжка будзе ў свеце жыці;
Будуць клясці, як ліхога,

Прасіць смертанькі ад бога.
Люлі, сынок, люлі, люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі!
Тагды матка прыйдзе ў госці,
Сын выкіне стары косці;
Жабруючы пойдзе ў вёску,
Будзе прасіць матку боску,
Каб забыцца ёй аб сыне,
Каб не ведаць, гдзе ён згіне.
Люлі, сынок, люлі, люлі...
Бо ўжо курачкі паснулі!
Ой, не будзь ты лепей панам,
Ні вялікім капітанам,
Будзь, чым матанька радзіла,
Каб у госці не хадзіла,
Каб век з табой векавала,
Гаравала, працавала...
Люлі, сынок, люлі, люлі!
Усе курачкі паснулі,
Ой, паснулі і курчаткі
Пад скрыдэлкам сваей маткі!..

## АХВЯРА

Маліся ж, бабулька, да бога,
Каб я панам ніколі не быў:
Не жадаў бы ніколі чужога,
Свае дзела як трэба рабіў.
Каб прад меншым я носу не драў,
А прад большым не корчыў спіны,
Каб грэх свой прад сабой я пазнаў,
У другіх каб не відзеў віны;
Чужых жон каб не вёў да граху,
А сваю каб як трэба любіў.
Каб мне дзеці былі у слуху,
Каб я бацькам для іх век дажыў.
Каб людзей прызнаваў за братоў,
А багацтва свае меў за іх,
Каб за край быў умерці гатоў,
Каб не прагнуў айчызны чужых.
Каб я бога свайго не акпіў,
Каб не здрадзіў за грошы свой люд,
Каб свайго я дабра не прапіў,
І нізашто не меў чужы труд.
Каб падвойчы мне грошы не браць
За праданы кусочак раллі,
Каб сваю мне зямельку араць
І умерці на ёй хоць калі.
Дык прасі ж ты у бога, малі,
Каб я панам ніколі не быў!

## НЕ ЦУРАЙСЯ

Не цурайся мяне, панічок,
Што далонь пакрываюць мазолі:
Мазоль — працавітых значок,
Не заразе цябе ён ніколі.
То медаль за труды і за муку,
Не хвароба якая з заразы.
Не стыдайся падаць ты мне руку,
Бо на гэтай руцэ няма сказы!
Эй! Смялей адкрывай галаву
На паклон мой табе да зямлі;
Я тваёй галавы не сарву,
І маёй вы б, паны, не ўзялі.
Не ўцякай ад маёй ты сярмягі, —
Мне не стыдна у ёй ані чуць,
Вот твой храк я не меў бы адвагі,
Чортаў храк на сябе апрануць.
На кашулю глядзіш крывым вокам,
Што у хаце мне бабы пашылі,
Прапацела яна маім сокам,
Цэлы тыдзень яе не памылі...
А твая ж? як той снег, як папер,
І пацеў хто, і ткаў, і бяліў,
І хто шыў, і хто праў... а цяпер
Ты той пот на сябе узваліў.
І кашулі той мне было б стыдна,
Што не сам на яе гараваў.
Хоць бялейша яна — не завідна,—
Не вазьму, каб ты мне дараваў!
А кінь вокам на хату маю:
І цячэ, і гніе, і крывая,
У сярэдзіне гной, і стаіць на гнаю,

І дзіўлюся я сам, як трывае?
Не дзівіся, панок, як жыву,—
Мне ніхто не памог будаваць.
Хоць лянівым у свеце слыву,
А магу свет карміць-гадаваць.
Ты ж пазнаў, што у ксёнжках стаіць,
А там розуму шмат ад вякоў,
І ўсё можаш па ксёнжках рабіць;
А гдзе ж ксёнжка для нас, мужыкоў?
Гдзе ж нам розуму столькі набраць—
Знаем толькі загон ды саху,
І жывём, каб касіць ды араць,
Ды жывём мы у божым страху.
Каб умеў кіраваць я пяром, —
Я бы ксёнжку счыркаў, як папар,
Я б аб тым, як мы сеем, аром,
І як косім, і жнём божы дар.
Можа б ты прачытаў той грымзол
І да працы набраў бы ахвоты,
Шанаваў бы мужыцкі мазоль,
Не цураўся б мужыцкай бядоты,
І падаў бы руку мне, сляпому,
І давёў бы мяне да дарогі;
Не блудзіў бы і я серад лому
І калючак, што раняць мне ногі!
Ой, раняць і ногі, і сэрца,
У сэрцы нянавісць, злосць родзяць,
Дзяржаць у таёй паняверцы,
Да здрады вядуць, ад праўды
адводзяць!..

Даруй жа сляпому,
што ходзіць ён крыва,
Даруй, што не відзе, хоць плача.
Вобмацкам ходзяць сляпыя — не дзіва.
Відзючы ж у яму як скача?!

## Карусь Каганец

### КАБЗАР

Ой, вецер шуміць, ой, вецер гудзе,
А цераз поле чалавек ідзе,
Ой, полем ідзе
І штось ён нясе.
І хлопец яго за руку вядзе.
Ой, праз поле хлопец старца вядзе.
Які гэта старац з хлопцам ідзе?
То кабзар ідзе
І кабзу нясе,
А хлопец за руку к вёсцы вядзе.
У вёску прыйшоў, на прызбе ён сеў
І ціха людзям спяванку запеў,
Укруг людзі стаяць,
На старца глядзяць,
Бо да душы бедным людзям запеў.
Галавою добрым людзям кіўне.
Грудку старую шырока надзьме.
У струны ўтне,
Слова дабярэ
І песню старую свету пяе.

## ПЕСНЯ ЗІМЕ

Віхрам закруціла,
Холадам даняла,
Снегам запыліла,
Гурбы панагнала.
 Ой, зіма, ой, зіма!
 Зіма сердзіцца!
Воўк па лесе рышча,
Шуміць ліст дубовы,
Вецер ў полі свішча,
Мужык едзе ў дровы.
 Ой, зіма, ой, зіма!
 Зіма сердзіцца!
Дравец ён прывёзшы,
Насячэ, паколе;
Трушанкі нарэжа,
Скацінку напое;
 Ой, зіма, ой, зіма!
 Зіма сердзіцца!
Быдла напаіўшы,
Трушанкі закіне;
У хату прыйшоўшы,
Кажушыны скіне.
 Ой, зіма, ой, зіма!
 Зіма сердзіцца!
На лаве ён сядзе
Крыху адпачыці;
Сынка ён пагладзе;
Вучыць гаварыці.
 Ой, зіма, ой зіма!
 Зіма сердзіцца!
А маці прадучы
Песню заспявае,

Нітачку ведучы,
Ды ў печ паглядае.
Ой, зіма, ой, зіма!
Зіма сердзіцца!
Варыць бо вячэру, —
Хоча накарміці
Дзетву любу-шчыру
І спаць улажыці.
Ой, зіма, ой, зіма!
Зіма сердзіцца!

## Цётка

### СКРЫПКА

Чаго словам не сказаці,
Што на сэрцы накіпела,
Астаецца скрыпку ўзяці;
Покі ў сілы крэпка вера,
Покі думка рве да неба,
Покі скрыдал не зламалі,
Покі трэба душы хлеба, —
Будуць струны байчэй граці,
Будзе смык вастрэй хадзіці,
Будзе скрыпка паслушнейша,
Ў песні можна пераліці
Ўсё найлепша, наймілейша,
Ў песні можна даць пяруны,
Песняй сэрца рваць на часці;
Крэпкі толькі былі б струны,
Я заграла бы аб шчасці!
Я заграла б смехам кветак,
Нівак шэптам залацістых,
Звонам сэрца, касы ўлетак,
Мёдам ліп з садоў душыстых.
Я заграла б песню матак
Над калыскаю дзіцяці.
Ўсе багацтвы з родных хатак
Я хацела б песні ўдаці.
Я на струнах раззваніла б,
Дух народу я абняла б,
Ў жары сэрца растапіла б,
Алтар новы улівала б,
Пры алтары тым я грала б,
Так па струнах галасіла б.
То склікала б, то вітала б,

То суседзяў весяліла б;
То малітвай смык завыў бы,
То закляў бы на пяруны,
То жа скаргай ў неба біў бы,
Толькі крэпкі б былі струны!
Смык гатовы, струны тугі,
Кроў у жылах закіпае.
Ну! слухайце, мілы другі,
Скрыпка мая ужо грае.

## ВАМ, СУСЕДЗІ

Вам, суседзі, вам, кумочкі,
Беларусы-галубочкі,
Пяю з сэрца, падцінайце,
Вы грамадай голас дайце.
Зложым песню цэлым людам.
Выйдзе пекна, стане цудам.
Як свет светам яшчэ стаў,
Такой песні не слухаў:
Восем, дзевяць... і мільён
Грудзей зльецца ў адзін тон,
Дадуць песню, а ў ёй труд,
Доля, жыцце. Ці ж не цуд?
Ад векоў мы, братцы, спалі,
А тут разам заспявалі.

## ВЕРА БЕЛАРУСА

Веру, братцы: людзьмі станем,
Хутка скончым мы свой сон;
На свет божы шырай глянем,
Век напіша нам закон.
Не чарнілам на паперу,
Дзесь ў архівы не здаецъ,—
Ён збірае поту меру
І на ніву нашу льецъ.
Землю поіць, яна родзе
Сок ў зярнятах нам на хлеб.
Спажываем, а ў народзе
Штось як шэпча: «Ўставай, слеп!»
Веру, братцы, ў нашу сілу,
Веру ў волі нашай гарт:
Чую агонь ў нас — не брылу,
Бачу, братцы, мы не з карт,
Мы не з гіпсу, мы — з камення,
Мы — з жалеза, мы — са сталі,
Нас кавалі у пламенні,
Каб мацнейшымі мы сталі.
Цяпер, братцы, мы з граніту,
Душа наша з дынаміту,
Рука цвёрда, грудзь акута,
Пара, братцы, парваць путы!

## НА МАГІЛЕ

На магіле ўзыду дубам,
Пачну шаптаць братнім губам
Аб іх долі, аб свабодзе,
Стану песняй у народзе!
Пастух дудку з мяне скруціць,
Як заграе, кроў замуціць,
Як заенчыць, кожны стане:
«Што за гранне, што за гранне.
Што то будзе, што то будзе
З гэтай песні ў нашым людзе!»

Гостры зубы, як бы з пілы,
Колюць, рэжуць, цягнуць жылы,
Смаляць, паляць, пякуць, студзяць,
Старых, малых са сна будзяць.
Як на вуглях кожны стане.
«Што за гранне, што за гранне.
Што то будзе, што то будзе
З гэтай песні ў нашым людзе!»

Ліст дубовы пад хлеб сцелюць,
Жолудзь яго ў жорнах мелюць,
А дзе з дуба хоць пылінка, —
Грудзь трасецца, як асінка;
Адна толькі дудка свішча, —
Людзі бягуць, як на йгрышча,
Як на дзіва кожны стане:
«Што за гранне, што за гранне.
Што то будзе, што то будзе
З гэтай песні ў нашым людзе!»

## СУСЕДЗЯМ У НЯВОЛІ

Ад сваіх хат, ад сваіх ніў,
Ад усіх братоў, хто толькі жыў,
Нясу слязу, нясу я стогн,
Нясу нагаек царскіх звон.
У нас там ноч, у нас там стук,
Мы ацямнелі з страшных мук,
З нас пот ліецца, сохнуць грудзі.
Нас катуюць! Чуйце, людзі!
Чуйце, чуйце, руку дайце!
Мы вам родны. Праўду знайце:
Ці у долі, ці ў нядолі —
З вамі станем ў адным полі,
Рука ў руку з вашым братам,
За свабоду перад катам.

## ХРЭСТ НА СВАБОДУ

На усходзе красна неба;
Нас не дзівіць — так і трэба!
Кроў ракамі льецца ў мора,
Салдат гіне там ад гора
Без кашулі і без хлеба;
Нас не дзівіць — так і трэба!

Гоняць сына, гоняць мужа,
Мы слухаем цара дужа.
З душы б'ецца скарга ў неба,
А мы маўчым — так і трэба!

Жандар стрэле, казак б'ецца,
У народа спіна гнецца
Ад налогаў з солі, хлеба,
А мы плацім — так і трэба!

У Пецярбургу змерлі людзі:
Ім прашылі куляй грудзі,
Бо то з песняй і з алтарам
Пайшлі з папом перад царам.
А цар сыпнуў, як бы з неба,
Тысяч куляў — так і трэба.

Дурняў хрысціць на свабоду.
Цар навуку даў народу,
Паказаў ім, як бы з неба,
Што больш цара не патрэба!
Тагды Гапон у грамаду
Бяжыць, крычыць: «Трэба ладу,
Трэба шроту, бомбаў, стрэльбаў,
Трэба біць нам гэтых шэльмаў.

Трэ злізаць усіх міністраў,
Бюракратаў, антыхрыстаў».
Чую яшчэ голас з неба,
Што цара павесіць трэба!

З той пары Масква, Варшава,
Рыга, Вільня, Бак, Лібава,
Беларусь, Літва, Расея
Гоняць вон цара-зладзея!
Народ чуе голас з неба,
Што больш цара не патрэба!

Бомба — трах! Сяргей у шматы,
Мірскі бяжыць аж дахаты,
Цар у страху, сенат млее,
Беданосцаў аж хварэе...

Кладуць сеткі, каскі, бляхі.
Найбольш страшаць — гэта ляхі:
Ціха колюць, цэльне стрэляць,
Так, як жыта, чарцей мелюць.
Народ чуе голас з неба,
Што свабоды яму трэба!

## МОРА

**Рэвалюцыя народная**

Не такое цяпер мора,
Не такі у хвалях шум:
Цяпер бурна, страшна мора!
Хваля поўна дзікіх дум.

Мора вуглем цяпер стала,
Мора з дна цяпер гарыць,
Мора скалы пазрывала,
Мора хоча горы змыць.

Мора злуе, крэпнуць хвалі,
З дзікім шумам бераг рвуць;
Гром грыміць у сіняй далі,
З мора брызгі ў неба б'юць.

Месцам хваля стогнам рыкне,
Месцам плач сарвецца з губ,
Месцам бераг болем ікне,
Гром грыміць у тысяч труб.

Мора зброіцца палкамі,
Шум русалак разбудзіў,
Запаліўся смок агнямі,
Неба чорны гнеў пакрыў.

Бог сярчае: злая бура
Псуе вельмі святы сон.
Б'ецца, рвецца ўся натура,
Аж дрыжыць нябесны трон.

Трон дрыжыць, не спяць пракокі,
Бог склікае святы сход;
А там радзяць, што аблокі
Мусяць штурм пусціць у ход.

Бой пачаўся. Войска бога
Залпам паліць ў горы хваль...
Мільён згіне, — нова змога
Расце крэпка, так, як сталь.

Растуць сілы мора злога,
У размаху відзен гарт;
Не адступяць войскі бога...
Бой пачаўся не на жарт.

Такі бой вякамі жджэцца,
Такі бой гігантаў дасць,
Ў такім бою толькі грэцца,
Ў такім бою толькі пасць.

## ДОБРЫЯ ВЕСЦІ

Ах, браце родны, нясуцца весці,
Ўжо граюць маршы там на ўсходзе;
Над кожнай хатай, у кожным месцы
Шчабечуць птушкі нам а свабодзе.

Усіх злучыла чароўна слова;
Жалезны вобруч скуў нам далонь.
І матка сына даць нам гатова,
І жонка мужа вышле ў агонь.

І дзед старэнькі бяжыць ў дружыну,
І ўнучак следам дзеда спяшыць;
Хлопец, абняўшы любу дзяўчыну,
На барыкадах смела стаіць.

Ах, браце, крэпка сіла ў народзе!
Добрыя весці зусюль ідуць,
Бо то мільёны разам у згодзе
Да лепшай долі смела ідуць.

Ах, браце, важны момант прыходзіць,
Важну ахвяру прыйдзецца даць:
На небе сонца шчасця усходзіць,
Толькі патрэбна хмары прагнаць.

## БУРА ІДЗЕ

Зноў навіслі цёмны хмары,
Зноў туманы неба крыюць;
Зноў па свеце ходзяць мары,
Зноў крапчэй нам віхры выюць.
Зноў надходзіць для нас бура,
Зноў маланкі бягуць радам,
Зноў шалее ўся натура, —
Зноў засыпле свежым градам.

## МОЙ САД

Стаіць мой сад пад белым цветам:
Нарцыс — стыдлівых поўны крас,
Звісае бэз ў акно букетам,
Цюльпанаў куст расцвёў зараз.

Цвіце ляўкой, ў пуках рабіна;
Вішнёва дрэва ў малацэ;
А там парэчка, там маліна,
А там мой граб малы расце.

Люблю мой сад, як расцвітае,
Як салавей свой трэль вядзе,
Як цвет галінку прыгібае,
Як пчолка мёд адтуль нясе.

Люблю мой сад ў маёвым ранку,
Як тоне ён ў расістай мгле,
Як ліпа шэпчацца пры ганку
І як зязюлька «ку-ку» шле.

Люблю мой сад пад белым цветам,
Люблю, зялёным як стаіць;
Люблю, як грушы спеюць летам
І як работай ён кіпіць.

Люблю мой сад у позну восень, —
Як плод звісае да зямлі,
Як голкі сыплюцца ад сосен,
Як залацяцца сліў лісткі.

Люблю мой сад у крэпку зіму, —
Як у крышталах ўвесь дрыжыць,
Як дзяцел, сеўшы на галіну,
Зімову песню загудзіць.

## РОДНАЯ ВЁСКА

Вёска мая, чараўніца,
Што сэрца украла?
А мо Вілля-балаўніца
Хваляй захлястала?
Мо дубровы захапілі
Біццё ў маім сэрцы?
Мо суседзі наварылі
Любчыку ў манерцы?
Бо куды я ні звярнуся,
Куды я ні гляну,
З табой, вёсачка, спаткнуся,
Цябе успамяну.
Еду морам — ўсё здаецца,
Што плыву Віллёю;
І ў Сібіры сэрца б'ецца,
Край мой, за табою.

## МУЗЫКАНТ БЕЛАРУСКІ

Заграю на дудцы,
Вытну на гармоні,
Заплачу на скрыпцы
Аб мужыцкай долі.

Надта ж ужо цяжка,
Душа з гора рвецца,
Слёзы так і льюцца,
Сэрца з болю б'ецца.

Ну і грай жа, скрыпка,
Хай ляціць там песня,
Або свет пачуе,
Або душа трэсне.

Скрыпка хутка плача —
Аж лес лямантуе,
Толькі яе ноты
Сыты не пачуе.

Хаця ж і пачуе —
Музыканта злае:
«Глядзі, ён, хамула,
Аб роўнасці бае».

Ды так сыпну смыкам,
Як агнём па струнах,
Што ад майго грання
Людзі екнуць ў трунах.

Ну, дык плач жа, скрыпка,
Мо паны пачуюць,

Як хамы без хлеба,
Без страхі начуюць.

І зацяў музыка
Смыкам ды па струнах —
Пташкі задрыжалі,
Пчолы сціхлі ў вуллях.

Музыкант галосіць,
Скрыпка не махлюе,
Хутка «хамску» песню
Увесь свет пачуе.

* * *

Гэй, братка, ты, Новы Годзе,
Што з сабою нам нясеш?
Што пасееш ты ў народзе?
Што на нівах ты пажнеш?

Ці развяжаш ты нам путы,
Ці не будзеш нам ліхі?
Ці зноў прыйдзеш такі ж люты,
Як той сёмы быў Стары?

Ці разгоніш цёмны хмары,
Ці слязу з вачэй абтрэш?
Ці, як бацька, кінеш чары
І да спячкі пазавеш?

Гэй, скажы нам?!.

## ВЯСКОВЫМ КАБЕТАМ

Ой, сястронкі, ой, вясковы,
Ой, вы кветкі прызавяты!
Вашы твары, як васковы,
Вашы шчокі слязьмі змяты...

Як каліну град страсае,
Як пярун каменне крышыць,
Так лёс рана вас ламае,
Так жыццё красу вам нішчыць.

Колькі болю ў вачах хмурных,
Колькі скаргі з губ збялелых,
Колькі срэбра ў косах буйных,
Колькі поту з рук абмлелых.

А за гэта вам дзве дошкі,
І крыж з хвоек ледзьве збіты,
І у памяць плачуць дочкі,
Бо яны, як вы, забіты.

Ой, кабеты, ой, вясковы,
Ой, вы кветкі прызавяты!
Ой, лілейкі вы без мовы,
Ой, вы птушкі бесскрыдлаты!..

* * *

Скора прыйдзе вясна,
Панясецца «ку-ку»
Праз лясы, праз паля,
Праз наш Нёман-раку;
Па Вільве, па сястры
На плытах паплыве
Аж пад вокна да хат
І вясёла гукне:
«Дзецюкі, гу-гу-гу!!!
Ўжо вясна на дварэ!
Ўжо трава на лугу,
Ужо кветкі ў траве!
Гэй! хутчэй за саху,
Ды гарадь, ды гарадь...
Ды усім у спеху
Засяваць, засяваць...
Ды глыбей, ўсё глыбей
Зерне сыпаць ў зямлю...
Ды хутчэй, ўсё хутчэй
Упраўляці раллю...
Каб драсны не цвялі,
Каб асот не тырчаў,
Каб ячмені зляглі,
Каб авёс аж драмаў,
Каб вам бульба была,
Як той яблык ў саду;
Каб капуста зрасла
Вялізной з галаву! —
Тады будзе крапчэй
З горам стаць да вайны,
Ды скарэй і лягчэй
Рваць ланцуг цемнаты!!!»

## З ЧУЖЫНЫ

І душна, і цесна, і сэрца самлела
Мне тут на чужыне, здалёк ад сваіх...
Як птушка на скрыдлах ляцець бы хацела,
Як хваля па моры плыла бы да іх!

Знялася б, здаецца, расінкай на хмары,
А хмары бы ветрам казала я гнаць
Далёка, далёка, гдзе сняцца мне чары,
Гдзе боры густыя над Нёмнам шумяць.

Гдзе пацеркай белай Вілья прабягае,
Гдзе Вільня між гораў гняздо сабе в'е,
Гдзе кожна дарога і крыж мяне знае,
Гдзе ўсё, усё чыста вярнуцца заве!

Там я нарадзілась і вырасла ў волю,
Там першыя словы вучылась казаць...
За тое сягоння ляцела б стралою
Там з імі з усімі Год Новы спаткаць!

Ой, мілыя, мілыя, снегам пакрыты
Загоны, лясочкі, дарожкі мае!
Эх, як вы у сэрцы маім не забыты,
Як часта абраз ваш у думцы ўстае!

А вы, бледны твары, панураны ў працы,
І ты, друг мой, смутак з іх слёзных вачэй,
Прыміце сягоння прывет мой гарачы,
Каб жыць нам было ў гэтым годзе лягчэй!..

## ГРАЙКА

Граў бы я многа, дый сіл не хватае
І рвецца за стрункаю струнка,
Хоць песня яшчэ не замёрла ўдалая,
Хоць родзіцца думка за думкай.

Граў бы я многа, ды смерць кажа «годзе!»
Ў магілку мне ладзіцца кажа...
Эй, рвіцеся, струны, што гэта мне шкодзе?
Ў магілку супольна мы ляжам!

Можа з тэй ліры вырасце іва,
З первых струн — белыя кветкі,
Можа вясною будуць ігрыва
У дрэўца ценю гуляць дзеткі;

Можа хто з дзетак скруце жалейку,
Ўнучку паломанай ліры,
І так заіграе, што ўсенька зямелька
Пачуе мой одгалас шчыры!

Дзедавы струны, рана парваныя,
Зноў громка азвуцца, як звоны,
Песня, за жыцця яго недаграная,
У сэрцы ўнука дасць плёны.

А на задушкі пад цёмнаю івай
Жывое пачуецца слова,
Што песня устала з стотысячнай сілай,
Жыве мая ліра нанова!

## Янка Купала

### МУЖЫК

Што я мужык, усе тут знаюць,
І, як ёсць гэты свет вялік,
З мяне смяюцца, пагарджаюць, —
Бо я мужык, дурны мужык.

Чытаць, пісаць я не умею,
Не ходзіць гладка мой язык,
Бо толькі вечна ару, сею, —
Бо я мужык, дурны мужык.

Бо з працы хлеб свой здабываю,
Бо зношу лаянку і крык,
І свята рэдка калі знаю, —
Бо я мужык, дурны мужык.

Галеюць дзеці век без хлеба,
Падзёрты жончын чаравік,
Не маю грошы на патрэбу, —
Бо я мужык, дурны мужык.

Заліты потам горкім вочы;
Ці я малы, ці я старык, —
Працую, як той вол рабочы, —
Бо я мужык, дурны мужык.

Як хвор ды бедзен — сам бяруся
Лячыць сябе: я чараўнік!
Бо я без доктара лячуся, —
Бо я мужык, дурны мужык.

Што голы я, павінен згінуць,
Як той у лесе чашчавік,

І, як сабака, свет пакінуць, —
Бо я мужык, дурны мужык.

Але хоць колькі жыць тут буду,
Як будзе век тут мой вялік,
Ніколі, браткі, не забуду,
Што чалавек я, хоць мужык.

І кожны, хто мяне спытае,
Пачуе толькі адзін крык:
Што хоць мной кожны пагарджае,
Я буду жыць! — бо я мужык!

## ЧАГО Б Я ХАЦЕЎ

Мне не трэба багатых другоў:
Даўно знаю пахлебствы я іх,
Іх малітвы да ўсякіх багоў
І з пагардай пагляд на другіх!

Не хачу з імі быць за сталом,
На сваё паніжэнне глядзець,
Як, мінаючы чаркай з віном,
Ад парогу накажуць сядзець.

Не хачу я дзявочай красы
І пяшчот іхніх белых грудзей:
Рэжа сэрца мне горай касы
Зменнасць, хітрасць агністых вачэй!

Не магу я цярпець, пазглядаць,
Як іх сталасць знікае, што мгла;
Тут душу табе рада аддаць,
Тут другога шчырэй абняла!

Не хачу я гуляць, дзе народ
Толькі гора цярпіць на вяку,
Дзе сіротка стаіць ля варот,
Есці просіць, падняўшы руку.

Не хачу весяліцца, гуляць,
Дзе бяда, слёзы, скаргі ўвакруг,
Дзе другія ў няволі сядзяць,
Дзе замёрлі і сіла і дух!..

Эй, сказаць жа, чаго я хачу?
За што нават бы сэрца аддаў?

З чаго твар я слязамі мачу?
Ці ж хто з вас калі гэта згадаў?

Дык жа знайце, чаго б я хацеў,
Аб чым думачкі толькі мае:
Каб мой люд маю песню запеў
І пазнаў, аб чым песня пяе!

## З ПЕСЕНЬ А БІТВАХ

Іграюць сурмы баявыя,
Віхор разносе іхні звон, —
І песні дзіўныя такія
Ад іх лятуць да ўсіх старон.

Аб славе цуднай граюць сурмы,
Аб шчасці люду усяго;
Завуць змагаць няволі штурмы,
Завуць.. ой, многа да чаго!..

Дый дарма звоняць сурмы гулка!
Народ абманены прыцiх, —
Той спіць, той ходзе без прытулка,
А жаль і роспач у ва ўсіх.

Мучыцель толькі рад, снуецца,
Як шакал дзікі па трупах,—
З ахвяр сваіх ваўком смяецца,
З ахвяр, што мруць у ланцугах.

І відзець страшна ў путах сілу,
Людскі ўвесь з жалю енк і плач,
Аж хоць кладзіся у магілу
І свету гэтага не бач.

І ходзіш так, як пагарэлы,
І хочаш людзям скаргі слаць,
Азвацца крыкам на свет цэлы:
Дзе праўды, волі дзе шукаць?!

А сурмы граюць баявыя,
Віхор разносе іхні звон, —
І песні дзіўныя такія
Ад іх лятуць да ўсіх старон.

## ЗАШУМЕЎ ЛЕС РАЗГУКАНЫ

. . . . . . . . .

Зашумеў лес разгуканы,
Нівы задрыжалі,
Задрыжалі і тыраны,
Што бяду стваралі.

Зашумелі, загрымелі
Магутныя песні:
«Доўга, доўга мы цярпелі, —
Доля, воля, ўскрэсні!»

І глядзіце, што за дзіва!
Наракаць не трэба —
Буйна ўзойдзе наша ніва,
Будзе волі, хлеба.

Дзе ляжалі дзірванамі
Панскія абшары,
Дзе казённыя вякамі
Пусцелі гушчары,

Дзе была адна пустыня —
Ёлкі ды бярозкі, —
Поле будзе, пушча згіне,
Стануць хаты, вёскі.

Загарыцца сонца смагай,
Дух люду і сіла,
Доля, воля ясным сцягам,
Зоркай ўзыдзе мілай.

. . . . . . . . .

Верце песні — скора, скора
Гэты дзень настане, —
Ўжо уздыме людаў мора
Праўды панаванне.

Паўставаць будуць тыраны,
Але мы не зляжам,
Крывёй збрызгаем паляны,
А свайго дакажам.

Наша гора, нашы слёзы,
Кроў і пот крывавы
Стануць ў спёкі і марозы
За нашыя правы.

З грудзей нашых панясецца
Вір песень грымучых
І ў адзін голас зліецца,
У адзін магучы.

«Смерць таму, хто хлеб астатні
Бедным выдзірае!
Смерць таму, хто на люд братні
Кайданы ўздзявае!»

## СПРАСОННЯ

... Не! досыць, досыць! трудна далей
Цярпець, ціхія слёзы ліць!
Нічога мне, ой не, не далі,
А ўзялі ўсё, чым мог бы жыць.

Нявольнік, кланяцца век трэба
Людзям; век з потам кроў цячэ,
Няма патолі і ад неба:
То студзе, то спекай пячэ.

Пярун у хатку б'е крывую,
Пасевы нішчыць суш і град,
Авечку воўк задраў старую,
Скрыпіць нямазан панарад.

Худзее жонка ў слёзах, працы,
Трасе дзюравым каптаном...
Гэй ты, што песцішся ў палацы,
Меў ж літасць над маім жыццём?!

Я сам... мне ногі гное лапаць,
Аборы ўеліся да крыві...
О кроў! калі ж ты кінеш капаць?
О доля, раны зажыві!

Грызецца зрэбная кашуля,
З сярмяжкай трудна пагадзіць, —
Зімой ад стужы не атуле,
А ўлетку горача хадзіць.

Аблазяць спрэўшыя ад поту
Пад шапкай дрэннай валасы,

Нажыў удушша і ламоту
Ад тапара, сахі й касы.

На ўгры пабіў мазоль мне рукі,
Век цэлы пыл за акрыццё...
О, колькі гора, колькі мукі
Нясеш, паганае жыццё!

Ніхто й пацех мне не гавора
За долю горкую маю,
Нясецца толькі рэха з бору,
Як песню скрозь слёзы пяю.

Гэй, растлумач, выроддзе ўражжа,
Трутні, зладзеі пчольных прац!
Чаму, дзе труд крывавы ляжа,
Цвіце загон, стаіць палац?

Чаму я сею, а другія
З сяўбы маёй збіраюць плён?
... О, досыць, досыць! сэрца ные,
Грыміць пагудкі новай звон.

Чакаў і днём, чакаў і ночай,
І ўжо абрыдала чакаць,
Ўстаю, іду, куды йдуць вочы,
За крыўды плату адшукаць.

## ШТО ТЫ СПІШ?

Што ты спіш, што ты спіш,
Беларускі мужык?
Глянь! Усталі усе,
Як свет божы вялік!

Толькі ты, брат, адзін,
Як забіты, ляжыш
І на долю сваю
Не ўстаеш, не глядзіш.

Няўжо мала яшчэ
Катавалі цябе?
Няўжо мала яшчэ
Слёз і гора табе?

А паследненькі грош
З цябе лупіць казна,
Хоць у хаце дзяцям
Хлеба, солі няма.

Хоць заклаў ты кажух,
Абы чынш заплаціць,
Хоць у лапцях ты з лык
Мусіш вечна хадзіць...

Хоць кароўку сваю
За падаткі прадаў,
Хоць апошні ўмалот
Магазыннік забраў.

Ты астатні свой дух
І свае жылы рвеш,

Як калоду пудоў
Са сто ў места вязеш.

А у печцы тваёй,
Хоць мароз, хоць зіма,
Агонь тры дні не быў,
Дроў паленца няма!

А к вяселлю рубель
Часам трэба калі,
Дык хоць з торбай ідзі,
Каб капейку далі!

А не грошы ж твае
Там у банку ляжаць?
Не за грошы ж твае
Цар ідзе ваяваць?

Не за грошы ж твае
Цэркаў гэта стаіць?
Не за грошы ж твае
Яна срэбрам блішчыць?

Не за грошы ж твае
Цар палац свой зрабіў?
Не за грошы ж твае
Ён чыноў насадзіў?

Не за грошы ж твае
Караблі на вадзе?
Не за грошы ж твае
І чыгунка ідзе?

Не твой сын на вайне
Без галоўкі ляжыць?
Не сіротка твая
Пад варотмі стаіць?

Дык прасніся ужо,
Беларускі мужык!
Глянь! Усе устаюць,
Як свет божы вялік!

Глянь! Усходзіць ужо
Зорка праўды святой
І няволю-бяду
Сваёй зніме рукой!

Толькі ты мусіш, брат,
Уставаць, памагаць
І за долю сваю
Ваяваць, ваяваць!

Калі стрэльбу ў цябе
Адабралі тваю,
Ты з застрэшку вазьмі
Касу востру сваю!

І ідзі, і крычы
Прагавітым людзям,
Няхай хлеба даюць
Табе, жонцы, дзяцям!

Няхай знімуць з цябе
Чынш, падаткі, налог,
Бо бясплатна для нас
Даў зямлю гэту бог!

Што табе трудна жыць,
Дзецям хлеба няма,
Што не топлена печ,
Хоць мароз, хоць зіма!

І ідзі, і крычы,
Што пот вочы заліў,
І ідзі, і крычы,
Што з табой цар зрабіў!

Няхай бача ўвесь свет
Цяжку долю тваю,
Няхай бача ўвесь свет
Злое гора тваё!

Дык прасніся хутчэй,
Беларускі мужык!
Глянь, усталі усе,
Як свет божы вялік!

## ТАМ

Там кроў ліецца, там за волю
Барцы на віселькі ідуць,
А вы, вы мучаны найболей,
Спіцё, хоць вас даўно там ждуць.

Скажыце мне, а за каго яны
Пайшлі на смерць, пайшлі вайной?
Хто ёсць на свеце так дастойны,
Што трэ ахвяры аж такой?

Га, з вас ніхто таго й не знае,
Што йдуць за тых на бітваў жар,
Хто труд свой потам аблівае,
Над кім стаіць з нагайкай цар.

Што йдуць за тых на катні здзек,
Хто сваёй працай горкай, цяжкай
Свет корміць, — сам галодны век,
Адзеты лапцямі, сярмяжкай.

Што йдуць, каб бедным і галодным
Дзянькі сыцейшы зацвілі,
Зрабіць нявольніка свабодным,
Даць бяззямельнаму зямлі.

Дык вось, на смерць ісці іх змусіў
Найнешчасліўшы чалавек.
А вы, адродкі Белай Русі,
Спіцё, як быццам кат засек!

До спаць! Паўстаньце грамадою
І йдзіце ім там памагаць,

Паўстаньце крэпасцю такою,
Каб вораг вас не мог зламаць.

Паўстаньце, покуль цар звыродны
Крыві ўсяёй не выссаў з вас!
Паўстаньце! Край ваш стогне родны,
Заве збаўляць, як зваў не раз.

Паўстаньце, гляньце, божа мілы,
Свабода, сонца вас заве!
Крыху адвагі й дружнай сілы,
А шчасце вечна зацвіце.

Зганіце сон, аслепны сон,
Збудзіце дух прыбіты свой,
І ўдарце ў згоды гучны звон,
І сабярыцесь грамадой!

І йдзіце, йдзіце вы туды,
Дзе ўжо даўно кроў льюць за вас,
Нясіце веліч слёз, бяды,
Нясіце крыўды напаказ!

Хай кроў пальецца дзень, другі
Варожым трупам на падсціл,
Хай у няволі ланцугі
Спадуць ад грому вашых сіл!

## ВЯСНА

Згінулі сцюжы, марозы, мяцеліцы,
Болей не мерзне душа ні адна,
Сонейкам цёпленькім, зеленню вабнаю
Абдаравала зямельку вясна.

Рэчкі бурлівыя, ўчора санлівыя,
Сёння усталі, плывуць і бурляць;
Рыбкі шмыглівыя скачуць, купаюцца,
К небу прыветна з вадзіцы глядзяць.

Пушчы паважныя, зімку праспаўшыя,
Радасна песні зайгралі свае;
Лісці зашасталі, птушкі зачыркалі,
Свішча салоўка і дзяцел клюе.

Поле травіцаю сочнай адзелася,
Выйшла скацінка і дружна скубе,
Каля скацінкі падпасвіч з жалейкаю
Ходзіць навокал ды йграе сабе.

Грай, грай, жалеечка! грай, грай, вясёлая!
Выйграй з вясною і долечку мне;
З пушчаю, з птушкамі, з вольнымі ветрамі
Грай мне аб шчасці, грай аб вясне!

## ХАЙ ЖА ВАМ ТАК НЕ ЗДАЕЦЦА...

Хай жа вам так не здаецца,
　　Што бяда ўжо і заціснe,
Знайце, ліха пeратрэцца,
　　І маланкай доля бліснe.

Праўда, поўны сумаў весці
　　Буйны вецер нам прыносіць,
Што як з гора, як з балесці,
　　Каля нашых хат галосіць —

І галосіць і заводзе,
　　Плача, як па дзетках маці,
Аж бы крыкнуў: годзе, годзе!
　　Годзе сэрца жалем рваці!

Але ўсё ж, хай не здаецца,
　　Што бяда ўжо і заціснe, —
Наша ліха пeратрэцца,
　　І маланкай доля бліснe.

## НА СЛУЖБЕ

Эх, праклятая доля мая,
Ненавісная служба — прыгон!
Смокча кроў з мяне пан, як змяя,
Ды йшчэ грозіць, што выганіць вон.

За ліхую заплату з душой
Маю радасць, быдлё, абакраў,
І, ў палон мяне звабіўшы свой,
Крыві мала — жыццё б адабраў.

Ці нядзелька, ці свята мне ёсць,
Ці як людзі гуляў я калі,
Ці ў мяне пагасціў добры госць,
Ці мне добрае слоўца далі?

А не з дзерава сэрца маё,
Не вада ў маіх жылах плыве,
Мае вочы і твар не трухлё,
Замест дум не смяццё ў галаве.

Як і людзі, хацеў бы я так
Пагуляць, на бяседзе пабыць,
Паспяваць аб жыцці небарак
І з дзяўчынай-красой падружыць.

Ды праклятая доля мая,
Ненавісная служба — прыгон!
Смокча кроў з мяне пан, як змяя,
Ды йшчэ грозіць, што выганіць вон.

## ВЫ КАЖАЦЕ

Вы кажаце: надта пяю я нявесела,
Пацехаў ніякіх не бачу ў людзей...
Пакіньце смяяцца! Вас праўда не ўсцешыла,
Няпраўды ж не знаю ў душы я сваей.

Як пеў я дагэтуль, так пець не сцураюся,
Жальбою маркоцячы песню сваю;
Я ў долю народа свайго узіраюся
І толькі аб гэтым для вас тут пяю.

Няхай свет пазнае ўсе песні бяздольніка,
Хай вораг-мучыцель дрыжыць з праўды слоў,
Быць вольным хай родзяцца думкі ў нявольніка,
Хай быць чалавекам захоча брат мой.

## ВОРАГАМ БЕЛАРУШЧЫНЫ

Чаго вам хочацца, панове?
Які вас выклікаў прымус
Забіць трывогу аб той мове,
Якой азваўся беларус?

Чаму вам дзіка яго мова?
Паверце, вашай ён не ўкраў,
Сваё ён толькі ўспомніў слова,
З якім радзіўся, падрастаў.

Цяпер і вы загаварылі,
З апекай выйшлі, як з зямлі;
А што ж дагэтуль вы рабілі?
А дзе ж дагэтуль вы былі?

Ваш брат і цёмны, і галодны;
Хацінка свой зжывае век;
І век не знаў ён дум свабодных,
І крыўдзіў свой брат — чалавек.

Вам страшна нашай слёзнай песні
І жальбы страшна вам глухой?
Вам жудка сонца на прадвесні?
Мілей вам холад з цемнатой?

А што ж вам беларус такога
Пасмеў зрабіць, пасмеў сказаць?
Эх, трэба ўчыць яшчэ вас многа,
Як свайго брата шанаваць!

Эх, кіньце крыўдамі карміцца,—
Кожны народ сам сабе пан;

І беларус можа змясціцца
Ў сям'і нялічанай славян!

Напасцю, лаянкай напраснай
Грудзей не варта мазаліць!
Не пагасіць вам праўды яснай:
Жыў беларус і будзе жыць!

Не столькі «хамскія» натуры
На карках вынеслі сваіх!
І свіст даношчыкаў пануры,
Паверце, не запудзіць іх!

К свабодзе, роўнасці і знанню
Мы працярэбім сабе след!
І будзе ўнукаў панаванне
Там, дзе сягоння плача дзед!

## Я НЕ ДЛЯ ВАС...

Я не для вас, паны, о не,
Ў час вольны песенькі складаю,—
Што спала ў сэрцы там на дне —
Буджу і ў свет на суд пускаю.
Я не для вас, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не,
Падчас збываюся спакою,
Калі ў вачах сляза блісне,
Маркотнай вызвана душою...
Я не для вас, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не,
Свае дні лепшыя марную,—
У вечнай з мукамі вайне
Жыву і радасці не чую —
Я не для вас, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не,
Падняць скібіну слова рвуся
На запусцелым дзірване
Сваёй старонкі Беларусі,
Я не для вас, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не,
Над доляй плачу свайго люду,
З гразёй змяшалі б вы мяне
Сваёй нікчэмнасцю прыблудаў...
Я не для вас, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не,
Пяю. Вам не паняць мучэння;

Вам ваша сэрца не дрыгне
На голас братняга цярпення,
О, не дрыгне, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не!..
Адною ўцехаю жыццё вам,
Знячулі ў сытасці, віне,
Вас не разжаліш праўды словам,
О, не разбудзіш вас, о не!

Я не для вас, паны, о не,
А я для бедных і загнаных,
Я з імі мучуся ўраўне,
Ў адных закут з імі кайданах...
Я не для вас, паны, о не!

Я не для вас, о паны, не!..
Я — для тых цёмных, нешчаслівых.
Ад іх і водгаласак мне
Прымчыцца па лясах, па нівах,
А не ад вас, паны, о не!

## ПЕРАД БУРАЙ

Што бачу?—ўсё ціха, ўсё спіць пад няславай...
Ці ж праўда? — няўжо гэта вораг асіліў?
Няўжо ўсе байцы за народную справу
Тыранамі зможаны, леглі ў магіле?

Няўжо ўвесь народ упаў гэтак нікчэмна
І даўся без голасу дэспату ў рукі?
Няўжо дух свабоды, дух сілы мяцежнай
Замёр і не ўскрэсіш ніякай прынукай?

Ці ж мала няшчасцяў, ці ж мала слёз мора?
Ці ж мала кайданаў, мучэнняў не ў меру?
О, не! Штосьці сэрца іначай гавора,—
Я гэтакай цішы не веру, не веру!

Так толькі бывае прад летняю бурай —
І птушка замрэ, й пагляд сонца нясмелы,
На небе ж збіраюцца хмура за хмурай,
І гром заграхоча, і дрогне свет цэлы!

## НЕ ЧАКАЙ

Не чакай пацехі скорай,
Думкам дай заснуць,
Што паспагадае гору
Твайму хто-нібудзь.

Не чакай ты ласкі братняй,
Што можа калі
Дабравольна і бясплатна
Дастанеш зямлі.

Не чакай, што ржа з гадамі
Паесць ланцугі,
Што мінуцца сабой самі
Нагайкі, штыхі.

Не чакай... Знай, да магілы
Жывеш з сілы рук, —
Павер сіле, толькі сілай
Збудзешся ўсіх мук!

Рухне ўсё, што з веку сходзе,
Ляжа к шчасцю след;
Так з зімы вясны разводдзе
Аднаўляе свет.

## ЛЕТА

Эх ты, лета гарачае, бурнае!
Ажыўляеш ты поле і луг.
Люба, думкі пакінуўшы хмурныя,
На свет выйсці ды глянуць вакруг.

Шум стаіць над лясістай дуброваю,
Быццам рада аб нечым ідзе;
Рэчка, ў прысадзь схаваўшысь альховую,
Бурліць; рыбка плюскоча ў вадзе.

Ў збожжа ўсякае ніва прыбралася —
Хараства там якога няма!—
Як зялёны дыван, распластаалася;
Шопат нейкі плыве ад жытца.

Колас з коласам гутарку дзіўную
Завялі, бы на хмары злуюць;
Песні жаваранкаў пераліўныя —
Замаркоціцца — спаць не даюць.

А лагі, а гумнішчы, аселіцы?
Вось абняў, прытуліўся, ляжы...
Хто з вас, хто не любіці асмеліцца
Ўлетку свет ад мяжы да мяжы?..

Дай жа, лета, мне веру магучую,
Што калісь сваю долю знайду,
Дай мне песні пець сілу жывучую,
Дай працівіцца крыўдзе і злу!

## ПРАСТУПНІК

Судзіце мяне ў ссылку,
Закуйце ў ланцугі, —
Праступнік я вялікі,
Папоўніў я грахі.

На хату сухастойку
У панскай пушчы ссек,
На дзірванок на дворны
Я ездзіў на начлег.

У воласць не аддаў я
Падаткаў у пару,
Схадзіць раз на абедню
Я не паспеў ў царкву.

Раз перад земскім шапкі,
Здурэў, забыўся зняць,
Ураднікў, падпіўшы,
Хацеў касцей намяць.

Чытаць люблю я кніжкі,
Газетку раз знайшлі,
Крычаў з другімі з гора:
Свабоды і зямлі!

Я грэшнік, я праступнік,
Мой божа дарагі!
Судзіце мяне ў ссылку,
Закуйце ў ланцугі!

## З МАІХ ПЕСЕНЬ

Што нахлыне ў душу,
Што сасню вечарам,
Праз што вочы рашу, —
Усё выллю пяром.

Усё выллю і ў свет
Песняй лётнай пашлю, —
Няхай з віхрам услед
Аблятае зямлю!

Хай лятае ўвакруг
Над скаванай зямлёй,
Дзе спяць сіла і дух,
Дзе брат свой, як не свой!

І тых будзіць, хто спіць,
Хто цярпіць без віны;
Няхай гулка грыміць,
Як званы, перуны!

## А ХТО ТАМ ІДЗЕ?

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
— Беларусы.

А што яны нясуць на худых плячах,
На руках у крыві, на нагах у лапцях?
— Сваю крыўду.

А куды ж нясуць гэту крыўду ўсю,
А куды ж нясуць на паказ сваю?
— На свет цэлы.

А хто гэта іх, не адзін мільён,
Крыўду несць навучыў, разбудзіў іх сон?
— Бяда, гора.

А чаго ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
— Людзьмі звацца.

## ПЕСНЯ ВОЛЬНАГА ЧАЛАВЕКА

Дарэмна свістамі нагаек
Застрашыць хочуць тыраны,
Нагнаўшы чорных соцень шаек,
Акулі рукі ў кайданы,—

Душой я вольны чалавек,
І гэткім буду цэлы век!

Не страшны мне Сібір, астрогі,
Меч катні над шыяй маей,
Хоць і скуюць мне рукі й ногі,
Хоць зрэнкі выдзяруць з вачэй,—

Душой я вольны чалавек,
І гэткім буду цэлы век!

Нам есці хочацца тым болей,
Чым горай голад прыгняце,
Тым рвёмся больш мы і да волі,
Чым меней к нам яе ідзе.

Душой я вольны чалавек,
І гэткім буду цэлы век!

Дарэмна гіканне нясецца
Дэспотаў подлых над зямлёй,
Што воля ў путы акуецца,
Згняцецца сілаю, пятлёй.

Душой я вольны чалавек,
І гэткім буду цэлы век!

Ці ж людзі сонца згасіць могуць,
Згасіць, як свечку, яснасць дня?
І волі ж дэспаты не змогуць,
Бо воля сонейку раўня.
Душой я вольны чалавек,
І гэткім буду цэлы век!

7. Зак. 848

* * *

Я відзеў душы сільныя,
Якім віхры ўсміхаліся
І пелі песні дзіўныя,
Каб выйшлі і змагаліся;

Змагаліся з няпраўдаю,
Змагаліся з кайданамі,
З кайданамі пякельнымі,
З людскіх касцей каванымі.

І выйшлі людзі сільныя
На бітву на крывавую,
Дый смерцяю акрыліся,
Хоць несмяротнай славаю.

І толькі плакаць хочацца
Над гэтымі ахвярамі,
Над гэтым краем змучаным,
Над гэтымі цяжарамі.

І толькі плакаць хочацца,
Прад цэлым светам жаліцца,
Што так зямелька родная
З ног ад нядолі валіцца!

## ВОЛЯ

І люблю ж я, люблю
Гэту волю сваю!
Зямлёй лягу ў зямлю —
Вазьму волю сваю.

Нашто сокалам быць,
Так высока лятаць,—
Толькі б воляю жыць,
Толькі б путаў не знаць.

Эх, каб так раскаваў
Петлі ўсе ў ланцугу,—
Я б усім паказаў,
Як быць вольным магу!

Зямлёй лягу ў зямлю,
Але перш прапяю,
Як я волю люблю,
Гэту волю сваю!

## З ПЕСЕНЬ БЕЛАРУСКАГА МУЖЫКА

Я — багач, я — магнат!—
Усім рад, усім сыт!
Што мне пан, што мне кат!?—
Цэлы свет мне адкрыт!

Я усё закляну,
Усё сілай папру,—
З гор зраблю даліну,
А з далінкі гару!

Затрымаю ваду,
Цёмны бор павалю,
А як з сошкай пайду,—
Увесь свет накармлю!

Кажуць, кволы дух мой...
А ўсё ж я маладзец:
Замахаю касой —
Трупам ляжа сівец!

Кажуць, крыўджу людзей...
Ах, каб іх жа багі! —
Ці ж не з працы маей
Карыстае другі?!

Эй, дуж я да ўсяго —
На раллі, на лугу!
Толькі гора свайго
Я змагчы не магу!..

Толькі шнур мой вузкі
Град аполе, пажне,

І залом ведзьмакі
Заплятуць на мяне.

Толькі ў хатцы маей
Зімой свішча віхор,
Хлябок вынасе змей,
Дроў не дасць панскі бор.

Толькі, як памру я,
Прападаю, як мыш,—
Няма хоць бы гнілля
На труну і на крыж...

Толькі, як памру я,
Не ўмірае бяда,—
Хоць з магілкі маей
Насып змые вада.

## ВОСЬ ТУТ І ЖЫВІ...

Няма хлеба, няма солі, —
    Чужому рабі;
Няма шчасця, няма долі, —
    Вось тут і жыві!

Во зіма, — мароз вялікі, —
    Дровы ў Мінск цягні;
Дзеткі змёрзлі: енкі, крыкі, —
    Вось тут і жыві!

Прайшла зімка, цёпла стала,
    Вясна на зямлі,
А тут корму, хлеба мала, —
    Вось тут і жыві!

Вясна, лета — час рабочы:
    Ары, касі, жні;
Пот крывавы заліў вочы, —
    Вось тут і жыві!

Прайшло лета, прыйшла восень, —
    Падаткі нясі,
А дзяцей абдзёртых восем! —
    Вось тут і жыві!

Вот і будзь шчаслівы, браце,
    Долі не кляні:
Холад, голад, бяда ў хаце, —
    Вось тут і жыві!

Працуй цяжка дні і ночы,
    Пагарду цярпі;
Сказаў праўду — дзяруць вочы, —
    Вось тут і жыві!

У палацы п'юць, гуляюць,
    Свецяцца агні;
Мяне ж з хаты выганяюць, —
    Вось тут і жыві.

## ЯКІЯ

Сыты, раскормлены,
Вясёлы вечна,
Сільны над стан,

З трудоў слабейшага
Жыве бяспечна, —
Гэта — ваш пан.

Худы, прыгорблены,
Працай сцяганы,
Ў вобуві з лык,

Холадам, голадам
Век катаваны, —
Гэта — мужык.

## ЗАХАД СОНЦА

За нязнаную
Даль пахмурную
Закацілася
Ясна сонейка.

Ой, пара, пара
Табе, добрае,
Адпачыць пайсці
После дня ўсяго.

Нахадзілася,
Нагулялася
Над зямелькаю
Па-над крыўднаю.

Бачыць трэ было,
Каб уродаю
Ніва ўбогая
Убіралася.

Сагрэць трэ было
Беспрытоннага,
Слёзы высушыць
Абнядоленым.

Усміхацiся
Ўсім замучаным
Доляй-радасцяй,
Воляй-сокалам.

После гэтакай
Працы-мачыхі

Спачынь, сонейка,
Там за горамі.

І назаўтра ўстань
З новай сілаю,
Узнімі агні,
Ў сэрцы стухшыя.

Распалі агні
Веры ў будучнасць,
Што дзён лепшых мы
Дачакаемся.

## ЗІМА

Прыйшла зіма халодная,
Нягодная зіма, —
Цярпі, зямелька родная,
Няма жыцця, няма.

Прыцьмілась сонца яснае,
Прыціх шум баравы;
На полі пустка страшная —
Ні збожжа, ні травы.

Снег белы мёртва сцелецца
Пасцеляй грабавой,
Сапе, шуміць мяцеліца,
Мяце снег, як мятлой.

Мароз, як кат бязжаласны,
Ў лёд рэчкі акаваў,
Стральбой сваёй бязрадаснай
Па сценах біць пачаў.

Стральбой сваёй праклятаю
Ў лёт слабых птушак б'е,
Пры хаце і за хатаю
Спакою не дае.

Хаваюцца ў будоўліны
Жывёла і народ, —
У снег зямлі абноўленай
Не міл для іх паглёд.

Ваўкі па сцежках шляюцца
І ночкаю, і днём

І жудка разлягаюцца
Магільніцкім выццём.

О, гора падарожнаму
Іх стада напаткаць!
Не жыць неасцярожнаму,
Радні не аглядаць.

І вырвуць вочы ясныя,
І выхлебаюць кроў,
І пойдуць далей, страшныя,
Шукаць ахвяр ізноў.

Ой, жудасна-халодная
Ўзгулялася зіма,
Цярпі, зямелька родная,
Няма жыцця, няма.

Цярпі, старонка родная,
Мучэнне пі да дна, —
Міне зіма нягодная
І ўскрэсне зноў вясна!

## Я НЕ ПАЭТА

Я не паэта, о крый мяне божа!
Не рвуся я к славе гэткай німала.
Хоць песеньку-думку і высную можа,
 Завуся я толькі — Янка Купала.

Славу паэтаў разносяць па свеце,
Вянкі ўскладаюць і звоняць пахвалай,
Я ж ціха йграю, хто ж ціхіх прымеце?
 Ат! ведама з вёскі — Янка Купала!

Кожны край мае тых, што апяваюць,
Чым ёсць для народу ўпадак і хвала,
А беларусы нікога ж не маюць,
 Няхай жа хоць будзе Янка Купала.

Доляй убогі, ён ціхі, нясмелы,
Бяда, яго маці, узгадавала,
Слёзы пагарды п'е толькі век цэлы,
 От, ведама, просты Янка Купала.

Песні пачаў пець той мовай убогай,
Якой пагарджаюць горка, нядбала,
Пэўна, і песняў шчураюцца многа,
 От, ведама, здумаў Янка Купала.

Шчасце так рэдка над светам усходзе;
Усё ж досыць бывае меці хоць мала, —
Долю каб бачыў у родным народзе,
 А быў бы шчаслівы Янка Купала.

Эт, з часам людзі ўпадаюць на сіле,
Смерць скосе, глядзі і больш крыжам стала;
Нехта спытае: хто ў гэтай магіле?
А напіс пакажа: Янка Купала.

## АРАТАМУ

Ну, годзе ўжо спаці! глянь: светла ўжо ў хаце,
Вясна заглядае ў акно;
Ўжо птушка свяргоча, ўжо лісцік шапоча,
Цябе шнур чакае даўно.

Хай сошка крывая, кабылка худая
І ты сам, крывы і худы,
Пацягнуцца ў поле, на тое прыволле,
На тыя прадзедаў сляды.

Ты — пан, ты — багаты, ты — сіла, араты!
Ты ў крыўду не даўся б другім.
Знай, шмат каму трэба з тваёй працы хлеба,
Дый сам ты галодзен зусім...

Дык выпрамся ж трошку, дый жыва за сошку,
Ды ў поле — к вялікай арбе!
Бач, можа, і долю ў няўродлівым полі
Ты выараш, братка, сабе...

Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі —
Любі сваю ніву, свой край,
І, колькі ёсць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засявай!..

## РОДНАЕ СЛОВА

Магутнае слова, ты, роднае слова!
Са мной ты на яве і ў сне;
Душу мне затрэсла пагудкаю новай,
Ты песень навучыла мяне.

Бяссмертнае слова, ты, роднае слова!
Ты крыўды, няпраўды змагло;
Хоць гналі цябе, накладалі аковы,
Дый дарма: жывеш, як жыло!

Свабоднае слова, ты, роднае слова!
Зайграй ты смялей, весялей!
Хоць гадзіны сыкаюць, кружацца совы,
Жывеш ты на хвалу людзей.

Загнанае слова, ты, роднае слова!
Грымі ж над радзімай зямлёй:
Што родная мова, хоць бедная мова,
Мілей найбагатшай чужой!

* * *

Грымну я, грымну па струнах бунтарных
Рукою, потам абмытай,—
Лíся, кацíся па гонях папарных,
Розгалас песні забытай.

Доўга блудзіў я, блудзіў дзірванамі,
Крыж спатыкаў, дзе праходзіў;
Смехі, насмешкі нясліся з вятрамі,
Шла непагода ў народзе.

Жаль далятаў з недалёку, далёку,
Чулі жаль гэты камені,
Чэз так прыгонна, самотна, нялёгка...
Церні, за цернямі церні.

Стрэну калі часам дзе прасвятленне,—
Злыбедай сонца зардзіцца;
Следам сыходзяць, ідуць пакаленні —
Ўсе ад цямніц да цямніцаў.

## ПЕРАД ВІСЕЛЬНЯЙ

Прыблуды з-пад Нявы крывавай,
Калі ж апомніцесь, калі?
За што стапталі маю славу,
За што на вісельню ўзвялі?

Я ў вёсцы жыў,— вы там душылі,
Я быў там нем, я быў там слеп;
Жыццё ўвялі, як у магіле,—
Дзе ў вёсцы свет, дзе ў вёсцы хлеб?

І я пайшоў, пайшоў за хлебам...
Бяда, бразг путаў — дзе ні кінь;
Не раз начлег пад голым небам
Я меў ў пустыні сам адзін.

Так брыў... Дзе ж звалі небараку,
Апошняй сілы дабываў;
І вашых я страчаў служакаў,
Дзе толькі быў, дзе гараваў.

Жыву... Усё горай — чым жыў далей,
Пракляў прыгон паганы свой...
Штохвіля крыкі даляталі —
За волю клікалі на бой.

То падымаўся люд скаваны,
Дзе быў кат-цар і капітал,
Няволі рваліся кайданы,
За трупам клаўся трупаў вал.

Раз мне ўсе ходы зачынілі,
Усе ходы к зноснаму жыццю,—

Я напралом прайшоў ў бяссіллі
За праўду пастаяць сваю.

А вы, ўпыры, вы, крывапіўцы,
Мяне, сарваўшы з родных ніў,—
Судзіць пасмелі, як убіўцу,
Хоць я ваякам толькі быў?!

Каб мітры, скіпетры, тыяры —
Што ўжо крывёй зліваў і дзед —
Удзержыць,— вы ўзвялі на нары
Унука, што йшоў за прасвет.

Ну, што ж,— пацешцесь, душагубы.
Я ўжо не выйду з вашых рук,—
Вы давялі мяне да згубы,
Вы і збаўляеце ад мук.

Але не стану біць паклонаў,
За сваю гібель не змаўчу;
Знаць не хачу вашых законаў,
Знаць вашых суддзяў не хачу!

Вы ў ланцугі ўсё закавалі:
І суд, і праўду, і закон!
Расправу правам вы назвалі,
А ласкай — пахавальны звон.

Вы задушылі дух народны,
Да слёз мільёны давялі,
Збылі з жыцця вам непрыгодных,
Зглушылі кліч — «волі, зямлі».

Вы братняй кроўю ап'янелі,
Усіх звяроў сталі падлей,—
Вы разнікоў прайшлі на дзеле —
Ў разніцы гоніце людзей.

Завёўшы тысячы народу
Ў палёх манчжурскіх палажыць,—
Вы на ваякаў за свабоду
Мячы патрапілі тачыць.

Пусціўшы з торбамі на мукі
Сірот, і матак, і ўдавіц,
Вы загасілі свет навукі,—
Давай вам катаргаў, цямніц!

Айчыну ўбраўшы ў пажарышчы,
Сынам прыпомніўшы ясыр,—
Спраўляйце з груганамі йгрышчы
На косцях братніх на ўвесь мір!

Яшчэ прыбавіце скананне —
Прадсмертны вашых рук абраз,—
Не доўга ж ваша панаванне —
Загуба прыйдзе і на вас!

Загубу крыўдаю, слязамі
Ў магільны выкапалі ніз;
Людской расплаты ўжо над вамі
Тапор адточаны завіс.

...Дзе ж кат?.. Гэй, шэльма, вешай лоўка!..
Не меў я волі, ні вугла...
Намыль з канца ў канец вяроўку,
Каб лепей шыю абняла!

Ў паветры ногі затрасуцца,
Байца не стане аднаго,
Дый хоць званы й не адгукнуцца,
Не пахаваеце ўсяго!

Не ўмруць ніколі грозны клікі
На сонца захад і на ўсход:
Тут спіць ваяк, ваяк вялікі
За волю, долю і народ!

## ЗВАЯВАНЫМ

Спіце ўсе тыя, што праўды па свеце шукалі,
І, не здабыўшы, ў дамоўкі без часу сышлі...
Граззю ў вас кідалі, вольна дыхнуць не давалі...
Хай жа пацешацца; ўжо вы спачылі ў зямлі...

Гулка нясецца стогн лесу ў начныя пацёмкі,
Плача-галосіць у коміне вецер глухі...
Спіце вы, слаўныя гора і працы патомкі,
Хутка над вамі распалім памінкаў агні!

Мала вас, мала было паміж цёмнымі намі;
Сільны яшчэ быў наш блуд і туман кругом нас!
Вы, перамогшы усё, узняліся арламі,
Бліскам былі нам, тым бліскам, што гас і не згас.

Грозна нясліся магутныя вашыя клікі;
Нават каменныя душы скідалі свой сон;
Радасцю дзіўнай звінеў ваш край бедны, вялікі...
Сіл не хапіла... запеў пахаронны вам звон.

Свежыя наспы мураўка яшчэ не пакрыла,
Жвір толькі свеціцца, змыты сцюдзёным дажджом...
Спіце! Мы вашых навек не забудзем магілаў;
Збуджаны вамі, мы ўскрэслі, мы больш не заснём!

## НЕ УЗДЫХАЙ

Не ўздыхай, не бядуй, брат замучаны мой!
І жыцця не кляні, не кляні!
Думу-песню запей, стань адважнай ступой.
Яшчэ раз не засні, не засні!

Хоць за хмараю хмара плыве чарадой,
Сільней хмар — гэта сонца агні.
І ты, брат, не бядуй, рвіся к сонцу душой,
Яшчэ раз не засні, не засні!

Болей крыжам адным — гэта цень прад зарой,
А там лепшыя новыя дні!
Дык не плач жа, брат мой, запей песню са мной!
Яшчэ раз не засні!

## ПАМЯЦІ ШАЎЧЭНКІ

Ад гасцінца да гасцінца,
Ад хаты да хаты
Звініць кобза ўкраінцам
Аб вялікім святу:

Уся чыста галасіста
Ўкрайна маладая
Свайго «бацьку»-кабзарыста
Важна ўспамінае.

Эй, бо песня кабзарыста
Ад краю да краю
Плыве вольна-расхадзіста,
Перашкод не знае!

Сам ён многа меў нядолі,
Крыўды, паніжэння,
Ды не здрадзіў жа ён волі,
Волі і сумлення.

Дух збудзіў свайму народу
Сваім гучным словам,
Навучыў любіць свабоду,
Родны край і мову.

Яго «бацькам» ахрысціла
Памятна Украйна.
Эх! і нам будзь бацькам мілым,
Украінча слаўны!

Плывучы ўдаль, твая песня,
Гасцінцам не вузкім,
Знайшла водгалас пачэсне
Ў сэрцы беларускім.

## ПАВОДКА

Крэпкі, магутны аковы зімовыя —
    Льдзяныя брылы на захад і ўсход.
Бліснула сонца, сонца вясновае —
    Топіцца гурбіна, топіцца лёд!

З грохатам, з лёскатам крыга за крыгаю
    Прэцца, нясецца ў нязнаную даль;
Хваля за хваляю коціцца, мігае,
    Ломіць прашкоды, як молатам сталь.

Дарма запорыну людзі бяздольныя
    Выбегуць ставіці сіле такой:
Скрыша паводка ўсясільная, вольная,
    Скрыша і пойдзе сваёй пуціной!

Эх ты, разводдзейка! Эх ты, бурлівае!
    Ты аднаўляеш, купаеш зямлю;
Вынесі ж, вынесі хваляй жычлівую
    К лепшаму шчасцю людскую сям'ю!

## ПЕСНЯ-БАЙКА

З-за далёку, з-пад усходу
Віхар мчыцца ў непагоду,
    Байкі сее маладыя;
    Думка чуе, думка ные...

Ціха... Бачце... штось віднее,
Льецца нейкая надзея,
    Штосьці едзе з новым сватам,
    З новым шлюбам з хаты ў хату...

Скінь лахманец непазорны,
Пыл згані з аконцаў чорны,
    Пыл змяці хутчэй з аконца,—
    Шэпні-клікні: сонца! сонца!..

Быццам з песняй, быццам з ласкай,
З чараўніцкай нейкай казкай,
    З-за далёку, з-пад усходу
    Віхар мчыцца ў непагоду...

## ЗАКЛЯТАЯ КВЕТКА

Чуць толькі купальскае свята
Набліжыцца з ночкай сваей,
Як папараць кветкай заклятай
Чаруе няшчасных людзей...

З надзеяй, і верай, і сілай
Зусюль, куды б дзе ні зірнуць,
Праз высі, даліны, магілы
Па кветку бягуць і бягуць!

...Сава пяе песню разлукі,
Лапоча крыламі кажан,—
Мільённыя цягнуцца рукі,
Дзе дрэмле купальскі курган.

Тых радасцю вочы смяюцца,
Тым зрэнкі крывёй заліло;
Піхаюцца, корчацца, б'юцца;
Мяшаецца праўда і зло.

Пачнуцца галінкі хіліцца,
Шасцяць верасы пад нагой,
Туж-туж ужо кветку схапіці!
Сціскаецца гэты і той —

Тыц — стой!.. Глядзяць зорніцы-сведкі,
Пявун адгукнуўся ў сяле —
Ні ночкі купальскай, ні кветкі!
Усё затаілася ў мгле...

Залыпалі блудныя вочы,
Мільёны уздохаў ляціць.
Сава не заціхне — рагоча,
Крыламі кажан шапаціць...

След костачкі сцелюць — усталі,
Здаецца, ўжо час аддыхнуць,
Надойдзе ж хай толькі купалле,—
Мільёны па кветку бягуць.

## ВІСЕЛЬНІК

Зоркі не ўбачыш, імгла непрыхільная
Свет спавіла непрагляднаю сеткай;
Вецер не мрэ і, як зданне магільнае,
Носіцца грозна па пушчах, палетках.

Лес расхадзіўся, пашумы сусветныя
Б'юць у тахт віхравы кожнай галінай,
Стогнуць дубы і бярозы сталетнія,
Хрыпла скрыпяць і трасуцца асіны.

. . . . . . . . . . . . . .

Злыбедаў стогны і цьмы неспажытыя,
Жудаснай дзікасці поўны без меры.
Як жа салодзіце думкі разбітыя,
Сэрца з разбітай надзеяй і верай!

Годзе, душа маладая, пакутаваць,
Шляхам заломным снаваць бескарысна,—
Страшна загадкі ўсё быту расплутываць,
Выхад з туманаў знаходзіць разблісны:

К сонцу і зорам жыццё тваё рвалася,
Віхры і ночы на бой выклікала...
Згасла ўсё лепшае, загасла, зламалася,—
Далей змагацца сілы не стала.

Будзь жа збаўленнем, пятля канапляная!!
Вырыхтуй сук свой, асіна-ласуха:
Хутка збагацішся ў плоднасць нязнаную,
Слаўнаю станеш, толькі паслухай!

Ты не марудзь там, пакутнік аплучаны:
Жыва вяроўку — раз, два і гатова!

Смела сунь шыю!.. Ну, вось і разлучаны
З гэтай зямлёю, з пуцінай цярнёвай.

. . . . . . . . . . . .

Вырылі яму жалезнай лапатаю,
Вырылі паміж крыжовых дарогаў,
Кінулі цела — эй, цела праклятае —
Без пасвячэння, без модлаў, з трывогай.

Зводна пайшлі толькі ўздохі пустынныя:
Быў чалавек — і няма чалавека:
Згінуў не то ўжо зусім каб скацінаю —
Так сабе ўрэзаў трацініну века.

. . . . . . . . . . . .

Сотні раз хмарамі неба ўзгамоніцца,
Сотні раз ніву спалошча, абсуша,—
Памяць аб вісельным век не затопіцца,
Будзе пужаці труслівыя душы.

З году да году у свята дзядовае
Хрыпла скрыпяць і трасуцца асіны,
Песню вятрыска пяе пагрaбовую...
Вісельнік блудзіць паўночнай часінай...

## ПЕРАД СВІТАННЕМ

Ціха... Бачце: штось варушыцца,
Штось паўстаці хоча;
Пераэжытасць гнеццa, крушыцца,
Новы свет шапоча.

Сонца з цемрамі змагаецца;
Мох злятае з хат і пунь;
Даль за даляй ажыўляецца;
Ўсходзе ядраная рунь.

Дрыгаццяць напасці-пошасці,
Аціхаюць совы,
Разнімаюцца з паношасцей
Крыллі груганoвы.

На курганішчы спускаюцца
Туманы жывой расой
І па пустках расплываюцца
Бесканечнай паласой.

Доляй-мачыхай прыдаўленых
Зоры аклікаюць,
Ля магілішч акрываўленых
Валахі чакаюць.

## АДЦВІТАННЕ

Не шасцяць каласы,
Звон не валіцца з касы,
Не кладуцца ў стог пласты,
Толькі сыплюцца лісты
На яловыя кусты,
На сухія верасы.

Не іскрыцца небазор,
Не цвіце трава-чабор,
Не цыгліць птушыны стан,
Толькі поўзае туман,
Вецер б'е ў нямы курган,—
Шапаціць імглісты бор.

Змога вольная снуе,
Вочы ўставіўшы свае,
То галубне, то пужне.
Сэрца б'ецца у паўсне,
Думка сэрцу аб вясне
Здрадны голас падае.

## СНЕГ

Залягла, як пасцель,
Лебядзіная бель
На загон, на курган.
І кажан, і груган
Занямеў не на смех:
Гэта снег, толькі снег...

За старухай-зямлёй
Ты пасцель, дружа мой,
Узваліў на душу,
Як бы крыж на мяжу,
І ўжо рад не на смех:
Гэта снег, толькі снег...

Думкі, сэрца, паглёд
Абліў лёд, скаваў лёд.
Так спавіў, спавіў сам,
Каб лягчэй была там,
Дзе жыццё не на смех:
Гэта снег, толькі снег...

Ты і жыў, і любіў,
Ты не ўмёр — і забыў,
Каб нічога не дбаць,
Смела ўдаль паглядаць,
Быць самым не на смех...
Гэта снег, толькі снег...

Хтось — сваяк не сваяк —
Як жыў, скончыўся так.
Прагудзеў поп і звон,

Ідзі з памяці вон:
Бой за хлеб не на смех!
Гэта снег, толькі снег...

Мо і лёгкія дні...
Не зачэпяць ані
Ні бяда, ні нуда,
Ні агонь, ні вада...
Само шчасце, сам смех!
Гэта снег, толькі снег...

## ПЕСНЯ ЗВАНАРА

На высокай гарэ, дзе ніхто не арэ,
Толькі птушка-арол дзе садзіцца,
Там збудую, ўзвяду, нізі ўсёй на віду,
Мураваную вежу-званіцу.

І завешу я звон, з усіх чутны старон —
Раўня голас і віхру і грому.
Як пушчу яго ў ход, склічу ўміг карагод,
Ні адзін не заседзіцца дома!

Разгудзіцца мой звон ад акон да акон,
Душы збудзіць, па сэрцах удара,
Дрогнуць сковы цямніц, бліснуць іскры зарніц,
Заварушацца яры, папары.

На мой кліч вечавы хто жывы, чуць жывы,
Пад гарою касой загамоне.
Гулам звона скажу, сцежку-шлях пакажу
На прыволле, на ўродныя гоні!

За гарой за другой дам жывы вадапой,
Жыватворнае кожнаму зелле;
На нязлічаны час па нягодах папас
Усім тым, што цярпяць і цярпелі.

Гэткі будзе мой клік — і магуч і вялік,
А не трапіць ён к душам прыспаным,—
Вызву гром, перуны — хай памогуць яны
Развагніць, затрасці ўсе паляны.

Стогне бура грымот. Я свой звон ход у ход
Размахну, як ніхто і ніколі;

Аж ад рук і ад хмур вежы рухне падмур,
Толькі розгалас пойдзе па полі.

Ляжа крушняю там вежа, звон і я сам,
Арол-птушка ўскрыліцца пад небам.
А навокал гары задымяць сцежары,
Груганамі ўскалышуцца вербы...

. . . . . . . . . . . . . .

І вясна, і зіма. Быў званар — і няма.
Ціха, ціха на белым прасторы.
Толькі жыў нежывы звону гул вечавы,
Аб тым шэпчуць дубы, ясакоры.

Йдзе, сыходзіць лет шмат. Званара помніць брат,
Помніць звон, а сястрыца — званіцу.
Аб высокай гарэ, дзе ніхто не арэ,
Казкі-байкі ліюцца крыніцай.

Як у прошчу па лек стане йсці чалавек
К мохам высланай крушні камення,—
Ад звана чарапок, цэглы — муру кусок —
Будуць несці падмогу ў цярпенні.

Буду ўсё званаром, хоць даўно пад дзярном
Спіць мая галава маладая.
Эх, бо ведае свет, што вялікіх дум цвет
Адно толькі на зломе ўзрастае!

## ТУТ І ТАМ

Вы тут гуляеце, панове,
У сытай, п'янай чарадзе,
А там — што робіцца у вёсцы,
І ў думку вам не набрыдзе.

Тут у крыві людской скупана
Капейка сходзіць за дармо,
А там, у вёсцы ў непацешнай,
Расце, вялічыцца ярмо.

Тут вы прыйшлі разбіць аб чаркі
І чэсць і славу напалам;
Там горы ўзносяць, рыюць ямы,
Каму? — згадаць пара ўжо вам!

## ПЕСНЯ СОНЦУ

Вольным гоманам хвоек высокіх,
Туманамі санлівых нізін,
Казкай векаў блізкіх і далёкіх
Клічам, сонца, цябе як адзін!

Распусці залацістыя косы,
Схаладзелы загон ацяплі,
Аквяці лугавыя пакосы,
Ўсходы новыя сей на зямлі.

З непатульнай, пакорнай зямліцай
Заручыся, шлюб вечны вазьмі,
Разлівайся люстранай крыніцай
Між даламі, гарамі, людзьмі...

Рассыпайся па сёлах, па нівах
Брыльянцістай ажыўчай расой;
У вясёлках купайся цвятлівых,
Ласкай сэрца, душу супакой...

Як у свята купальскае, сонца,
Свой жывы абнаўляеш паглёд,
Аднаві славу нашай старонцы,
Аднаві яе сумны народ!

Хай нам явары вечныя думы,
Думы-байкі шасцяць, шалясцяць,
І нясуцца хай гэтыя шумы,
Па бел-свету ляцяць, хай ляцяць!..

Дык гаянь з хорамаў вольных, высокіх
Ды крывіцкіх туманных нізін.
Казкай векаў блізкіх і далёкіх
Клічам, сонца, цябе як адзін!

## ЯВАР І КАЛІНА

Песняй вясны лебядзінаю,
Скінуўшы зімнія чары,
Шэпчуцца явар з калінаю
Ў сумнай даліне над ярам.

Лісцікі зеленяй хваляцца
Небу панятлівай мовай:
Росамі мыюцца раніцай,
Песцяцца сонцам паўднёвым.

Захадам модлы пакорныя
З маткай-зямлёй адпраўляюць;
Тайна у ночаньку чорную
Месяца, зор выглядаюць.

Слухаюць смехаў русалчыных,
Лопату крыллаў начніцы,
Ветру павеваў ап'янчаных,
Плюскату шклістай крыніцы.

Чуецца музыка дзіўная
Ў повесцях сонных імшараў...
Цешыцца явар з калінаю,
Скінуўшы зімнія чары.

## Я АД ВАС ДАЛЁКА

Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні,—
На чужое неба ўжо гляджу сягоння.
Але думкай, сэрцам толькі вас я знаю,
Як і жыў, жыву я ў сваім родным краю.
І няма на свеце так вялікай меры,
І няма на свеце так каваных дзвераў,
Каб хоць на часіну ў будні ці ў нядзелі —
Беларусь са мною разлучыць пасмелі!

Я ад вас далёка... скажуць гэтак людзі...
Але хто заглянуў у чужыя грудзі
І паняў хто шчыра той агонь і мора,
Што гарыць, бушуе і аб чым гавора?
Пойме толькі гэта, хто аж да скanання
Не пазнаў спакою, не пазнаў прыстання;
Каго доля-ведзьма ад самой калыскі
Кідала па свеце, як той ліст вятрыскі.

Я ад вас далёка... А дзе ні гляджу я —
Дома толькі думка днюе і начуе;
Знаю толькі пушчы Белавежскай гоман,
Знаю толькі рэчку — з плытнікамі Нёман.
Дзе ў чужыне будзе сад так гадаваны,
Дзе такі там хорам важна збудаваны,—
Што мне замянілі б хату і бярозкі,
Хату і бярозкі беларускай вёскі?..

Я ад вас далёка... Дзеліць нас паўсвета,—
А жыву ж я з вамі і зіму і лета;
Чую з вамі ўвосень непагоды песню,
Цешуся з праталін вольнага прадвесня.

І ці сонца ўзыдзе, і ці сонца зайдзе,—
Вечна з думкай там я, мой спакойны край дзе;
З выраю ж як толькі сустрачаю гусі,
Весці ў іх пытаю з роднай Беларусі.

Я ад вас далёка... Жыву між чужымі,
Чую ж вашы песні,— водклік шлю сваімі;
Дабываю песні ад душы, ад сэрца,
Аж бы сам за імі к вам ляцеў, здаецца.
Не зрабіць нікому гэткай дамавіны
І не вырыць ямы гэтакай глыбіны,
Каб у іх з вачэй мне Беларусю-маці,
Як людзей хаваюць, гэтак пахаваці.

Я ад вас далёка... Божа ты мой мілы!
Неразлучны з вамі да самой магілы,—
Не пакіну думаць світам і ўпацёмку:
Як там жывіцё вы, як жыве старонка?
А хоць дасць мне доля ў дамавіне месца,—
Ўстане цень з зямлі мой, на крыж абапрэцца
І ў той бок глядзеці будзе век нязводна,
Дзе ляжаць загоны Беларусі роднай.

## МАЯ ДУМКА

Як вецер, як птушка, дзе сонца, дзе зоры,
Так рвецца, нясецца ўдаль думка мая;
Абымецца з небам, пакоціцца ў мора,
У вялікае мора людскога жыцця.

І ўдарыцца ў сэрца так смутна, балесне,—
Як лісцем віхура, так ім скалыхне,
Так ім закалоціць, аж выклікне песню...
Ўжо з песняй ляціць зноў да зор к вышыне.

Запеўшы пахвалай нязведанай далі,
К вядомай павернецца долі людской,
Адсвеціцца ў слёзах, як свечка ў крышталі,
Ды ў свет зноў за сонцам, за новай зарой!

На небе свабода, святло і прыволле,—
А думцы замала: няма там людзей;
Людзей на зямельцы спаткае даволі,
Дык сонца і воля не свецяць тут ей...

І так безупынку, то к небу — дзе зоры,
Нясецца, як птушка, ўдаль думка мая;
То скоціцца ў мора, ў вялікае мора
Людскога, забытага шчасцем жыцця.

* * *

Я нясу вам дар
Братніх скіб і сяліб,
Смутных сосен і ліп,
Думак дар, сэрца жар, —
Вольных, звонкіх песень чар.
Гэй! нясу вам дар!
Гэй! гэй! гэй!

Хай жа песня ўсюды льецца,
Ў сэрцах вашых адгукнецца,
Ззіханецца, ўскалыхнецца,
Як звон той,
Як свой!

А хто брат мне тут і друг,
Ладзь-наладзь душу і слух,
І за песняй думкай скоч,
Там, дзе Нёман, Дзвіна, Буг
Точаць наша поле, луг,
Дзе шумяць у свет далёкі
Белавежа, Налібокі,
Дзень і ноч,
Думкай скоч!

Прымі дар, сэрца жар,
Вольных, родных песень чар!
Гаю, гаю, гэй!!

## ГУСЛІ-САМАГРАІ

Як зайгралі, загудзелі
Гуслі-самаграі,
Паняслiся, паляцелі
Песні па ўсім краі.

Ад паляны да паляны,
Ад бора да бора
Плыве голас неўніманы,
Як бы хвалі мора.

Аб вялікай аб старонцы,
Беларусі-мацi,
Жальба страшная бясконца
Ўсё чуваць-чуваці,

Як душы таёй пакутнай,
З-пад магільнай пліты
Гоман веча ў гуслях чутны,
Чутны звон разбіты;

Хоць разбіты, хоць забыты, —
Для ўсіх зразумелы,
І ад свету аж да свету
Слухае свет цэлы.

Плачуць, жаляцца спрасоння
Гуслі-самаграі,
Аж, здаецца, пушча стогне,
Курган уздыхае.

## АДГУКНІСЯ, ДУША!..

Адгукніся, душа, песняй звонкай грымні!
Няхай песня з віхрамі памчыцца.
У братніх сэрцах няхай разгарацца агні,
Думы новай пальюцца крыніцай.

Ад зары да зары па радзімай зямлі
Зацяганыя людзі снуюцца,
І гаруюць яны, рэдка шчасны калі,
З чорнай доляй змагаюцца, б'юцца.

З іх жыцця без жыцця, з іх беднот і цямнот
Карыстае бяспуцце, як можа;
І ніхто ж не жалее, як вечных сірот,
Ні свой брат, і ні ты нават, божа!

Жальбаў слухае іх толькі шум баравы.
На іх мукі глядзяць толькі зоры.
Адгукніся ж, душа, на іх стогн векавы!
Задрыжыце, даліны і горы!

## ВЯСНА

У вянку з пралесак,
У святлянай шаце
Ходзе борам лесам,
Полем, сенажацяй.

Сонцу-яснагрэю
Расплятае косы,
Раніцамі сее,
Як брыльянты, росы.

Сцелецца травіцай,
Ветрыкам шапоча,
Коціцца крыніцай,
Рыбкаю плюскоча.

Весела міргае
Сошцы і баронцы,
Зернятка хавае
У свежай баразёнцы.

У гайкі заходзе,
Шапаціць лісткамі;
Гутарку заводзе
З белкамі, дзятламі.

Роднае прыселле
Вырай любіць вуча,
Лад вядзе ў капэле
Грамады пявучай.

Сяміцвет — вясёлкай
Ззяе над далінкай,

Ходзе за кароўкай,
Гляне і ў хацінку.

Дзяцюку, дзяўчыне
Блогасна ўсміхнецца,
Штось на вуха кіне,
Закалоце сэрцам.

І усюдых гэтак —
Полем, сенажацяй,
У кароне з кветак,
У святлянай шаце.

## З ПЕСЕНЬ АБ МУЖЫЦКАЙ ДОЛІ

Чый шнур вузак, убог,
Не дарос, не дасох,
Лагі — мох, асака?
— Мужыка!

Чыя ў працы за ўсіх
Не спачыне на міг
З мазалямі рука?
— Мужыка!

Чыю хату віхор
Пахіліў, страху здзёр,
Збіў упору з тчака?
— Мужыка!

Дзе чыйго ў край чужы
З роднай нівы-мяжы
Адарвалі сынка?
— Мужыка!

Каго пан, чын, закон
Са ўсіх скубе старон,
Як на ўвязі ваўка?
— Мужыка!

Чыя слава ўсягды
Не мінае бяды,
Турмы, торбы, шынка?
— Мужыка!

Чыю песню чуваць,
Як бы мае хаваць

На той свет бедака?
— Мужыка!

Гроб-магіла чыя
Спіць на дне забыцця,
Як бы змыла рака?
— Мужыка!

## ЗІМОЙ У ЛЕСЕ

І лягла ж цішына
У бары за гарой,—
Каб дравінка адна
Хоць кіўнула сабой.

Снег пушаны залёг
На галінах сасон,
І чарнобель, і мох
Атуліў сабой ён.

Сокат птушак замёр,
Як бы поўнач была.
Адно свісне тапор
Ды зазвоне піла.

Гэта сілу сваю
Так прабуе мужык;
Рухнуў дуб на зямлю,
Як магуч і вялік...

Далей — глуш, цішына
У бары за гарой,—
Каб дравінка адна
Хоць кіўнула сабой.

## ЗНЯМОГА

Плача сонца маладое
Над планетай над старою.
Іскры сыплюцца цурком,
Што не тымі пуцінамі
Ходзяць леты за лятамі
Ў вечным зладзе з курганом.

Безнадзейна, бестрывожна,
Ціха, зважна, асцярожна
Хаос гнёзды ўе свае, —
Вара зелле-калатуху,
Пое, зводзе князя-духа,
Перадыху не дае.

Світы, захады крыляцца,
На адной таўкуцца кладцы,
Цемра вабе згубным дном:
Плача сонца маладое
Над планетай над старою,
Іскры сыплюцца цурком.

## НАША МІНУУШЧЫНА

Мы не жылі, як жывуць людзі,
Гасцінцам шчасця не хадзілі,
Не зналі ўцехі нашы грудзі,
Вянкоў мы славы не насілі.

Мы ў паніжэнні, ў вечным трудзе,
З днём кожным слабшыя на сіле,
Бясцэльна па калючай грудзе
Блудзілі, горасна блудзілі.

Быдлём асуджан быў валяцца
Сын свайго краю, родных межаў;
Калі ж хто ўздумаў прачыхацца,
Курган прыбавіў толькі свежы.

Хацеў хто песняй адазвацца,
Глушыў хаўтурны воклік з вежы;
З нягодай мусілі змагацца,
Як тыя вербы на ўзбярэжжы.

## ПЕСНЯ

Па зімовай па дарожцы
Мужычок брыдзе;
Дух займаецца ад ветру,
Снег бадзе, бадзе.

Эй, не гоне шчасных доля
З-пад хатняй страхі
На такую непагоду,
На холад такі!

Дол капаці на магілкі
Бедачок спяшыць:
Дома страшную меў госцю,—
Нябожчык ляжыць.

Каля белай дамавіны
Апошнюю дань
Дзеткі дараць і галосяць:
«Мама, мама, ўстань!»

Пяць іх, бедных малалетак,
Сірацінак пяць;
Хто ж замене ім матулю?
Хто будзе хаваць?

Хто ад мачыхі іх будзе
Бараніць благой?
Хто сіротак пажалее?
Скажы, дружа мой.

## ПАКАХАЙ МЯНЕ, ДЗЯЎЧЫНА...

Плыве рэчачка далінкай,
Рыбак шмат у ей;
Пакахай мяне, дзяўчынка,
Як рыбкі ручэй!

Без вадзіцы б аніколі
Рыбкі не жылі;
Без кахання шчасця, долі
Няма на зямлі.

Няма з кім дзяліці гора,
Смутку і пацех;
Вылі слёз хоць цэла мора,
Чужым будзе смех.

Хто ж кахае, ўсё згадае,
Адчуе душой;
Не чурайся ж, дзяўчыначка,
Сэрца мне ўспакой.

Разам будзем жыці ў хатцы,
Разам песні пець;
Будзе раем свет здавацца,
Ўсё праўдай яснець.

Атачу цябе з душою
Апекай сваей;
Не зазнаеш ты за мною
Крыўду ад людзей.

Жыццё будзе слацца кветкай,
Сонцам заблішчыць;

Гэй, у долі добрай гэткай
Слёз не будзеш ліць!

Пакахай жа мяне толькі
Усяей душой,
Не дай з жалю марнавацца,
Сэрца супакой!

## СІРОЧАЯ ДОЛЯ

Цяжка сіроцінцы
    Адзінокай жыць;
Доля-весялуха
    Знікуль не бяжыць.

За хатай і ў хаце
    Цярпіць сірата:
То мароз марозе,
    То золіць слата.

Бачаць маці, бацька
    Роднае дзіцё;
Убогую сіротку
    Хто ж убача, хто?

Ад брамы да брамы
    Йдзе, збірае хлеб,
Ручачку працягне, —
    Кожны глух і слеп.

Кожны насмяецца
    Над беднаю ей,
Са зрэбнай кашулі,
    З лазовых лапцей.

Ой, цярпіш, сіротка,
    Ўсё жыццё цярпіш;
Пойдзеш у магілку, —
    Хто ж паставе крыж?

Хто, як ляжаш спаці
    Навекі ў зямлю,

Пацеры згавора
За душу тваю?

Хіба гэты вецер,
Што ў платах пяе,
Хіба з дажджом хмарка
Слязу праліе.

Хіба ночкай зоркі,
Што ў небе гарацъ,
Па сіротцы ўбогай
Будуцъ бедавацъ.

## ЦІ ТЫ УЗОЙДЗЕШ КАЛІ, СОНЦА?

З плачам думка-песня льецца
Па замучанай старонцы,
З плачам рэха адаб'ецца...
    Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

Маці-ўдоўка, сіроцінка
Паглядаюць у ваконца, —
Дагарэла ўжо лучынка...
    Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

Пхнецца сцежкай падарожны,
Няма хлеба ўжо ў катомцы, —
Цэль далёка, зблудзіць можна...
    Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

Мужык з горам ляжа, ўстане,
Пляце байкі дзеткам, жонцы,
Толькі чутны уздыханні...
    Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

Шнур бядак пахаў да поту, —
Марны ж колас на саломцы, —
Ні красы той, ні ўмалоту...
    Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

Беззямельны згубіў долю,
Хоць шукай з бяды ў палонцы;
Ні той хаты, ані поля...
    Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

Путы, катаргі, астрогі,
Сібір поўная бясконца;

Ні той праўды, ні дарогі...
Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

З плачам думка-песня льецца
Па замучанай старонцы,
З плачам рэха адаб'ецца...
Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?
— Ці ты ўзойдзеш?

## ЯК ТУТ ВЕСЕЛА СПЯВАЦІ?

Як тут весела спяваці,
Думкай весяліцца,
Калі ў беднай маёй хаце
Сонца жыць баіцца?

Калі дзе не йду, гаротны,
Не маю прывету,
Калі мой пагляд маркотны
Не бача прасвету.

Чорнай долі суд няправы
Не дае спакою;
Зоры шчасця, зоры славы
Не льсняць нада мною.

Не заходзе ка мне ў госці
Мілая пацеха,
Не нямее людскай злосці
Расшальное рэха.

Ў паніжэнні, ў паняверцы
Жыцця хвілі трачу,
Толькі плача маё сэрца,
Песня мая плача.

## ГЭЙ, НАПЕРАД!

Гэй, наперад, покі сэрца
Б'ецца, рвецца на прастор,
Годзе млеці ў паняверцы;
Гэй, да сонца! гэй, да зор!

Хай бацькі стагналі ўчора,
Йшлі на той свет без пары;
Сёння ў нашай моцы гора,
Мы — жыцця гаспадары!

Думка ў думку, дружна, смела
Ўсе наперад грамадой!
Кожны ведай сваё дзела,
Знай, за праўду крэпка стой!

К новай долі шлях нам ляжа,
Як на небе млечны шлях,
Слова, дум ніхто не звяжа,
Жыць, цярпець не будзе страх!

І не стане больш пакуса
Першых-лепшых з боку браць,
Славяніна-беларуса
Вечна ў лапці абуваць.

Дык наперад, покі сэрца
Б'ецца, рвецца на прастор,
Годзе млеці ў паняверцы!
Гэй, да сонца! гэй, да зор!

## ДУБ

Распусціўшы суччa
У глухім прыволлі,
Сам адзін расце ён
На далёкім полі.

Як цар, у кароне,
Аб нічым не дбае,
Ці то стогне бура,
Ці віхор гуляе.

На адным ён месцы
Днюе і начуе;
Многа казак знае,
Многа песень чуе.

Дождж падмыў карэнне;
У ім дупло — як хата...
Ён стаіць і дрэмле —
Грозны, расахаты.

## ХОХЛІК

Як зайграе ў лесе хохлік, —
Замірае песень воклік;
Як зачэпіць мох і лозы, —
Аджываюць смех і слёзы...

Ў цёмным яры скачуць чары,
Кветка чахне на папары,
Лісць трасецца на асіне,
Вогнік блукаецца сіні.

Барадой лясунківае,
Шалы нетрай спавівае;
Ваўкалак за дамавінай
Выпаўзае на пуціну.

Ад загону да загону
Хохлік царскаю каронай
Каранує у сусветы
Сухалесы, пустацветы.

Хохлік грае, ведзьма скача,
Ноч смяецца, сонца плача,
Толькі песень не чуваці
На стаптанай сенажаці.

## ПЕСНЯ МАЯ

Песня мая не ўзышла сярод кветак,
Кветак цвітучага вечна паўдня...
Поўначы сумнай забыты палетак
Даў ёй жыццё пасярод палыння.

Пушча і ночка яе гадавалі,
Няньчылі казкамі долі нямой;
Дождж і расіца вясною купалі,
Снежныя буры тулілі зімой.

Песня мая не ўспінае атласаў,
Выдумкай хітрай у свет не ляціць, —
Знацца ёй досць з беларускаю красай —
Лесам шумеці, касою званіць.

З думкамі ходзіць забранага краю,
Служыць і верыць у лепшы усход...
Бо, калі гасне паходня старая, —
Новую заўтра распаліць народ.

Песні маёй не патрэбны святліцы
У княжацкіх хорамах слухаць музык,
Коціцца-ўецца свабоднай крыніцай
К сонцу і зорам, прастор дзе вялік.

Ёй не патрэбна ўсясільных прынука,
Службы лакейскай не знае яна:
Воля жывая ёй вечнай зарукай,
Волі нязмеранай — служба адна.

Песня мая не шукае прывету,
Ласкі ў скурганеным сэрцы чыім, —

Вецер свабодны з далёкага свету
Стрэне, праводзіць адпевам сваім.

З небам і ніваю ў дружбу заходзе,
Слухае бору адвечныя жальбы,
Водклікі лове ў бурлівым разводдзі,
Ў зорках шукае жыцця варажбы.

Песня мая не зачэпе сягоння
Думкай сваёю ўсіх хат і сяліб,
Зваленых хат і людзей у прыгоне,
Ўсходным зярном неабсеяных скіб...

Час, як крыніца, ідзе, не марудзе...
Кіне стары дзень жыццём кіраваць,
Новы дзень прыйдзе, і новыя людзі
Будуць пачатую думку снаваць.

Песня мая не шукае чырвонцаў —
Будучнасць гэткіх не знойдзе ў ёй плям, —
Жыць толькі хоча ў радзімай старонцы,
Пеці па сэрцу ўсім добрым людзям.

Пеці, і з часам, у добрую пору,
Выклікаць водклік у сонным сяле...
Ўсю Беларусь — неабнятну, як мора,
Ўбачыць у ясным, як сонца, святле.

## ЖНЯЯ

Як сама царыца
Ў залатой кароне,
Йдзе яна ў вяночку
Паміж спелых гоняў.

З каласкоў вяночак —
Моладасці сведка —
На ёй зіхаціцца,
Як у садзе кветка.

На грудзях шчаслівых
Каптанок ружовы,
У руцэ сярпочак,
Зублены, сталёвы.

Вецер абнімае
Стан яе дзявочы,
Сонца ёй цалуе
Шыю, твар і вочы.

Каласкі хінуцца
Перад ёй паклонна,
Дзівіцца ігруша
На мяжы зялёнай.

А яна — царыца —
Весела, шчасліва
Карануе песняй
Залатое жніва.

Смела йдзе ў сонцы,
Ўся сама — як сонца,
Гэта жнейка наша
Ў нашаей староніцы.

## З ЛЕТНІХ МАЛЮНКАЎ

Коціцца, ўецца далінкай крыніца,
Б'ецца, плюскоча ў каменнях вадзіца,
Далей плыве і плюскоча.
Белымі грудкамі лёгшы на траўцы,
Хоча дзяўчынка к вадзіцы дастацца,
Губкамі чэрпнуці хоча.

Вольха лісткамі ёй шыю ласкоча,
Плюскатам рэчка смяецца у вочы,
Сонейка ўсіх абнімае.
Сонейка, рэчка, вольха, дзяўчына
Думцы ўсміхаюцца соладка, дзіўна,
Думка іх шчыра вітае...

## ЗА СВАБОДУ СВАЮ...

За свабоду сваю
Ўсёй душой пастаю;
  У агонь, у ваду
  Я за ёю пайду.

Лепей сам сябе дам
Пахаваці людзям,
  Як свабоду хаваць,
  Злыбядзе аддаваць.

Ў сэрцы, ў думках сваіх
З самых лет маладых
  Я яе ўзгадаваў
  І сваёю назваў...

Гэй ты, гэй, вецер, пей
А свабодзе маей!
  Гэй ты, гэй, бор, шумі,
  А свабодзе грымі!

Гэй ты, сонца, гары
Ад зары да зары,
  Ланцугі распалі
  Па ўсёй чыста зямлі!..

## НАД РАКОЮ Ў СПАКОЮ

Над ракою ў спакою
Зацвітала каліна;
У сяле за ракою
Вырастала дзяўчына.

Да зялёнай каліны
Прылятала зязюля;
Да дзяўчыны-маліны
Удаваўся Януля.

Над ракой, дзе каліна,
Сенажаць церабілі;
У сяле, дзе хлапчына,
У паход затрубілі.

Перастала каліна
У цвяточкі ўбірацца;
Перастала дзяўчына
З ненаглядным страчацца.

Бедавала зязюля,
Што каліны не стала;
Бедавала матуля,
Што дзяўчына ўсыхала.

Па рацэ гналі хвалі
Ў даль галіны каліны;
Людзі ў рэчцы шукалі
Самагубкі-дзяўчыны...

Над ракою ў спакою
Зацвіла зноў каліна;
А ў зямельцы пад ёю
Спала наша дзяўчына.

## ЛЕТНЯЯ РАСА

Як брыльянты, рассявае
Ночка летняя расіцу,
Туманамі спавівае
Луг зялёны над крыніцай.

А як раніца настане,
Бліскі сонца загуляюць, —
Рос прыходзіць адцвітанне,
Туманы у рэчцы таюць.

Як брыльянты, гінуць росы
На зялёнай сенажаці;
Сонца косы, нашы косы
Не даюць паўдня ім знаці!

## СЛУГАМ АЛТАРНЫМ

Не папе рымскаму служу
І не «свяцейшаму» сіноду!
Я аддаю сваю душу
Свайму няшчаснаму народу!

І маіх песень судзіць сказ
Не вам, не вам, хрыстапрадаўцы!
Бо той, што прыйдзе, лепшы час
На вас пятлю наложыць, здрайцы!

Вы ўсё на свой манер, капыл
Жадалі б звесці, атуманіць,
Жывых усіх на трупоў з магіл
Перахрысціць і апаганіць.

Лет сходзіць тысячы дзве ўжо,
Як вы гандлюеце Ісусам,
І ўсё ў пятлю — нутром вужоў —
Цягнуць жадаеце прымусам.

Вы — для вітання ў чорнай хвале,
Для мітраў, персняў і тыяраў —
«Інакамыслячых» каралі
Крывёй, крыжамі і пажарам.

Свабодзе, брацтву і святлу
Калісь мо звалі вас на службу, —
Вы ж крывапіўцам, срэбру, злу
Запрадаліся ў вечну дружбу.

І вы свой важыцеся суд
Свабоднай думцы выдаваці;
Вы, што ўзвялі у святасць кнут,
Сябе змяніўшы на праклящце?!

## ВЫЙДЗІ...

Ўстань ты, старонка, родная маці!
Годзе зімовага рабскага сну,
Годзе табе ўжо слёзна ўздыхаці, —
Выйдзі на поле, на сенажаці,
Выйдзі спаткаці вясну!
Скінь лахманы, што доўгія векі
Ты валачыла з кастры, з палыну;
Выйдзі з-пад дзікай зімняй апекі,
Што над табою строіла здзекі, —
Выйдзі спаткаці вясну!
Вырылі сцюжы віхрамі, снегам
Яму глыбоку табе не адну;
Снежныя наспы мела начлегам...
Глянь, снягі таюць, рэчкі йдуць бегам...
Выйдзі спаткаці вясну!
З поўначы сівер кідаў табою,
Як абадрану з ліcткоў галіну;
З захаду зверы йшлі чарадою
Рваць твае грудзі... Выйшла жывою, —
Выйдзі ж спаткаці вясну!
Дзетак тваіх скрозь крыўдай сляпілі,
Мучылі, гналі без часу ў труну,
Казак вучылі, што ты ў магіле,
Толькі ж бліск сонца здраду асіліў...
Выйдзі спаткаці вясну!
Ясна, святочна ў красы ўбярыся,
Птушкай свабоднай сягні ў вышыну,
З сонцам злучыся, зорамі йскрыся,
Песняй распейся, славай акрыйся,
Выйдзі спаткаці вясну!

Сплецену з церняў маеш карону,
Хорам твой — неба і нівы краса,
Царства ў чатыры дрэмле староны,
Слугі — мазольных рук міліёны...
Выйдзі... Чакае вясна!..

## З КУТКА ЖАДАННЯЎ

З цэлым народам гутарку весці,
Сэрца мільёнаў падслухаць біцця —
Гэткай шукаю цэлы век чэсці,
Гэта адно мне падпорай жыцця.

Песню стварыці ясну, як неба,
У кожнай з ёй хаце быць мілым гасцём—
Гэтакіх толькі скарбаў мне трэба,
Гэткім я толькі жыву пачуццём.

Што не загубяць крыўды жывую
Душу народа, што ўстане са сну,—
Гэткай надзеяй толькі жыву я,
Гэткую толькі чакаю вясну.

К яснаму сонцу з цьмы, з беспрасвецця,
К славе з бясслаўя ўсім нашым людзям—
Гэткай шукаю сцежкі на свеце,
Гэткаму богу і душу аддам.

За лепшую долю роднага краю,
За сваіх брацця ў святой барацьбе—
Гэтакай толькі смерці жадаю,
Памяткі гэткай чакаю сабе.

## Я ЛЮБЛЮ

Я люблю ўсходы нашых палеткаў
І спавітыя ў зелень лугі,
І шум бору пануры, глухі,
І шаптанне крынічнае ўлетку...

Я люблю упрыгожану ў мхі
Нашу вёску — сваёй крыўды сведку,
Свой народ — гэту звяўшую кветку,
Цэлы край — родны мне й дарагі.

Я люблю ясны вочы і грудзі
І стан гібкі дзяўчыны-красы:
Аб ёй брэджу на яве і ў сне.

Я люблю і заву, бы ў нялюддзі,—
Чуюць кліч мой сухія лясы,
Кліч: хто ж любіць, хто любіць мяне?

## ВЁСКА

За хатай хата у парадак
Сядзіць адна каля адной;
Залегла вуліца сяродкам,
Будынкі з боку чарадой.

Не год, не два зняла з плеч вёска, —
Дзянькоў уцёкшых знак відаць:
Мох у салому паўпіваўся,
Падпора час спяшыць стрымаць.

Жыццё у лапці абувае
Сваяк, чужынец-прайдзісвет,
Бяда багацтву б'е паклоны,
Цямнота к знанню зводзіць след.

Вядзе вайну сляза са смехам,
Дзярэцца той, а той дрыжыць,
З грахамі важыцца пакута,
У пары ноч і дзень бяжыць.

Не знаю: шчасце ці няшчасце
Ўе тут спакойнае гняздо...
У вёскі гэтага спытайся, —
Маўчыць і вёска пакуль што.

## ДЗЕ ТЫ, ШЧАСЦЕ МАЁ?..

Дзе ты, шчасце маё, дзе ты, светлая доля?
За што сэрца гняце жалю дзікая змора?..
Выйду цёмнай парой гэт за вёску на поле
І падслухаю сціха, што ночка гавора.

Можа гоман пачую, што жаль і трывогу
Песняй радасці зглуша і ўспіць назаўсёды.
Мо пакажа няшчаснаму к долі дарогу
І разгоне ў душы цемнаты, непагоды.

Га! нічога не чуць, толькі неяк, здаецца,
Жудка вые, гудзіць сівер з поўначы зімны,
Толькі шум баравы з цёмнай далі нясецца
І пяе у душы пахавальныя гімны.

## ЖНЕЯМ

Красаваў, наліваўся
І даспеў шнур мужычы;
Час вам, жнейкі, на бітву!
Постаць кліча, ой, кліча.

Сонца ўзыйдзе і зайдзе,
Не кідае зямелькі,
Правядзе і спаткае
Ў поле, з поля вас, жнейкі.

Выйшлі з хатак за вёску,
Гнуцца, бедныя, ў полі.
Толькі песню чуваці
Іхняй долі-нядолі.

Жніце, жніце, галубкі,
Сваю радасць і слёзы!
Трэба многа нажаці —
Прыйдзе зімка, марозы:

К той прытуліцца братка,
К той — маленькі сынулька,
А ўсё хлеба, ой, хлеба
Дай, сястрыца, матулька!

Ходзяць хмары па небе
З нейкай дзіўнай трывогай;
Чутна жнейкіна песня,
Нуды ў песні той многа.

Хто злічыў тыя каплі,
Што нам неба прыносіць?
Хто прыслухаўся, людзі,
Аб чым жнейка галосіць?!..

## МАЛАДАЯ БЕЛАРУСЬ

Вольны вецер напеў вольных песень табе,
Бор зялёны узняў дружным гоманам,
Сонца полымем вызвала к слаўнай сяўбе,
Зоры веру ўлілі сілам зломаным.

І ў час буры, нягод і вялікіх надзей
Зацвіла, расцвіла даўгажданая,
І крыніцай жывой над айчызнай сваей
Паплыла, пацякла неспыняная.

Паплыла, пацякла з светлай казкай жыцця
Полем, лесам, гарой і далінаю...
З свойскіх кветак-пралесак — карона твая,
Ўся сама — ясната лебядзіная.

Зіхаціш і гуслярскаю песняй звініш,
Узнімаеш мінуўшчыну даўную;
Час сягонняшні ўперад ісці не пыніш,
І глядзіш смела ў будучнасць тайную.

Смела ў сонца ідзеш, як жывы агняцвет,
Сееш ласкава сны залацістыя;
Не пужае сумежны дакучны сусед,
Не пужае пуціна цярністая.

Ад мяжы да мяжы, ад капца да капца
Абнаўлення павевы расходзяцца,
Абнімае душу без граніц, без канца
Маці-радасць, што лепшы дзень родзіцца.

Ўжо не так тапары у зялёным бары
Хвойкі валяць зімой маразянаю,

Ўжо не так касары ад зары да зары
Летам звоняць касой адкляпанаю.

Значан гарт у руках, чутна песня без слёз,
Грудзі славы надзеяй калышуцца,
Ў кнігі новы закон ёмка пёрамі з кос
Наўсяды людзьмі новымі пішацца.

Расцвітай жа, ўзнімай на арліных крылах
Душы, сэрцы і думы заспаныя,
Вызывай, выклікай на вялікі прасцяг
Сілу, ведзьмай-пятлёй нечапаную.

Высылай, рассылай на край свет пасланцоў,
Як з гнязда сакалінага сокалаў,
Хай лятуць, далятуць да байцоў-удальцоў,
Хай грымяць весткай добраю ўвокала.

Годзе ў полі, ў лясах ты, старонка, і так
Сіратой начавала забытаю,
Годзе выпіў крыві з сэрца крыўды чарвяк,
Косці вецер тачыў непакрытыя.

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі!..

## НАША ПЕСНЯ

Зазвіні ты, як звон, і удар, як пярун,
Песня наша, як воля, магучая!
Хай крыўдзіцель дрыжыць, як падбіты каршун,
Хай нясуцца ў свет рэхі грымучыя!

Хоць нуды ў табе шмат выліванa слязьмі,
Дума-песня не хітра складаная,
Але нашая ты; недруг, спробуй вазьмі!..
Ты не можаш быць, песня, скаванаю.

Як на небе зара ці як думка ў душы,
Не скуешся няволі ты путамі:
Ты, як той салавей, зазвініш і ў глушы, —
Запяешся людзьмі і закутымі.

Пей жа, песня, дзень, ноч, песня, родная нам,
Апявай жыццё наша праклятае,
І зайграй ты на сэрцу хоць раз бедакам,
Навучы, як знайсці шчасце багатае.

Зазвіні ты, як звон, і удар, як пярун,
Песня наша, як воля, магучая!
Хай крыўдзіцель дрыжыць, як падбіты каршун,
Хай нясуцца ў свет рэхі грымучыя!..

## НЕ ДЛЯ НАС...

Не для нас гэта сонейка майскае
Загуляла на небе высокім
Сеяць думкі вясеннія, райскія
Гэт, па свеце вялікім, шырокім.

Не для нас ніва, намі ўспаханая,
Заірдзелася ўсходам пасеваў,
І ўся ветрам, як дым, калыханая
Б'е паклоны направа, налева.

Не для нас упрыгожыліся кветкамі
Сенажаці-лугі над ракою,
Харастvамі няздзіўнымі, рэдкімі
Вабіць вока, шаптацца з душою.

Не для нас, не для нас распускаецца
Гэты сад, гэта вішня, чарэсня,
Не для нас, не для нас разліваецца
Салавейкава звонкая песня...

Сонца паліць нам грудзі збалелыя,
Ніва ласкі над намі не мае,
Пот ліем па лугах мы дні цэлыя,
Ці ж тут міла і песня якая?!

З дня на дзень, з году ў год, як пакутнікі,
Б'емся, гінем і шчасця не бачым;
Працай жывяцца нашай прыблуднікі,
А мы толькі ўздыхаем і плачам...

12. Зак. 848

## ПАЛЯЦІ, МАЯ МЫСЛЬ...

Паляці, мая мысль,
Лётам сокала
І праглядзь гэты свет
Кругом-вокала.

Лётам светлай зары
Па-над стрэхамі —
Сып надзеяй жывой
І пацехамі.

Пей аб волі людзям
Думкі цудныя,
Уміляй іх жыцця
Сцежкі трудныя.

Залатыя сны ім
Няхай рояцца;
Няхай жаль на душы
Супакоіцца.

Гоняць хай ад сябе
Цьмы нядольныя,
І рука у руку
Пойдуць вольныя.

Так ляці, эй, ляці,
Мысль свабодная!
А ты міла спаткай,
Зямля родная.

## СУДЫ

На суды павялі яе звязанай,
Сэрца вырваўшы з белых грудзей,
І судзіці давай — як там сказана
Ў гэтым хітрым законе людзей.

Абіралі суддзёй ночку цёмную,
Ночку-мачаху сумнай зямлі,
Сведкай крыўда была векапомная,
Сон і заламы стражай былі.

Прыгавор прачыталі над беднаю,
Не спытаўшыся грэху, віны.
Гэй, хаўтурную песню пабедную
Над ёй спелі праметнай сыны...

З плеч зрывалі ўборы злацістыя,
Разрывалі карону-вянок,
Разбівалі пасад ёй нячыстыя
Й пад жалезны хавалі замок.

Накладалі ёй сковы сталёвыя,
Надзявалі жабрачы ўбор,
У намітку ўбіралі цярновую
Яе коску, сатканую з зор.

Вочы вырвалі ёй, сонцу роўныя,
З-пад хмурліва навісшых павек,
Дый пусцілі яе супакойную,
На бадзянне пусцілі, на здзек.

З лета ў лета ідзе, кроўю злітая,
Насустрэчу крыжам і капцам,

Чуць жывая жыве, пазабытая,
Ў сне з'яўляючысь родным сынам.

К волі йдзе з дня на дзень, разглядаецца
Па бел-свету калі-нікалі;
Толькі дух-яснасвет пацяшаецца,
Што ўсё ж крыўды яе не змаглі.

Як была, будзе так непакорнаю
Адпраўляць вечнабыту імшу...
Не здалеюць суды цемнатворныя
Ёй спаганіць і вырваць душу.

## ЦІ Ж НЕ ДОЛЯ МАЯ?!

І нашто ж мне воля вольная,
Залатая, расхахольная? —
Цемняком пайду сляпы я
На дарожкі крыжавыя!
Эх ты, доля мая,
Маю волю ўжо я!

І нашто школа з настаўнікам,—
Добра быць і неахайнікам:
Калі з кніжкі не даўчуся,—
У астрозе далаўчуся.
Эх ты, доля мая,
Маю школу ўжо я!

І нашто ж мне поля гонейкі,
З дабром клеці, коні, волікі?
Я магу жыць і «пашырэ»
У шырокай у Сібіры.
Эх ты, доля мая,
Зямлю маю ўжо я!

І нашто ж мне хата новая,
Сталы, лавы ўсё дубовыя?
Злыдні змогуць маю сілу,—
Як пан, лягу у магілу.
Эх ты, доля мая,
Хату маю ўжо я!..

## ШЛЯХ МОЙ...

Шлях мой не сцелецца сонцам і кветкамі,
Гладкай, павабнай не лёг раўнінай,—
Паміж няўдалымі ўецца палеткамі,
Уецца зімой і вясной.

Вечар і ночка закрылі мне раніцу,
Ухуталі плесняй, сівым туманом,
Даль жа нязбытаю казкай туманіцца,
Казкай, нягаданым сном.

Вера ў дзень заўтрашні сілай няведамай
Думы гартуе ісці, не чакаць,
Хоць бы там злыдні плот ставілі бедамі,
Бедамі клікалі спаць.

Зойдзе брат сцежку мне, путамі звонячы,
Пут гэтых толькі не бачачы сам:
«Дзе ты ідзеш?» — запытаецца, гонячы.
«Далей!» — адказ яму дам.

Далей і далей праз выдмы няплодныя,
Усё непакорна, шукаючы ўсё,
Покі не згаснуць прасветачы зводныя.
Покі не згасне жыццё!..

## УСЮДЫ ЛЕТА

Ўсюды лета, лета,
Гулі строіць сонца,
Шалясціць зялёны
Колас на саломцы.

Выйдзі, закрасуйся,
Як зара да ўсходу,
Пакажыся свету,
Свету ды народу!

І з праменняў яркіх,
Яркіх, зіхацістых,
Ты сатчы апратку,
Як бы з кос агністых.

З васілёчкаў сініх,
З муравы зялёнай
Ты спляці вяночак,
Ты спляці карону.

У серабрысты росы,
Бы ў брыльянты тыя,
Ты ўцвяці убор свой,
Шаты залатыя.

Заясней, зардзіся
У славе неразвеўна,
Нібы дзіва тое —
У казцы каралеўна.

Пакажыся свету,
Свету ды народу,
Родная старонка,
Як зара да ўсходу!

## БУДЗЬ СМЕЛЫМ!..

Будзь смелым!.. Магутна ярмо друзгачы!
Ідзі сам наперад, другіх ведучы!

Будзь смелым!.. Не вер у людскую брахню,
Вер толькі ў адвагу і сілу сваю!

Будзь смелым, хоць путалі б злыдні ўвакруг,—
Адважным ваякам не страшны ланцуг!

Будзь смелым, як вецер, як воля сама!
Знай, смелых не чэпе ні крыўда, ні цьма!

Будзь смелым, як бура, што крышыць дубы,
А будзе твой верх, тваё права ўсягды!

## ЖАР НЕ ЗГАС

Цяжка, горка мы жылі
З году ў год, ад веку к веку,
Столькі на сваёй зямлі
Церпім, выцерпелі здзеку!

Хто змагаўся, а хто спаў,
Хто ліў слёзы, хто смяяўся,
Ды з нас кожны не прапаў —
Тым, чым быў, далей застаўся.

Хай там віхры стрэхі рвуць,
Хай там ёрмы чэшуць злыдні,—
Нашы праўды не памруць,
Ночы царстваваць абрыдне.

Хоць і гоніць небарак
Кат з дамоўкай жыць сам-насам,—
Нашы маткі нам ваяк
Новых выгадуюць з часам.

Ў сэрцах нашых жар не згас —
Бухне ў свет калісь яскрава,
Бо наперадзе йшчэ ў нас
Барацьба, жыццё і слава!

## ЯНКА І СВАБОДА

Прачытаўшы у газеце
Колькі раз нанова,
Што кладуць свабодны арышт
На свабоду слова,—

Янка Цемрык усміхнууся,
Стукнуўся у грудзі:
Ну, цяпер мая Настуля
Лаяцца не будзе!

Там-сям з гэтым пахваліўся
І сапсуў паперы:
Сам спынуўся у халоднай
За... свабоду веры.

## ДЗЕ НІ КІНЬ — ДЫК КЛІН!

— Ну, а як табе на службе:
Ці работы многа? —
Так сусед пытаў, між іншым,
Янку Канцавога.

— Ах, не дай бог за чужою
Поўзаць гаспадаркай!
Дзень і ноч, як лунь, таўкуся,
Як у пекле Марка!

А сусед яму навучна
Ды пабожна клепе:
— Хоць тут трудна жыць — затое
Будзе ў небе лепей.

— Знаю, знаю! — так суседу
Адчыкрыжыў Янка:—
Бокам вылезе мне ў небе
Гэта абяцанка!

Як паткнуся,— ўраз пагоняць
Да ўсякай работы:
То сядлай каня для Юр'і,
То чысць яму боты.

Або ў поўнач ўстань і сонца
Запалі да золка,
Вытры з пылу усе зоры,
Месяц выбель лоўка.

Завядзі машыну з ветрам,
Папраў з дождждам сіта,

Натаўчы ў ступе граду,
    Ды яшчэ не квіта:

— Папіхай хутчэй, гад, хмары!
    А пярун дзе кінуў?
Набівай, страляй! Маланкай
    Сцёбай, каб ты згінуў!

Янка тутка, Янка тамка,
    Хоць ты ў пекла прыся!
Ад прыдзірак ад святых ўсіх
    Колькі нацярпішся!..

## МОЛАДЗІ

На цябе, наша моладзь, надзея
Нашай сумнай забранай зямлі;
Твой арліны палёт цьмы развее
І запаліць веквечны агні.

Ты разбудзіш прыспаныя сілы
І на вольны паклічаш простор
З забыцця беспрасветнай магілы
Да бліскучага сонца, да зор.

Ты на бацькаўскім, моладзь, кургане
Узнясеш нездабыты пасад,
Што расточыць сваё панаванне
На ўвесь край, дзе сягне твой пагляд.

Табе будуць не страшны заломы,
Злыя ворагі, іх варажба:
Долю, праўду з маланак і громаў
Твае выкрасяць гарт, барацьба.

Схамянайся ж ты, моладзь арліна!
Ў бок другі віхры веяць прымусь,
Бяры светач, ідзі за судзьбінай,
Ідзі з словам святым: Беларусь!

## НА ПОЛІ ТАЕ

На полі стаяў бледны снег,
Вясна абходзіць поле...
Пакінь у хаце свой начлег,
Устань са сну, саколе!

Паводка б'ецца ў берагі
І ў шляхі б'е нямыя,
Яшчэ разгон адзін, другі —
І ложа тваё змые.

Плакуча шумам стогне бор,
Пракляццем бор заводзе,
На тых нясе свой прыгавор,
Што спяць назло прыродзе

Па небе сонейка дугой
Заносіць круг паволі...
Пакінь начлег у хаце свой,
Устань са сну, саколе!

## Б'ЮЦЬ НА ТРЫВОГУ ЗВАНЫ...

Б'юць на трывогу званы,
Клічуць да новай вясны,
К новаму богу завуць,
Б'юць на трывогу званы,
Б'юць, б'юць!..

Час ужо браць тапары,
Косы кляпаць да зары,
Покі ў грудзях жар не згас,
Час ужо браць тапары,
Час, час!..

Рэж на дарозе дзярно,
Што ногі раніць даўно,
Ўглыб запускай свой лямеш,
Рэж на дарозе дзярно,
Рэж, рэж!..

Крыж прад вачамі стаіць,
Крыж абвіла помсты ніць,
Процьма удоўжкі і ўзвыш,
Крыж прад вачамі стаіць,
Крыж, крыж!..

Рвуць твае жылы кругом,
Родны раскідалі дом,
Гібель табе скрозь равуць,
Рвуць твае жылы кругом,
Рвуць, рвуць!..

А на трывогу званы
Б'юць на парозе вясны,
К новаму богу завуць,
Б'юць на трывогу званы,
Б'юць, б'юць!..

## МАЁ ЦЯРПЕННЕ

Маё цярпенне, мой крывавы боль —
Што значаць перад мукамі мільёнаў,
Дзе безнадзейны стогны родзяць стогны,
А слёзы грызуць вочы ўсім, як соль!

Хоць дух мой ўзносіцца пад неба столь,—
Як галавой аб мур, там б'е паклоны.
Але як мал мой гэты ўздых шалёны...
Мой крык перад малітвай свету—ноль!

І веру я, што я нішто ў быцці —
Іначай думаць не дае сумленне,—
Аднак, чаму ж здаецца мне нязменне,

Што меж майму цярпенню не знайсці,
Што так вяліка мне яно ў жыцці,
Як мільёнаў разам ўсіх цярпенне!

## ПЛАЧА ВОСЕНЬ

Плача восень за акном,
Слёзы плёскаюць аб шыбы,
Абняла трывожным сном
Непрытульныя сялібы.

Плача восень, стогне ў сне,
З пушчай, з ветрамі галосіць,
Як бы дзе каго кляне
Ці аб шчасці моліць, просіць.

Плача восень ноч і дзень,
Слёзы плюскаюць аб вокны,
А па хаце чорны цень
Лазіць, тчэ свае валокны.

Гэта ходзіць, бродзіць сум,
Душу мучыць ў сваіх сетках,
І трывожыць сказы дум,
Дум аб шчасці і аб кветках.

## МАЯ ВЕРА

Не веру ідалам паганым,
Што выразаюць разбяры,
Бажкам не веру маляваным,
Што мажуць фарбай маляры.

Не веру купленым прарокам,
Што з казальніц за грошы лгуць
І сочаць прагавітым вокам,
Скуль больш чырвонцаў ім нясуць.

Не веру ў фокуснікаў цуды
Усіх народаў і вякоў,
Што ў ход пускаюць хітра ўсюды
Туман на цёмных слепакоў.

Не веру ў каменны багоўні,
У людской асвенчаны крыві,
Дзе толькі вяжуць, бы ў прыгоне,
Жывому духу ланцугі.

Ні за якую плату, меру
Не дамся гэтай варажбе...
Ў народ і край свой толькі веру
І веру ў самаго сябе.

## Якуб Колас

### НАШ РОДНЫ КРАЙ

Край наш бедны, край наш родны!
Лес, балоты і пясок...
Чуць дзе крыху луг прыгодны...
Хвойнік, мох ды верасок.

А туманы, як пялёнка,
Засцілаюць лес і гай.
Ой ты, бедная старонка!
Ой, забыты богам край!

Наша поле кепска родзіць,
Бедна тут жыве народ,
У гразі жыве ён, ходзіць,
А працуе — льецца пот.

Пазіраюць сумна вёскі,
Глянеш — сэрца забаліць.
На дварэ — паленне, цёскі,
Куча сметніку ляжыць.

Крыж збуцвелы пры дарозе,
Кучка топаляў сухіх...
Сцішна, нудна, бы ў астрозе
Ці на могілках якіх.

А як песня панясецца —
Колькі ў песні той нуды!
Уцякаў бы, бег, здаецца,
Сам не ведаеш куды.

Край наш родны, бедна поле!
Ты глядзіш, як сірата,
Сумны ты, як наша доля,
Як ты, наша цемната.

## ВОРАГАМ

Багачы і панства,
Нашы «дабрадзеі»!
Мы на суд вас клічам,
Каты вы, зладзеі!

І на грозных межах
Часаў пераходных
Смела вас пытаем,
Прагных і нягодных:

«Чыімі рукамі
Вы дабро збіралі?
На чые вы слёзы
Дабрабыт куплялі?

І за што, скажэце,
Палкамі нас білі,
Секлі-катавалі,
Голадам марылі?

Ласкаю ж чыёю
І з чые вы працы
Замкі збудавалі,
Пышныя палацы?

Усё ад нас забралі,
А што нам далі вы?
Чые нудна ў полі
Так марнеюць нівы?

Вузенькаю ніццю
Чые йдуць палоскі?

У чыім то жыце
Многа так бярозкі?

Каму адвялі вы
Пусташы, каменне?
Хто з свайго засеву
Не збярэ насення?

Чые гумны, хаты
Гнуцца сіратою?
Чые слёзы льюцца
Кожнаю парою?

І чыя скацінка
Сохне ў пустым полі?
І як гаспадар той
Гіне у няволі?

Чыя песня-скарга
Ў неба йдзе дакорам,
К месяцу і сонцу
І к далёкім зорам?»

Багачы і панства
І ўсе вы брадзягі!
Ўбок з дарогі, каты!
Бойцеся сярмягі!

Ўжо даўно вяроўкі
Вас, паны, чакаюць,
І па вас асіны
Слёзы праліваюць.

## ДАРОГА

Між палёў шырокіх,
Як змяя якая,
Цягнецца дарога,
Вузкая, крывая.

Наабапал грушы
Разрасліся ў полі,
Нізенькі яловец
Чэзне, бы ў няволі.

Тут мужык працуе,
Чорны ўвесь, як сажа.
Крыж на перасеках
Аб пакуце кажа.

Коціцца цялежка,
Б'ецца аб каменне,
Хлебароб на поле
Глядзіць ў задуменні...

Ой, дарога-сцежка,
Вузкая, крывая!
І ты, жыццё наша,
Ты, доля такая!

## НА НОВЫ ГОД

З Новым Годам, з шчасцем новым!
Дай жа божа, гэты год
Каб успомніў шчырым словам
Працавіты ўвесь народ!

Каб больш слёзы не ліліся,
Каб не падаў чалавек,
Каб астрогі запярліся
Ад людзей на вечны век;

Каб казалі, што хацелі,
Каб не гнулісь, як цяпер,
Каб са страхам не глядзелі
На урадніцкі каўнер;

Каб пабольшала нам поля,
Каб разросся вузкі луг,
Каб спявалі песні волі,
Дзержучы жалезны плуг.

Дай бог шчасця вам і долі
Ўсім, хто слёзы праліваў,
Хто у бедным, родным полі
Зерне праўды засяваў!

## ВЁСКА

Цесна збіты нашы хаты,
Як авечкі ў летні жар,—
Для агню тут корм багаты,
Як укінецца пажар.

Хлеўчык, пограб і гуменцы
Пад адзін зліліся плех,
Трэскі ўсаджаны ў акенцы,
Замест шкла — радняны мех.

Загародка пад аконнем,
Блісне кветка дзе-нідзе.
Зеллем глушыцца, драсённем
Мак, цыбулька на градзе.

Зелянеюць два-тры клёны,
Гляне ліпа дзе з-за хат,
Дзе-нідзе садок зялёны,
Нізкіх вішань чэзлы рад.

Граблі, сані пад страхою,
Колы, сошка, барана,
Кол з хваёваю мятлою
Ўбіты ў дол каля акна.

Многа тут гразі ў нягоду,
Многа пылу ў летні жар.
Тут дабра не бачыць зроду,
Тут марнее гаспадар.

Тут нуда жыве людская,
Прыпынілась гора тут;
Смерць дзяцей, хвароба злая
Тут знайшлі прытульны кут.

## МЕСЯЦ

Ціха месяц адзінокі
Ходзіць ў небе над зямлёю.
Неразгаданы, далёкі,
Што ты бачыш пад сабою?

Бачыш слёзы ты людскія,
Як яны з расою льюцца,
А ў тумане думкі злыя
Горкім плачам аддаюцца;

Як без хлеба і без долі
Працавіты люд наш гнецца...
Кінь ты жальбу нашу ў неба —
Няхай неба ўскалыхнецца!

## СЯБРАМ

Ой, сябры мае вы мілы,
Дзе цяпер вы, дарагія?
Ці схавалі свае сілы?
Ці ёсць думкі маладыя?

Тыя думкі, тыя мыслі,
Што душу нам хвалявалі,
З-за каторых хмары звіслі,
За што з нівы нас сарвалі?

Нас з народнай ціхай нівы
Разагналі па ўсім свеце...
Ці здаровы вы, ці жывы?
Дзе вы, мілыя? Гукнеце!

Ці збяромся зноў калі мы
У нашым бедным родным краі,
Як бы птушкі пасля зімы?
Дзе вы, хлопцы? Я гукаю!

Не, няпраўда! Быць не можа,
Каб не грэла цёпла сонца.
Наша праўда нам award —
Бліснe нам святло ў аконца!

## НЕ БЯДУЙ!

Не бядуй, што сонца нізка,
Што праходзіць нудна дзень,
Не бядуй, што восень блізка
І на дол кладзецца цень.

Не бядуй, што снег халодны
Скрые землю ад вачэй:
Не загіне край твой родны
У тэй цемені начэй!

Будзе час, і снег растане,
Прыйдзе зноў да нас вясна,
Ветла з неба сонца гляне,
Ачуняе старана.

Не бядуй, што цяжка стала
Жыць у вечнай цемнаце,
Што нас доля вечна гнала,
Што жывём у беднаце.

Не бядуй, што звіслі хмары,
Што нам сонца не відаць,
Не бядуй, што ўноч пажары
Сталі неба залівац,—

Дымам пойдзе ўсё ліхое,
Ўсё, што душыць нас і гне.
Вер, брат,— жыцце залатое
Будзе ў нашай старане.

## НА ГАСЦІНЦЫ

Чыстым інеем пакрыты
На гасцінцы беразняк,
Космы густа ім абвіты;
Ў белым снезе маладняк.

Свішчуць сані на марозе,
Коні рвуцца і хрыпяць.
Крык і гоман на дарозе,
Бомы стогнуць і звіняць.

Скверыць холад. Пабялелі
Вусы, світка вазака,
Толькі шчокі счырванелі
Ад марозу ў мужыка.

Перад святам заработкі,
А дарога, як сляза...
Толькі бухаюць калодкі,
Толькі свіст ад палаза!..

## ВЕЦЕР

Ой ты, вецер неспакойны!
Дзьмеш ты безустанку,
Адну песню нам спяваеш,
Адну баеш байку.

То заплачаш сіратою
Над убогай хатай;
То застогнеш, як над нівай
Селянін-араты;

То засвішчаш за вугламі,
Жалем разальешся;
То сярдзіта ў дзверы стукнеш,
Злосна засмяешся...

Ой ты, вецер неспакойны,
Ты мой брат па долі!
Раскідаем смех і слёзы
Мы у чыстым полі.

## ПЯСНЯР

Кажуць людзі: «Што ты смутны?
Што спяваеш ты пра гора?
Твае песні — стогн пакутны,
Слёзы ветру на прасторы!

Ты злажы нам песню волі,
Песняй шчасця залівайся,
Ціхім спевам нівы ў полі
Ў струнах сэрца адклікайся,

Каб на нас вясна дыхала,
Грэла душу цеплынёю,
Каб нам сэрца саграваля
Ціхім шчасцем, дабратою».

Ой вы, людзі! Няма ж волі:
Скуты мыслі ланцугамі.
Пусты нівы нашы ў полі,
Злосны віхар дзьме над намі!

Ці ж я сэрцам не хварэю?
Ці ж мне смутак лёгка даўся?
Я спяваю, як умею,
Я пра радасць пець не здаўся.

## ДОЛЯ БАТРАЧКІ

Маці ў службу выпраўляе
Родную дзяціну,
Выпраўляючы, хавае
Горкую слязіну.

— Будзь паслушная, дачушка,—
Навучае матка:
— Дагаджай чужым ты, служка,
Ды цярпі, дзіцятка!

Не адзін раз твае вочкі
Заплывуць слязою.
Твая доля цямней ночкі —
Цяжка быць слугою!

Бо не ўважыць чужаніца
Ручак тваіх белых,
Поту выльецца крыніца
З шчочак загарэлых.

Ўстанеш летам раней зоркі,
Пойдзеш перша ў поле...
Ох, дачушка, хлеб твой горкі,
Горка твая доля!

Маці дочку разважае,
Сябе цешыць стара,
Жаль да сэрца падступае,
Як чорная хмара.

Вось дзяўчынка ўжо гатова,
Пакідае хатку.
— Ну, матулька, будзь здарова!—
І цалуе матку.

— Ну, бывай!..— І не ўтрывала
Бедная матуля.
Жаль слязамі ёй прарвала,
Твар да дочкі туліць.

Выйшла маці ўслед за ёю,
Стала ля парогу
І, падпёршы твар рукою,
Зорыць на дарогу,

На дарогу-пуцявіну —
Там яе Ганулян —
Ды за слёзкаю слязіну
Роніць-лье матуля.

Доўга матка так глядзела,
Дочку праважала,
Покі хустка яе бела
З вочак не прапала.

14. Зак. 848

## РОЛЬНІК

Цёплы вечар. Ціха ўсюды.
 На заходзе сонца.
Хмаркі захад чуць заслалі
 Тонкім валаконцам.

Ззяюць хмаркі ў пазалоце,
 Пажарам палаюць.
За гарою ціха-ціха
 Песні заміраюць.

Выйшаў рольнік з хаты ў поле
 Ды па межах ходзіць,
Каб пабачыць сваім вокам,
 Як бог жыта родзіць.

Твар сур'ёзны ў селяніна,
 Важны, задуменны,
Ходзіць, рукі залажыўшы
 За той пас раменны.

Леглі гожымі радамі
 Вузкія загоны,
Апранула зямля-матка
 Кажушок зялёны.

Густа жыта маладое
 Поле ўсё акрыла,
Лапушное, сакаўное —
 Проста глянуць міла.

Сям-там колас раскрывае
    Свой пучок зялёны,
Дзе-нідзе ўжо яго вусік
    Блісне на загонах.

Селянін глядзіць з уцехай,
    Ходзячы ў тым дары...
Так ні поп, ні ксёндз не ходзяць
    Пры сваім алтары.

## НА ПОЛІ ВЯСНОЮ

Люблю я прыволле
Шырокіх палёў,
Зялёнае мора
Ржаных каласоў

І вузкія стужкі
Сялянскіх палос —
Люблю цябе, поле,
Люблю я твой плёс!

Ігрушы старыя,
Што ў жыце шумяць,
Зялёныя межы,
Далёкую гладзь.

Люблю я дарогі,
Што леглі між гор,
Унізе пад гарою
Ручча разгавор.

Люблю я узгоркі
І насып-курган,
І сіняй далечы
Празрысты туман...

Люблю пазіраць я
На поле вясной,
Як ветрык жартліва
Плыве збажыной.

Калышыцца жыта,
Радамі бяжыць,
А хваля паветра
Дрыжыць і дрыжыць...

Люблю я прыволле
Шырокіх палёў,
Зялёнае мора
Буйных каласоў.

## МУЖЫК

Я — мужычы сынок,
Ні двара, ні кала,
Поле — жоўты пясок,
Хата ў землю ўвайшла.

Не жыву, а гнію,
Прападаю, як мыш...
Глянь на долю маю,
Глянь на цяжкі мой крыж!

Я балоты сушу,
Надрываю жывот,
Я за бесцань кашу,
Рыю землю, як крот.

Усе вуглы і куты
Сваім целам я змёў,
Ссек і лес, і кусты,
І дарогі правёў.

Ды не езджу па іх,
А хаджу пехатой
Ў рваных ботах старых,
Часцей босай нагой.

Збудаваў я палац,
Многа фабрык, мастоў,
Сам жа голы, як бац, —
Пары дзве рызманоў.

Пад аконнем не раз
Я з мяшэчкам хадзіў,
Міласціны у вас
Хрыстом-богам прасіў.

Мяне мочыць раса,
Мяне сонца пячэ,
А у песнях маіх
Сляза ціха цячэ.

Я па свеце хадзіў,
Косці ўсюды занёс,
Я на землю праліў
Многа слёз, многа слёз.

То не дуб у бары
Заскрыпеў, застагнаў —
Гэта я без пары
Богу душу аддаў.

Нудна звоняць званы,
То мацней, то замруць,
Адзін дзяк ля труны —
Гэта прах мой нясуць.

На магілцы маей
Крыж трухлявы стаіць,
А над прахам касцей
Вольны вецер шуміць.

Я — мужычы сынок,
Я не маю дарог.
Мая школка — шынок,
Маё жыцце — астрог.

## УСХОД СОНЦА

На усходзе неба грае
Пераліўным блескам,
Сыпле золата над гаем
І над пералескам.

Чуць-чуць дрогне і прыльецца
Чырвань на усходзе —
Гэта неба усміхнецца
Людзям і прыродзе.

Смех адказны, смех шчаслівы
Ходзіць па пагорках.
Час світання — час зычлівы...
Гаснуць, нікнуць зоркі.

Шырай, шырай зараніца
Разнімае крылле,
Нібы пожар б'е крыніцай
Там, на небасхіле.

Сноп праменняў, пышна ўзняты,
Сее бляск-чырвонцы —
Гэта неба сцеле шаты
На дарогу сонцу.

Над палямі мрок прарваўся,
Па нізах расплыўся,
Лес туманам заснаваўся,
Луг расой абмыўся.

Агнявыя валаконцы
Ткуцца ў шоўк чырвоны —
Гэта хмаркі ладзяць сонцу
І дзяньку кароны.

Як прыемна пахне збожжа!
А вакол — спакойна!
Эх, як слаўна, як прыгожа,
Хораша, прыстойна!

І сабрала неба фарбы
Колераў дзівосных...
І дзе ёсць такія скарбы
Гожства, сугалосся?!

## ЗА ПАДАТКІ

Колькі ўжо раз за падаткі
    Стараста пужае!
Ой, няхай іх! Горка з імі,
    Хто таго не знае!

Аж тут пісар прыязджае
    Разам з старшынёю...
Ой, нічога ж не парадзіш
    З горкаю бядою!

— Пачакайце, калі ласка! —
    І — бух ім у ногі!
А назаўтра я Красульку
    Пацягнуў за рогі.

Зарыкала так жалобна
    Бедная жывёла,
І мне сэрца гэтым рыкам,
    Як нажом, парола.

Жонка плача, лемантуе...
    Гэтак па дзіцяці,
За труною йдучы, плача
    Хіба толькі маці...

Я йшоў збоку, і здушылі
    Горла мне залозы.
У поле выйшаў — паліліся
    З вачэй самі слёзы.

## ЧЫГУНКА

Ў два рады між палёў
Роўны рэйкіляглі,
Рэжуць нетры лясоў,
Точаць грудзі зямлі.

Дзе стралою ляцяць,
А дзе дужкай бягуць
Цераз горы і гладзь,
Смела рэчкі цякуць.

Эх, і быстры ж той гон!
Толькі пыхкае дым.
За вагонам вагон
Мчыцца змеем ліхім.

Мчыцца ўночку і ўдзень,
Толькі поле дрыжыць.
Так ні конь, ні алень,
Ні арол не ляціць.

## МАЦІ

Непрыветна цераз вокны
    Ночка пазірае.
Ціха ў хаце. Уся сямейка
    Спіць, адпачывае.

Натрудзіўшы добра рукі,
    Натаміўшы плечы,
Толькі маці з вераценцам
    Туліцца пры печы.

Ды прадзе, прадзе кудзельку.
    Скача вераценца,
А за ім густыя цені
    Бегаюць па сценцы.

*

На камінку гарыць корчык,
    Злотам іскры скачуць.
За аконцам вецер ходзіць,
    Глуха вербы плачуць.

Зябнуць вербы на марозе,
    Тулячыся к стрэсе.
Снегам вецер сыпле ў дзверы,
    Ходзіць шум па лесе...

І пад гэты шум трывожны
    Думае старая,
А ўслед думкам неспакойна
    Вецер падпявае.

*

І ўсё ўстала прад вачыма
Беднае кабеты:
Маладыя дні дзяцінь,
Дзявочыя леты,

Радасць жыцця і нягоды,
Сваркі, трасяніна —
Усё, чым жыцце напаткае
У цяжкую часіну.

Усё прыпомнілася беднай, —
Горка, цяжка стала,
Галаву на бок схіліла,
Прасці перастала.

*

Вось і муж усплыў на думу —
Рана смерць скасіла!
Дробных дзетак ён пакінуў —
Без пары магіла!

Жыў ён бедна. Спадзяваўся
Свой прыдбаць куточак,
Хату вывесці, зямелькі
Прыкупіць шматочак,

Бо агоркнуў хлеб батрацкі,
Жыцце пад'ярэмна...
Ды не выйшаў з-пад няволі,
Біўся век дарэмна!

*

Гасне корчык на камінку,
Пацямнела ў хаце,
Поўнач пеўні пракрычалі,
Але не спіць маці.

Цягне нітку. Вераценца,
З рук упаўшы, грукне,
Ды нясмела, як убогі,
У дзверы вецер стукне.

Думкі думку падганяюць,
Не даюць спакою,
Ўсё лятаюць над кабетай
Нуднай чарадою.

*

Уздыхнула цяжка маці,
Аб сынку гадае,
Што ў астрозе, ў паняверцы
Кару адбывае.

І за што? У толк не возьме
Бедная кабета
Ні законаў гэтых мудрых,
Ні парадкаў свету.

Вецер вые за вугламі,
Ў коміне галосіць.
Куды толькі думка тая
Матку не заносіць!

Зябнуць вербы на марозе,
Глуха лес гамоніць.
Думка думку выклікае,
Думка думку гоніць.

* * *

Думкі ўюцца, томяць грудзі —
Волі хочацца і ім, —
Хочуць песняй стаць лагоднай,
Мілым дзіцяткам маім.

Цяжка з імі жыць замкнута,
У начной хаваць цішы,
Цесна думкам, цесна бедным,
Хочуць выліцца з душы.

Ўюцца думкі смутным роем,
Хочуць выбіцца на свет.
Дык ляціце, сэрца дзеці,
На паперку кіньце след!

## УДОВІНА ХАТА

З краю вёскі сірацінкай
Заняпала хата.
Тут не ладзяць вечарынак,
Не прадуць дзяўчата.

Пагніло бярвенне ў сценах,
Вырас мох на стрэсе.
Сыра ў хаце, пуста ў сенях,
Глуха, як у лесе.

Прытуліўся хлеўчык збоку,
Як дзіця да маткі.
Смутна сэрцу, нудна воку,
Як зірнеш на хатку.

Шыбы ў вокнах перабіты,
Як бы ў пераплёце,
Каля ганка дол парыты,
Збан, гаршчок на плоце.

Доля гэты кут мінае,
Гора тут пануе,
Тут кабета маладая
З дзеткамі гаруе.

Рве без жалю вецер стрэху, —
Цяжка без мужчыны!
Не чутно тут спеву, смеху —
Тут удоўка гіне...

## ВЯРБІНА

Над вадою адзінютка
Пахілілася вярбіна;
Ные бедная ціхутка.
Ці ж то ёсць у ей кручына?

Мые Нёман ей карэнні,
І дурэе вецер з ёю,
А пад нізам чарадою
Цііснуць ногі ей камені.

Ёсць кручына не малая,
І шуміць яна так нудна,
Бо ей доля не спрыяе,
Бо расці ў каменнях трудна...

Так і ты, народ наш бедны,
Як вярбіна, проці волі
Доўга носіш пояс медны,
Гнешся ты, як крыж у полі!

## ПЕСНІ ВЯСНЫ

Песні ў полі, шум і гоман.
Ну ж і выдаўся дзянёк!
Снег на дзірах, лёд надломан,
І спявае ручаёк:

«Гэй, сябры, гэй, ручаёчкі!
Дружна разам пабягом.
Гайда, гайда ў свет, браточкі,
К тым шырокім берагом!

Людзі-волаты! Глядзеце,
Колькі гонім мы вады,
Бо яднанне — сіла ў свеце,
Хто ж дужэй ад грамады?

Мы дарогі ў полі знаем,
Не заблудзіць там вада —
Знанне — сіла! Мы гукаем:
— Гэй, за намі, грамада!

Мы імчым, мы гонім воды,
Затапілі мы брады.
Дружнасць — першы крок свабоды,
Згода— сіла грамады».

## НЕ ДАМСЯ

Вось мяне і пасадзілі,
Каб сялян не бунтаваў;
Мяне білі і судзілі,
Па «участках» валачылі,
А цяпер сюды папаў.

Што ж, Язэпка! Чысць куточкі,
Балазе, што многа цьмы...
Ды не думайце, паночкі,
Што спужаўся я турмы!

Хоць каму, а жыць тут трэба,
Каб астрог не пуставаў.
Доля выбрала Язэпа —
Жуй, Язэп, скарынку хлеба,
Покі Гурка не раскраў.

Жуй, хоць плачуць твае вочкі —
І да слёз прывычны мы...
Ой, не думайце, паночкі,
Што спалохаўся турмы!

Праўда, жыць тут не салодка:
Харч свінячы — лепшы стол,
Пухне пуза, як калодка,
Але голад, брат, не цётка:
Ем бурду іх, як той вол.

Што ж, Язэпка, гора змальства,
Беднасць гнала да сумы...
Эх, не радуйся, начальства:
Не злякаўся я турмы!

Вось адбуду тэрмін гэты,
Выйду я на свет з муроў,
Зноў за кніжкі, за газеты...
Вось вам, «плешкі-эпалеты»:
Не баюся я «шнуроў»!

Хоць навіслі густа хмары,
Хоць на змор мяне бяруць, —
Не! мяне не справяць кары,
Толькі злосці паддадуць!

## НОЧ

Між палёў шырокіх
Я адзін стаю,
Ахваціла ціша
Ўсю душу маю.

Ночанька мая ты,
Водблеск глыбіні!
Ты душу чаруеш
Спевам цішыні.

Многа ў гэтым спеве
Водгукаў жывых,
Іх не зловіш вухам,
Чуеш сэрцам іх.

Ночанька мая ты,
Ціхі сон вясны!
Колькі зор на небе!
Як блішчаць яны!

Водбляскам пажару
Неба край гарыць —
Там двурогі месяц
Выплыў з-за гары.

Ночанька мая ты,
Ціхая дума!
Не ахваціш вокам,
І тых слоў няма

Апісаць твой вобраз,
Хараство, спакой —
Толькі ў цябе ўнікнеш
Чуткаю душой.

* * *

Сохну марна я ў астрозе,
Дарма трачу сілы.
Рвецца дух мой на свабоду
З гэтае магілы.

Шкода хаткі мне старэнькай
З латанай страхою,
Што схілілася над Нёманам
Горкай сіратою.

Шкода мне зялёнай нівы,
Што шуміць у полі,
Тога дуба, што над рэчкай
Песціцца ў прыволлі.

Шкода мне гаёў цяністых
І лугоў прастору,
Дзе пад ветрам ходзяць хвалі
Травянога мора.

Шкода светлай ручаінкі
Ў берагах пясчаных,
Што, як срэбра, мкне-бруіцца
Паміж гор, курганаў.

Шкода вёсак запусцелых,
Дзе ральнік гаруе,
Дзе зімою вецер вые,
Замяць-снег шнуруе...

Гэта — вобразы краіны,
Беларусі роднай...

Край ты наш! Як міл ты сэрцу,
Цёмны край, галодны!

Ды не век я тут гарую,
Дачакаю волі
І пачую ў родным краі
Песні лепшай долі.

## РОДНЫЯ ПЕСНІ

Вісне скарга ўздоўж Нёмна,
Беларусі сына.
Як ты бедна, як ты цёмна,
Родная краіна!

Збіты ў кучу твае вёскі,
Стрэхі ў дол уходзяць.
Смутнай песні адгалоскі
Лес, курганы родзяць.

Крыж збуцвелы, знак пакуты,
Тут і там чарнее.
Даль паўнютка ціхай смуты —
Жаль на душу вее!

Ўсё ў табе, мой родны краю,
Апавіта горам:
І той вецер, што дзьме з гаю,
Што шуміць над борам;

Тыя песні, што на полі
Жнеі запяваюць;
Тыя думкі, што да болю
Сэрца калыхаюць.

Ва мне смутак, гора гэта
Водгулле знаходзіць,
Сэрца, жалем абагрэта,
Песні смутку родзіць.

Няхай плачам у тэй далі
Песня разальецца,
Каб усе на свеце знালі,
Як нам тут жывецца.

## Я НЕ ЗНАЮ...

Я не знаю сам, браточкі,
Чаму мне так мілы
Буры, плач асенняй ночкі,
Спеў яе пастылы,

Лесу гоман, гуд нястройны,
Шум лазы ў балоце,
Баязлівы, неспакойны
Шолах у чароце.

Я не знаю, чым мне дораг
Від палёў благенькіх,
Нудны клік у родных горах,
Вербак рад крывенькіх.

Маё сэрца, маё вока
Цягне хвоя тая,
Што у лузе адзінока
Сохне-умірае;

Жаралісты дуб высокі,
Колісь поўны сілы;
І той крыжык адзінокі,
Вартаўнік магілы,

Дзе так сумна ветры веюць,
Точаць дол пясчаны,
Дзе чыесьці косці тлеюць,
Чыйсьці прах схаваны...

Я не знаю, я не знаю,
Чым я так прыкуты
Да тваіх, мой родны краю,
Вобразаў пакуты!

## МУЖЫК

Я — мужык, бядак пахілы,
Ўсе ўшчуваюць мужыка.
Цягнуць кроў з яго і жылы,
Надрываюць яго сілы,
Ў мазалях яго рука.

Я — мужык, я — сын пакуты,
На мякіне вырас я,
Гічанамі пуза ўздута,
Ногі ў лапцікі абуты,
Бедна вопратка мая.

Я — мужык, я — сын бядоты,
Недаем і недасплю,
Гне мяне цяжар работы,
Дзень працую за два злоты,
Здзекі ўсякія цярплю.

Я — мужык, не чую звону,
Толькі ж есць мяне чарвяк:
Ці не брэша поп з амбону
Што цару бог даў карону?
Ой, не, мусібыць, не так!

Я — мужык, а гонар маю,
Гнуся, але да пары.
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
«Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»

## ГОРКАЯ ДОЛЯ

З нашым шчасцем-доляй
Выйсці ў людзі брыдка...
А бадай ты спрахла,
Гэтакая жытка!

Засадзілі ў клетку,
Волю адабралі,
Вобраз чалавечы
У гразь яны ўтапталі.

Лічыш дні і тыдні —
Горка ты, няволя!
А каб ты прапала,
Гэтакая доля!

І марнееш сам ты,
Траціш марна годы,
Хочацца прастору,
Хочацца свабоды.

Эх, жыццё, жыццё ты!
Ночка ты, нянасце!
А каб ты ж згарэла,
Гэтакае шчасце!

Але пачакайце,
Помніце, псякосці!
Эх, прыпомнім крыўды
Мы вам, ягамосці!

## НЕБА

Дружа! Кінь на неба вока —
Колькі зорак, колькі зор!
Як прывольна, як далёка
Ззяе, свеціцца прастор!

Як спакойненька ў разлогах
Ходзіць хмарак карагод,
І няма ім у дарогах
Ні бяды, ні перашкод!

Палюбуйся, паглядзі ты,
Як прыгожанька ўгары,
Як усюды бляск разліты,
Быццам неба ў пажары!

А цяпер зірні на зямлю:
Як тут цёмна, дарагі,
Як тужліва яна дрэмле
І як сон яе даўгі!

* * *

Многа слаўненькіх куточкаў
Есць у нашым краі,
Дзе пад гоман ручаёчкаў,
Пад шум дрэў у гаі

Рой журботных дум пакінеш;
Дзе няма трывогі,
Дзе душою адпачынеш,
Змучаны з дарогі;

Дзе прыемны ветрык млее,
Збажыну калыша,
Дзе пакоем-згодай вее,
Дзе ўсё шчасцем дыша.

* * *

Рана вам журыцца,
Думкі, сэрца дзеткі,
Рана вы завялі,
Веснавыя кветкі!

Ці мароз знячэўку
Вас прыбіў вясною,
Як на сцежку жыцця
З простаю душою

Стаў я, поўны веры,
Радасці і сілы?
Што ж на вас дыхнула
Холадам магілы?

Што ж вы неспакойна
Кружыцесь, як пчолы?
Думкі, мае думкі!
Што вы невясёлы?

Ці краіны роднай
Балаты гнілыя
Смуткам вас акрылі,
Думкі маладыя?

Ці вас песня-жальба,
Думкі, ўзгадавала?
Ці людскае гора
У лесе вас спаткала?

Ці маё так жыццё
Склалася няўдала?
Ці мая дарога
Ў туманы папала?

Рана спахмурнелі,
Думкі маладыя,
Рана вы завялі,
Кветкі веснавыя!

## РУЧЭЙ

Між алешын, кустоў,
Дзе пяе салавей,
І шуміць і грыміць
Срэбразвонны ручэй.

Як матулька, вярба
Хіліць голаў над ім,
І глядзяцца кусты
Пышным верхам сваім.

Абступаюць яго
Чараты, асака,
Падыходзіць мурог
Да яго здаляка.

Часам зорка ўначы
На яго кіне зрок,
І хмурынка не раз
Зазірне ў ручаёк.

І схіляе трава
Над ім пасмы-брыжы,
А ён, жэўжык-пястун,
Гучным смехам дрыжыць.

То заскочыць у гай,
То курган абаўе,
Дзе сярдзіта бубніць,
Дзе лагодна пяе.

Люба слухаць той спеў,
Несціханы, густы,
І пад песні яго
Адпачынеш і ты.

## ЦЕМРА

Бедны мы і цёмны,
Ходзім слепакамі,
Судзімся і б'ёмся
З роднымі братамі.

І адзін другога
Часта акрадаем,
І куды йдзе праца,
Самі мы не знаем.

Пуста, бедна ў хатах,
Чад, і гразь, і сырасць...
Хто нас ў кут адціснуў?
Чыя гэта міласць?

На каго мы робім?
Што за гэта маем?
На каго ўсе сокі,
Сілы вынішчаем?

Пад ярмом адвечным
Мы йшлі без дарогі,
Натрудзіўшы плечы,
Зверадзіўшы ногі.

Папіхалі намі,
Гналі, як жывёлу,
Змардаваных, босых,
Неакрытых, голых.

А ўсё дармаеды
Нас без жалю лаюць,
Мужыком, хамулам
Злосна папікаюць.

Эх вы, дармаеды,
Моль вы, вош людская!
А хто ж вас, праклятых,
На плячах трымае?

## ШКОЛЬНАЯ РАБОТНІЦА

На краю сяла глухога
Паміж ліп разложных
Прытуліўся дом убога,
Як жабрак набожны.

Пахілілася гарожа,
Ў дзірах дах зіяе...
Непрытульна, непрыгожа
Школка выглядае!

Насцеж зяўраюць вароты,
Чуць ліпяць і дзверцы,
Дзве бярозкі, як сіроты,
Гінуць ў паняверцы.

Ціха. Ночка. Нічагутка
Навакол не дрогне,
Хіба толькі дах ціхутка,
Як стары, застогне.

Вёска спіць — пара глухая,
Позняя часіна.
Не спіць толькі маладая
У школцы дзяўчына.

Свеціць лямпа перад ёю,
Ціха, бы ў магіле.
Многа працы ёй з дзятвою,
Каб разняць ім крылле.

Каб разблытаць з павуціны
Разумок дзіцячы.
Ды не страшны для дзяўчыны
Трудныя задачы.

Хоць над ёю цьма глухая
І вісіць абухам,
Ды дзяўчына маладая
Не падае духам.

Вучыць дзетак з дня ў дзянёчак,
Кніжкі ім чытае,
Раскатурхаць разумочак
Дзеткам памагае.

Рада радасцю дзяцінай,
Смутна іх бядою.
Не нацешацца дзяўчынай
Дзеткі маладою.

Так у цяжкай тэй рабоце
Траціць дні дзявочы,
Каб галоце і бядоце
Цьму рассеяць ночы.

Суцішна ў вёсцы. Думка-смута
Часта душу томіць,
І часамі боль зло-люта
У сэрцы загамоніць.

І агорне журба нейка,
Няміла нічога,
І не знойдзеш чалавека,
Чулага, жывога...

Поп і пісар — чужаніцы,
Іх свая дарога:
Рвуць, як могуць, ад дурніцы,
Мужыка сляпога.

Цяжка беднай ёй часамі:
«Власти» насядаюць,
Поп і земскі з пісарамі
Скрыва паглядаюць

На дзявочыя старанні,
 На яе работу.
Толькі ж вера ў сілу знання
 Ёй дае ахвоты.

Цёмна ў вёсцы, беспрасветна.
 Цяжка, цяжка школе.
Ды праз школу непрыкметна
 Прыйдзе шчасце-воля.

Не загінуць край і людзі,
 Пасынкі народу,
Калі ў краі гэтым будзе
 Ззяць прамень свабоды.

## ЖЫТА

Неспакойна зашумела
Маладое жыта
І штосьць боязна шапоча
Ды няўцямна-скрыта.

І калоссі многазначна
Хіляць, гнуць галовы,
Нібы іх чым устрывожыў
Душны дзень ліпнёвы.

І гамоняць ды гамоняць
З срэбранай саломкай,
І шумяць, шумяць загоны
Сцішанай гамонкай.

Што варожыш ты нам, жыта,
Гнешся траўкай ніцай?
Ці бяду ты прачуваеш,
Подых навальніцы?

Неба з захаду цямнее,
Крые даль смугою.
Шэпча жыта, нібы стогне
Здушанай тугою.

«Што-то будзе? Што-то будзе?»—
Шэпча ў полі жыта.
Цісне хмара, хмара-цемра,
Гром гудзе сярдзіта.

Ідзі ў чыстае ты поле,
Градавая хмара,
І злітуйся над жытамі —
Над сялянскім дарам!

## МЯЦЕЛІЦА

Нізка звіслі над зямлёю
Хмары снегавыя,
Свішча вецер за сцяною,
У коміне вые.

Лес гудзе, дрыжаць галіны,
Стогне бор хваёвы,
Злосна выюць верхавіны,
Гнуцца іх галовы.

Белым пылам даль закрыта,
Ходзяць віхры вірам,
Прасяваюць снег на сіта
У бясконцай шыры.

Як разнімуць крылле-раме
Ды як задурэюць,
Следам гурбы курганамі
Стануць на сувеях.

Эх, гуляюць віхры ў полі,
Ветравыя дзеці!
Як зайздрошчу я іх долі —
Вольна песні пеці!

Ой ты, вецер, сын прастору!
Ты ж аб чым галосіш?
Ці не гэта маё гора
Ты ў палях разносіш?

* * *

Надрывайся і шумі,
Вецер злосны, ў полі!
Як сярдзіта ты ні дзьмі,
Ні гуляй на волі;

Як дарог ні замятай
І глухіх трапінак;
Як ты злосна ні спявай
Мужыку ў камінак, —

Ўсё ж ты сціхнеш, і цяплом
Скора ты павееш,
І з ракітавым кустом
Міла задурэеш.

## З ПЕСЕНЬ АДЗІНОКАГА

### 1

Я — адзін, жыву без дому,
Сам сабе я першы пан,
Галавы не гну нікому,
Не схіляю гібкі стан.

Я — адзін, нічым не скован,
Вольны я, бы дух палёў,
Ад разбойнікаў захован,
Ад усякіх зладзяёў.

Я — адзін, нічым не звязан,
Мне няма над чым карпець,
Свет нідзе мне не заказан,
Вольны ўсюды я ляцець.

Скарб мой—рукі, конь мой — ногі,
Як пайду — сам чорт не брат,
Кій у рукі — і з дарогі
Без нуды зірну назад.

Даражэй за ўсё — свабода,
Дык што плакацца дарма?
Воля, воля! Толькі шкода,
Што цябе нідзе няма.

### 2

Эх, нашто ўздыхаць па волі,
Калі я не маю долі,

Калі марна годы трачу,
Калі сэрца ў смутку плача?

Знаць няшчасным урадзіўся,
Што свет белы зачыніўся,

Зачыніўся, збегся клінам...
Горка быць мужычым сынам!

Багач ззяе ў пазалоце,
Мужык бедны мрэ ў бядоце,

У мядалях «зубр» багаты,
А ты носіш адны латы.

Бо мужычы сын пахілы
Роўнасць мае... у магіле.

## 3

Я не маю сваёй хаткі,
Я не помню роднай маткі.

Рос я круглым сіратою,
Як той дуб, што над вадою.

Мяне матка не люляла,
Казак, песень не спявала.

Чуў я толькі песні бору,
Гадавала мяне гора.

Хоць нядоля мяне гнала,
Усё ж мне сілы не зламала:

Ці ж я ростам не высокі?
Ці ж у грудзях не шырокі?

Валасы да плеч густыя,
Мае рукі, як стальныя.

Спрытна рэжу дол сахою,
Здатны ў лузе за касою!..

Толькі ж дол чужы капаю,
Толькі долі я не маю!

Ой, пайду, пайду я ў поле,
Загукаю: «Дзе ты, доля?

Дзе ты, шчасце? Адгукніся,
Ка мне тварам павярніся!»

Толькі ж ціха-ціха ў полі,
Толькі вецер дзьме паволі:

«Дарма жыцце тваё гіне,
Няма долі бедачыне!»

4

Што тужыць, гараваць?
Маю сілу ў руках—
Хлеб змагу даставаць,
Хіба праца мне страх?

Я — адзін, я — здароў,
Месца ўсюды мне шмат,
Захацеў — і пайшоў,
Пыл узняўшы з-пад пят.

Гаспадарку сваю
Ўсю з сабою вазьму.
Песню я запяю —
Раскатурхаю цьму.

Што мне гнуцца ў дугу?
Каму шапку знімаць?
Няўжо ж я не змагу
Сам сябе падтрымаць?

Волен свет мне кругом,
Дзе прайду — будзе знак,
Дзе прылёг — там і дом,
Кожны бедны — сваяк.

## НА ЛУЗЕ

Добра ў лузе ў час палудны!
    Лёгка там дыхнуць!
Хмаркі белыя марудна
    За лясы плывуць.

Ветрык краскі чуць калыша,
    Травы шалясцяць,
Луг зялёны жыццем дыша —
    Конікі трашчаць.

Ў лозах шчэбет не сціхае,
    Шум стаіць і свіст,
Ў яркім бляску спачывае
    На ракіце ліст.

Спевам-гоманам і звонам
    Поўніцца ўвесь луг,
І дрыжыць над ім, зялёным,
    Жыватворчы дух.

## ВЯСНОВАЯ НОЧ

На зямлю сырую
Ціха ночка пала.
Бляскам-дрыгаценнем
Зорка замігала.

Адзінокі месяц
Выплывае з хмары,
На зямлю, на неба
Сходзяць яго чары.

З цёмнай высі-багны
Ўжо глядзяць Стажары,
Пояс дыямэнтны
Ткуць нябёс абшары.

Лёгкімі шаўкамі
Леглі ў небе хмаркі,
І скрозь іх шчасліва
Зоркі бляск льюць яркі.

Ох, нашто ты, ночка,
Так прыгожа-міла?
Колькі ў сэрцы думак
Ты мне абудзіла!

О, нашто пра волю
Голас твой спявае,
Калі маё сэрца
Волечкі не мае?

Ой, не кліч ты, ночка,
На прастор і волю,
Бо заплача сэрца
І душа ад болю!

Ночка-чараўніца!
Як ты ціха, міла!
Як ты многа думак
Ў сэрцы абудзіла!

## НОЧ ПЕРАД НАВАЛЬНІЦАЙ

Стаў чырван месяц круглаліцы,
І зоркі боязна дрыжаць,
А там крыжуюцца зарніцы,
Бы косяць неба-сенажаць.

Бурліць крыніца агнявая,
Бы нейкі грозны віхар-вір,
І бляскі-іскры разлівае,
Як залаты агністы жвір.

Замоўк клапотны дзённы голас,
Усюды сон, спакой ляжыць.
На ніве чутка дрэмле колас,
І ліст на дрэве не дрыжыць.

Люблю я ночы той час дзіўны,
Калі прастор, абняты сном,
Пабудзіць голас пераліўны —
Далёкіх хмар магутны гром.

Калі працягла заракоча,
Гугухне голас угары,
І шыба ў вокнах забразгоча,
І гоман пойдзе па бары.

А хмара грозна націскае,
Маланка неба баразніць.
А ночка спіць, а ноч не знае,
Што зараз бура зашуміць.

## ПЕРАД ВОСЕННЮ

Засмуцілася,
Зажурылася
Даль шырокая,
Неаглядная.

Думкай горкаю,
Невясёлаю
Звіс туман сівы
Над балотамі.

А ў палях даўно
Жыта звезена,
Коска, серп крывы
Працу скончылі.

Агаліўся луг,
Даўно скошаны,
Толькі вежамі
Стагі высяцца.

А зірнеш на лес —
Сэрца сціснецца:
І маркотна ў ім,
І нявесела!

Пажаўцеў убор,
Пышны ліст яго,
І ціхусенька
Асыпаецца.

Сціхлі песенькі
Вольных пташачак...
Глуха лес маўчыць,
Думку думае.

Знаць, ён думае
І маркоціцца
Па вясне-красе,
Залатой пары.

Эх, пануры лес!
Не журыся, брат:
Для тваё вясны
Сцежка бітая —

Жыццё новае
К табе вернецца.
Зашуміш ты зноў
Гучна лісцямі,

Заспяваеш ты
Разам з пташкамі
І хвалу спяеш
Жыццю новаму.

А мая вясна,
Мая мілая,
Ўжо не вернецца,
Ой, не вернецца!

Чаго ж смуцішся
І маркоцішся,
Даль шырокая,
Даль знямелая?

17. Зак. 848

## ПЕРАД СУДОМ

Не ў салдаты выпраўляе
Маці свайго сына,
Не на службу ў двор да пана,—
Едзе ў суд хлапчына!

Знае маці — не жартуюць,
Судзяць суддзі строга,
Хоць сынок яе не злодзей,
Не зрабіў нічога:

Не забіў, не абясславіў, —
О, не, не! Крый божа!
Гаварыў ён,—ну, што ў гэтым?—
Што так жыць нягожа,

Жыць і гнуцца, прад багатым
Поўзаць чарвякамі,
Што даволі ўжо цярпелі
Доўгімі вякамі,

Што даўно пара за розум
Бедным людзям ўзяцца
І парадкаў справядлівых
Трэба дабівацца.

А каб справіцца з няпраўдай,
З крыўдаю, з бядою,
Дык націснуць трэба людзям
Дружнай грамадою...

Конь запрэжан, ўсё гатова...
Смутная дарога!
Не суліць яна старэнькай
Добрага нічога.

Горкі жаль акрыў кабету
І здушыў ёй грудзі.
Ў кут забілася і плача,
Каб не зналі людзі

Яе гора і трывогі
І жальбы па сыну.
— З богам, сынку! Хай дае ён
Добрую часіну!

Рушыў конік. Зарыпелі
Весніцы гаротна.
Азірнуўся бедны хлопец
Горка і маркотна.

На двары стаіць матуля,
Галавой кіўнула,
А сама слязу буйную
Рукавом змахнула.

Вось і поле. Конік трусіць,
Вецер падзімае.
Азірнуўся хлопец — хата
З вока прападае.

І абцёр ён непрыметна
Жаласці слязіну.
Эх, відаць, не скора ўбачыць
Родную хаціну!

## АРОЛ

Над смужнай раўнінай высока-высока
Разняў свае крыллі арол адзінокі,

І вокам празорным ён даль азірае,
І гучныя крыкі над полем раняе.

А поле замлела, ляжыць у тумане,
У покрыўцы смужнай, бы ў цёмнай сутане.

Свая, відаць, думка аб чымсьці гаруе,
І крыкаў арліных нізіна не чуе.

## ВЯЧЭРНІЯ ХМАРКІ

Сонейка заходзіць,
І кладуцца цені,
І плывуць хмурынкі
Ў ціхім задуменні.

Белыя валокны
Сонейкам заліты.
Вольны ім дарогі,
Сцежкі ім адкрыты.

Хмаркі залатыя!
Вы — прастору дзеці,
Ходзіце вы вечна
Па ўсім белым свеце.

Праплывіце ж, хмаркі,
І над родным краем,
Над сялянскім полем,
Над зялёным гаем,

І заплачце, хмаркі,
Дробнымі слязамі
Над мужычай нівай,
Над яго лугамі.

Загрымеце громам,
Стаўшы цёмнай хмурай.
Толькі ж не пабеце
Жыта градам, бурай.

Хмаркі залатыя,
Сонца, неба дзеці!
Вы прывет мой шчыры
Ў вёску занясеце.

## ДА ВЯСНЫ

Мароз, зіма,
Снягі вакол,
І спіць трава,
Пад снегам дол.

Мяцеліца,
Вятры гудуць,
Дубы ў лугах
Шумяць, равуць...

Ці скора ж ты,
Жаданы час
Вясны-красы,
Ідзеш да нас?

Ідзі, згані
Снягі з палёў
І выведзі
Ваду з акоў!

Акрый лугі,
Адзень лясы,
На жыта кінь
Крыштал расы!

Сагрэй ты нас,
Цяплом абвей...
Ідзі, вясна,
Ідзі скарэй!

## НА НІВЕ

— Гэй, мой конік! Гэй, мой сівы!
Ну, яшчэ, маленькі!
Варушыся, гэй, не бойся,
Конік мой сівенькі! —

Зранку ў полі за сахою
Аратай гукае,
Сіўку, друга ў цяжкай працы,
Просіць-панукае.

Сам без шапкі, босы ногі,
Грудзіна раскрыта.
Б'юць каменні аб нарогі,
Скрыгацяць сярдзіта.

І шуршаць пяскі буйныя,
Як жарства рачная;
Ходзіць подскакам, няроўна
Сошачка крывая!

Аратай ідзе спавагу,
Мерна, крок за крокам,
Вузка доўгая палоска,
Не акінеш вокам.

Пройдзе баразну аратай,
Сошку патрасае,
Сам назад увесь падасца —
Конік службу знае:

Сам заходзіць без панукі,
Без каманды, спраўна,
Аж нейк глянуць на сівога
Люба і забаўна.

Нібы знае сівы конік
Думкі аратая,
І яго панукі-крыку
Сіўка не чакае.

Завярнуўшыся, аратай
Спыніць друга-сіўку,
Слова добрае прамовіць
І паправіць грыўку.

Гладзіць коніка па шыі,
Мух дакучных гоніць,
Як бы з самым лепшым другам,
З сіваком гамоніць.

— Змардаваўся, адпачынь, брат,
Пастаім, пакурым.
Вератнік мы гэты скончым,
Спачываць патурым.

Конік трэцца галавою
Аб яго кашулю,
Адпачыўшы, зноў ён цягне
Сошачку-крывулю.

А аратай, задуменны,
Зноў ідзе ступою...
Моцна, моцна іх злучыла
Праца за сахою!

— Гэй, мой конік! Но, мой мілы! —
Носіцца па полі.
Конік, сошка і аратай
Сунуцца паволі.

Эх ты, поле! Колькі сілы
Тут затраціць трэба!
Цяжка, цяжка дастаешся
Ты, кавалак хлеба!

* * *

Пагуляў на волі,
Вецер лёгкакрылы,
Пагуляў і будзе:
Адпачынь, пахілы!

Паламаў ты лесу,
Стрэх сарваў нямала,
З хмарамі і з громам
Спрэчку вёў, бывала.

Рваўся ты ў прасторы,
У стэп шырокі, сіні,
Ды закалыхалі
Ветрыка пустыні...

Што ж, уляжся, вецер,
Хоць у чужой даліне,
Бо ці не ўсё роўна,
Дзе цябе ні кіне

Доля бедачына,
Мачаха ліхая,
Бо не маеш, браце,
Свайго роду, краю...

Пагуляў на волі
Вецер лёгкакрылы,
Пагуляў, улёгся
І заснуў, пахілы.

## СЯЛЯНСКІЯ ДУМКІ

Невясёлая, галодная,
Халадэчамі багатая,
Эх, вясна, вясна халодная,
Чым пацешыш ты аратая?

Не растуць хлябы, марнуюцца,
Сохне праца ўся вялікая.
Драсяны ў жытах красуюцца,
Ў ярыне — свірэпка дзікая.

На лугі зірнеш мурожныя —
Жоўкнуць травы і старэюцца
Ды грудочкі прыдарожныя,
Як бародаўкі, жаўцеюцца.

Ветры з поўначы халоднае
Веюць злоснымі парывамі,
Ходзяць хмары, ды бясплодныя,
Не раняюць слёз над нівамі.

Мусіць, ведаюць, што нашымі
Слязьмі-потам бедачынымі
Шчыра зліты нівы з пашамі,
Луг шырокі з азярынамі.

Суш, бяздожджыца, бязросіца...
Ох, знаць, будзе год галодненькі!
Не адзін тут разгалосіцца
З тваіх дзетак, край нашродненькі!

## ПЕСНЯ

Песня, дзіцятка сэрца балючага!
Толькі цябе запяю,
Многа абудзіш ты гора гаручага,
Смуціш душу ты маю.
Часта са ўздыхам сябе я пытаю:
Як павядзецца табе?
Ці палііешся ты вольна па краі,
Водгук ці знойдзеш сабе?
Або заглухнеш, замрэш адзінока
Рэхам нягромкім ў цішы,
І не зачэпіш сэрца глыбока,
Не раскалышаш душы?
Родныя сёлы цябе ці пачуюць?
Можа і словам тваім
Людзі пагардзяць ці пажартуюць,
Смехам спаткаўшы пустым?..

* * *

Эй, скажы мне, небарача,
Ты, каго ў ярме трымаюць,
Чыё жыцце папіхаюць:
Сам гібееш, доля плача,
Ва ўсім чысценька нястача,

Сееш многа ты і дбала,
Хоць скупое тваё жніва,
Адкажы ты мне праўдзіва —
Што цябе тут прыкавала?
Ці табе дарожак мала,

Або свет тут зачыніўся?
Ці ты глух на папіханкі?
Свецяць рэбры скрозь катанкі,
А праз шапку чуб прабіўся.
Ці ты век цярпець згадзіўся?

Ці не чуў аб лепшай долі?
— Ой, даўно б я ўсё пакінуў,
Толькі ж многа слёз я лінуў,
Выліў поту ў тыя ролі,
Дзе ўзыходзяць песні болю.

Дык няхай свет хоць трасецца, —
Я тут вырас, тут і згіну,
А разорак тых не кіну,
Дзе мой смутак, жаль снуецца,
Дзе мне шчасце не даецца,

Бо я цвёрда веру ў тое,
Што наш засеў у полі дзікім
Гневам вырасце вялікім
І затопіць усё злое,
Ўсё няшчасце векавое.

## У ДАРОГУ!

Зложаны ў клунак
    Усе мае прылады...
Гайда ў пуць-дарожку,
Гайда між прысады!

Бітаю дарогай,
    Вольнаю трапою
У божы свет шырокі
Мернаю ступою!

Ужо мяне чакае,
    У доўгі шлях гатовы,
Мой таварыш верны,
Сябар — кій дубовы.

У нашым родным лесе
    Вырас ён са мною,
Вырас, ўзгадаваўся
Хмураю вясною;

На блуканне-гора
    Бог судзіў, няйначай,
І злучыў ён долю
З доляю бядачай.

Шкода мне вас кідаць,
    Родныя пагоркі!
Ужо не скора ўчую
Згоднае гаворкі

Ветрыка ў садочку
З вішняю зялёнай,
І не ўловіць вуха
Шопату загонаў.

Я не скора ўбачу
Родныя курганы,
Што задумай ціхай
Лёганька затканы

І глядзяць маркотна,
Як сіроты-дзеці:
Цяжка адзінокім,
Знаць, і ім на свеце.

Эх вы, нівы-гоні!
Вы мяне ўскармілі
І любоў у сэрца
Моцна залажылі

К гэтым шэрым хатам,
К гэтым бедным сёлам,
К белым хмаркам ў небе
Над зялёным долам,

К светлым рэчкам-стужкам,
К срэбраным крыніцам...
Не з дабра ж іду я
К людзям-чужаніцам.

Ой, ёсць цемень-сіла,
Злосная, ліхая,
Што і любасць тую
Гоніць, разлучае.

Толькі ж дзе ні буду,
З доляй ці няволяй,
Не забыць цябе мне,
Роднае, ніколі!

З цяжкім смуткам сэрца
Я вас пакідаю,
Мілыя малюнкі
Дарагога краю!

Зложаны ў клунак
Усе мае прылады.
Гайда ў пуць-дарогу,
Гайда між прысады!

Ўжо мяне чакае,
Ў доўгі шлях гатовы,
Мой таварыш верны,
Сябар — кій дубовы.

## НА ДАРОЗЕ

Не крычы, пан: «Прэч з дарогі!»
Што з таго, што я мужык?
А ўжо гнуцца, як убогі,
І я, бачыш ты, адвык.

Не адзін ты гонар маеш,
І ў мяне ён трохі ёсць;
Дык дарма ты, пан, гукаеш —
Я табе больш не «псякосць».

Мы калісь былі не тыя,
Панавалі тады вы,
А цяпер гадкі другія —
Спаў ланцуг той векавы,

На якім вы нас трымалі.
Ведай гэта і не злуй:
Мы вас доўга «шанавалі»,
Цяпер ты нас пашануй.

## БУДЗЕ НАВАЛЬНІЦА

Ноч надыходзіць, і хмары ўстаюць.
Лозы размову трывожна вядуць.
Боязна шэпча трава, чараты,
У хмарах знік месяца рог залаты.

На небасхіле зарніцы мігцяць,
Громам узрушана грозная раць.
Мрок насядае глыбей і цяжэй...
Грымні ж ты, бура, ды грымні дужэй!

## ЯК І КАЛІСЬ

Быў малы я, думаў часта,
Як дадуць мне чосу:
«Пачакайце, і на вас я
Прыпасу атосу!

Дайце толькі акрыяць мне,
У гадкі ўвабрацца!»
А пакуль што ўсім старэйшым
Мусіў пакарацца.

Я тым часам падрастаю.
Аддалі вучыцца.
Не дагодзіш настаўніку,
І пачне сварыцца!

Але добра, калі сваркай
Сойдзе завіруха,
Ды ў тым гора, што настаўнік
Часта трос за вуха.

«Ну, пастой жа! Жыў не буду,
А за тыя здзекі
Не дарую, толькі б выйшаў
З-пад твае апекі!»

Так за лаўкаю памысліш,
Вуха ўзяўшы ў жменю,
І цішком кулак сціскаеш,
Сунуўшы ў кішэню,

Ды цярпіш, ды зносіш крыўды,
Помсты час жадаеш.
Час ідзе — а ты ў залежнасць
Болей пападаеш.

Вось я вырас, і пад носам
Вусы высядаюць.
А мяне навокал чубяць,
Клёваюць, ўшчуваюць.

Накіпела ў сэрцы гневу,
Злосці поўны косці.
Не стрываў я, разгарнуўся —
Я ж вам, ягамосці!

Пачакайце ж, калі гэтак!
То ж я не кусаўся!
Годзе крыўды! Досыць здзеку!
Ўзяў ды ўзбунтаваўся

Супраць ўлады і парадкаў!
А хіба ж я ўломак?
Хай сабе на погляд шчуплы
І не так-та ёмак.

Ускіпела тая ўлада,
Гоніць у тры шыі.
«Ведай, гад, пачым фунт ліха
У цара Расіі».

Трэслі, трэслі, калацілі,—
З жалю хоць разбіся,
Ды ў астрог нарэшце садзяць —
Там, моў, схамяніся.

Вось за кратамі сяджу я,
Горш мяне ўшчуваюць,
З аднэй камеры ў другую
З сеннікам ганяюць.

Я іду, куды мне кажуць,
Ды бубню сам ціха:
«Пачакайце! Адсяджу я,
Перабуду ліха!»

Ценем крыўда йдзе за мною
Аж да сёй часіны,
Кулак згорнуты ў кішэні,
Як і ў дні дзяціны.

І даюць мне, як і колісь,
Запраўскага чосу.
Што рабіць? У век патомкаў
Перадаць атосу.

## КВЕТКІ

**Народным настаўніцам**

Вянуць дарэмна ў глухіх закавулках,
У нізкіх далінах, на ціхіх рачулках
    Кветачкі, дзеткі вясны.
Рэдка хто бачыць, як жыцце іх гіне,
Вока людское на іх не спачыне —
    Вянуць і сохнуць адны.

Толькі іх сонейка песціць, цалуе,
Толькі іх ветрык спакойна шануе,
    Роска змывае іх твар.
Смутак агорне, і горка мне стане,
Жаль нейкі душу і сэрца апране,
    Шкода, што гіне так дар.

Мілыя кветачкі, ясныя зоркі!
Я б перанёс вас на горы, узгоркі,
    Каб вы ўсім відны былі;
Каб, пазіраючы, як вы прыгожы,
Сталі душой мы і сэрцам пахожы
    На вас, мае дзеткі зямлі.

## ВЕРАБ'ІНАЯ НОЧ

Ноч павісла над зямлёю,
Ўсё абнята цішынёю,
Поўнай страху, поўнай чар.

Быў гарачы дзень бясконца,
Не свяціла — жэгла сонца,
Парнасць страшная і вар.

І вось неба не ўтрывала,
Ўсё ў агнях запалыхала,
Мрок хістаецца, дрыжыць.

Там гараць, як у пажары,
На паўдні, на ўсходзе хмары,
Дзе зліліся рубяжы.

І не ўловіш слухам грому,
Што тварыцца — невядома
У нутрах гнеўных аблакоў.

Як бы хто жывы, палючы
Погляд кідае бліскучы,
Пыша сілаю віхроў,

Ўскіне вочы агнявыя,
Ўскіне грозна і закрые,
Цьму сярдзіта ўскалыхне,

Ды як сыпне ў неба жарам!
Страшны шлях асвеціць хмарам,
Ніжай мрок к зямлі прыгне.

А зямля маўчыць трывожна.
Лес пакорна і набожна
Ціх, чакае — ні гу-гу!

Неба ж грозна пыша, ззяе,
Бляск агністы разлівае,
Паліць мрочную смугу.

## РОДНАМУ КРАЮ

Знае толькі бог адзіны,
Як мне любы лугавіны
І родныя межы,
Стужкі поля і дарогі,
Пустак немыя разлогі,
І курганы-вежы;
Як мне мілы тыя хаты,
Дзе красуе мох калматы
На старэнькай стрэсе;
Гоман вузкіх ніў у полі,
Скібы жоўтыя і ролі,
Пташак спеў па лесе.
Знае бог адзін, як мілы
Мне мужычыя магілы
І той крыж драўляны,
Пад каторым косці тлеюць,
Дзе бярозкі зеляненоць
І на дол пясчаны
Майскім ранкам слёзы роняць,
І галінкі ціха клоняць,
І шумяць маркотна.
Там я вырас, ўзгадаваўся,
Дзе спрадвеку заснаваўся
І бруіць дрыготна
Жаль вялікі і пакута,
Дзе пануе гора люта
І нуда разліта.
І я зросся з гэтым горам,
Як віхры-вятры з прасторам,
Як з загонам жыта.

А як песню заспяваю
Аб знішчоным гэтым краі,
Я не волен над сабою:
Спеў мяшаецца з слязою,
      Плачам аддаецца.
Няхай стогне, няхай плача,
Покуль жыцце стане йначай
І скрозь цемрадзь і гушчары,
Нібы сонейка праз хмары,
      Свет нам не праврвецца.

## МАЙСКАЯ РАНІЦА

Ў небе бяздонным, дзе хмаркі купаюцца
Ў золаце яркіх агнёў,
Вольныя песні штодзень разліваюцца,
Чуюцца крыкі стрыжоў.

Ціха трапечуцца лісці зялёныя,
З ветрыкам мову вядуць;
Вішні, узняўшыся белай каронаю,
Быццам дзяўчаты, цвітуць.

Поўніцца пахам паветра, ўліваецца
Ў грудзі гаючым вінам;
Мыецца краска расой, уціраецца
Цёплага сонца святлом.

Хмарка за хмаркай плывуць, лёгкакрылыя,
Ціхай задумай паўны.
Эх, як прыгожы вы, раніцы мілыя,
Светлыя мары вясны!

## НА ЛУЗЕ

Вецер паўднёвы у лузе квяцістым
Калыша траву-сенажаць.
Сівавáронкі над дубам вячыстым
Лятаюць і звонка крычаць.

Бусел клякоча ў гняздзе над хваінай,
Што колісь расплямжыў пярун.
Даль неаглядная, стэп ясны, сіні
Замоўклі, як жалаба струн.

Гожа звіваецца ў лозах зялёных,
Бы срэбра жывое, рака.
Толькі не згледзіш на сініх улоннях
Ні плытніка, ні рыбака.

Ходзіць той ветрык па лузе шырокім
І ціха на сонцы дрыжыць.
Мусіць ён шэпча кустам і асокам,
Каб нейкую скаргу злажыць...

Ззяюць на лузе машэст, аксаміты
І ткань залатая шаўкоў.
Толькі ж над лугам жалоба разліта
І сум сакаўных дубнякоў.

Быццам пытаюць мурог і мятліца,
Краскі і ўся сенажаць:
«Дзе вы, сяляне? Дзе? Час касавіцы,
А вас ўсё няма, не відаць?»

## ВЫСОКІ БЕРАГ

Высокі Бераг, родны, мілы!
Люблю я твой пясчаны скат
І хвоек нізкіх гурт пахілы,
Капцоў гранічных цэлы рад.

Люблю той лес, што над табою
Высока ўзняў свае камлі;
Яго ж карэнні над вадою
Нібы вянок табе сплялі...

Струменіць Нёман срэбраводны
У тваіх прыўдалых берагах,
А ў лозах ветрык вее згодны,
І ходзіць шум па чаратах.

Высокі Бераг, кут мой мілы!
Люблю я жоўць тваіх пяскоў,
Разложных хвоек гурт пахілы
І ціхі гоман лазнякоў.

## ДУМКІ САЛДАТА

Разлучыўся салдат з сваёй роднай сям'ёй,
Развітаўся ён з домам сваім.
Знае лес баравы, дзе дыбаў ён ступой,
Што за думкі віліся над ім.

Замірала душа, млела сэрца яго,
Засціласіся вочы слязьмі.
Кінуў жонку адну і дзяцей... на каго?
Хоць ты з жалю разбіся вазьмі.

Разважае бядак, дом не йдзе з галавы,
Пахілілася з гора яна.
І, здавалася, з ім плакаў лес баравы,
Быццам думка была ў іх адна.

У нязнанай далі мы дажджэмся чаго?
Прападзеш, бы й на свеце не жыў.
І не скажа ніхто, дзе магіла яго,
Дзе ён косці свае палажыў.

Скрозь прагалін лясоў былі хмаркі відны,
Ў сінім небе іх нікла руно.
І, здавалася, з ім смуткавалі яны,
Як бы гора было ў іх адно.

Эх, за што? Ну, за што, адкажэце вы мне,
Я павінен другіх зніштажаць
Ці калечыць сябе ў гэтай дзікай вайне
І пад кулі свой лоб падстаўляць?

Вы, што селі ўгары, як вас, каты, назваць?
Не шкада вам нявінных людцоў.
Самадурства сваё вы гатовы купляць
Мільёнамі нашых галоў!

## ГАЙ

Люба ўспомніць гай зялёны,
Сосен пышныя кароны,
Гурт прыўдалы іх камлёў,

Дзе так ціха, так прывольна,
Дзе і сам жывеш супольна
З жыццем хвояў і дубоў,

Што стаяць тут з даўніх часаў
І на хвоі зораць ласа,
Бы на красачак-дзяўчат.

Я хадзіў адзін, маўклівы,
Ды вясёлы, ды шчаслівы,
Думкі думаліся ў лад.

Эх ты, гай! Не раз, бывала,
Тут душа адпачывала,
Сэрца цешылася... Чым?

Толькі ж хто пра гэта знае?
Ты ды я, ды маладая...
Хто? — пра тое памаўчым!

## ГУСІ

Гусі, гусі, вырай вольны!
Сумен крык ваш, гусі:
Леціцё вы ў свет раздольны
З нашай Белай Русі.

Засмуткуюць зноў балоты
Без вас, госці лета,
Занудзяцца, як сіроты,
Лозы там да свету.

Бабыль-вецер на світанні
Пойдзе ў свет шырокі,
Пойдзе ў злосці, буркатанні
Аглядаць валокі.

А вы, гусі, пад аблокі
Крыллямі ўзмахнеце,
Каб не бачыць, як асокі
Гне і ломіць вецер.

Што ж? Ляціце — для свабоды
Вам і крыллі служаць...
Толькі ж шкода чагось, шкода —
Па вас далі тужаць.

І гаруе сіратліва
У чырвань лес адзеты...
Ой вы, гусі! панясλі вы
За сабою лета!

## ВОРАГАМ

За што лілася кроў людская?
За што гібеў і гінуў люд?
Гібеў набытак ўсяго краю
І пакаленняў гінуў труд?

І бег народ, бы ў час паморку,
Закрыўшы вочы, ў белы свет,
І толькі дым ўздымаўся горкі,
Крыжы азначвалі іх след.

А колькі нашых дзетак мілых
Па тых шляхах вайны ляжыць.
Пануе ціш на іх магілах,
І край разбураны маўчыць.

І вы цяпер рукамі ката
Гатовы згоду дараваць?
Але ці можна у вас брата,
Скажэце, каіны, прызнаць?

Вам не па сіле груз цяжэрны
Вайны, што самі вы ўзнялі,
Знішчэнне, мах яе бязмерны,
Згінота цяжкая зямлі!

Не вы дасце народам свята,
Не вам пажар вайны заліць!
Дык рукі прэч, забойцы, каты!
Не вам аб згодзе гаварыць!

## ДЗВЕ ДАРОГІ

Над балотам, над лясамі
Жураўлі крычаць,
Бы сваімі галасамі
Хочуць вестку даць,

Што цяпло мінецца скора
І заглухне бор,
У полі сіняга прастору
Ты не ўгледзіш зор,

Што нагоніць хмар вятруга,
Наплыве туман,
І абніме гора-туга
Поле, лес, курган.

Разам з вамі ў вольны вырай
Палячу і я,
Толькі ж к смерці стане бліжай
Сцежка там мая.

Леціцё вы ў край паўднёвы
Зіму пераждаць,
Каб на весну песняй новай
Родны кут вітаць.

А я еду, госці лета,
У той крывавы вір,
Дзе вар'яцтва ўсяго свету
Свой спраўляе пір.

## ДА ПРАЦЫ

Браты! Вялікая дарога
Чакае нас і родны край —
Жніво настала, працы многа,—
Навукі семя засявай!

Святло нясеце — ў мроку дрэмле
Наш мілы край, наш родны кут.
Хай уваскрэснуць нашы землі,
Няхай асветліцца наш люд.

Хай будзе спор нам у прыгодзе!
Не царскі біч, не панскі хам,
Хай будзе лад ў сваёй гасподзе
Стварэць народ-уладца сам.

## Дзядзька Пранук

### ВЕЦЕР

Гудзіць у поўнач — сосны ломіць
І плачыць вецер у бары,
І белы снег да неба гоніць
Чаму ж так, вецер, плачаш ты?

Ах, плачу я, што ноч без сонца,
Нідзе дарогі не знайду
І так кідаюся бясконца,
Не знаю сам, куды лячу.

Ў грудзях баліць і сэрца млее,
І так маркотна на душы.
Калі ж дзянёк нам заяснее;
Чаму так, сэрца, млееш ты?

## З. К.

### КАБЫ МНЕ ДЫ СКРЫДЛЫ

Кабы мне ды скрыдлы, людзі!
Каб я голас меў —
Не сядзеў бы ў гразі, ў брудзе —
Ўсё б я песні пеў!

І пра хмаркі, што срэд неба,
Траўку зялянeньку,
Пра то жытка, што дасць хлеба,
Гвязду залаценьку.

Гаварыў бы я з мясёнцам,
Як яму жывецца,
І запеў бы я прад сонцам
Над ракой, што льецца...

Ўсюды быў бы, ўсё б разведаў,
Чаго вы не чулі;
Пасля другам бы паведаў,
Каб яны ўзглянулі...

Ўсюды песні я спяваў бы
На зямлі і небе,
Сваю песню я аддаў бы
Кожнаму ў патрэбе.

А найбольш бы пеў для маткі,
Што прадзець старая;
Пеў бы я для роднай хаткі,
Для роднага краю...

І для брата беларуса
Песню я злажыў бы,
І хоць ў жыцці нашым куса,
Слёзы з ёй забыў бы.

## ПАД СЦЯНАМІ ТУРМЫ

Колькі ўздохаў і слёз пад сцянамі турмы,
Колькі гора пад ёй раздаецца...
Дзесьці гінуць ўначы, срэдзь буры і цьмы;
Гэта скарга далёка нясецца;
Хто сядзіць у турме, той не слышыць — чуе
Слёзы жонкі, дзяцей адзінокіх;
І ён бедны над доляй слёзы горкія лье
Ў падзямеллях, у ямах глыбокіх.
Час такі уж настаў, што нямала людзей
Гіне ў турмах і гнець сваю спіну;
Шкода гэтых бяздольных, шкода іхніх дзяцей,
Шкода ўсіх ў гэту цяжку гадзіну...

## НОЧКА

Колькі дум ты мне навеяла,
Ночка цёмная мая;
Колькі слёз ў душу пасеяла,
Колькі гора прынясла!

Цёмна ты, дліна, нявесела,
Так як жыцце мужыка...
Толькі хмараў панавесіла —
З іх дождж льецца, як рака.

Вот кабы скончалась ночанька,
Каб дзень светленькі настаў;
І каб на то мая мочанька,
Гэту б цёмнасць разагнаў.

Доўга, доўга людзям прыйдзецца
Шчасця на зямлі шукаць;
Не адна к нам ночка вернецца
Новы думкі наганяць...

## Марка Хмурны

### ВЯТРЫСКО

Вецер гамоніць ды байку адну
З часоў нядаўных вядзе мне сваю.
Сільных нас сокалаў вораг скаваў,
Гнаў нас далёка, ў няволю загнаў.

Скрыдлы дык рваліся ў вольны прастор,
Ў дальняе поле, высокі той ўзгор...
Ценжар кайданаў не дасць нам ляцець.
Весніку волі ярмо дык надзець?!

Стой жа ж ты, цёмных грамадаў пасол!
Сорам няволі не сцерпіць сакол!
Сокат панёсся ды голас той гром:
Дружна кайданы й ярмо мы сарвём!

Вораг у страсе, злы вораг дрыжыць,
Ў нас замірэння ўжо стаў ён прасіць.
Стаў ён сам гутарку тую плясці:
«Кіньце вы бітву са мною вясці,

Песні страшныя так смела спяваць,
Буру на царства маё наклікаць!
Шлеце ж ваякаў сваіх да мяне,
Ўбачу, што ёсць ў сакалоў старане?»

Добра! Мы просьбіну прымем тваю.
Дык жа ж паслухай: у нашым краю
Сокалы болей няволю цярпець
Думы не маюць: табе ж — не ўладзець...

Борзда ланцугі жадаюць скідаць.
Біч твой не будзе над намі свістаць!
Вецер гамоніць ды байку адну
Ціха вядзе пра маю старану.

## Мікіта Чышчавік

### ГЭЙ, АДКУЛЬ ТЫ, ВЕЦЕР...

Гэй, адкуль ты, вецер, выбачай, пытаю,
Разам з цёмнай ночкай прыляцеў ізноў?
Ты з якой старонкі дый з якога краю,
Ад якога мора, ад якіх сцяпоў?

Ці у ясным небе з зоркаю вячорнай
Дый з чырвонай хмарай здумаў жартаваць—
І дарогу страціў, бо у ночы чорнай
Многа звёзд і сцежак — роднай не пазнаць!..

Ці лазу над рэчкай ласкатаў забавай,
Ці па белым свеце сіратой блудзіў,
Ці у цёмным лесе гутаркай ласкавай
Ад дрымоты смутнай ты лісты будзіў?

Можа сярод збожжа разам з васількамі
Аб мужыцкай долі ты размову вёў?..
І ківала жыта ціха каласамі...
І матыль шчаслівы слухаць прыляцеў...

Гэй, зачні мне песню аб усім народзе,
Што заліты працай, кроўю і слязьмі.
Хай жа плачуць вочы, няхай сэрца млее,
Ты ж мне гэту песню заспявай — вазьмі!

Чаму светлай праўды не відаць ніколі,
Чаму нашы дзеткі ў беднаце ўзраслі;
А мужыцкай працы, а мужыцкай долі
Дый аб нашай крыўдзе цяжкай на зямлі...

Запылі ты пылам, зашумі лазою,
Упадзі ты з неба дробнымі слязьмі,

Загрымі над намі божаю гразою
І у цёмным лесе па лістах задзьмі...

Сконч яе... Ды гэтак, каб душа дрыжала,
Каб памеркла сонца, як грымотным днём,
Каб дубы скрыпелі, каб зямля стагнала,
Каб гарэлі вочы сілай і агнём!..

Каб у небе хмары рваліся ад страху,
Каб гудзеў гразою нешчаслівы край...
А я крыкну ж, крыкну мужыку, як брату:
«Да вялікай працы, братка, ты ўставай!»

## Альберт Паўловіч

### МАРЫ

Дні за ноччу цёмнай хваляй
Нікнуць ў вечнасць чарадой;
А мы йдзём, йдзём усё далей,
Барукаючысь з судзьбой.

Радасць, шчасце нас не знаюць,
Сэрца рэзка ўскалыхнуць;
За то слёзы набягаюць, —
Не даюць і уздыхнуць.

Смутак горне, з бяды гнёмся;
Страх і цёмна ўперадзі,
Але ўсё ж не паддаёмся,
Нешта кажа нам: «Ідзі!»

На дарозе страцім брата,
Жонка — мужа, сын — бацькоў...
Праца йдзе, брашчыць лапата,
Звон нясецца тапароў.

Ніпачым завея ў полі
Бура, лівень і жара...
Мчымся далей шукаць долі,
Пакуль сіла і пара.

Пакуль сэрца б'е у грудзі,
Пакуль кроў цячэ струёй, —
Дамагацца мусяць людзі
Праўды чыстай і святой;

Мусяць крыўду гнаць і завісць.
Слёз чужых нашто жадаць?
Згода лепей, як нянавісць,
Праўда можа шчасце даць.

* * *

*Ахвярую Якубу Коласу*

Ў хаце светлай і прасторнай
Холадна бясконца;
Праз акно хоць паглядае,
Ды не грэе сонца.
А на лаўках, скачанеўшы,
Ціха сядзяць дзеці:
Іх цікавіць, што вучыцель
Кажа ім аб свеце.
Дзе цяпло, звяры і птушкі,
Караблі ды мора,
Скуль багацтва і дастаткі,
Бедната і гора.
З чыстым сэрцам налягае,
Каб навукі семя
Бедным сельскім хлапчанятам
Усадзіць у цемя.
Мерзнуць дзеці і вучыцель
У халоднай хаце;
Іх душа адным сагрэта:
«Навука — багацце!»

## ВЯСЕННЯЯ ПАРА

Сонца, пагода, —
Ласка і згода;
Дзень ясны, мілы, —
Здароўе, сілы.
Спеў птушак ў полі, —
Думкі аб волі;
Ветрык чуць вее, —
Міласць, надзеі;
Квят, зяляніна, —
Вясёлая міна;
Праца да поту, —
Радасць, ахвота;
Песня і эха, —
Шчасце, пацеха...
— Во чары вясны!
Ці ж доўга яны?..

## І ПЛАЧ НЕ ПАМОЖА

Сын радзіўся на свет божы,
Як дзве кроплі з бацькам схожы, —
Гэта так здаецца.
Праз два тыдні кумы сталі,
Сынку «Зміцер» імя далі, —
Гэта так вядзецца.
Сын расце, ўжо знае смехі,
Ждуць з сынка бацькі пацехі, —
Гэта так здаецца.
Песцяць надта, смокчуць губы,
Зміцер лоўка б'е у зубы, —
Гэта так вядзецца.
Матка зноў неўсцерагае
Ён маленькі, дык не знае! —
Гэта так здаецца.
А ў Змітра без перастрогі
Параслі ўжо добры рогі,—
Гэта так вядзецца.
Што ні ўгледзіць, давай скора,
А то набярэшся гора, —
Гэта так здаецца.
А дадуць, таўчэ і псуе,
Паліць, смаліць, рве, муштруе,—
Гэта так вядзецца.
Дзярэ кніжкі, дзе злучыцца,
Бацька рады: будзе ўчыцца,—
Гэта так здаецца.
Кніжак многа накуплялі,
Сына ў школу адаслалі, —
Гэта так вядзецца.
Год, другі сынок у школе

Час не траціць на сваволле, —
Гэта так здаецца.
А ён, абы выйшаў з хаты,
Ловіць рыбы, б'е цыпляты,—
Гэта так вядзецца.
Зміцер, глянь, ужо дзяціна —
Сам — як мех, як сані спіна, —
Гэта так здаецца.
Не вучыўся, не стараўся,
З лайдакамі піў, спазнаўся,—
Гэта так вядзецца.
Маці кажа: «Ў войску будзе,
Там з яго мо выйдуць людзі», —
Гэта так здаецца.
Ўжо гвардзейцам сын харошы,
Піша к бацьку, просіць грошы —
Гэта так вядзецца.
Бацька шле — як скончыць службу,
Пасталее, звядзе дружбу, —
Гэта так здаецца.
Сын тымчасам, як грош мае,
Ў рэстаранах п'е, гуляе, —
Гэта так вядзецца.
Ну, няхай! як верне ў хату,
Завядзем яго ўсе к свату, —
Гэта так здаецца.
Ажаніць мо як удасца?
Аж куды там! Ліха, трасца! —
Гэта так вядзецца.
Ў вёсцы будзе яму міла.
Аж не так, не тут то была! —
Гэта так здаецца.
Зміцер прыехаў. Хмурыць вочы,
Ў вёсцы ўсіх і знаць не хоча, —
Гэта так вядзецца.
Не раўня яму ўсе сталі —
Світ, сярмяг не паскідалі, —
Гэта так здаецца.
У Змітра ўжо шмат зухвальства,
Ён і стражнік і начальства, —
Гэта так вядзецца.
Бацька рад і вёска рада:
Ёсць зашчыта, помач, рада,—

Гэта так здаецца.
Ды дарма уся спадзея
Ад такога дабрадзея, —
Гэта так вядзецца.
Дзе няшчасце, ці крадзежа,
Яго дзела трапіць свежа, —
Гэта так здаецца.
Але Зміцер ані дбае,
Як зап'ецца, дык гуляе, —
Гэта так вядзецца.
У шынку абіў парогі,
Маці цягне стуль за ногі,
Часта так здаецца.

## НЯЎМЕКІ І ЛЕКІ

Захварэў раз Аляксандра
І аслаб быў дужа,
Немач нейкая успала —
Ні скула, ні ружа,
Але шмат былі апухлі
Правы бок з рукою;
І ні днём, ні злашча ўночы
Ён не меў спакою.
Ўсякіх лекаў, зёлак, мазі
Перапрабавалі;
Цёрлі, дзёрлі, скрэблі, рвалі,
Мазалі і клалі —
Ані рады. Пайшла жонка
Хвельчара паклікаць.
Той прыйшоў. Абслухаў дудкай,
Пачаў пальцам тыкаць.
Акуратна бок абгледзеў,
Язык, горла, вуста,
Штось накрэмзаў на паперцы
Дробненька і густа.
«Прыкладайце, кажа, гэтым,
Я зайду ў нядзелю».
Баба плюснула у ручку
Свайму збавіцелю.
Хвельчар выйшаў. Баба зараз
(Спрытна вельмі была),
Мёдам змазаўшы, рацэпту
К боку прыляпіла.
У нядзелю хвельчар праўдзі
Зноў зайшоў дадому,
Сеў на зэдлі і пытае:

«Яково ж старому?
Як лякарства, ці хоць трохі
Ёсць якой папраўы?»
«Не, панок,—спыняе жонка,—
Не зусім цікава
Картка гэта шчэ на боку,
Прыкарэла дужа».
Хвельчар з дзіву аж затросся,
Ды бардзей да мужа.
Павярнуў,— аж т'кі і праўда
Рацэпт быў на целе;
Як наробіць тады крыку:
«Ці вы звар'яцелі?!»
Зноў спісаў другую картку,
Бабу без адкладу
Шле ў аптэку, ёй тлумача,
Каб зрабіць да ладу.
Глядзі, баба праз гадзіну
Ўжо дамоў прыпёрла
І з аптэчнай пляшкі корак
Выдзірала з горла:
Пальцам ткае, цвекам пора,
Не дасць рады матка.
Сын узяўся, а ён бачыў,
Як спраўляўся татка.
Сціснуў знізу, аб далоні
Калі пяткай жарне —
«Во як трэба!» — кажа матцы,
Чымсь час траціць марне.
Ўсё гатова. Маззю жоўтай
Баба вехцем добра
Шмаравала як належыць
Бок, руку і жобра.
Наліла міхстуру ў шклянку,
Як гарбаты, поўна,
Падала, тлумача мужу,
Нібы хвельчар, роўна:
«Мой Ляксандра, не спрачайся,
Зрабі па расказу —
Ён казаў па ложцы сёрбаць,
Не хватаць адразу!»
Але к вечару у той дзень
Ўжо лякарства шчэзла:

Стары сёрбаў, ўпадабаўшы,
Покуль толькі лезла.
Жонка зноў гадзіла мужу,
Шмаравала тлуста.
Глядзі, ўвечар у тэй пляшцы
Стала саўсім пуста,
Во, назаўтра баба зрана
Зноў лякарства просе:
Кажа «як панюхаць далі
І не засталося!
Трэба болей, калі ласка,
Каб на дзён хоць колькі!
Хвельчар злаяў,—
дзед чы жывы,
Чы хватаюць колькі?
Як стары, ці ёсць гарачка
І чы добра спіцца?»
Зноў тлумачыць пачаў бабе
Ды стаў з ёй сварыцца:
«Каб вас ліха, ўсе вы дурні,
Як адзін, у хаце,
На! І больш не спадзявайся,
Тут на месяц хваце!»
Плача баба і лякарства
Беражэ, скупіцца.
Лье ашчэдна ўсё пад меру
Перадаць баіцца.
. . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . .
... А праз дзве нядзелі —
Стары ўстаў з пасцелі...

## НОЧ НА ІВАНА КУПАЛУ

*Ахвярую Я. Купале*

Ноч беспрасветная, страшная, сумная
   Цяжка на землю сырую лягла;
Быццам як сонная, хмара пакутная
   Ціха, ледзь жыва, па небе плыла...

Сцелецца густа туман над дубраваю,
   К верху падымецца, зноў прападзе...
Дрэме над возерам вольха кудравая,
   Лісця прыткнуўшы к спляснелай вадзе...

Чуць скалыхнецца асіна срабрыстая...
   Я калачуся, займае дух мне,
Страхі здаюцца, а сіла нячыстая
   Путае ногі і ўзад мяне пхне.

Мораць сном вочы мне ведзьмы зласлівыя,
   Толькі не ім нада мною верх мець!
Чуў ад старых я, што жыцце шчаслівае
   Тых ёсць, хто з папраці кветку сарвець!

Хто пераможа сам страхі ўсе дзікія,
   Вызваліць кветку із ведзьмавых рук,—
Той таямніцы пазнае вялікія,
   Знаці не будзе ні крыўды, ні мук!

## РОДНЫ КРАЙ

Ты не пытай мяне, мой дружа,
Аб той краіне, дзе я ўзрос,
Аб днях пагодных, золкай стужы,
Аб роснай траўцы, поўнай слёз.

Пакінь пытаць аб кветках мая,
Што так пярэсцяць на лугах,
Дзе шчабятлівых птушак стая
Пяе і снуе па стагах.

Аздобнасць неба — сонца, зоры
Душу святлілі часта мне,
І сэрца, поўнае пакоры,
З падзякай к краю свайму мкне.

Пакінь пытаць, ці я збалелы
Свайго радзімага сяла
Пагляд санлівы і нясмелы
Яшчэ і сёння помню я.

А хто ж бы мог нямое поле,
Абшар квяцісты — сенажаць,
Дзе столькі працы, слёз уволю,
Так лёгка, здрадна зневажаць?

Пакінь пытаць аб хатцы курнай,
Аб плот абвіслы ля гумна,
Пра ціхі шэпт вярбы спахмурнай
Пры самай прызбе ля вакна.

Пра шлях, пра крыж на ройсце смутны,
Пра векавечны рад бяроз,

Касцельных вежаў звон пакутны...
Ўсё сэрца ўздрыгвае да слёз.

Пакінь, браток, не муч пытаннем
Аб роднай матцы, што ўвесь час
Мяне пясціла і з бажаннем
Мне над калыскаю не раз

Пяяла песні з цёплай верай,
Жадала долі, шчасця шмат...
Вер, тая песня сумнай лерай
Звініць у сэрцы ад тых дат.

Пакінь пытаць пра жніў з касьбою,
Начлег, агнішчы, карагод,
У вырай доўгай чарадою
Буслоў і жураваў адлёт,

Дзе звон касы, дзе песня жнеяк,
Дзе чуцен зычны рык кароў,
Туды душой нясуся неяк;
Рой светлых дум ўздымае кроў.

А родных птушак як убачу
Адлёт, іх шумныя рады,
Здаецца мне, што з імі трачу
Спакой і шчасце наўсягды!..

Пакінь пытаць аб край, аб мове:
Сваё над жыцце я люблю,
І ў прывітанні, ў кожным слове
Я беларускі тон лаўлю,

Што з глыбі шчырай, непадкупнай
Цурком з душы жывой плыве,
Дзе ў працы чорнай, цяжкай, рупнай
Сумленне з згодаю жыве.

Пакінь пытаць! Не дам я веры,
Каб Беларусь хто мог забыць:
Я пэўны — кожны з нас без меры
Любіў і будзе век любіць!!!

## ЛЕПШАЯ РАДА

**(У школе)**

«Ну, матулька, роб што хочаш
Ты з сваім Лук'янам, —
Бачыш, во, лабук вялікі
Ровен з бацькам Янам,
Але што, калі лянівы,
Дурны, горш ад быдла —
Мне ўжо годзе з ім вадзіцца,
Ды ужо й абрыдла.
Галавой у школе ходзіць,
Стаў хлапец нягодны,
Дзе пабіта ці разліта —
Лук'ян там нязводны.
Да навукі ён няздатны,
Толькі да сваволі;
Мусіш браць яго са школы,
Хай ганяе ў полі.
З яго толку век не будзе,
Кепская з ім рада, —
Стаў спрачацца, не спаўняе
Майго, бач, загаду.
Ты сама ўжо з ім спраўляйся,
Давай часта лазню;—
Гэта лепш за ўсё паможа
Кручанаму блазну!»
«Мой панок, святую праўду
Кажаш мне у вочы,
А чаму ж ты сам той лазні
Спрабаваць не хочаш?»
«Што-о... ці помніш, што ты кажаш?
Дурні вы абое!»
«Мой панок, даруй, здаецца,

Я ж кажу аб тое,
Што пан ласне радзіш сыну,
Але добра б была,
Каб пан так зрабіў, паслухаў
Як бы я прасіла...»
«Як жа хочаш? твайго сына
Не хачу чапаці!
Ты і бацька лепей самі
Спраўцеся у хаце».
«Не, панок, нашто?! не трэба
З ім нам мардавацца.
Ён і так шмат памякчэе
Будзе лепш старацца,
Калі б пан замест Лук'яна
Ды хлапца другога
Лазой зрэзаў, дык тады б мой
Прысмірэў бы многа».

* * *

Гляджу на змены у прыродзе:
Як гасне дзень і блеск зары,
Як ноч з паспехам надыходзе
І зоркі свецяць; як з гары
Устаў глыбокі месяц думны,
Глядзіць і цешыцца сабой,
Як дня няскончаны рух шумны
Змяняе жданы супакой.
І ў думку, поўную пакоры,
Я углыбляюся душой —
Аж там далёка, покуль зоры
Не бліснуць з ранічнай расой.
У хвілю гэту я шчаслівы —
Кругом спакой і цішыня —
І толькі матылёк блудлівы
Ўляціць і выляціць з вакна;
Шукае месца, дзе прыткнуцца,
Дзе прытуліцца, а мае
Услед за ім бягуць-снуюцца
Такія ж думкі ў галаве...
Вось матылька заняты доляй,
Сяджу, бывала, доўгі час,
І ў смутных думках мімаволі
Я застываў душой не раз.

## РОДНЫЯ МАЛЮНКІ

Люблю глядзець, як конь паволі
З сахой барознамі ідзе,
І чуць, як ціха, нудна ў полі
Араты песню завядзе.

Люблю глядзець, як брат наш сее
З малітвай шчырай на губах,
Як з кожным зерняткам надзея
Ў зямлю кладзецца у слязах.

Люблю, абходзячы ток, гумны,
Спаткаць вясёлую зару,
Глядзець, як лёгкі, зважны, думны
Туман ўздымаецца ў гару.

Люблю абшар лугоў прывольны
І слухаць стуль жалейкі стогн,
Калоссяў спелых шум павольны
І песні жней і кос пазвон.

Люблю я з ліповай лубкай святам
Усёй сям'ёй у лес сыпнуць,
Збіраць грыбы і там дзяўчатам
Ўдалую песню падцягнуць.

Люблю мяжой абходзіць мора,
Дзе грэчка скветчана, як снег;
Дзе пчолкі, снуючы ў прасторы,
Гудзяць, паўнюткія уцех.

Люблю я чуць, як песня льецца
Вясёлым рэхам на ўвесь гай, —

Вось спраўды толькі тут, здаецца,
І ёсць так жаданы рай...

Люблю — як з поля ўсёй па пары
Са збожжам цягнуцца вазы
І чуць, як колы у цяжары
Скрыпяць, моў ў зімку палазы.

Люблю я родныя прывабы:
Там лес, там шастае вятрак,
Тут буракі цярэбяць бабы
І у прыпол страсаюць мак;

Там канапельку рвуць дзяўчаты,
А хлопцы бульбу ў мех кладуць,
Тут дзед ледзь топчацца ля хаты,
У вуллях пчолачкі гудуць.

Там чуць далёка рык каровы,
Бляе авечка, — і пастух
На дудцы грае... Льюцца словы...
Наўкруг прыволле!... вольны дух!..

## Гальяш Леўчык

### ЗЛАМАЙЦЕ ДУДКУ

Зламайце дудку маю залатую!
Хай жаласліва не грае,
Няхай я стогнаў панурых не чую
У маім родным у краю!

Зламайце дудку маю залатую!
Ці ж мала стогнаў, нядолі
Плыве ўжо па нашым бадыльным полі?..

Я дудку вясёлу сабе прыгатую,
Што новую думку зазвоніць
І запяе нам песню другую!..
. . . . . . . . . . . .
Зламайце дудку маю залатую!

* * *

Каб усе так слёзы нашага народа
Раптам сабраліся ў дажджавую воду,
То такім бы ліўнем хлынулі, плылі,
Што другі патоп зноў быў бы на зямлі:
Сорак дзён і ночай дождж тагды ўсё ліў бы,
Цэлы свет вадою зноў ён затапіў бы!

Каб ўсю крыўду беднай Беларусі,
Стогны, боль, загубу (зносіць што ў прымусе),
То ад грому неба стала бы дрыжаць,
З перуноў маланак хутка бы аглухла,
Ад пракляцця ж сонца яснае патухла!..

## ПРЫ КАЛЫСЦЫ

— Пакалыш малога Цішку —
Плаксу гэту, хаця крышку!
Мо засне, як спаткі ляжа!..—
Мужыку так жонка кажа:

— Мы ж абое маем сына:
І твая ён палавіна,
Папалам трэ калыхаці: —
Крыху бацька, крыху маці.

— Гля, чаго ж ты зноў прыстала!!!
Маці трэ, каб калыхала!
Не маё з калыскай дзела! —
Так муж жонцы кажа смела.

Ты сваю вось палавіну
Можаш цэлую гадзіну
Калыхаць, аж сонца пачнецца,
А мая — няхай дзярэцца!

## Баўтрук

### МАЁ ЖЫЦЦЕ

Маё жыцце — адно гора,
Што лятае між людзей.
Ўсюды пуста, ўсюды гола...
Слёзы коцяцца з вачэй.

Хлеба мала, грошай трэба...
І клапоты і нуда;
Стогнеш, гледзячы на неба,
Шлеш жадання ўсе туда.

Там далёка, ў вечным небе,
Так спакойна, весяло;
Паглядзіш, ўздыхнеш па хлебе...
На душы лягчэй, цяпло.

Так ўсё жыцце едзе далей,
Жыцце труднае мае;
Ўсе надзеі, ўсе жадання
Не найдуць дарог сабе.

## Уладзіслаў Галубок

### ЧАКАЙ, БРАЦЕ!..

Ад году да году мужык наш марнее, —
А працы сваёй ён не мала кладзе, —
І ўсё без карысці: як ліст той гібее
У восень халодную — ў горы, ў нудзе...

Арэнда вялікая, — трудна звярнуцца:
Прадай хоць сярмягу, ды мусіш аддаць,
А голад, хвароба у знакі даюцца,
Дый ласкі, прывету ні скуль не чуваць.

Не чуў сабе «дзякуй!», хоць дух надрывае,
Хоць потам крывавым зямлю напаіў,
Хоць шчасця не бачыў і долі не мае,
Хоць варт, небарака, каб меней слёз ліў.

Хоць бедны грашыма, ды сэрцам багаты;
Хоць цёмны навукай,—ды з светлай душой.
У скрыўджаным бачыць ён роднага брата,
З ім дзеліцца шчыра астатняй крыхой.

Чакай, брат! Без часу не лезь у магілу!
Ўзмацуецца дух твой — яшчэ аджывеш!
Свет, браце, убачыш, пачуеш ты сілу
І песню свабоды гуртом запяеш!

## ЗАБЫТАЯ ХАТКА

Над соннай далінай
Відаць хмызнячок,
Пры ім сірацінай
Хацінка-ламок.

Жыве там гаротны
Дзядуля з дня ў дзень,
Збалелы, маркотны,
Снуе толькі цень.

Калісь быў ён молад,
Дуж быў, як той леў;
І холад і голад
Ён за нішто меў.

Жыццё прамінула,
Як сон той вясной,—
Старога сагнула
Бяда, неспакой;

Меў дзетак — вось сына
Забрала вайна,
Другога машына
Ў магілу звяла;

За імі і маці
Пайшла на той свет...
Астаўся у хаце
Адзін-адным дзед.

Сядзіць скачанеўшы,
Сагнуты дугой,

Не піўшы, не еўшы,
З нямою душой...

Віхура за хатай
Гудзіць і шуміць,
З пагудкай заклятай
У шыбы гручыць.

І як бы галосіць
Над ім сіратой
І нібыта просіць
На вечны спакой...

Крапіўся дзядуля —
Займацца стаў дух,
Прыйшла смерць-зязюля,
Як свечка, патух.

Чырвонае сонца
З-за лесу ўзышло,
У хатцы ваконца
Агнём заліло,

Ды хатка пустая —
Ўжо дзеда няма!
Цяпер там гуляе
І холад, і цьма.

## СЯРМЯЖНІК

Скажы мне, сярмяжнік! скажы мне, маркотны,
Адкуль ты? адкуль ты? з нядоляй сваей
Чаму век снуешся пуцінай гаротнай,
Чаму ты ўсіх чыста бядней і цямней?

Ці ты нарадзіўся ў такую часіну,
Ці кару якую зняволен адбыць?
Ці можа хто чары такія накінуў
І мучышся вечна — ні ў чым не ручыць.

Аж слёз не стрымаці, як губіш ты сілы,
Крывава гатоўлячы ніву к сяўбе:
Галодны, халодны да самай магілы, —
Усё на пажытак людзям, не сабе.

А людзі! Што людзі?! Яны не зважаюць
На працу, на чорную долю тваю,
Пагардаю кормяць, ваўком пазіраюць,
Ім толькі каб дуж быў варочаць зямлю.

Цярпі, мой ты браце, — і вер, што настане
Сярмяжніку лепшае шчасце, жыццё.
Вер, будзе тваё на зямлі панаванне,
Навекі зваюеш ты гора сваё...

А пакуль цёмна і сцежка блудліва,
Няпраўду ад праўды дзялі, аддзяляй,
І хоць цяпер мачыхай родная ніва,
Ты ў памяці мей свой народ і свой край.

## БУДУЧЫНЯ

Кіпіць работа, плыве пот,
І крык і гул, як гром;
Туды, сюды снуе народ.
Будуюць новы дом.

Лапаты рэжуць глыб зямлі,
Звініць сталёвы лом;
На месцы даўнай старыны
Будуюць новы дом.

Штодзень ў гору сцены йдуць
Ушыр і ўдоўж кругом;
Баліць мазоль, і рвецца грудзь,
А ўсё ж будуюць дом!

Настане дзень, надойдзе час,
Мы крэпку столь звядзём,
І лепшай прышласцю для нас
Быць мусе новы дом!

Працуймо, брацця! хай хутчэй
Наш льецца пот цурком:
Прыжджэм і мы святлейшых дней,
Як скончым строіць дом!..

* * *

Хачу мецць зямельку і мру без работы,
А чую, што сілы трываюць пакуль,
Я рад працаваць да крывавага поту
І жду ўсё падмогі — няма ніадкуль.

А людзі ў дастатках, дзе скарбаў ёсць многа,
Не дбаюць аб горы — ім бедны нішто...
І дзе галадоўля, дзе смутак, трывога,
Туды і скарынкі не кіне ніхто.

Глядзіце, зямелькі вось колькі пустуе!
Аблогам марнуецца колькі пасек?
А я даў бы рады, мне ж сіл не бракуе.
Без працы чы ж можа пражыць чалавек?

## Юэя Шчупак

* * *

Весела, смела
Мы пойдзем у даль;
За добрае дзела
Мы станем, як сталь!

Не будзем смуціцца, —
Што з смутку чакаць? —
Вось, лепш нам пусціцца
Ды шчасця шукаць.

Хоць доля нас злая
Прыцісне, як вуж,
Хоць сіл не хапае,
Хоць кожны не дуж, —

Гэй, братцы, з ахвотай
Старайцеся збыць
Ланцуг вы цямноты,
Што вочы нам цьміць!..

## ЯК ГЛЯДЖУ НА СВОЙ КРАЙ...

Як гляджу на свой край,
Дык аж сэрца баліць!
Пуста ніва — ўраджай,
Як тут жыць, як пражыць?

Дарма гіне дабро,
К ліху праца ідзе;
Сей, чакай — не ўзышло,
А ўзышло — не цвіце...

Час надойдзе жніва, —
Што тут жаці, збіраць?
Прыйшла восень, зіма, —
За што рукі заняць?

Гэй, змяніся жыццё!
Родны край, збагацей!
Непрыветнае ўсё
Ветрам вольным развей!

Хай загосціць пара,
Якой жджэм доўгі час;
Волі, свету, дабра
Хай прыбудзе у нас!

Хай нарэшце людзьмі
Пасля мук зажывём,
Песню ўсімі грудзьмі
Пасля слёз запяём!..

## І. Зн-ко

### ХАТА БЕЛАРУСА

На пяску ці на балоце
Стаіць хата беларуса;
Перад хатай хлеў пры плоце,
Ззаду ток — злыдням пакуса.

Вецер доску знёс са шчыта,
Сенцы бачацца панура;
Цэбар, мешалка, карыта;
Пішчаць свінні, лазяць куры.

А ў хаце — што за дзіва?
Ні пабелы, ні падлогі.
Стаіць лава, стаіць крыва,
Стол схіліўся, згнілі ногі.

Як бы нары, стаяць ложкі;
Поўна дыму, лезе ў вочы.
Свету сонца ані трошкі,
Як бы хмарна, як бы ночай...

Трашчыць бэлька, падгнівае;
На пасцель вада ліецца.
Ўвосень вецер завывае,
Зімой — снег блішчыць на сценцы.

Вот якая наша хата!
Ну, скажыце ж, ці багата?

# Максім Багдановіч

O voi, ch'avete gl'intelletti sani
Mirate la dottrina, che s'asconde
Sott'il velame degli versi strani
D a n t e. Inf. IX [1].

* * *

Чуеш гул? — Гэта сумны, маркотны лясун
Пачынае няголасна грацъ:
Пад рукамі яго, навяваючы сум,
Быццам тысячы крэпка нацягнутых струн,
Тонкаствольныя сосны звіняць.

Ці казаць, ад чаго пацямнела рака,
Зашамрэлі мацней каласы,
І аб чым шэпча ім галасок вецярка,
Што зіяе-дрыжыць на лісцёх лазняка:
Кроплі слёз ці халоднай расы?

[1] О вы, разумныя, зірніце самі,
І кожны настаўленне зразумее,
Захованае пад цудоўнымі вершамі.
Д а н т э. Пекла. IX.

## НАД ВОЗЕРАМ

Сонца ціха скацілася з горкі;
Месяц белы заплаканы свеціць,
Аглядае бахматыя зоркі,
Цягне з возера срэбныя сеці.

Ў іх русалкі заблуталі косы, —
Рвуць і блутаюць срэбныя ніці;
Ноч плыве над зямлёй, сее росы,
Ноч шапоча русалкам: «Засніце.»

## ЗІМОВАЯ ДАРОГА

Шпарка коні імчацца у полі,
Сумна бомы гудзяць пад дугой,
Запяваюць аб долі і волі,
Навяваюць у сэрцы спакой.

Ўюцца змейкай срабрыстай дарожкі,
Брызгі золата ў небе блішчаць,
І маркотныя месяца рожкі
Праз марозную мглу зіхацяць.

Поле нікне у срэбным тумане,
Снег блішчыць, як халодная сталь,
І лятуць мае лёгкія сані,
Унашуся я ў сінюю даль.

## ЗІМОЙ

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі снег!
Мяцель не вее, сціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег.

Як мары, белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць.
У небе зоркі ад марозу
Пахаладзеўшыя дрыжаць.

Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, светлы стоўп спусціў
І рызай срэбнаю раздолле
Снягоў сінеючых пакрыў.

Ўзрывайце ж іх санямі, коні!
Звіні, вясёлых бомаў медзь!
Вакол лятуць бары і гоні,
Ў грудзях пачала кроў кіпець.

## ПЕРАД ПАВОДКАЙ

Праясняецца пагода,
Бо звярнулася вясна.
Усё чакаеш, што прырода
Устрапянецца ада сна,

І пад птушы крык і гоман,
Даўшы хвалям вольны ход,
Прыпадыме бацька Нёман
На хрыбце магутным лёд.

Зазвіняць жалобна крыгі,
І бурлівая вада
Снег, размоклы ў час адлігі,
Змые з луга без сляда.

Дык разлійся ж раздольна
Ў чыстым полі і гаю,
І красой паводкі вольнай
Душу выпрастай маю!

# РАМАНС

Quand luira cette étoile, un jour,
La plus belle et la plus lointaine,
Dites-lui qu'elle eut mon amour,
O derniers de la race humaine.

Sully-Prudhomme[1].

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прывяла...
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла.
З гэтай пары я пачаў угледацца
У неба начное і зорку шукаў.
Ціхім каханнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў.
Але расстацца нам час наступае;
Пэўна, ўжо доля такая у нас.
Моцна кахаў я цябе, дарагая,
Але расстацца нам час.
Буду ў далёкім краю я нудзіцца,
У сэрцы любоў затаіўшы сваю;
Кожную ночку на зорку дзівіцца
Буду ў далёкім краю.
Глянь іншы раз на яе, — у расстанні
Там з ёй злiём мы пагляды свае...
Каб хоць на міг уваскрэсла каханне,
Глянь іншы раз на яе...

[1] Калі заблішчыць гэта зорка,
Самая цудоўная, самая далёкая,
Скажыце ёй, што ёй належыць маё каханне,
О, апошнія з чалавечага роду.

Сюлі-Прудом
(франц.).

## ДОСІ УЖО ПРАЦЫ

Гэй, варушыцеся, коні панурыя,
Досі ўжо працы, бо сонца зайшло!
Ярка-чырвоныя, жоўтыя, бурыя
Боразны ў небе яно правяло.
Хутка ўжо зоркі зірнуць сіняватыя,
Месяц пакрые палі палатном...
Досі ўжо! З вамі вярнуся дахаты я
І пазабудуся сном.

## ЛЕТАПІСЕЦ

Душой стаміўшыся ў жыццёвых цяжкіх бурах,
Свой век канчае ён у манастырскіх мурах.
Тут ціша, тут спакой — ні шуму, ні клапот.
Ён пільна летапіс чацвёрты піша год
І спісвае усё ад слова і да слова
З даўнейшых граматак пра долю Магілёва.
І добрыя яго і кепскія дзяла
Апавядае тут. Так рупная пчала
Умее ў соты мёд сабраць і з горкіх кветак.
І бачанаму ім — ён годны веры сведак.
Што тут чынілася у даўныя гады,
Што думалі, аб чым спрачаліся тады,
За што змагаліся, як баранілі веру, —
Узнаюць гэта ўсё патомкі праз паперу!
Яно забудзецца, умрэ, з вадой сплыве,—
І вось у спомінах устане, ажыве,
Калі знайдуць яго няхітрае пісанне
Пра гэтае жыццё, надзеі, спраўаванне.
Так мора сіняе прымчыць да нас вадой
Бутэльку к берагу, аблітую смалой,
Усю ў дробных ракаўках і ў ціне. Не замала
Яна была ў вадзе і шмат чаго спаткала.
Рыбалкі вылавяць бутэльку, разаб'юць
І, як трапляецца, быць мо у ёй знайдуць
Ліста. Па звычаю марскому гэтак весці
Нам, утапаючы, шлюць людзі. У моры гдзесьці
Загінулі яны, і, можа, соткі год
З тых часаў працяклі, і згінуў іх народ,
І ўсё змянілася і ўжо пра іх забылі.

Вы, літары, цяпер нанова ўсё зблудзілі!
І людзі зведаюць аб прадзедах сваіх, —
Аб горы, радасцях і аб прыгодах іх,
Каму маліліся, чаго яны шукалі,
Дзе на глыбокім дне іх крыюць мора хвалі.

22. Зак. 848

## СЛУЦКІЯ ТКАЧЫХІ

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад персідскі ткуць яны.
А за сцяной смяецца поле,
Зіяе неба з-за акна —
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна,
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам ззяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі.
Цямнее край зубчаты бора...
І тчэ, забыўшыся, рука
Заміж персідскага узора
Цвяток радзімы васілька.

## С. Е. ПАЛУЯНУ

Глянь, як зорка у цемні ляціць,
Ўсіх чаруючы светлам сваім,
Быццам змей залаты зіхаціць
І стухае у небе глухім,

Але ўспомніць яшчэ зорку свет,
Бо у сэрцах гарыць яе след.
Так свабодна, так ярка пражыць —
Лепшай долі няма на зямлі.

Ўсё кругом на мамент асвяціць
І пагаснуць у цёмнай імглі.
Ўсё знікае, праходзіць, як дым,
Светлы ж след будзе вечна жывым.

## КРАЮ МОЙ РОДНЫ! ЯК ВЫКЛЯТЫ БОГАМ...

Краю мой родны! Як выкляты богам —
Столькі ты зносіш нядолі.
Хмары, балоты... Над збожжам убогім
Вецер гуляе на волі.

Поруч раскідаліс родныя вёскі.
Жалем сціскаюцца грудзі! —
Бедныя хаткі, таполі, бярозкі,
Ўсюды панурыя людзі...

Шмат што зрабілі іх чорныя рукі,
Вынеслі моцныя спіны;
Шмат іх прымусілі выцерпець мукі
Пушчы, разлогі, нізіны.

Кінь толькі вокам да гэтага люду —
Сціснецца сэрца ад болю:
Столькі пабачыш ты гора усюды,
Столькі нуды без патолі.

Песня пяе, як удовіна сына
Янку каханне згубіла;
Там, дзе панура схілілась каліна,
Беднага хлопца магіла.

Ў гутарках-казках аб шчасці, аб згодзе
Сэрца навін не пачуе.
Сціснула гора дыханне ў народзе,
Гора усюду пануе.

Хваляй шырокай разлілась, як мора,
Родны наш край затапіла...
Брацця! Ці зможам грамадскае гора?
Брацця! Ці хваце нам сілы?!.

* * *

Халоднай ноччу я ў шырокім, цёмным полі
Каля агнішча лёг і сціхнуў у паўсне.
Агонь усё слабеў... урэшце знік паволі...
І ўраз зрабілася вясёла неяк мне!..

Хай, шэры попел, ты агнішча ўсё сабою
Ў нядоўгі час здалеў, як рызаю, пакрыць, —
Я ведаю, што там агонь дрыжыць пад ёю,
Я ведаю, што там чырвоны жар гарыць...

Хай чарада гадзін панурых, нудных, шэрых,
Як попел, на душу мне клалася ўвесь час,
Хаваючы сабой агонь гарачы веры, —
Хай не відаць яго... а ўсё ж ткі ён не згас!

* * *

Рушымся, брацця, хутчэй
У бой з жыццём, пакідаючы жах;
Крыкі пужлівых людзей
Не стрымаюць хай бітвы размах...

Процi цячэння вады
Зможа толькі жывое паплыць,
Хвалі ж ракі заўсягды
Тое цягнуць, што скончыла жыць.

* * *

Даўно ўжо целам я хварэю,
　　І хвор душой, —
І толькі на цябе надзея,
　　Край родны мой!
У родным краю ёсць крыніца
　　Жывой вады.
Там толькі я змагу пазбыцца
　　Сваёй нуды.
Калі ж у ім умру-загіну, —
　　Не жалюсь я!
Не будзеш цяжкая ты сыну
　　Свайму, зямля.
Там хоць у гліне, хоць у брудзе,
　　Там, пад зямлёй,
Найдуць мае слабыя грудзі
　　Сабе спакой.

* * *

Калі зваліў дужы Геракл у пыл Антэя,
Як вецер валіць поўны колас да раллі, —
Ўдыхнула моц у грудзі сына мацер Гея,
І вось, цвярды, як дуб, яшчэ, чым перш, сільнее,
Ён, напружыўшыся, падняўся ўраз з зямлі.

Паломаны жыццём, чакаючы магілы,
Радзімая зямля, прынікнуў я к табе,
І бодрасць ты ўліла ў слабеючыя жылы,
Зварушыла маей душы драмаўшай сілы,
І месца ў ёй з тых пор няма ўжо больш жальбе.

* * *

Бледны, хілы, ўсё ж люблю я
Твой і мудры і кіпучы верш, Анакрэон!
Ён у жылах кроў хвалюе,
У ім жыццё струёю плешча, вее хмелем ён.

Верш такі — як дар прыроды,
Вінаграднае, густое, цёмнае віно:
Дні ідуць, праходзяць годы, —
Але ўсё крапчэй, хмяльнее робіцца яно.

## ПЕСНЯРУ

Ведай, брат малады, што ў грудзях у людзей
Сэрцы цвёрдыя, быццам з камення.
Разаб'ецца аб іх слабы верш заўсягды,
Не збудзіўшы святога сумлення.

Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з цярпеннем.
Як ударыш ты ім, — ён, як звон, зазвініць,
Брызнуць іскры з халодных каменняў.

* * *

Вы, панове, пазіраеце далёка
Ў блеску сонца з велізарных плеч народных,
Але <светла> крые шмат чаго ад вока —
Днём не бачыце Вы зорак пуцяводных.

Загляніце жа, будзь ласка, Вы у студню:
Ўжо даўно счарнела і згнівае,
Але дно яе і ў ночы і ў палудню
У вадзе люстэрнай зоры адбівае.

К тым, каго жыццё заціснула глыбока
Ўніз, у норы падзямельныя пад Вамі,
Вы, панове, хоць і бачыце далёка
Загляніце ў душы — студні са слязамі.

## ТРЫЯЛЕТ

Калісь глядзеў на сонца я,
Мне сонца асляпіла вочы.
Ды што мне цемень вечнай ночы,
Калісь глядзеў на сонца я!
Няхай усе з мяне рагочуць.
Адповедзь вось для іх мая:
Калісь глядзеў на сонца я,
Мне сонца асляпіла вочы.

## МАЕ ПЕСНІ

I

Калі смутак моцна дзьме душу маю
І шкада мне дзён загубленых сваіх, —
Я паціху песні сумныя пяю,
Ўсю жуду сваю выкладываю ў іх.
Ціха песня разліваецца, звініць,
Вымаўляе, як я моладасць згубіў,
Як дагэтуль не патрапіў палюбіць,
І саўсім, бадай, праўдзіва шчэ не жыў.

II

А як родную згадаю старану,
Як згадаю яе беднасць і нуду, —
Сэрца сціснецца, і я пяяць пачну, —
Мо душу хоць трохі гэтым адвяду.
Грозна песня разліваецца, грыміць,
Долю горкую, мужыцкую кляне,
Бо нявідзімы ланцуг на іх вісіць,
Бо ім цяжка жыць у роднай старане.

## НА ЧУЖЫНЕ

Вакол мяне кветкі прыгожа красуюць.
Маркотна між іх я хаджу адзінок,
Аж бачу — мне сіняй галоўкай ківае
Наш родны, забыты ў цяні васілёк.
«Здароў будзь, зямляча!» Чуць бачны ў даліне,
Панура, нявесела шэпча ён мне:
«Ўспамянем, мой дружа, ў багатай чужыне
Аб беднай, далёкай сваёй старане».

## З ПЕСНЯЎ БЕЛАРУСКАГА МУЖЫКА

I

Гнусь, працую, пакуль не парвецца
Мне жыццё, як сагніўшая ніць;
А каб ведаў, што столькі пральецца
Майго поту, не стаў бы і жыць.

Адтаптаў сотні вёрст пехатом я,
Будаваў я дарогі, масты;
Ліўся пот мой, як рэзаў на ком'я
Плугам ґлебы сухія пласты.

Працаваў над пяском, над дрыгвою
І не мала там выцерпеў мук,
І не прыйдзецца мне пад зямлёю
Гэтых чорных саромецца рук.

А канаць ужо час: пот і слёзы
Мне жыццё, нібы мышы, грызуць,
Гора гне, як мяцеліца лозы,
Цэлы век не дае мне дыхнуць.

Шчасце ж гляне і ў даль пранясецца,
І магу я аб ім толькі сніць...
Дык няхай жа, няхай сабе рвецца
Мне жыццё, як сагніўшая ніць.

II

Я хлеба ў багатых прасіў і маліў,—
Яны ж мне каменні давалі;
І тыя каменні між імі і мной
Сцяною вялізнаю ўсталі.

Яна усё вышай і вышай расце
І шмат каго дужа лякае.
Што ж будзе, як дрогне, як рухне яна?
Каго пад сабой пахавае?

## ВЕЧАР

На небе месяц ўстаў зялёны
І хутка стане снегавым.
Над лесам, дзе шапочуць клёны,
У небе месяц ўстаў зялёны...

Ўсё спіць. Не бачыць свет стамлёны,
Што, свецячы праз хмарак дым,
У небе месяц ўстаў зялёны
І хутка стане снегавым.

## МАЯ ДУША

Мая душа, як ястраб дзікі,
Што рвецца ў неба на прастор,
Вартуе вольных птушак крыкі, —
Мая душа, як ястраб дзікі.

Учуўшы іх, страсе вялікі
Свой сон, шыбне ды вышай гор, —
Мая душа, як ястраб дзікі,
Што рвецца ў неба на прастор!

* * *

Не бядуй, што хмары
Сонца свет схавалі.
Нарадзіцца мусіць
Бура з гэтых хмар.
Праўда, ўсё прыціхла...
Бор замоўк і хвалі,
Але будзе бура,
Тым мацней удар!

## САНЕТ

Замёрзла ноччу шпаркая крыніца;
Твая пара, зімовая нуда!
Цяпер няма ўжо руху ні сляда,
І нават зверху слоем снег лажыцца.
Ды ўсё дармо, бо там, пад ім, струіцца
Магутная, жывучая вада.
Чакай! Яе йшчэ прыйдзе чарада!
Здалее хваляў хор на вольны свет прабіцца.

Прыклаў я гэты сімвал да сябе,
Схіліўшыся ў надсільнай барацьбе,
І разгадаў прыроды роднай словы.
Як — прамаўчу, бо кожны з вас — паэт.
Рассейце ж самі лёгкі змрок прамовы,
Сваей душы туды праллiце свет!

## НА МОГІЛКАХ

(Рондэль)

Амур і сумны і прыгожы
Стаіць з павязкай на вачах
Ля склепу. Часам лёгкі пах
Сюды даносіцца ад рожы.
Паўсюль крыжы, вянкі... Чаго жа
Тут, дзе магілы, сцень і прах,
Амур і сумны і прыгожы
Стаіць з павязках на вачах?
І ціха думаў я: быць можа,
Любоў, палёгшы ў трунах,
Перамагла і смерці жах!
Спачніце ж! Вечна на старожы
Амур і сумны і прыгожы.

## ТРЫЯЛЕТ

Мне доўгае расстанне з Вамі
Чарней ад Вашых чорных кос.
Чаму ж нядобры час прынёс
Мне доўгае расстанне з Вамі?
Я пабляднӗў ад горкіх слёз
І трыялет пачаў славамі:
Мне доўгае расстанне з Вамі
Чарней ад Вашых чорных кос.

## САНЕТ

Прынадна вочы ззяюць да мяне;
Чароўна усміхаючыся, губы
Адкрылі буйныя бялеючыя зубы...
Ласкавы шэпт... Гарачай хваляй мкне

Кроў к сэрцу маяму. Мана ўсё або не?
Ці верыць мілым абяцанкам любы?
Мо гэта жар, пылаючы для згубы,
Хавае сцюжу пад сабой на дне?

Так, іншы раз, над соннаю зямлёю
Агністаю дугою залатою
Прарэжа цемень яркі метэор.

Гарыць ён, іскры сыпе і нясецца,
Бліскаючы мацней ад ясных зор, —
А ў глыбіні халодным астаецца.

## МЯЖЫ

Кінь вокам на увесь абшар зямлі:
Вось хату шчыльна абышлі
Парканы з гострымі цвікамі,
Пасыпаныя бітым шклом,
Глядзі — ў прасторах за сялом
Мяжамі
Падзелены на нівах каласы,
Ідуць канаўкі праз лясы,
І стопудовыя гранічныя камені
Сярод лугоў бяскрайных заляглі.
Шнуры штыкоў па ўсёй зямлі
Гараць, як дзікае хаценне,
На гасударстваў рубяжы.
Глядзі: паўсюль мяжы.

Нязмерны вольныя прасторы
Святой зямлі, — а чалавек
Мяжы, ірвы, тыны рабіў за векам век,
Хаваўся ў іх, як ліс у норы,
І жыў пужліва сам — адзін,
Дрыжачы, як лісцё асін,
Зласлівы, бессардэчны, хцівы,
Такі здрадлівы,
Для ўсіх чужы, зусім чужы.
Вакол яго — платы, мяжы.
Пабач, што робіцца за гэтымі платамі!
Ў надмернай працы гіне тут
Галодны і абдзёрты люд,
Каторы моцнымі рукамі
Стварыў усе багацтвы на зямлі:
Правёў ён скібы на раллі,

Ён рэйкі пралажыў чыгунак,
Заводаў коміны падняў у выш нябёс,
А сам даўно сляпы ад слёз
І ўжо забыўся аб ратунак.
Глядзі: па ўсёй зямлі святой
Шырокай хваляй залатой
Без краю блішча збожжа мора,
Цвітуць лугі, шумяць лясы...
Так многа ёсць паўсюль багацтва і красы,
А людзі нішчацца у голадзе, у зморы
Ад беднаты, ад цемнаты,
Бо скрозь — мяжы, бо скрозь — платы.

## МАКСІМ І МАГДАЛЕНА

Гэй, пайду ж я па вуліцы
Ў тое поле за аколіцу.
Ля аколіцы і плот і гарод,
Завіваецца хмялінушка.
Ды чаму ж цябе, зялёную,
Градам-дожджыкам не выбіла?
Ты, хмялінушка вясёлая,
Раскудравая хмялінушка,
Загубіла буйну голаву,
Буйну голаву Максімаву.
Максім у карчомцы гуляе,
Ён гуляе — крыж прапівае,
Да таварышаў сваіх выгукае:
«Піва-мёд у карцы налівай,
Каб лілося аж за край, аж за край,
Песню гучную яшчэ завадзі
Ды цымбаламі падыгрывай!»
Ґэй, як скрыпнуць, як утнуць гапака —
Толькі сцены захадзілі у шынка.
Струны звонка вымаўляюць з-пад рукі,
Ёмкім дробам выбіваюць хадакі.
Іх сталёвыя падкоўкі звіняць;
Ля парога людзі добрыя стаяць,
Падпяваюць, прыгаварываюць
Ды Максіма ўсё пахваліваюць.
Ён сядзіць — не памалу п'е,
Пад цымбалы у далоні б'е,
І хмяльна жа яго галава,
Мова дзіўная так-такава:
«Магда, Магдачка,
Мая кветачка-пралесачка!

Не кахацца мне, хлопу, з табою,
Ваяводы старога дачкою.
Сёння з войтам цябе заручаюць,
Рушнікі вынімаюць,
Русу косу тваю прапіваюць.
То не траўка-павіліка расплятаецца, —
Наша вернае каханніца канчаецца.
Ўжо не будзеш гуляць, як бывала,
Цалаваць, як раней цалавала,
Выхадзіць у сад апаўночы,
Глядзець ненаглядпаму ў вочы.
Ты марцовага снегу бялей,
Броўкі — долі сіроцкай чарней;
Не забыць іх сэрцу ніколі,
Не бачыць да веку патолі.
Ліся, піва, цячы, як вада,
Бо пала на сэрца нуда!»
У хмялю Максім гавора, не чакае гора,
Да пачула тыя словы шынкароўна Сора.
Ўзяла Сора да палацу шпарка пабяжала,
Ваяводзе а прыгодзе ўсё пераказала.
Гэй, як грымне ваявода у памост нагою:
«Налажы ж ты, ледацюга, буйнай галавою!»
Толькі ўчулі тое слугі — зараз паспяшалі,
Ланцугамі хлопу ногі закавалі,
Павялі на пляц кірмашовы,
На памост высокі сасновы.
Людзі добрыя ўкруг стаяць.
Ён ідзе-не-йдзе, супыняецца;
Белы ручанькі па баках вісяць,
Ногі борздыя вагаюцца.
Ды не жаліцца да людзей Максім,
Толькі кажа ён аб цымбалы ім,
Хоча зноў пачуць тое гранніца
У астатні раз,
У смяротны час,
На апошняе са светам развітанніца.
Вокам кінуць — цымбалы дасталі,
На памост на высокі паклалі.
Устрахнуў Максім кудрамі — годзе плакаць, годзе.
Цяжка-важка, сумнёсенька ён заводзе:
«Не вятрыска са поўначы павявае —
Ціха сон у камору ўступае,

Вочы мне стуляе, ацьмянжае,
То не птушка ў гняздзечку ўстрапянулася —
Маё сэрца улякнулася.
Снілась мне — я ўзмежкам іду,
Поруч збожжа калыхаецца,
Поруч збожжа калыхаецца,
Буйнай срэбнай расой асыпаецца.
Сёння споўніўся той нядобры сон,
Сёння споўніўся цераз дзевяць дзён:
Праз цябе, дзявоцкая краса,
Слёзы коцяцца, як буйная раса».
Ціха ўсё — толькі струны звіняць,
Толькі песня разліваецца.
Людзі добрыя навакол стаяць,—
З болю сэрца разрываецца.
Гэй, было б табе, Максім, не кахацца,
На вяльможную дачку не заляцацца.
Устрахнуў Максім кудрамі — годзе плакаць, годзе.
Цяжка-важка, сумнёсенька ён заводзе:
«Магда, Магдачка,
Мая зоранька ясная,
Маё сонейка прэкраснае!
Ой, ад сонейка
Па зямлі цвяты расцвітаюць,
Ад яго ж яны й пасыхаюць.
А ты, сонца, свеціш,
Залатое, святое,
І не ведаеш тое».
Ціха ўсё — толькі струны звіняць,
Толькі песня разліваецца.
Людзі добрыя навакол стаяць,—
З болю сэрца разрываецца.
Гэй, было б табе, Максім, не кахацца,
На вяльможную дачку не заляцацца.
Устрахнуў Максім кудрамі — годзе плакаць, годзе.
Цяжка-важка, сумнёсенька ён заводзе:
«Мае дзетачкі, мае дробныя,
Вы наплачацесь, нагалосіцесь,
Бо не стане у вас татачкі!
Хто вас будзе гадаваці, адзяваці?
І ад цёмнай ночы укрываці?
Станеце вы, дзеткі, жабракамі,
Пойдзеце барамі-лугамі,

Ды гасцінцамі-дарогамі.
А дарогі тыя без канца ляжаць, —
Без канца вам, дзеткі, гора горкае цярпець».
Ціха ўсё — толькі струны звіняць,
Толькі песня разліваецца.
Людзі добрыя навакол стаяць,—
З болю сэрца разрываецца.
А як смерцю Максіма скаралі, —
Рукі белыя да брамы прыбівалі,
Рукі белыя да брамы мястовай,
Галаву — да вежы вартовай,
Каб дажджы яму кудры мачылі,
А вятры бы сушылі,
Каб крукі прыляталі — вочы дзюбалі,
Ўсе бы людзі пазіралі — ды не забывалі.

* * *

Маладыя гады,
Маладыя жаданні!
Ні жуды, ні нуды,
Толькі шчасце кахання.

Помніш толькі красу,
Мілы тварык дзявочы,
Залатую касу,
Сіняватыя вочы.

Цёмны сад-вінаград,
Цвет бяленькі вішнёвы, —
І агністы пагляд,
І гарачыя словы.

Будзь жа, век малады,
Поўны светлымі днямі!
Пралятайце, гады,
Залатымі агнямі!

* * *

Выйшаў з хаты. Ціха спіць надворак.
Наплывае радасць, з ёю — сум.
Не злічыць у небе ясных зорак,
Не злічыць у сэрцы светлых дум.

Шмат зазнаў я горычы з нудою,
Што шчаміла, мучыла, пякла...
Ўсё ужо прайшло, сплыло вадою, —
Моладасць не знікла, не прайшла!

## СТРАЦІМ-ЛЕБЕДЗЬ

Не анёл у трубу уструбіў —
З хмары бог старому Ною гаварыў:
«Поўна з краем чаша гневу майго
На людскія грахі ды бясчыннасці.
Вось надойдзе часіна суворая,
Лінуць з неба залівы бязмерныя
І абмыюць ад бруду смуроднага
Ўсю зямлю яны, белы-вольны свет».

Пачынаў тут Ной будаваць каўчэг
З таго дзерава ліванскага.
Ўшыркі гэтаму каўчэгу — сто лакцёў,
А ўдаўжкі — болей тысячы.
Ды узяў туды Ной і птах і звяроў,
Каб не звёўся іх род з зямлі.
Ды не плыў к яму з мора сіняга
Страцім-лебедзь — горды, моцны птах.
Яго звычаі — арліныя,
Яго ўцехі — сакаліныя;
Пер'і-пер'ечкі бялеюцца
Ды на золаку агнявеюцца.
У яго ў крыле — трыста тры пяры:
Узмахне крылом — быццам бор шуміць,
Узмахне другім — што мяцель гудзіць.

Як учнуць дажджы — пацякла вада,
Разлілася горш ад павадкі.
Затапіла ўсе лугі-лагі,
Ўсе лугі-лагі, ўсе лясы-бары;
Уздымаецца вышэй ад гор.
Птахі ў небе стаяй лётаюць,

Енчаць жаласна, ад нуды крычаць,
Выглядаюць стуль прытулачку.
А па ўсей зямлі толькі хвалі б'юць,
Толькі хвалі б'юць белай пенаю.
Ды па іх дужы, смелы плавае
Страцім-лебедзь — горды, моцны птах.
Узмахне крылом — быццам бор шуміць,
Узмахне другім — як мяцель гудзіць.
І населі тут на лебедзя
Птахі дробныя усёй стаяю.
Лебедзь з сілы выбіваецца,
Птушкі ажна усцяшаюцца.
Дзень ён плавае, другі-трэці дзень,
На чацвёрты стаў прасіць-маліць:
«Вы ўзляціце хоць на час які,
Выбіваюся з астатніх сіл.
Дайце вы грудзям, гэй, вальней ўздыхнуць!
Дайце вы крылам, гэй, шырэй ўзмахнуць!»
Не паслухалі птахі лебедзя.
Пацямнела у яго ў вачах,
Крыллі ўрэшце падламаліся,
Галава ў ваду апусцілася.
І пайшоў на дно мора сіняга
Страцім-лебедзь — моцны, горды птах.

Ад усіх цяпер патомкі ёсць,
Ды няма адных — Страцімавых.

* * *

Набягае яно
Вечарамі, начамі,
Адчыняе акно
І шамрэе кустамі.

І гавора адну
Старадаўнюю казку —
Аб любоў і вясну
І жаночую ласку.

Сэрца сніць аб красу —
Аб слядочак дзявочы,
Залатую касу,
Сіняватыя вочы.

Як забудуся сном
Ў сіняватыя ночы, —
Прылятаеш ты ў дом,
Пазіраеш у вочы...

## Цішка Гартны

### ПЕСНІ ГАРБАРА

1

Я — рабочы-гарбар,
Рыцар працы цяжкой,
Із жалезнай душой,
З сэрцам зыркім, як жар.

У вачах іскры маіх,
А жалеза ў руках,
Скура гнецца ад іх
У адзін міг, ў адзін мах.

Ці задуха, ці чад —
Усё на сэрцы маім,
Але ўстрашыці, брат,
Не здалее нічым.

Кроўю цёплай сваёй
Абліваю тавар,
А слязою з вачэй,
Што сплывае праз твар,

Харашу я яго
Дзеля смаку людзям...
Не, жыцця я свайго
Ля другіх не аддам.

Я здружыўся з трудом,
Я ў ём рос, я ў ём крэп;
Запрацованы хлеб
Люблю мець за сталом.

Не хачу, не прывык,
Склаўшы рукі, хадзіць:
Я гарбар-працаўнік,
Я жыву, каб рабіць!

Маю сілу і гарт,
Імі грудзі гараць...
Дый што ў гэтым я варт,
Што магу працаваць,
Не гатовае браць?

2

Ах, як стрэлка марудна ідзе,
Быць знарок хоча час працягнуць
І не ведае болю грудзей,
Што так вельмі канца яны ждуць!

Нібы нехта трымае яе:
Ані ўперад, ні ўзад не спяшыць!
А так хочацца, хочацца мне
Ўжо работу сваю палажыць!

Цэлы дзень за паганым сталом,
Цэлы дзень скуру цвёрдую скроб, —
Стаючы укапаным калом,
Я задухай атрутнаю соп.

Не глядзеў і не бачыў нічуць,
Што там ёсць на дварэ за акном:
Ці там ветры халодныя дзьмуць,
Ці зямелька спавіта цяплом.

Навакола чатыры сцяны,
А на іх — запляснеўшая столь:
У сабе завалілі яны
Усю крыўду, жаданне і боль.

Вось і вечар... хаця я на міг
На адзін сабе шчасце найду:
Кіну-рыну усё і усіх
Ды у поле за лес я пайду.

Ды як стану сярод там лагоў,
Ды адкрыю збалелую грудзь...
Будуць з пахам прынадным ліссткоў
Ветры цёплыя ўцехаю дзьмуць.

І прасмаглую душу маю
Ўспоюць воляй шырокіх палёў,
Упрыгожаць пакутную ўсю
Цеплатою пахучай сваёй.

А як сілы — жывіцелькі той
Набяруся даволі ў палёх,
Мне лягчэй стане ў працы цяжкой
У майстэрні сцянах чатырох!..

3

Не здавайся, гарбар,
Ты за працай сваей,
І на шчасця прыход
Не заплюшчвай вачэй.

Песню вольную пой
У дыму, ў духаце,
І надзея твая
Няхай кветкай цвіце.

Бо дзе сіла жыве,
Дзе работа кіпіць,
Там насення зярно
Лепшай долі ляжыць.

І ты мукай сваёй
Глебу ладзіш яму
І сам сееш яго
Ў заарану зямлю...

Не здавайся, гарбар,
Ты за працай сваей:
Глебу пільна гатуй,
У ёй шчасце, брат, сей.

## 4. ГАРБАР НА ВАНДРОЎЦЫ

*Цімоху Г.*

Дождджык пакрапляе,
Дзень стаіць халодны;
Шпаламі махае
Ў пуць гарбар галодны.

Ногі чуць клыпаюць
І грабуць няўмела;
Вочы пазіраюць
Сумна, асавела.

Адпусціліcь рукі
Ад цяжкай утомы...
Дзе ж сканчэнне мукі
Яго, невядома.

Сэрца болем рэжа,
Сэрца болем плача...
Ў зношанай адзежы
Халадно аднача!

Косці боль ламоча,
Цяжасць забірае:
Гарбар есці хоча,
Хоча, ды не мае.

Ўчора йшчэ з астаткам
Грошы ён расстаўся:
Ў месцы на дзесятку
Ён падмацаваўся.

І пайшоў на вочы
Холадам-слатою,
Каб дайсці да ночы
Ў месца дзе другое.

Каб хаця дзе мала
Працы расстарацца:
Сэрцу б лягчэй стала,
Як ісці бадзяцца!

Але што ж? — не чуюць
Людзі і не бачаць,
Як браты гаруюць
І ў нядолі плачуць.

А на крык: «работы!»
«Ў нас няма!» — гукаюць;
З дзікаю ахвотай
Далей адсылаюць.

Не спытаўшы брата,
Ці ён есці «хоча»,
Ці ён знойдзе хату
Адпачыць уночы...

Вось ідзе памалу,
А куды — не знае;
З шпалы ды на шпалу
Ціханька ступае.

Падбіў ногі моцна
І стаміўся дужа;
На людзей ён злосны,
Злосны і на сцюжу.

З горада у горад
Блукае, клыпае:
Гоніць яго голад,
Холад падганяе.

А ўслед за імі — гора,
Гора следам ходзіць
І усім гавора:
Гарбару прашкодзіць,

Каб ён не дабіўся
Сабе лепшай долі,
Шчасця не дажыўся
На векі ніколі!

А за што? — хто знае!
Чым ён вінаваты?..
Доля, бач, такая —
Ёю ён пракляты...
. . . . . . . . . . . . . .

Дожджык пакрапляе,
Па гразі хлюпоча, —
Гарбара пужае,
З гарбара рагоча.

А у тахт начынне
З дажджом песню грае, —
Сэрца ад ёй стыне,
Кроўю ацякае.

Поўны ўвесь клапотаў,
Ідзе гарбар, спяшыцца...
Дзе ж то на работу
Ён прыстанавіцца?!..

### 5. ПЕСНЯ ГАРБАРА

Я ўсё жыццё сваё, дзень у дзень, год у год,
Зямлю цяжкай лапатай капаю, як крот;
Век пад сонцам, дажджом гну пакутную спіну;
Раскідаючы глыбамі торфу і гліну,
Ліпкі глей, як смалу, ды цяжарнейшы жвір;
Я праводжу канавы удоўжкі і ўшыр,
Як бы стужкамі зямлю абвязваю ўкруг
І дарогу гранічу, гранічу я луг,
І спускаю з балотаў я лішнюю воду,
Ды раўкі рэжу я ля платоў агароду.

Так ўсё жыцце сваё варушуся ў зямлі,
Хоць пад сонцам жыву, а калі-нікалі
Толькі бачу я вокам адкрытым яго.
Хоць не змерыць наўкола прастора ўсяго
Неаглядных палёў, неаглядных лугоў,—
А кармлюся красою я іх дзеля сноў,
І у мёртвым сваім ў незварушаным сну
Бачу шчасця свайго ў завяданні вясну.

Я ўсё жыцце сваё дзень у дзень, год у год,
Зямлю цяжкай лапатай капаю, як крот,
І так многа я, многа я пракапаў!
Направодзіў шырокіх і доўгіх канаў,
І прарэзаў я цэлыя мілі равоў:
Шмат, ой, шмат так са свету балотаў я звёў,

І багата вады цераз іх прапусціў,
А ў ваду тую шмат я крыві свае ўліў
Дый з гарачым сваім яе потам мяшаў, —
Пад вадою ж на дне сваё гора схаваў!

Я ўсё жыццё сваё дзень у дзень, год у год,
Зямлю цяжкай лапатай капаю, як крот,
Натачыўшы жалеза лапаты свае,
Я ўсё долі шчаслівай шукаю сабе.
У халоднай, нячулай зямлі
Можа хто захаваў яе, матку, калі
І дагэтуль яна без рухання ляжыць,
А зямля не пускае яе к людзям жыць.
Вось то я яе тут і шукаю цяпер,
І, як толькі знайду, пракапаю ёй дзвер,
На расхлест іх прад ею слугой расчыню,
Хай нясе яна свету ўсю радасць сваю.

Я ўсё жыццё сваё дзень у дзень, год у год,
Зямлю цяжкай лапатай капаю, як крот,
І як многа яе я ужо пракапаў!
Што ж за працу сваю я ў адплату дастаў?
Што за плён мне зямля за труды прынясла,
За той пот і за кроў, што сабе узяла,
За бурлівую рэчку гарачых тых слёз,
Што ўсё жыццё маё паабмыў імі лёс?..

О, дала яна мне, ой, за працу дала:
З калючковых раслін мне вяночак спляла,
З медзі звонкай цяжкой даравала шнурок,
А дарогу жыцця ухарошыла ў мрок,
Каб я шоў, як сляпы, каб бясконца ішоў,
Зямлю вечна капаў і дабра не знайшоў!..

## ПЕСНЯ

Салавейка на каліне
    Песню распявае.
Плача сэрца па разлуцы
    З табой, дарагая.

Хоць шуміць ручай бурлівы
    Гутарку бясконца,
І калыша галін сплёты
    Ветрык на сасонцы.

Хоць рунеюць прад вачыма
    Яравыя нівы,
І ўсё гэта мне гавора
    Аб красе шчаслівай.

Ўсё ж я нудны, нездаровы,
    Гору патураю,
І хвіліна у хвіліну
    Цябе ўспамінаю.

Ўспамінаю ясна, жыва
    Веснавыя ночы,
Маладыя твае шчокі
    І чорныя вочы.

І расшумленыя коскі
    На плячах, на грудзях...
Мілы вобраз твой на момант
    Сэрца не забудзе.

Яно плача, моцна плача,
    Жаліцца на долю,

Што заўсёды пагарджае
    Сэрцам без патолі.

Што не чуе яго болю,
    Болю крывянога,
Разлучыўшы так з каханнем
    Мяне, маладога...

Я так пэўна не з'яснею
    Той красы вялікай,
Што ліецца свету сонцам
    Ў яго дзіўным бліку.

Я не чую, што гавора
    Песняю мне пташка...
Без цябе так, дарагая,
    Сумна мне і цяжка!

## Я ДАЛЁКА...

Я далёка цяпер ад цябе,
Я далёка, далёка — ў чужыне;
І так сэрца няшчаснае стыне,
Што далёка цяпер ад цябе!

Я няведамай сіле падданы,
Ля таго неразлучны з табой,
І жыву я табою душой,
Ўсё няведамай сіле падданы.

Нібы ветрык паважна шуміць
І на волю з сабой завабляе...
Вобраз твой прада мной вырастае
І гавора, як ветрык шуміць.

А хоць сэрца пытае падчас:
Ці не кіне той ветрык шумеці,
Ці захочаш мяне мілым меці,
Вечна сэрца пытае падчас.

Я стараюся думаць адно,
Ўсё няведамай сіле падданы:
Мы з табою на векі звянчаны...
Я стараюся думаць адно.

## НЕ ЖАРТУЙ...

Не жартуй ты з мяне
Ласкай цёплай сваей,
Не чаруй ты мяне
Зіркам дзіўных вачэй.

Не кажы мне: «люблю»,
Што я твой, не кажы, —
А за словам «люблю»
Пачуццё ты вяжы.

Бо любоў, то не зык
Ад пустога слаўца,
А любоў — святы крык
Маладога жыцця.

І каханнем душа
Можа праўду казаць,
Усю святасць душа
Яе можа спазнаць...

Не жартуй жа з мяне,
Не кажы, што я твой,
Раз не любіш мяне
Сваей чуткай душой!..

## ВЕТРУ

Вей ты, вольны вецер,
Вей па чыстым полі
І шукай усюды
За мяне ты долі.

Праляці зямлёю
Скрозь па свеце белым
Ды шукай старанна,
Ды шукай умела.

Можа яна блудзіць
Па лясах, пустынях,
Збіўшыся з дарогі,
У пустках дзікіх гіне.

Можа злыя людзі
Дзе яе стрымалі
І ў замкі з жалеза
Яе закавалі,

Ды яна не можа
Вырвацца на волю, —
Усё яе пільнуюць,
Не даюць патолі...

Вей жа, вольны вецер,
Вей па свеце цэлым
І шукай мне долю,
Ды шукай умела.

А калі дзе найдзеш,
Прывядзі з сабою, —

Я хацЯ на хвілю
Падзіўлюся ёю.

Пагляджу, пабачу,
Што яна за дзіва,
Ці папраўдзе можна
З ёю жыць шчасліва.

А табе ж за гэта
Вецер, адплачуся:
Перад тваей моцай
Нізка пахінуся.

## ДЗЕ ВЫ, ГАДЫ МАЛАДЫЯ...

Дзе вы, гады маладыя?
Дзе тое шчасце мае?
Жду я вас часы даўгія,
Жду на яву і у сне.

Дзе тыя рожы, віргіні
Вашых салодкіх надзей,
Неба высокія сіні,
Свежасць зялёных палей?

Дзе вашы шчасныя мары,
Гэй, маладыя гады!
Што вас закрыла ўсе хмарай
Цяжкага гора й бяды?

Буйныя ветры раздулі
Ваш недажданы прыход...
Землю ў снягі апранулі,
Жыцце скавалі у лёд.

Краскі цвісці не сумелі —
Воля баіцца палёў!
З боку мяне праляцелі
Краскі шчаслівых гадкоў.

## ДА КЛЯНІНЫ

Бедная клянінка,
Што ты пахмурнела,
Апусціла ралы,
Лісцем пажаўцела?

Запрапала зелень
Свежасці вясёлай,
І стаіш панура
Над халодным долам!

Эй, скажы, клянінка,
Скажы, дарагая,
Што цябе за гора
Губіць і знішчае?

Ці благія хмары
Цёмнай грамадою
Надламалі сэрца
Бураю ліхою?

Ці сухія ветры
Шырокага поля
Закавалі душу
У дзікую няволю?

Ці маланкі з громам
Цябе разабілі,
Ці благія рукі
Корань падрубілі?

Ці сама ты з тугі,
Бедная кляніна,

Без віны завяла
Ў жыцці сірацінай?

Ты скажы, клянінка,
Што ты пахмурнела,
Апусціла ралы,
Лісцем пажаўцела?

## СЭРЦУ ВОЛЮ!..

Сэрца ў грудзях б'ецца,
Нібы выйсці хоча;
Нудна яму ў клетцы
Цёмнай, як цень, ночы.

Сэрца свету хоча,
Яму волі трэба,
Песень, шчасця, красак,
Шырокага неба.

Сэрцу цяжка стала
Скутаму трасціся,
І ад ран з кайданаў
Болі разрасліся.

Ды хоць адну каплю
Волі яму дайце
Вылецець гуляці
Эх, не прашкаджайце.

Хутка адапрыце
Пад замкамі дзверы,
Каб яно не ўмерла
Ў муках тых без меры.

К вольнаму паветру
Сэрца адпусцеце,
Хай яно рунее
Пры зялёным цвеце.

* * *

Хочацца мне кветкі, свежае, пахучай,
Хочацца мне ласкі, цёплае, кіпучай,
Хочацца шырокай, нязмеранай волі,
І шчаслівай, рэзвай, маладзенькай долі.
Хочацца прастору неаглядных даляў,
Краскамі убраных, непрытомных жаляў
Ад любасці шчырай, светлай і салодкай.
Хочацца ўсяго так хоць на час кароткі,
Каб я мог з'явіці запытанне тое:
Ля чаго я ўкінут ў мора жыццявое?..

## Я — НІШТО

Часта ў нутры маім закіпае агонь
Нястрыманых жаданняў і смаг,
І я страшным раблюсь, як распуджаны конь,
Не магу устаяць на нагах.

Буйным ветрам вось-вось я гатоў зашугаць
І сярдзітым віхром закруціць,
На пуціне сваёй ўсе прашкоды зламаць
І дарогу, як ток, пралажыць.

І што ў свеце жыве недаступна людзям,
Здэцца, раптам я ўсё захвачу,
Адно выберу міг — ды дам волю крылам,
Як стралой, на вайну палячу.

Але сілы стыхій у прыродзе кругом,
Як з'яўлю я празрыста ў вачах,
Ды зраўню іхню моц і з бурлячым агнём
Сваіх дробных жаданняў і смаг,

Я нявольна тады засмяюся душой,
Затушыўшы агонь нутраны,
Ды спытаю сябе, нібы сам я не свой,
Для чаго і на што я гадны?

## СВАБОДА

Я убачыў яе іздалёк
Сярод ночы цямлівай, глухой,
Убіраўшай яе ў цёмны змрок
І пяяўшай літанне над ёй.

Я убачыў яе — і ураз, як агонь,
Як усходняга сонца лучы,
І хутчэй, як распуджаны конь,
Паляцеў да яе, крычучы:

«Не ўцякай ты, багіня красы,
Зоркі водблеск зіячага дня!
Дай напіцца тваей мне расы,
Дай часціну твайго мне агня.

Я засмагшую душу расой
Воладачнай усю акраплю,
А агонь гэты дзіўны я твой
У сэрцы свежым сваім запалю.

І, як вырваўшысь з клеткі той звер,
У бой з няпраўдай ліхой паляту,
Хоць да шчасця шукаючы дзвер,
Сваім жыццем за ўсё заплачу!..»

Вось наўкола ад крыку майго
Раздавалася рэха, як гром;
Аж да месца святога таго,
Дзе стаяла яна, бег бягом.

І расставіўшы рукі свае,
Як галодны, што хоча самлець,

Я стараўся даткнуць да яе
І ў мірганню святом распылець.

Але ночы хаўтурная цьма
Шчыльна-шчыльна павісла над ёй.
І у змроку пасмугла яна
Перад смагай гарачай маёй.

Ды як быццам далася на крок
Далей, далей, назад ад мяне,
І ізноў паказалась здалёк,
Разагрэўшыся ў зыркім агне.

Я ж не стаў, не жахнуўся патом,
А ўсе сілы ў сабе пасабраў,
І з гарачым душэўным агнём
Смела к ёй я зближацiся стаў.

І іду я за ёю цяпер,
Бо яна прада мною гарыць
І ціхутка здалеку маніць:
«Ты дагоніш мяне, толькі вер.

Не глядзі, што наўкола цябе
Непрабачная ночка стаіць;
Біся з ёю, і ў той барацьбе
Ты патрапіш мяне улавіць!..»

Вось я йду, палажыўшы зарок
Хоць жыццём за яе заплаціць...
А яна ўсё мне свеціць здалёк
І заве да сябе, і маніць.

## НЕБА І ЗЯМЛЯ

Хоць чароўна ты, неба, ўсяды,
Хоць ты пекна ў сваёй вышыне, —
    К тваёй высі туды
    Ўсё ж не хочацца мне.

На зямлі на халоднай, сырой,
Дзе ні зораў, ні сонца няма,
    Дзе — нядоля і цьма,
    Я шчасліўшы душой.

У красе у тваей усё спіць,
Як бы спалена страшным агнём,
    На зямлі ж б'е, кіпіць
    Жыцце бурным руччом.

* * *

Ў буры, ў навальніцы,
Ў грому, ў бліскавіцы,
У сібірным гуле
Ветраное сілы,
У хваленні мора
І ў шуменні бора
Шмат чаго мне міла,
Шмат чаго мне блізка!

Ўсё кругом трасецца,
Ўсё кудысь нясецца,
Ломіць і знішчае
На пуці прашкоды.
І няма ні звання
Сілам тым стрымання,
Як яны гуляюць,
Як яны бушуюць...

Хочацца пусціцца
З імі мне й забыцца;
Што я чую, бачу,
Ведаю і знаю.
І ламаці ломам
З ветрам, з бурай, з громам
Ўсю бяду ліхую,
Што ў жыцці пануе
З краю і да краю!..

## ЧАГО Я ХАЧУ

Не прашу забыцця я ў цудоўных чарах,
Каб не мецъ ніякіх думак і клапотаў,
А сядзець, не дыхаць у салодкіх марах,
Абсыпаны макам ціхае дрымоты.

Не прашу забыцця на зямлі панурай,
Не прашу святога, дзіўнага спакою, —
А прашу я моцна, і прашу я буры
Цёмнае, сібернай, страшнае і злое.

Каб ад ветраў шумных ўся зямля траслася,
І танула неба у цямнячай хмуры,
Із якой маланка з громамі б лілася
Да зямлі драмотнай, да зямлі панурай.

Не прашу спакою, не прашу забыцця,
Бо жыццё заўсёды ў цішы замірае, —
А прашу я буры, бо із буры жыцце
З сілаю магучай біцца пачынае.

## СЛОВА І ЖЫЦЦЁ

Часта чую я словы людзей:
«Чорнай думкай душы не даві,
Прымірайся з усім, як ідзе,
І хвілінай, маментам жыві!

Любі сонца вясенняга блік
І вячэрняга неба убор,
Любі птушак спяванне, іх крык,
І гамонку ручча паміж гор.

Упівайся прасторам палёў,
Разадзетых ў багаты нарад;
Расцвітай сярод белых лілей,
Што ўбіраецца імі ўвесь сад.

Кожнай капляй жыцця даражы,
Калі хочаш хоць з хвільку пажыць,
І хаценню, пазывам служы,
Калі ў сіле ты ім паслужыць!

Бо жыццё, колькі маем яго,
Нам даецца адзін толькі раз,
І даецца яно ля таго,
Каб яго ты скарысціў якраз».

І пад словы я гэтых людзей
Рад бы поўна і буйна пажыць,
Жыць здаволеным ўсім, што ідзе,
У бога шчасця бязмерна маліць.

Але тут мне гаворуць пра то —
Непрытомны ты, крохкі блазнюк,

Ласне можа шчаслівым быць хто
Сярод гора нядолі і мук?

Уласне ў сілах ты шчасце пазнаць
І спакойным бясклопатным быць,
Калі брацця ад гора крычаць,
Калі брацціям тваім цяжка жыць.

## СОН

Пад небам высокім, над полем шырокім
Ноччу я сніў, што лятаў,
І пільным паглядам зырклівага вока
Наўкола сябе аглядаў.

Чароўнай здавалася мне ў спачыванні
Зямля ўся убрана ў цвяты,
Ні гора, ні мукі не знаючы звання,
Спакой адзін знаўшы святы.

І думкай абхвачаны свежай, кіпучай,
Зямлі я свабоднай гукнуў:
«Зямля, ты чароўна, вяліка, магуча,
Дух шчасця цябе апрануў!

І дзіўнаю вабіш к сабе красатою
Ты вольную пташку — мяне;
Цяпер будзе лепей ўжо жыці з табою,
Як ў вольнай лунаць вышыне!..»

## ДА НЕМНА

Эх ты, Нёман-рака!
Ці ты думаў, ці сніў,
Як слязу мужыка
У свае воды лавіў;

Як стаяў над табой
Сын нядолі худы
І над цёмнай вадой
Спяваў песні нуды, —

Што надыдзе пара —
Знемажэнне міне,
Адраджэння зара
Над народам блісне?

Што з балячых грудзей —
Беларусі дзяцей, —
Над табой загудзе
Песня вольных людзей.

## РОДНАЙ КРАІНЕ

Я люблю гэты вобраз краіны,
Дзе відаць абшары кругом,
Курганы і пустыя раўніны
І балоты, заросшыя мхом.

Я люблю гэты вобраз краіны,
Дзе Дзвіна і чысты Нёман плывуць,
Між лясоў, паміж гор, праз лагчыны
Свае воды у мора нясуць;

Дзе раскінуліс шэрыя вёскі,
А ў іх родныя песні чутны, —
Песні — долі людской адгалоскі,
Песні-жальбы загнанай душы.

Я люблю гэты вобраз бясконца,
Тыя вёскі, балоты, гаі,
Бо радзіўся я ў гэтай старонцы
І памру мо у гэтай зямлі!

* * *

*(Якубу Коласу)*

Не хістайся, дуб зялёны,
Ад напору страшнай буры,
Не хіні сваёй кароны
К зямлі нуднай, к зямлі хмурнай.

Не глядзі пудлівым вокам
На узрывы дзікай сілы, —
А ваюй на кожным кроку
За жыццё аж да магілы!

## З ПЕСЕНЬ ГАРБАРА

Сагнуўшыся я ля варштата стаю —
І скуру ўвесь дзень без прыстанку я гну,
  Я скуру ўсё гну,
  Нядолю кляну
  І песню пяю.
Дзёгаць і лой мае рукі раз'елі,
Шчокі ў гразі і духоце счарнелі,
  Краска завяла,
  Шчасце прапала, —
  Скура забрала...
Там, за акном, ціха неба сінее,
Сонейка дзіўна і свеціць і грэе,—
  Я ж у спякоце,
  Працую у поце, —
  Я на рабоце!..
Цягнуцца к лесу чароўныя далі;
Лугам зялёным усю зямлю ўслалі,
  Як дыванам;
  Там ночкай і днём
  Вяселле кругом...
А я, адарваны ад гэтай красы,
Запёрты нядоляй ў чатыры сцяны,
  З сабачкай, нажом
  І ноччу і днём
  Стаяў за сталом...

* * *

Эх, баліць жа душа,
Сэрца рвецца, баліць;
Колькі гора, нуды
Давялося пражыць.

Чуць радзілась на свет,
А ў кароткі той час
Пазнаёмілася
Ты з нядоляй не раз.

За работай стаіш
Ці свабодна ідзеш,
Як належнае што,
Яе, ведзьму, вядзеш.

А лёс цяжкі, глухі
Ціха збоку стаіць —
На ахвяру сваю
Мілым вокам глядзіць.

## НАДЗЕЯ

Калі ў полі ветрык павее,
Ён траўку ўскалыша сабой,
Пылок на сцяжынках рассее,
Ўскалыша спакойнай вадой...
На небе збярэ ён хмурынкі,
Пасыпе на землю дажджом
І вялую возьме раслінку:
Абмые, сагрэе жыццё...
Калі ў сэрца сходзіць надзея,
Ці думка аб светлым аб чом,
Яна душу ўсю сагрэе,
Як сонца агнёвым лучом,
Аблегчыць цяжар ўвесь пакуты
Акрэпіць жывою расой...
Здаецца тады ты раскуты,
Здаволен людзьмі і сабой.

* * *

Дружна, з ахвотай,
Гэй, за работу,
    Брацця, скарэй;
З песняю зычнай
Ў працы прывычнай
    Будзе спарней.
Гора з нядоляй
Не знойдуць патолі
    Доўга між нас;
Весела і хутка,
Мінута ў мінутку
    Сойдзе нам час;
Ў стуку і груку
Забудзем мы муку
    Працы сваёй.
Шчыра і смела,
Гайда да дзела
    Цеснай сям'ёй!
Там, дзе цярпенне,
Ў цемры гніенне,
    Стане расці
Семя жывое,
Шчасце святое
    Пасеем ў жыцці.
Дружна, з ахвотай,
Гэй, да работы,
    Брацця, скарэй,
Праца святая
Хай прывітае
    Нас ўсіх хутчэй!..

## ЗАГУДЗІ ТЫ, ВЕЦЕР

Загудзі ты, вецер,
Скалыхні вярбіну;
Заспявай ты песню,
Мілая дзяўчына!

Заспявай, як птушка
Летняю парой,
Каб было мне шчасна
Пасядзець з табой;

Каб сагнала песня
Ўсю нуду ліхую
І ўвабрала душу
Ў вопратку святую:

Радасці, вяселля,
Шчасця і любові...
Каб нуды сарвала
Моцныя аковы...

Заспявай, галубка,
Заспявай, дзяўчына!..
Скалыхні ты, вецер,
Скалыхні вярбіну.

## ПЕСНЯ ЖНЯІ

Пад сярпом маім крывенькім
Жыта хутка гнецца:
Сноп за снопам у рады
Покладам кладзецца.
Не баюся спекі я,
Сонца агнявога
І не чую, што баляць
Рукі, крыж і ногі.
Пот льецца ручайком,
Смага забірае;
Я ж, вясёлая, ўсё жну,
Жну, ды падпяваю.
Час паспешна так ляціць —
Скора вечар будзе, —
І я нівачку сваю
Так дажну, як людзі.
Ды паспею мо яшчэ
У снапы звязаці...
Ох, люблю, люблю сваё,
Сваё жыта жаці!
Як сажну яго усё
І звязём да хаты,
Будзем хлеба на год мець,
Будзем мы багаты...
А салодак свой хлябок
(Каб жа быў ён вечан!),
Хоць і чорны, і крупны,
І няўмела спечан.
Эй, хутчэй, хутчэй рука
Ты з сярпом махайся!
Будзь ты, жыта, ядраным

І ўмалотна ўдайся!..
Пад сярпом маім крывым
Хутка жыта гнецца.
Сноп за снопам у радок
Покладам кладзецца.

* * *

Мецъ бы жыццё бессмяротнае мне,
Мецъ бы вечныя, свежыя сілы;
Я аддаў бы усё старане,
Старане сваёй роднай і мілай!

На кускі, на крупінкі, як пыл,
З кожным днём я б па ёй разлятаўся
І часціны нязмераных сіл
Ў кожным месцы дадаць бы стараўся.

А дзе трэба было б заплаціць
Дзеля шчасця народу сабою,
Я хутчэй пастараўся б там быць
І сваёй адкупіцца душою...

І так з году у год, да тых дзён
Па кусочку б ў ахвяру я клаўся,
Пакуль цяжкае долі праклён
З стараною маёю расстаўся.

Каб мецъ жыццё бяссмяротнае мне,
Каб мецъ вечную свежую сілу,
Я аддаў бы усё старане,
Старане сваёй роднай і мілай.

## КАСЬБА

Не апалі йшчэ ранныя росы
І сонца не стала сіяць,
Як вострыя ў поплаве косы
Вясёла і зычна звіняць!
Бліскаюць рэзва на сонцы,
Свішчуць, шумяць у траве...
Думкі жывым валаконцам
Ўюцца ў касцоў ў галаве!
Радая, гнецца травіца
Радам, пракос у пракос!
Радасць у сэрцы іскрыцца,
Шчасце нам госпад прынёс!
Гэй, разыйдзіцеся рукі,
Косы так востра бяруць,
Цела не ведае мукі,
Ногі спачынку не ждуць.
Сонца з нябёсаў сіяе,
Ветрык нячутна шуміць;
Роўна трава правядае —
Весела сена сушыць!
Песнямі спорыць работу —
Бабы і хлопцы пяюць.
Поўны працоўнай ахвоты
Сэрцы іх родныя б'юць...
Зыкі срабрыстыя клёпу
Песняй маркотнай звіняць,
Ссохшае сена у копы
Бабы спяшаюць складаць.
І тут жа растуць ўвачавідкі
Тоўстыя копы у рад...
Многа выказвае пррыткі,

Вясёлы поспех дзяўчат!
Праменнямі смуглыя твары
Ў працы жывой аддаюць.
Многа гадзіны прыпару,
Сіл у людзей адбяруць.
Толькі не дарма ўсе сілы
Людзі сціраюць свае!
Праца ўвесь свет ускарміла,
Праца нам шчасце дае.
Працаю сілы прыроды
К людзям у слугі ідуць,
З ёю жа ў свеце народы
Лепшае й долі прыждуць!

* * *

Свеціць месяц серабрысты,
Зоркі рэзва зіхацяць;
Дрэвы, інеем ўвабраны,
Зачарованы стаяць...

Па шырокаму абшару,
Неагляднаму кругом,
Плывуць цені лёгкай хмары
То паціху, то бягом.

Ўжо гуляе разам з імі
Вёрткі дзед — стары мароз,
І ліе вакруг вачыма
Міліёны іскраў — слёз...

## МНОГА СІЛ МАЛАДЫХ

Многа сіл маладых
У грудзях у маіх,
    Як прастору у полі.
Няма рады адно
Адчыніць ім вакно
    І даць поўную волю!
Я б тады ў адзін міг
Дабыў шчасце для ўсіх
    І дабыў бы ўсім долю...

## НЕ ПАКІНЬ МЯНЕ, НАДЗЕЯ

Не пакінь ты, надзея, мяне,
На адну не пакінь ты хвіліну,
Дай глыбокаю вераю мне
У васкросшую верыць краіну!..
Напаі маю душу вінам
Нестрыманай, іскрыстай свабоды
І кажы мне галосна аб том,
Што пашлеш ты яе і народу! —
Бо ён сілай халоднай, ты знай,
І з нядоляй, і з горам звянчаны!..
Дык спявай жа мне песню, спявай,
Што ўваскрэсне мой краю каханы!

## СЯВЕЦ

Уставай, сявец,— бяры сяўню,
Аўса, вады давай уволю
Свайму таварышу-каню
І едзь паспешна з ім на поле.

Прыйшла вясна, і там цябе
Чакае звольненая ніва,
І зазывае ўжо к сабе
Сяўца-работніка зычліва.

За зіму ўспрэўшая зямля
Табе аддасць за працу многа!
Уставай, сявец! няхай сяўня
Не будзе пуста і убога.

Рукой зярнят бяры паўней
Ды кідай мерна жменя ў жменю,
Са збожжам ў сэрцы думкі сей
Надзеі, праўды, адраджэння.

Уставай, сявец! і тое знай,
Што думак ралля не абмане
І дасць багаты ураджай
За пот твой шчыры і старанне.

Уставай, сявец! Ідзі — гары
Здзярнелай нівы тваей гоні;
Прыйшоў твой час — ужо пара
Пачаць сяўбу яшчэ сягоння.

## Эдзюк Буйла

### ХВОЯ

Стаіць хвоя ў полі,
Думае панура:
Што тады з ёй будзе,
Як спануе бура?

Як дажджліва хмары
Паплывуць па небе,
Як застогне вецер,
Веткі пацярэбе?

Ох, тады не мала
Пагубляе сілаў,
Не раз сведкай будзе
Не аднэй магілы!

Адно мае веру,
Што заблісне сонца,
Лёгка ў сваім краю
Будзе жыць сасонцы!

## СКОРА ЗІМА

Скора зіма. Надаелі
Восені хмурныя дні,
Лісця на дрэўцах зжаўцелі,
Пуста, куды ні зірні,
Сонца на небе не відна,
Ўсё яно ў хмарах сівых.
Птушкі ў адлёце. Завідна
Долі шчаслівай мне іх.
Вот каб мне скрыдлы! За імі
Скора пусціўся бы ў даль.
Толькі расстацца з сваімі
Нівамі, гонямі жаль.

## В. Каршун

### ВЯСНА

Доўга, доўга з надзеяю смутнай
Беларус наш дзён лепшых чакаў
І слязою гарачаю, мутнай
Загарэлы свой твар паліваў.

Ждаў вясны, бач, — і снег распусціўся,
Шум пайшоў па раках, па лясах;
Свет вясенняга сонца разліўся
Па ўсіх чыста зямельных вуглах.

Што ж? І сонца жыцця не даволіць,
Не вяселіць і птушчыны клік, —
З думкай цяжкай на чорнае поле,
Як глядзеў, паглядае мужык...

* * *

Прайшлі ўжо зімовы забавы,
Мінуліся цяжкія сны,
І сонца з усмешкай ласкавай
Глядзіць на зямлю з вышыны.

Няма ўжо і снегу на полі,
На небе паменшала хмар,
І моцна душою на волі
Цяпер размахнецца пясняр.

Тут ліпа, ў лісточкі адзета,
Абсыпана свежай расой,
І вабіць, і кліча паэта,
Ківае яму галавой;

А тут і кудравы бярозы
Ласкава пытаюць: «Аб чым
Ты плачаш? Нашто гэты слёзы?..
Глядзі, што за радасць кругом!..»

## Ядвігін Ш.

### ДЗЕД ЗАВАЛА

Жоўтага пясочку, —
Дый і тога мала
Меў наш дзед па бацьку;
Зваўся ён Завала.
Ліхая хацінка
Саломаю крыта,
Ліхая адрынка,
Ды адно карыта,
З казённага лесу
Лава, стол у хаце,
Міска і дзве лыжкі —
Вось і ўсё багацце!
Праўда, у аборы,
Як каза — кароўка
З голаду рыкала,
Звалася Чарноўка.
Сваёй гаспадаркі
Не любіў Завала,
Так з ёй і карысці
Меў саўсім ён мала.
З стрэльбачкай на плечах,
Ды у зубах з люлькай
Кожны дзень спаткацца
Маглі б вы з дзядулькай.
Саўсім яшчэ цёмна, —
Так не раз, бывала,
Дзед ужо у лесе —
Яшчэ пушча спала...
Гэтакага лесу
Нам ужо не бачыць,
Бо каморнік штодня

З жыдам яго значаць;
На шнуры лес рэжуць,
Нумары стаўляюць...
Колькі пнёў у лесе
Яны пашчытаюць?!
І от, з таго часу,
Як лічыць пачалі,
Звер і птушкі нават —
Тыя замаўчалі...
І не дзіва, браццы,
Цяпер наш Рыгорка,
Кожны пень абліча
З любога прыгорка.
... Казаў: спала пушча, —
Толькі дзед Завала,
Як у сад знаёмы,
Цягне там, бывала,
Пакуль пройдзе выган,
Ды шнурамі поле,
Моліцца і боскай
Аддаецца волі;
А як толькі ступіць
На край лесу цёмны, —
Гоц праз пні, калоды,
Як той непрытомны!
Бо у пушчы сцежак,
Ні дарог не будзе:
Хто не знае лесу,
Той, як бач, заблудзе!
Ні Завале сцежак,
Ні дарог не трэба:
Стрэльбачку на плечы,
Люльку, кусок хлеба...
Тут сосна-таўстуха,
Дуб зараз пузаты,
Там часаў з павалы
Упорку дахаты;
Скора будуць ёлкі
Тры разы зламаны,
Далей корч рагаты,
Добра дзеду знаны:
Дзесяць год мінула —
Пахаваў старуху,

Калядамі потым
Тут забіў маруху.
За карчом жа скора
Будзе там палянка, —
Некалі стаяла
Тут чыясь зямлянка;
Драбняк за палянкай
Цягне яшчэ з гоні,
Тут, загнаўшы летась,
З'елі ваўкі коні.
Потым бор высокі —
Со́сна у сасонку!..
Слухае дзед вухам
У адну старонку:
Нібы нехта шэпча,
Нібы хтось смяецца,
Нібы сціху плача —
Так усё здаецца...
Дзед на гэты шэпты,
Крадучыся ціха,
Стаў бліжэй падходзіць —
Не баіцца ліха!
Выйшаў на паляну
Стары дзед Завала,
Туды-сюды глянуў —
Чуць тады світала;
Праз палянку рэчка
Бяжыць, шуміць, плача;
Дзед на пнёх праз рэчку
На другі бок скача:
А там пень дубовы
Ростам з чалавека —
Выпалена сэрца,
Стаіць, як калека.
У дупле рассеўшысь,
Як у сваёй хаце,
Стаў вымаць дзядуля
Тут сваё багацце:
Порах, шрот, пістоны
І кавалак хлеба,
Стрэльбачку паставіў,
Глянуў ён на неба:
Там, высока, недзе,

Хмаркі, як каточкі,
То як вол лабаты,
Або нібы бочкі...
Змяняюцца хмаркі;
То з іх лось рагаты,
То з іх птах вялікі,
То шнурамі хаты...
А ужо і пушча
Стала прабуджацца —
Некамусь ды трэба
Першым адазвацца.
Аж тут калі плёхне
У віры пры рэчцы:
Шчупаку паснедаць
Нехта пападзецца!
Потым на балоце
На сасне-старушцы
Глушэц заіграўся,
Як смалой па пужцы.
Хіба што глухі ён,
Бо каб прыслухаўся,
Сваёй песні пэўна
Сам бы застыдаўся!
Гэтакую песню
Першы дрозд-спявака
Прыняў за знявагу
Свайго брата-птаха:
На шчыт елкі сеўшы,
Стаў свістаць, смяяцца,
Што той песняй можа
З салаўём раўняцца.
Цецярук, хоць сватам
Глушцовым лічыўся,
Але з стыду, з злосці
І ён расхадзіўся:
Шыкнуў, ды стаў лаяць
Як мага ён свата, —
Не меў бор лепшóга
Да лаянкі хвата.
Гаспадар у лесе —
Дзяцел наш насаты —
Не любіў, каб сварка
Выхадзіла з хаты;

Як абухам грукнуў
У сухую елку,
Каб уцішыць сварку,
Каб не было згелку.
Памочніцы-жоўны
Тут жа затрашчалі, —
Дзятлаву каманду,
Відаць, зразумелі.
І, як макам сеяў,
Так прыціхла пушча,
Толька эхам недзе
Аддавалась гушча...
Доўга дзяцел слухаў,
Наставіўшы вуха, —
Зляцеў пасля ў кузню
І стаў каваць глуха.
Як бы на каманду
Пушча заіграла:
Песні, шум і гоман
Слухаў дзед Завала...
Павіднела лепей
Ужо на паляне, —
Змерыўся дзед вокам,
Стрэльба дзе дастане;
Рука затраслася,
Як у цэль ён змерыў,
Але б яшчэ трапіў
У добрага звера.
Сядзіць і чакае,
Ў свет глядзіць далёкі;
Бач, ляціць і заяц,
Белы касавокі;
Толькі, што займацца
Гэтакай скацінай,
Чалавек раз знаўся
З лепшаю звярынай?
Зморшчыўся і плюнуў
Знехаця Завала:
Не прывычны біць ён
Што бы ні папала!
І стаў зноў чакаць ён...
Сонца паднялося...
Выстрэліць сягоння
Дзеду не прыйшлося! —

Але і спяшацца
Не было да кога:
Ў хаце не пакінуў
Нічога мілога...
І з дупла дзед вылез,
Лёг на сонцы грэцца,
Уздыхнуў, успомніў,
Як яму жывецца...
Слязіна па твары
Скацілася з вока, —
Ой, бо тыя думкі
Ляцелі далёка...
Вельмі, ох, любіў ён
Думачкі думаці,
Праўду ад няпраўды
Дзяліць, разбіраці...
Любіў з дзікай пушчай
Гэтым падзяліцца, —
Са сваймі, з людзямі,
Не мог неяк зжыцца.
. . . . . . . . . . . .
Зашумеў бор цёмны...
Хто шум той пазнае?
Чы ветрык павеяў,
Чы хтось паклікае?..
Ёсць у гэтым шуме
Доля і нядоля,
Енкі ёсць, што кажуць,
Злая дзе няволя...
Ёсць у гэтым шуме
Плач як бы сіроткі
І крык нейкі ціхі,
Страшны і кароткі...
. . . . . . . . . .
Даўно было гэта.
Хадзіць чуткі сталі,
Аб вялікай волі
Ўсе заталкавалі.
Многа гаварылі,
Што загляне сонца
(Толькі памажыце!)
У ваша ваконца.
Народ шоў у пушчу

Па долю другую, —
Пайшоў і Завала
Шукаць яснасць тую.
І пайшла ўзрастаці
Магіла к магіле...
Ваўкі з груганамі
Костачкі дзялілі.
Свайго свой пужаўся
У сваёй старонцы...
І хоць паднялося,
Не прыгрэла сонца!

. . . . . . .

Калі там вярнуўся
Дзядуля дадому?
І як там дабраўся?
Не знама нікому.
Адно з таго часу,
Калі хто пытаўся,
Дзе гэта дзядуля
Так доўга бадзяўся?
«Асачыў магілкі,—
Так ім дзед гавора, —
Дзе касцей звярыных,
Як пяску у моры.
Пятая дзе пушча,
Сем балот як пройдзеш, —
Калі справядлівы, —
Там іх тады знойдзеш.
Кожны звер чы птушка,
Калі смерць пачуе,
Цягнецца і там жа
Днюе і начуе.
Там ёсць і бальніцы,
Калі хвор каторы,
Гнёзды пухам сланы
І выгодны норы.
Бацяны за бабак,
Фельчарам — ласіца,
Доктарам — сам вожык,
Служкаю — сініца;
Пестуны за нянек.
Лось — дзеля парадку,
Бабры пры будове,

А дзік каля статку;
Мядзведзь за сядзелку,
Крукі за спявакаў;
Свірна воўк пільнуе,
Каб не было браку;
Свежага ліс мяса
Туды дастаўляе;
Расамаха млекам
Кублы налівае.
Зерне носяць птушкі,
Чаплі цягнуць рыбу,
Галубкі — вадзіцу —
У сваю сядзібу;
Удод у засекі
Насыпае бобу,
А сарока зелля
На кожну хваробу;
З барсукамі выдры
У стог сена носяць,
Казлы на хаўтурах
З жонкамі галосяць.
Старшынёю — ястраб;
Пасланцы — ваверкі,
Лётаюць, пільнуюць
Ад зоркі да зоркі.
Кожны звер чы птушка —
Там яны пры чыне, —
Мусіць працаваці,
Аж пакуль не згіне.
Адной не трымаюць
Толькі там зязюлькі,
Што сірот кідае,
Зараклася люлькі.
Ёсць яшчэ будынак
Там зусім асобны,
Добра збудаваны,
Цёплы і аздобны;
Стыдна і прызнацца,
Каго там хаваюць
У такой выгодзе
І бяды не знаюць:
Без зубоў сабаку!
І каня — калеку!

За век службы людзям
Тут знайшлі апеку!»..
Гэтак любіў баяць
Стары дзед Завала; —
Можа многа праўды,
Можа зусім мала?..

. . . . . . . . .

Ішоў год за годам,
Ішоў чарадою, —
Дзед штодзень у лесе
Летняю парою.
Завале без пушчы
Пушчы без Завалы —
Як бы не ўсе дома,
Як бы чагось мала!
Адны песні пелі,
Адны думкі мелі,
Друг дружка без слова
Добра разумелі;
Аж так і дапелісь
Да канца пустога:
Ой, не строіць жартаў
Пушча, знаць, з нікога!
Аднэй штось нядзелькі
(Была, помню, бура:
На высокім небе
Хмура йшла за хмурай),
Як пабрыў дзядуля
У свой лес знаёмы,
Так больш не папаўся
На вочы нікому.
Што з ім, бедным, стала?
Трудна адгадаці:
Ў беларускай пушчы
Гэта, брат, не ў хаце!
Мо пярун агністы
Яго абязвечыў,
Можа звер пашчупаў
Косткі чалавечай?! —
А можа дастаўся
Ў той будынак з байкі,
Дзе коні — калекі,
Без зубоў сабакі?..

## Янка Журба

### ЗА ПРАЦУ!

Годзі плакаць і стагнаці,
Годзі слёзы ліць дарэмна;
Досі стогнаў, досі енкаў:
Нікне праца пад'ярэмна.

Голас гучны, голас звонкі,
Дух бадзёры, гэй, прасніся,
Пранясіся песняй дзіўнай,
Думкай-казкай адзавіся!

Нам паруліцца патрэбна;
Люд прыспаны, схамяніся:
Час на свет зірнуці смела;
З песняй дружнай узніміся!

Нам не грозны ўсе прашкоды,
Нам не страшны рэкі поту;
К ліху ж жудасныя думкі, —
Згодна выйдзем на работу.

Хай з вясёлай песняй праца
Хутка спорыцца у жыцці.
Новых думак, песняў, смеху
Не шкадуйце, пакажыце!

## ОКЛІЧ

Проч, спяўцы нябыцця злога!
Ці не збрыдла вам стагнаці?
Не губіць жыццё нам трэба,
Час нам шчасце будаваці.

Годзе, кіньце енкі, стогны, —
Борзда ў поле на работу:
Нам паруп(ц)ца патрэбна;
Не жалейце працы, поту!

Карчаваць, араць ўсе ляды,
Раўнаваць і чысціць поле
Выступайма цэльным войскам:
Перад намі свеціць доля.

Не баімся мы прашкодаў:
Грамада не палахліва.
Згодна, брацця, ўсе за працу,
Каб к вясне тут наша ніва

Ад сахі, матыгі вострай
Найляпей закрасавала,
А пасля ўжо год ад году
Ураджаю больш давала.

Годзе ж, годзе вам стагнаці, —
Людзі-брацця, варта жыці:
У свеце ёсць за што змагацца,
У свеце ёсць што палюбіці!

Усім нам знойдзецца тут праца:
Трэба паўшых нам узняці,
Трэба сонных разбудзіці...
Хутка ж! час не марнаваці!..

## ПЛЫВУЦЬ ПЕСНІ

Плывуць песні, плывуць думкі
Вольнай хваляю-ракой.
З глыбіні душы прыходзяць
І нясуцца чарадой.
Палячу я ўслед за імі
І патону ў іх душой;
Ў зачарованым забыцці
Разлучуся я з журбой.
І чаму так многа песень
Нарадзілася ва мне,
Думкі, вобразы чароўны
Паліліся ў цішыне?
Паміж вобразаў чароўных,
Што ўзнялісь з душы маёй,
Адзін вобраз найбольш свеціць,
Зіхаціць красой сваёй.
Чыстай, жаркаю любоўю
Маё сэрца узнялось;
Вось чаму так многа думак,
Светлых песень палілось.
Паляціце ж аж да неба,
Песні звонкія мае,
Хай узнаюць ўсе на свеце,
Як люблю цяпер яе!
Са мной мілая дзяўчынка —
Светласць бачу ў жыцці зноў,
Ўсю душу маю збурылі
Шчасце, радасць і любоў!

## ДА РОДНАЙ КРАІНЫ

І хочацца мне верыць
Ізноў усёй душой,
Што ажывець вясною
Край родны, мілы мой.

Табе, мой краю родны,
Жыццё ўсё аддаю
Свае, і думкі, й песні,
І ўсю любоў маю.

У табе мая уцеха,
Жыццё маё з табой,
Мая надзея й радасць,
Край родны, мілы мой!

Я шчыра веру й жычу,
Што доўга будзеш жыць,
Што ворагі ўсе згінуць —
І сонца заблішчыць!..

## ЗА АЙЧЫЗНУ

З вялікай журбою і болем сардэчным
    Хачу сваю жальбу спісаць
З душы набалелай, з душы адзінокай, —
    Ўжо годзе сном мёртвым нам спаць.
Чаму агарнулі так цяжкія думы?
    Чаму яны сэрца шчымяць?
У нашай старонцы, у нашай айчызне
    Нам шкодныя злыдні скігляць,
Як жалкі і брыдкі ўсе ворагі злыя,
    Вы роднаму краю майму!
Усіх вас злыдэрных я ведаю добра,
    Збурыліся, знаю чаму:
Вам вольныя шкодзяць ўсе нашы парывы;
    Вы рупіцесь сціснуць людзей...
А не! не здушыць вам ніколі на свеце
    К пакуце прывыкшых грудзей!
Ўжо льюцца праменні гарачага свету—
    І хутка загіне цемраць.
Не ўмёр і не ўмрэць наш дух вольны, бадзёры:
    Аб ясных днях будзем спяваць!

## АДРАДЗІЛАСЯ ПРЫРОДА

Адрадзілася прырода;
Зноў надзеі агарнулі.
У грудзях калішні жальбы
Дзесь далёка патанулі.

Адрадзілася прырода;
Запялі ў небе птушкі;
І з душы ізноў паволі
Льюцца песні-весялушкі.

Луг і поле каля вёскі
Аксамітам зелянее;
З траўкі ўжо зірнулі кветкі;
Лес зялёны ўсё цямнее.

Адрадзілася прырода...
Край мой родны адрадзіўся.
К жыццю новаму васкрос ён,
Цяжкіх сноў к вясне пазбыўся.

Веру, родная краіна, —
Возьмеш верх над злой цямрою:
Твае ворагі ўсе згінуць;
Шчасце блісне над табою!

## БІЙСЯ, СЭРЦА...

Ты забудзь свае нягоды
І, з надзеяй у грудзі,
На вясенні пір прыроды
Ты уцешна выхадзі.
Сэрцу кожнаму жаданна
Гэта дзіўная пара.
Бійся ж, сэрца, безустанна
Для любові, для дабра!
Бійся, сэрца, пакуль сіла —
І у жылах кроў бяжыць,
Покі жыцце табе міла,
Покі хочацца любіць.
Бійся, сэрца: глянь, як дзіўна
Вунь займаецца зара;
Дык жа бійся безупынна
Для любві, дзеля дабра!

## ПЕСНЯ

Зялёная дубровачка,
Чаму зашумела?
Маладая дзяўчыначка,
Чаму спахмурнела?

Чаму, вецер злы, з дубровы
Лісця ўсе зганяеш?
Чаму часта так, дзяўчынка,
Слёзы ты губляеш?

Ах вы, людзі, добры людзі,
Як мне не тужыці,
Калі чуе маё сэрца:
З мілым мне не жыці!

На дарозе нас спаткалі
Тут благія людзі,
Разлучылі мяне з мілым;
Жальба цісне грудзі.

Ой, пайду я ў лютым горы
Ды у чыста поле;
Пашукаю я там пільна
Сабе лепшай долі.

Вее вецер на прасторы,
Мчацца чорны хмары;
Цёмна ў сэрцы, свету мала
І на ўсім абшары.

Сівер свішча і скагоча,
Лісця падганяе.
Маё беднае сардэчка
Жальба надрывае.

## МАЛАДАЯ ЖНЯЯ

На усходзе неба
Жарам палыхае;
Жаўранак узняўся,
Песню напявае.

Жыццё прабудзілась;
Вось зірнула сонца;
Золатам праменні
Палілісь бясконца.

З сонцам выйшла ў поле
Жнейка маладая —
Панясласся гучна
Песня ўдалая:

«Весела мне, лёгка,
Я ўсягды спяваю;
Ручкі мае дужы,
Шмат я сілы маю.

Толькі б чуў мой мілы,
Як за працай ў полі
Голасна спяваю
Аб жаночай долі.

Што мне праца, спека!
Усюды мне ўдача:
Вечарам ізноў я
Мілага убачу.

Вунь той луг зялёны,
Дзе яго спаткала,

Песняй галасістай
Дзе зачаравала.

Вунь той бор, дзе з мілым
Ягады збірала,
Дзе ў жыцці уперша
Шчасце я пазнала...»

Доўга ўжо працуе
Жнейка маладая,
І ліецца ў полі
Песня удалая.

## РЫБАЛОЎ

Свет апошні рассцілаюць
Лучы сонца над сялом;
Цэрква белая зіяе
Залатым сваім крыжом.
Ціха бор стаіць зялёны,
Гук ўвакол пад вечар ўнік;
Явар дрэме каля рэчкі,
Як той стары вартаўнік.
Рэчка шклістая плюскоча
У зялёных берагах;
Ўсё гусцей туман кладзецца,
Як кудзеля, на палях.
На рацэ рыбачы човен,
Сець збірае ў ём рыбак;
Лёс гаротны праклінае,
Б'ецца з голаду бядак.
А у хаце рыбалова
Цэлых восьмера дзяцей...
Пасылай ўжо хоць сягоння
Хлеб прасіці у людзей.
З ім адвечна яго гора,
Сэрца ные і шчыміць.
І шнуруючы над рэчкай,
Каня позная скігліць.

## У КУПАЛЬСКУЮ НОЧ

Гэй, паліце агні — час ў дарогу ўжо нам;
Пойдзем мы па таёмныя кветкі.
Захаванае шчасце мы знойдземо там:
Нас праславяць на цэлы свет дзеткі.

Гэй, хадзем жа, браты, ўсей грамадай у бор, —
Скарб таёмны мы там адшукаем.
Нам дарога ясней, бо ліецца свет зор,
І дарма, што прашкоды спаткаем.

Мы ідзем... Думкі светлыя з намі ляцяць,
Бо жадаем яснейшае долі.
Пуцявіна відней — агняцветы гарацць;
Тут прастор, тут паля, — мы на волі.

Запалаў дзесь здалёк дзіўны ўперадзе свет...
Мо святой праўды цвет там красуе?
Ці не ў нашых жа сэрцах гарыць агняцвет,
Ад вякоў што у процьме існуе?!

З верай ў праўду ідзём агняцветы ірваць,
Хоць у пушчы вужакі і гады;
Нам прашкоды навокал будуе іх рацць.
Гэй, смялей: не баімся мы здрады!

Вун, як золата, кветкі блішчаць у кустах;
З іх адходзяць прамені жывыя...
Свет магутнага сонца разліўся ў палях,
Нашы сілы жывіць маладыя!..

## Паўлюк Жыбуля

### ЗА САХОЮ

За сахою я іду,
Хмуры, невясёлы;
Песню ціхую пяю
Аб сваіх — а сёлах...

Гляну, гляну я кругом
На лясы, на поле, —
Паліецца слязіна,
Ў сэрцы штосьці коле.

Шуміць лес не для мяне,
Не мае загоны!
Толькі я на іх лію
Слёзы, пот чырвоны.

Доля, доля! Пашанці
Ты мне хоць гадочак!
Крыўду, божа, ты паймі,
Ніўкі дай кусочак!..

## НОЧ ПАДАРОЖНАГА

Трудна, нудна небарацэ
Гэтай цёмнай ночкай жыць,
Вецер хмары паганяе,
Па палях, лясах бяжыць.

Людскі гоман змоўк усюды,
Не відаць душы жывой.
Страшна, сцішна ночкай гэтай,
Колькі смутку, божа мой!

Хмары ходзяць, хмары плачуць,
Ад маланак б'е агнём,
Неба громамі рагоча,
Б'е бярозку перуном.

Згінь ты, глуш блудлівай ночы,
Гром, шалецці перастань!
Жыва, сонца, ускаціся,
Новы дзень жывей праглянь!

## М. Арол (Янук Д.)

### ПЕСНЯ

Сядзіць голуб на бярозе,
Галубка на вішні,
«Скажы, скажы, маё сэрца,
Што маеш на мыслі?

Як не хочаш, маё сэрца,
Дружынаю быці,
Той дай жа мне таго зелля,
Каб цябе забыці!»

«Расце тое ў мяне зелле
Блізка пералазу;
Як дам табе напіціся, —
Забудзеш адразу!»

«Ой, піць буду, хоць праз сілу,
І дзянькі, і ночы!
Толькі ж цябе я забуду,
Як загаснуць вочы...»

## НАД НЕМАНАМ

*(Янку Купале)*

Ўсюды ясна, ціха...
Месяц ў вышыне
То нырне за хмару,
То ізноў ўсплыве...

Вось сустрэўся з хмаркай,
Святлом ўсю абліў,
Затрымаўся крыху
І далей паплыў.

Глянуў ў быстры Нёман
І ў вадзе стаіць,
Які ён чароўны,
На сябе глядзіць.

Цёмнаю сцяною
Вокал лес стаіць.
Ці ён што задумаў?
Ці так моцна спіць?

Чуеш... ў аддаленні
Песню хтось пяе...
Зык маркотны, нудны
Мне ў душу плыве. —

Нават Нёман быстры
Плыць бы перастаў
І той зык маркотны
У сабе схаваў.

Многа гэтых нотак
Жалю і нулы

Ён схаваў у хвалях
Быстрае вады.

Толькі нам не кажа,
Што ў сабе таіць;
Можа ён баіцца,
Усё нам гаварыць?. .

Мо людское сэрца
Не знясе таго,
Што ён чуў і знае
З веку сваяго?

Толькі мора можа
Тое ўсё паняць,
Аб чым ён баіцца
Людзям расказаць...

## СМЕРЦЬ МУЖЫКА

Сонейка усходзіць,
Ласкава смяецца, —
Пад яго лучамі
Усё жыццё заб'ецца.

І набраўшы сілы,
З новаю ахвотай
Пойдзе кожны ў поле
За сваёй работай.

Толькі ты не ўстанеш
І не ўстрапянешся,
Толькі ця не будзе,
Ты не адзавешся...

За сахой не пойдзеш,
Як хадзіў, бывала.
Для цябе ні поля,
Ні сахі не стала

І ляжыш, не чуеш:
Па табе ўжо звоняць, —
То цябе суседзі
Вынеслі, хароняць...

Зык званоў маркотных
Аб табе гавора,
Тваю долю кажа,
Поўну слёз і гора.

І ад гэтых казак
Маё сэрца плача,

Што без шчасця, долі
Ты пражыў, бядача!

Разам абарваўся
Звон і змоўк у полі...
Спі, мой братка родны,
Не знайшоўшы долі!..

## СЯЎЦАМ

Дзе вы, ўсе здольныя, ліцамі ўдалыя,
З добрымі душамі, к працы рахманымі,
Выйдзьце ўпярод!
Поўнаю жменяй зярняты здаровыя
Сейце на нівы багатыя новыя —
Будзе усход!
Доўга былі яны ўсімі забытыя,
Дзікай травой чамярыцай пакрытыя,
Ждалі на вас.
Цёмныя хмары над імі насіліся,
Дарма паілі вадой і пранасіліся,
Аж прыйшоў час.
Будзе, даволі ты ўжо наляжалася,
Сілы набрала і ўзмацавалася
Дай жа нам плод!
Выйдзьце, ўсе здольныя, думкамі ўдалыя,
Выйдзьце, ўсе шчырыя, к працы рахманыя
Станьце ўпярод!

## АХВЯРА

Я уцёк ад шчасця,
Не схацеў з ім жыць,
Калі кругом слёзы,
Стогн, як звон, стаіць;
Калі кругом гора,
Братняя бяда
Разлілісь, як ў моры
Без канца вада.
Калі брат мой родны
Гіне ў барацьбе.
Мо і я прыгодным
Змагу быць хоць дзе.
Буду з братам разам
Ў курнай хаце жыць,
Яго радасць, гора
Папалам дзяліць.
Я уцёк ад шчасця,
Калі кругом слёзы,
Стогн, як звон, стаіць.

## СЫЧАМ І СОВАМ

Неба на ўсходзе чуць-чуць зашарэла;
Шырыцца свет і расце бы з зямлі...
Вось ўжо і першы праменні нясмела
На векавечныя хвоі ляглі.
    Зразу збудзіўся гай цёмны да жыцця,
    Першы за ўсіх заспяваў салавей,
    І пакацілася песня па ніўцы
    Шырэй і далей, мацней і мацней...
Гэта учуўшы, пташкі ўзняліся
Яснае сонца хвалой сустрачаць.
Што ж вы йшчэ, совы, сычы, так ўзяліся
Плакаць і сумна стагнаць?
    Ваша пара ўжо прайшла, мінавала,
    Цемрава сонца прагнала з гаю,
    Песні другія жыццё запяяла...
    Кіньце вы песню маркотну сваю.
Гляньце (не бачаць, бо вочы сляпыя),
Ўжо рассвітала! Пара перастаць!
Вам не вярнуці часіны начныя,
І свету вам з гаю не ўдасца сагнаць!
    Лезьце хутчэй вы ў пацёмныя норы,
    Будзе паганыя песні спяваць!
    Гімнамі шчасця вясёлыя хоры
    Выйшлі ўжо яснасць хвалой сустрачаць!..

## ВЯСНОЮ

Як прыходзіць вясна, маю душу яна
Ўсю трывогай якойсьць напаўняе.
Будзіць мары душы, родзіць сон залаты,
Казку дзіўну пяе-напявае.
Ветры сціха гудзяць, зямлю, лес зеляняць...
Ўсюды новае жыцце лунае.
А у глыбі нябёс, жыцця новага лёс
Срэбнай песняй жаўрук сустракае.
Ў гэты час у душу мне жыццё хваляй хлыне,
У магутную сілу падыме.
Томяць сілы мяне, мучаць сілы мяне,
Не магу я ужыцца за імі.
Хочуць працы святой, працы дзіўнай такой,
Як бы тая вясняна святая,
Каб нанова стаць жыць, нова жыцце тварыць,
Толькі працы такой я не знаю...
Мучаць сілы дарма, ля іх дзела няма!
Не даюць мне мінуты спакою.
З імі я, як ў агне, і не радасна мне
Нават гэтаю дзіўнай парою.

## Стары Улас

* * *

Сонейка прыгрэла,
Растапіўся снег,
Поле зачарнела,
Ручаёк пабег.

Жучкі загудзелі,
Распусціўся сад,
Птушачкі запелі
На вясенні лад.

Красачкі пстракаты
Ўсюды зацвілі,
З песняю араты
Ўзяўся да зямлі.

Арэ, баранує
Родны свой загон,
І трудоў не чуе,
Ані поту ён.

Сыпнула травіца,
Зелен кожны кут,
Уродзіць зямліца —
Вернецца за труд.

Як бы з-пад няволі
Выйшла ўсё з зямлі;
Калі ж лепшай долі
Дажджомся і мы?!

* * *

Слоўца адно, а часам другое
Сказана мудра ў пору,
Душу адсвежыць, мысль заспакое
Як бы адверне з плеч гору.

## СВАТАЎСТВО

Раз зімоваю парою,
    Мусіць ў мясаедзе,
Сабраліся між сабою
    Нашые суседзі.
А ці ўлетку, ці зімою,
    Так па людзях ходзіць,
Што старыя між сабою
    Сватаўства заводзяць;
Ды як выпілі даволі
    Крэпкай саматужкі,
Янка наш хваліць паволі
    Стаў свае дачушкі.
«Старша, — кажа ён, — гадамі
    Мая Кацярына,
Каб вы, братцы, зналі самі —
    Анёл, не дзяўчына;
І паслушна, і набожна,
    Ціхая як рыба.
Дык хто возьме, сказаць можна,
    Скарб дастане хіба!
А малодшая, Мар'яна,
    Да ўсякай работы:
Як да шыцця, так да ткання
    Мае шмат ахвоты.
Мо на горб яе другія
    Звернуць з вас увагу?
Але я ёй дам за тое
    Сто рублёў пасагу.
Ўчуўшы гэта, ад парога
    Юрка Мікалаеў
Падыходзе да старога

Ды скора пытае:
«Ведаеце што, татуля!
Можа ў вас часамі
Ёсць Таццяна ці Настуля
Ды з двума гарбамі?!»

## Дзяніс Валынец

### ДОЛЯ БЕДАКА

Гудзе вецер, завывае,
У ваконца б'ецца.
Думкі цяжкія кладуцца
На беднае сэрца.

Год прыходзе і адходзе,
А шчасця не маю.
Дзе ж ты, доля шчаслівая? —
Бо я сам не знаю.

І працую я так многа,
Думае убогі,
А што маю? Паглядзіце —
Нічога, нічога.

На дварэ хлявок дзіравы,
Як дзед, пахіліўся.
Горка жыці бедачыне,
Хоць з ліхам і зжыўся.

Дзеці голыя галодны,
Туляцца да маткі,
Адно просіць сабе есці,
Другое апраткі.

Жонка злегла, знемажала,
Стогне, уздыхае.
Як ні біўся, ні стараўся,
Ўсё не памагае.

Сэрца кроўю абліецца,
Як пачнеш гадаці

Аб той долі нешчаслівай,
Што далась мне знаці.

Эх, за што, за што, мой божа,
Гэткія напасці?
Лепей таму не радзіцца,
Хто не мае шчасця.

## І. Пілілаў

### НОЧ

Толькі апусціцца ноч,
Усходзіць месяц сярпом.
Па палёх, па лясох
Усё спіць ціхім сном.

Буры замоўкнуць, і ціш
У таёмнай нудзе,
Памахнуўшы крылом,
Занікае ў вадзе.

І вада, як бы спіць,
А у люстры яе
Як бы ўсё замярло
У чароўным у сне.

А як певень крылом
Апаўночы ўзмахне,
Сум і плёскат тады
Усю ціш ўскалыхне;

Ўсе русалкі бягуць
І нязнана адкуль...
Панырнуць у вадзе,
І сціхае іх шум...

## ПРАЦУЙ, НАШ ТАВАРЫШ

Працуй, наш таварыш, сей зёрны прасветы
На чорную ніву старонкі сваей;
Працуй без устанку, хоць пройдуць мо леты,
Пасеў твой узыдзе на ніве усей.
Усход зарунее, і спорна нальюцца
Пад сонца праменьмі жыцця каласы,
І песні прывольна у даль панясуцца
Ў сваіх пералівах глыбокай красы.
Працуй, наш таварыш, працуй без устанку,
Бо ніва даўно ўжо нас ждала к сабе,
Бо брат наш сярмяжны ад ранку да ранку
Чакаў нас і клікаў к вялікай сяўбе.
Працуй, наш таварыш, а тых, што зракліся
І роднай старонкі і родных бацькоў,
Не будзем карыці, бо к ім не ўліліся
У сэрцы падгніўшыя песні братоў.
Вялікая праца, таварыш, прад намі,
Далёка зіяе той шчасця прамень...
Ды той, хто чуў песню з цяжкімі славамі
Зваюе, разгоніць адвечную цемнь.
Дык дружна, таварыш, на ніве шырокай
Доўг будзем вялікі, святы выпаўняць
І ў час непагоды ў дарозе далёкай
Праменьмі прасветы пуці асвяшчаць.

## Ільля Дзежка

### ВЯСНА

Трамціць зорка залатая
У сіняй неба вышыне, —
Цёплы ветрык павявае
Ў так вялікай шырыне.
Неба чыстае сінее,
Няма хмаркі ані дзе.
Весяліць вясна святая
Ўсё стварэнне на зямле.
І пугач ў лясу гукае,
Чыніць славу ён вясне.
Перастаў пугач гукаці,
Ўстрапянуўся салавей,
Сеў на дубчык, стаў свістаці
Сваю песню весялей.
У полі гоман раздаецца
І у вёсцы стукатня;
За работу ўсяк бярэцца,
Бо прыйшла ўжо вясна.

## Ф. Чарнышевіч

### ЗОРКА

Ціхшна калышуцца, ўюцца
Цені ў начной цішыне,
Ў даль палахліва нясуцца
Супроць вясёлай вясне.

Сіняе неба цямнее,
Месяц пахмура глядзіць,
Толькі на небе яснее
Зорка гарыць і блішчыць.

Цемень, туманы і хмары
Пільна яе сцерагуць,
Но залацістыя дары
Хутка на свет набягуць.

Зорка — прадвесніца шчасця —
Мэту пакажа к вясне,
Гора, няволя, няшчасце
Згінуць, бадай як ва сне.

## ПЕСНЯ КАВАЛЯ

Мой горан пылае,
І іскры ляцяць;
Я мех уздуваю
І буду каваць...
Працую, гарую,
Як моцы стае,
Гартую, муштрую
Жалеза мае...
У кузні ад рання да ночы стаю
І молатам лепшую долю кую!..

І гнецца парою
Жалеза і сталь,
Як возьме рукою
Здаровай каваль...
Скую, вось, касу я,
Загну, закручу;
І выйду уночы —
Нядолю скашу!
У кузні ад рання да ночы стаю
І молатам лепшую долю кую!..

І холад і голад
У хатцы вітае,
А праца і молат
Мне моц адбірае!..
Гэй, ўдару ж я, ўдару!
Гарно раздзьмухну,
Сагну, загартую
Я сэрца-касу!
Я праўду і волю кахаю-люблю
І молатам лепшую долю кую!

## СОНЦА ЎСТАЕ

Дзень рассвятляецца, цемень спаўзае,
Процьма радзее, дарогу дае,
Ранняя зорка свяціць пачынае,
Сонца ўстае.
Сетка туманаў трывожна трасецца,
Траўка прачнулася — свежасць дае.
Неба так хоча з зямлёй пагалядзецца.
Сонца ўстае.
Лес зашумеў, як бы радасцю дзіўнай,
Птушкі шчабечуць песні свае,
Хвоі пакрыліся акрасай чароўнай,—
Сонца ўстае.
Гэй, прачыхайцеся, сонныя людзі!
Стрэньце вы новае жыцце свае:
Доля і радасць асвежыць вам грудзі!
Сонца ўстае!

## САМАГУДКА

Як вечар прыкрые зямельку,
А траўку пакрые раса,
Як сонца спяшыць на спачынак,
І ў лузе не звоніць каса,
Не чутна ні смеху, ні песень,
Ні жальбы, ні стогнаў нідзе, —
Адзін тады вецер гуляе,
Шапоча з чаротам ў вадзе,
Ды звонка здалёк аддаецца
Напеў адзінокі ў цішы.
Што ж ён гэтак сэрца трывожыць
І будзіць маркотнасць ў душы?
Што жаласна гэтак віецца,
Снуе і сюды і туды?
То родная песня ліецца
З лазовай зялёнай дуды.
Ох, столькі ў ёй славы і волі
І думак з былога жыцця,
Што проста і рвешся, і плачаш,
Абданы слязой забыцця.
І ўвесь ажыўляешся хутка,
Знаходзіш ты сілы кахаць
І край, і дуду-самагудку,
І рэкі, і горы, і гай.
У грудзі сплывае надзея
Аб радаснай, яснай пары,
І думка ляціць і святлее
Да новай, да новай зары!

## ЖАДАННЕ

*(Ахвярую Цішку Гартнаму)*

Я хацеў бы ясным сонцам
На зямлю з гары спусціцца,
Каб свяціць, свяціць бясконца,
Аб нядолі пазабыцца.

Я хацеў бы громам-бурай
Пранясціся ў ноч глухую,
Ваяваць з жыццём панурым,
Слаць маланку залатую.

Я хацеў бы песняй волі
Прабудзіць ад сну стварэнні;
Я хацеў бы лепшай долі,
Свайго краю адраджэння!

* * *

Злыдні панурыя, чорныя,
З чорстваю нізкай душой,
Быдла тупое, пакорнае,
Што несяцё вы з сабой?

Што вы тумаціце яснае
Сонейка свету?! Чакай:
Сонейка праўды не згасне,
Хутка прачнецца наш край!

Скіне нядолю, вяко́вую
Песню аб волі спяе,
Шчасную, пекную, новую,
Праўдай яе абаўе.

## ЛЕТА

У летні час як весела на полі!..
Пасевамі красуецца зямля...
І хоча жыць і хоча шчасця волі
Душа мая.

Праменнем радасным бліскоча ў небе сонца,
Ўвакруг краса, прыволле, светлы рай...
І пекны ж ты, люблю цябе бясконца,
Мой родны край!

Зялёны гай звініць ад птушак спеву,
Гамоняць радасна паміж сабой кусты,
На поплаве, глядзіш, направа і налева —
Кругом кветы.

У хвалях возера разліта пазалота
І радасць шчасная ў бары глухім шуміць,
І ручаёк, і рэчка, і балота
Жыццём кіпіць.

І думка поўная вясёлай, новай веры...
Эх, дзіўны лета час! Любуюся табой!
Як ты ж мне міл... Люблю цябе без меры,
Край родны мой!

* * *

Край мой родны, беларускі,
Мой каханы край;
Ажыві маю надзею!
Я ў душы маёй ды з ею
Ствару светлы рай!

Веру я, народ праснецца,
Скіне цяжкі сон!
Сонца блісне із-за хмары,
Зацвітуць красой папары
Шчасцем новых дзён...

## ПЕСЕНЬ МНЕ!

Даволі горкіх слёз і думак аб нядолі!
Даволі!.. Іх душа не можа сатрымаць!
Жадаю песень я, аб радасці, аб волі,
Каб гарт крыві маёй ў грудзях зашанаваць.
Я жыў, я малады, і на пуці жыццёвай
Я ўсё хачу любіць чароўнае ў жыцці.
Дык песень, песень мне, аб радасці вясновай,
Аб шчасці, аб красе, аб марах ў забыцці!..

## Алена Цяпрынская

### ДУМКА

Ой, зашумела, ой, загудзела
Тое бязмернае мора!
Хваля за хваляй далей і далей
Мкнуцца па вольным прасторы.

Мкнуцца і скачуць, жаласна плачуць,
А я сяджу ды сумую...
Вецер прыскочыў, штось мне скрыгоча,
Ветру ў адказ гавару я:

— Што воды гоніш, што сосны клоніш,
Што мора так уздымаеш?..
Сядзь лепш ціхонька, ды вей лягонька!
Гэй, чаму ж так ўздыхаеш?..

— Ой, маю волю, ой, маю долю
Бура ўжо затаптала.
Ды мне шумеці, ды мне гудзеці
Гэтак яна прыказала.

Так я і плачу, так я і скачу
Па гэтым сінім прасторы;
Глянь! хваля ў хвалю далей і далей
Грозна бунтуе ўсё мора!

## Канстанцыя Буйла

### У ЛЕСЕ

Як я лесам іду, ветрык дрэўцы там гне
І лес шумам вясны зважна песні пяе,
Птушкі дзеткам сваім гнёзды цёплыя ўюць
І пяюць.

А як полем я іду, там над чорнай раллёй
Ў сінім небе павіс шэры жаўранчык мой,
Ў чыстым воздусе ён швыдка крылцамі б'е
І пяе.

Як я лугам іду, кветным тым дываном,
Там жучкі, матылькі пазляталісь раём,
З кветных чарак яны мёд салодкі там п'юць
І гудуць.

Я над рэчку пайду, вада рвецца, гудзе,
Кліча нас да жыцця, кліча ўсіх, хто жыве,
Бегчы з ёю кудысь, каб дагнаць, каб злавіць,
І шуміць.

Куды толькі пайду, вясну хваляць усе,
І што толькі жыве, ёй хвалу аддае,
Ёй хвалу аддае
І пяе.

## МНЕ СНІЎСЯ СОН

Мне сніўся сон, што ты у нас,
Што не чужы мне, як даўней,
І пагляд тваіх жывых вачэй
Вярнуў надзею мне йшчэ раз.

Ізноў шчаслівай я была,
І сэрца радасна так біла...
Ў душы маей была вясна,
Бо ты са мною быў, мой мілы.

## КАБ Я МЕЛА...

Каб я крылле лёгкай птушкі
Салавейкі мела,
Ў гай вясёлы, ў гай зялёны
Я б не паляцела.
Каб я мела голас звонкі,
Голас салаўіны,
Я б спяваці не ляцела
На дрэўцаў вяршыны.
Я бы з песняй паляцела
Ў горад той далёкі:
Там ёсць дом пануры, сумны,
Цёмны і высокі.
На вакне закратаваным
З песняй бы я села
І вастрожнікам няшчасным
Сваю песню б пела.
Я б пяяла аб свабодзе,
Аб шчаслівай долі
І забыліся б пры песні
Яны аб няволі.
Галасамі дзіўных чараў
Я бы залівалась,
Лясоў нашых, ніў прыволле
Ўспомніць ім старалась.
І пад песню маю думкі
Іх бы прасвятлелі,
Твары радасным бы смехам,
Шчасцем заяснелі.
І не цяжкая была бы
Ім тады няволя,
Бо пад песню яны б снілі
Аб шчаслівай долі.

## Я ЛЮБЛЮ...

Люблю наш край, старонку гэту,
  Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасце,
  Слязу нядолі праліла.
Люблю народ наш беларускі,
  Іх хаты ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы,
  Шум нашых гаяў і лясоў.
Люблю раку, што свае воды
  Імчыць ў няведамую даль,
І жоўтасць берагоў пясчаных,
  І яснасць чыстых яе хваль.
Люблю вясну, што ў кветкі, зелень
  Прыстроіць цэлую зямлю;
На гнёздах буслаў клекатанне
  І спеў жаўраначка люблю,
Люблю гарачу спеку лета
  І буру летнюю з дажджом,
Як гром грыміць, а ў чорных хмарах
  Маланка зігаціць агнём.
І восень сумную люблю я,
  І першы звон сярпоў і кос,
Як выйдуць жнеі збожжа жаці,
  А касары — на сенакос.
Люблю зіму з яе марозам,
  Што вокны прыбярэ ў вузор,
І белы снег, што, ўсё пакрыўшы,
  Ірдзіцца блескам ясных зор.
Люблю ў пагодную я ночку
  Да позна на двара сядзець,
Слядзіць за зорачак дрыжаннем,

На месяц залаты глядзець.
Люблю, як сонейка заходзіць
І бераг хмаркі залаціць,
Вячорнага як голас звону
К нам з ветру хваляю ляціць.
І песню родную люблю я,
Што дзеўкі ў полі запяюць,
А тоны голасна над нівай
Пераліваюцца — плывуць.
Усё ў краю тым сэрцу міла,
Бо я люблю край родны мой,
Дзе з шчасцем першым я спазналась
І з гора першаю слязой.

## ЗВОН

*(Ахвярую Янку Купале)*

Ён плыў над палямі з вятранаю хваляй,
У даль пранасіўся, ляцеў,
Там рэхам гулкім над лясамі раздаўся,
То ціх, заміраў, то ізноў калыхаўся
Ў паветры і зычна гудзеў.

Зноў зважна, свабодна ляцеў над палямі,
Над нівамі, сёламі плыў,
А гукі яго дзіўнай нотай дрыжалі
То як бы ў задуме, то як бы у жалі,
То зноў як бы громкі прызыў.

Ён зваў да жыцця і да лепшае долі
Усіх, тых, хто йшчэ цвёрдым сном спаў,
І сну заклятога апалі аковы,
І ўстаў народ цэлы і ўстаў як бы новы,
Да новага жыцця устаў.

## ВОСЕНЬ

Сонца скрылася за хмары,
Ўжо не грэе, як даўней,
Цёмна, сумна, баліць сэрца,
Сэрцу шкода светлых дней.
Дождж у вокны барабаніць,
Вецер жаласна гудзіць,
Ліст зжаўцелы круціць, гоніць,
З дзікім свістам ў даль ляціць.
Сумна, нудна, непрыгожа;
Апусцелі лес і гай...
Усе птушкі паляцелі
У далёкі, цёплы край!
Толькі часам над раллёю
Стада кавак праляціць
І раллю сабой закрые,
І панура закрычыць.
Сумна, нудна, баліць сэрца,
Душа ные ад нуды.
О! чаму ж схавалась сонца?..
Што ж не грэе, як даўней?!.
Дзе ж ты, лета залатое,
З чарадою светлых дней?..

## ПРАЛЕСКА

Яшчэ сонца чуць-чуць прыгравае,
Снег гурбамі у лесе ляжыць,
Ужо сіняе вочка пралескі
Адважна на сонца глядзіць.

Чаго ж паспяшаешся, кветка?..
Хавайся ў зямлю ты глыбей;
У нас тут зіма йшчэ пануе
І сцюжай марозіць сваей!

## З ВЫРАЮ

Лятуць да нас, лятуць яны
З далёкай, цёплай стараны;
Нясецца крык іх над зямлёй,
Бо бачаць ўжо край родны свой.
Прывет з далёкай стараны
Нам радасна нясуць яны.
І ў крыку тым, здаецца мне,
Аб цёплай кажуць чужыне.
Не страшыць сцюжай там зіма,
Ні злых марозаў там няма,
А кветкі вечна там растуць,
У гаях птушачкі пяюць;
Густой адзетыя ліствой
Штось шэпчуць дрэўцы між сабой...
У іх цяні руччы бягуць
І птушкі райскія жывуць,
Што хвост спусціўшы над зямлёй
Гараць, як кветкі між ліствой.
Паміж красуючых садоў,
Як рой маленькіх матылькоў,
Калібры гнёзды дзеткам ўюць,
Газэлі лёгканогія жывуць...
Сады пальмовыя шумяць,
Лясы кіпрысавы стаяць,
Падняўшы к небу галіны,
Пах мілы выдаюць яны...
«Скажыце ж, птушачкі, вы мне,
Што ж не былі ў той вы старане?
У краю, што завецца земскі рай,
Вы ляціце ў наш сумны край...»
Здалёк чуць чутна крык ляціць:

«Хоць добра ў краю тым жыць,
Хоць век пануе там вясна,
Мілей нам родна старана:
Тут маткі гнёзды нам вілі,
Сярод лясоў тых мы жылі,
Тут гадавалі нас яны,
Тут і ляцім мы штовясны...»

## УВОСЕНЬ

Смутны ты, вобраз роднай краіны,
Гэтай парой:
Густа пакрыты лагі і даліны
Дробнай імглой.
Носяцца хмары па небе бясконца,
Дождажык пыліць;
Вецер галінамі яблынь ў ваконца
Сумна стучыць.
Выйдзеш на поле — пуста наўкола,
Толькі парой
Галкі садзяцца ў рады невясёла
Гдзесь над раллёй.
Кры́ллі лапочуць, і голас пануры
Ў вушы ляціць;
Мусі вяселле ці то хаўтуры
Сталі рабіць?
Вось апавіты стаіць пад гарою
Лес глухатой
І у раздум'і трасе галавою,
Лысай, сівой.
Лістам пажоўклым курчавай вяршыны
Ўсё шапаціць,
І ці пракляццем, ці то малітвай
Падчас шуміць.
Мыюцца сцішна над рэчкай вярбіны
Мутнай слязой,
Смутны ты, вобраз роднай краіны,
Гэтай парой.

## ПА МОРЫ ЖЫЦЦЯ

Па моры жыцця, ад сябе у аддалі,
Чужыя сабе, — мы плылі,
Ды вось зашумелі спакойныя хвалі—
І нашыя чоўны супольна сагналі
І разам нас ўперад няслі.

Цяпер мы ўжо сталі сабе не чужыя:
Нясёныя хваляй адной —
Супольныя мелі мы мэты святыя,
К каторым рваліся душы маладыя —
І многа супольных ідэй...

Мо зноў разнясуць нас бурлівыя хвалі
Калісьці, — хто ж зможа згадаць, —
Дык помні ж, брат, думкі, што нас так збраталі,
Якія б нас буры ў жыцці не спаткалі —
Мы свята павінны спаўняць.

## Герасім Б-кі

### ЖНЯЯ

Сонца. Страшная спякота;
З рання плечы гну.
Жаць — сібірная работа,
А я жну ды жну!..
Залівае потам вочы,
У грудзях баліць;
Так ад рання і да ночы
Трэба працай жыць!
І ўздыхнеш, як глянеш часам
На багацце ніў,
Бо ў сябе — за беднай хатай —
Там адзін палын...
Ўжо цямнее... Ой, як трудна
Плечы разагнуць! —
Жаць чужое вельмі нудна,
А я жну і жну...

## К. Бор-іч

### ПЕСНЯ

Жоўтыя лісточкі
Ляцяць чарадою,
І ні дня, ні ночкі
Няма ім пакою.

Вецер б'е галінкі,
Сушаць іх марозы, —
І блішчаць сняжынкі,
Як скрэплыя слёзы.

Вецер пераменна
Гоніць іх па гаю;
Як ім, бедным, дрэнна,
Я найлепей знаю!!!

* * *

Люблю я куточак свой мілы,
Хоць, праўда, ён стар, не багат.
Хоць цягнуцца, як бы магілы,
Пакрыўлены хаты ў рад.

Хаця яны снегам пакрыты
І віхры над імі гудуць,
Але тут спрадвекаў нязжыта
Ўсё родныя людзі жывуць.

Забітыя працаю труднай
Кабеты па ночках прадуць
І песняю ціхаю, нуднай
Свой жаль разам з ніткай снуюць.

Ждуць свету і з неба, дзе сонца,
Не зводзяць замучаных воч,
Тым часам пануе бясконца
І ў небе, і думках іх ноч.

* * *

Дзе ні глянеш — сумам вее —
Поле мёртвае, лугі,
Ды курганы пазабыты,
Пачарнеўшыя стагі.

І гляджу у даль з нудою, —
Закрывае вочы сон...
Ах, чы з роднай стараною
Дачакаць нам лепшых дзён?!

## Зміцрок Бядуля

### НА БАЛОЦЕ

Вея слепіць абшар на шырокім балоце.
Нібы парусы ў моры, бялеюць стагі.
Пушча стогне, звініць у трывожнай самоце.
І едуць на рум вазакі.

Гурба скача, як конь, лезе злосным мядзведзем,
Гурба валіцца, ляжа, як п'яны ўначы.
Уздагон вазакам нехта весела едзе,—
То купчык на санках імчыць.

Адзінока стаю і чакаю пад хвояй:
Можа снежная вея раптоўна засне.
Хвоя лапай дрыжыць над маёй галавою,
Наводзіць тугу на мяне.

* * *

Вунь бярэзнік на пагорку.
Ён на сонцы беліць шоўкі.
І кудзерцамі ў расе,
Нібы хлопчык, ён трасе.

Вунь ручай звініць дукатам,
Сустракаецца ён з братам —
З ручайком пяе другім
Небу, сонейку свой гімн.

Вунь на полі рунь рунявіць,
А над полем ветрык жвавы.
Ад мяжы і да мяжы
Ветрык конікам бяжыць.

Вунь, глядзі, пасецца цёлка.
Хлопчык выразаў свісцёлку.
Да бярозкі ён прынік,
П'е салодкі сакавік.

* * *

Начлежнікі пяюць. Над вогнішчам туман.
А спеў — вясёлы сум. А галасы — рачулкі.
Плывуць адтуль з кустоў, з асрэбраных палян
Частушкі — як званкі, частушкі — як бразгулкі.

Начлежнікі пяюць. У словах глуш лясоў,
І дзікай птушкі крык на зыбістым балоце,
І чулы летні шэпт расістых каласоў,
І човен рыбака, і клёны ў пазалоце.

Начлежнікі пяюць. Лунаюць уначы
Да зорак галасы жамчужна-гучнай веяй.
Спявайце галасней! Ты, песня, не маўчы!
Мо выскачыць з вачэй, бы з крэмня, іскраў веер.

Начлежнікі пяюць. Кіруйце спеў туды,
Дзе ў сэрцы, у грудзях так горача і цесна.
Вы знойдзеце шмат слоў агнёвых — і тады...
У полымя-пажар разгневаецца песня.

## ЗІМОВАЯ КАЗКА

Вісіць снежная ноч, вісіць лютая ноч
Сівай футрай над пушчай кашлатаю.
Белым пер'ем снягі, белым сырам снягі,
Долы-горы пад снежнымі шатамі.

Ў адзічэлым бары, непрабудным бары
Жывуць людзі маўклівыя, злосныя.
У хароме шкляным, на пасцелі шкляной
Дрэмле дзеўчына сонцавалосая.

Вы завіце яе, вы будзіце яе —
І закрэхча хваіна высокая,
І заплача віхор, і застогне віхор,
Загалосіць зіма белавокая.

І ад страху зіма, ад спалоху зіма
У шаленстве марозным замеліцца.
Некілзаным канём, сіва-белым агнём
Пойдзе дуба сляпая мяцеліца.

І дзяўчына ўздыхне, цяжкі сон перарве,
Пальцам бровы ачысціць ад шэрані.
І зірне навакол, непрытульна вакол,
Выюць сумна ў бары ваўкі шэрыя.

Вы будзіце яе — і надыдзе вясна,
Засвяткуюць жаўронкі над нівамі.
Крыкне лёд на рацэ, пойдуць крыгі ракой,
Зіму змыюць паводкі гуллівыя.

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ!

Над сажалкай сіняй зара начавала,
Было там і зорак нямала.

У сажалку зоркі праменні кідалі,
Свяціліся блізі і далі.

І грала зара сваім крыллем агнёвым,
Адсвеццем на лісцях дубовых.

— Няма нада мною, — сказала зарніца, —
Святлейшай на свеце сястрыцы.

— Няма тут над намі, — сказалі і зоркі, —
Ярчэйшай палянкі, узгорка.

Спяваў у арэшніку шэры салоўка,
Хваліў іх і спрытна і лоўка.

Тут ветрык прачнуўся на яснае ранне,
Пачаў між лістоў сваё гранне.

І сонца з-за гаю зірнула харобра:
— Дзень добры! дзень добры! дзень добры!

І зоркі патухлі, патухла зарніца,
І змоўк салавей на галінцы.

* * *

Гарацъ сняжынкі кволыя
І гаснуць на зямлі.
Хвіліны невясёлыя
У сэрца заплылі.

Вільготнаю лучынаю
Дымяць мае гады.
А дзверы ўсе зачынены,
Куды ісці, куды?

Пад гурбамі-заховамі
Жыву і не жыву.
Хачу чагосьці новага —
Парву ланцуг, парву.

* * *

Плача птушка ў пустыры.
Каля плоту дзед завохаў.
А на рэчцы — кроў зары.
Галіной ківае вольха.

У дайніцу — цырк і цырк,
То карову доіць цётка.
А суседка — злы язык —
Ёй пры гэтым пляце плёткі:

«Ой, Агату біў мужык,
Як прыйшоў дахаты п'яны».
Ноч вільготная ў імжы,
Сцелем сцелюцца туманы.

«Ой, Марыля ўкрала серп,
А папалася — вот сорам!»
А паляна ў расе.
Цень расце пад касагорам.

Буду ноч усю пісаць,
Як ніколі, як ні разу,
Пакуль бацька крыкне: «Спаць!
Кінь ты глупства, шкода газы!»

* * *

Лезе ў вочы ззянне месяца.
Месяц яркі, як пажар.
Мне здаецца, стаіць лесвіца
З азярода аж да хмар.

А па лесвіцы па срэбранай
Нехта лазіць угару.
І кашуля на ім зрэбная,
І глядзіць ён на зару...

А зара яшчэ ледзь цеплецца,
Грае міскаю нябёс,
Сыпле іскры на аселіцу,
На вяршаліны бяроз.

А туман дыміць над грэбляю.
Млын, бы човен уначы.
Вецер носіць вільгаць глебную.
Птушка крыкне, замаўчыць.

## СПЯКОТА

Наша поле — дзірван. І пячэ і пячэ...
І жыве дзе-нідзе толькі грэчка.
Просіць піць сухі луг, просіць піць сухі шнур,
І патрэскана дно сухой рэчкі.

Саранчой авадні. Проста жыць не даюць.
І кусаюць так злосна, балюча.
Ёсць пацеха адна — урадзіўся палын,
На гародзе аж цэлыя кучы.

Стогне блізкі сусед: «Голад пойдзе тут граць!
А цымбалы ў мяне — лыжак восем.
Эх, каб дождждык на тры дні.. Гэта ж ліпень у нас,
А жаўцеюць лісты — проста восень...»

* * *

Вісіць серп залаты над спалоханым борам.
Жне вяршаліны хвой гэты серп залаты.
На нізінах туман, бы кудзельнае мора.
У тумане паніклі платы і кусты.

Каля млына вада «кап» і «кап» з чорнай скрыні.
Кропля кожная — стрэл у паўночнай цішы.
Чулы аір дрыжыць, як птушыныя крыллі.
Стаіць дуб-вартаўнік на расістай мяжы.

* * *

Абліта ззяннем зорак росная паляна.
Застыў пад мгненне ценяў чулы зарасняк.
З-за шыза-дымнай хмары круглы месяц глянуў,
У рэчку кінуў-сыпнуў бірузовы мак.

У блізкай вёсцы ўсхліпнуў, заспяваў гармонік;
Ён рэзаў, бы касою, цішыню начы.
Затросся лісцем свежым малады альхоўнік...
Ты, сэрца, адпачні тут, сэрца, замаўчы.

## ДАЗВОЛЬ...

Дазволь цябе любіць, як кветачку на полі,
Як явар малады, што над ракой стаіць,
Як залатую птушку, што жыве на волі,
Дазволь цябе любіць.

Дазволь цябе любіць за песню, што я чую,
За срэбны гучны смех, што чыстатой звініць,
За вочы ясныя, за душу маладую
Дазволь цябе любіць.

Дазволь цябе любіць за светлыя часіны,
Якія ты даеш мне ў шчасці перажыць,
За шчырае натхненне, мілая дзяўчына,
Дазволь цябе любіць.

## ПАСТУШКА

Адзін на балоце. Сягоння нядзеля.
На раніцу птушкі звіняць, як званкі.
Туман нада мною ваўнянай кудзеляй.
Нікога пры сплаве няма ля ракі.

Касцёр зараз згасне. Трашчаць галавешкі.
Закашляла хрыпла ў імбрычку вада.
Спяклася і бульба — малыя арэшкі.
Я чую з туману: «Рабуля, задам!»

Ці голас дзіцячы? Ці голас дзявочы?
Тут пасвіцца стада ў вільготных кустах.
Ідзе хтось з туману. Бліскучыя вочы.
«Дазвольце пагрэцца...» — У голасе страх.

Пастушка малая. А гразь па калена.
А торбачка збоку. Дубец — як вужак.
Худая дзяўчынка... А зубы, як пена.
Ад холаду рукі і губы дрыжаць.

Вось бусел спусціўся. Пачаў свае гульбы:
Стаіць недалёка на тонкай назе.
— Пагрэйся, дзяўчынка, гарачаю бульбай!—
Не знае пастушка, дзе рукі падзець.

І бусел узняўся. Шырокія крыллі
Гарэлі ў небе сваёй белізной.
Дзяўчынка пад'ела: «Завуся Марыляй».
— Кажы, як жывецца? Не бойся, я свой!

— Дык наша хацінка маленькаю будкай
Адна на паляне, як той вартаўнік.

На прызбе шырокай растуць незабудкі.
Дубок, як падпора, да сценкі прынік.

Дык там мухаморы глядзяць у канаўку,
А воддаль бабуляй шапоча сасна.
Насустрач — даліна, мурожная траўка.
За лугам — магільнік, хмызняк і багна.

Хоць раз ці была я ў матулі пястушкай,
Хоць раз ці карміла матуля як след.
Служу я ў фальварку тут блізка пастушкай,
Служу нізавошта ўжо некалькі лет.

На раніцу статак пускаю на выган,
Адтуль па балоце — на панскі барок.
На могілках страхам нязведаным вее,
Апрыкрыла грэбля, крыжы і пясок.

Хоць ёсць абарона пры самай дарозе —
Нябожчыка-бацькі бугорчык зямлі.
Я вочы зажмуру, бягом у трывозе
І плачу пры гэтым у тры ручаі.

Я помню, татуля быў вечна за працай,
Ён парабкам цёнгля служыў у двара.
Тады, як і зараз, голад у хаце,
Аж нейкая жаласць за сэрца бярэ...

І скардзіўся тата на пана благога:
«Працуеш-працуеш — аднолька бяда.
А ну яго к чорту! А ну яго к богу!
Надыдзе часіна, ой перцу задам!»

Аднойчы уночы — гу-га-а ў двара там,
Агонь аж да неба падняў галаву.
І быў той халодны маёнтак сагрэты,
І лоўка сваволіў чырвоны пявун.

Бярэ мяне радасць — на небе вясёлка,
А людзі — туп-туп і туды і сюды.
Святлютка-святлютка, хоць нітку ткні ў голку!
Завылі сабакі ад нейкай жуды.

Пляваўся, грымеў у пажарышчы бровар,
А дым, нібы хмара, а нейкі смурод.

Іржалі там коні, рыкалі каровы,
З ваколіцы блізкай збіраўся народ.

Тады як да бацькі прычэпіцца пан той:
«Твая гэта справа! Кажы ды кажы!»
І бацьку звязалі. Ад бочкі ды крантам
Яго калацілі на панскай мяжы...

Памёр ён праз месяц. Вунь там пахавалі.
А маці гаворыць: «Ён — богу душой».
Балююць паны, як раней балявалі,
А маці — ўдавою, а я — сіратой.

Дзень кожны я з стадам — сюды на балота.
А гразнуць каровы у гэтай багне.
Дык вось нападае чамусьці маркота,
Хоць кожная купка знаёма тут мне...

А думкі наводзяць на злосць і на смутак,
Хоць птушкі пяюць ад зары да зары.
Ніхто не раскажа — не знаю, чаму так...
Такое жыццё — хоць агнём ты згары!..

## МОЙ СПЕЎ

Спеў мой, быццам бура, голас выдае:
То ён чуць-чуць свішча, то з жальбой пяе,
  Або моцны рогат, ці слабенькі стогн,
  Багамольны, быццам той вячэрны звон.
Ён глыбей за мора, ён вышэй ад гор,
Ён цямней ад хмары, ён святлей ад зор.
  Зык яго маркотны уздымае жаль,
  Рвецца ён самотны у бяскрай, у даль...
Спевам чарадзейным кіраваць не мне:
Спевам маім толькі доля павядзе.
  Плывуць мае песні вершам па лугу,
  І стрымаць у сэрцы іх я не магу.
Верш гручыць па сэрцы, б'е штораз мацней,
Яго бацька — воля, маці — цвет палей.

* * *

Ці ведаеш зямлю арлоў — людзей магутных?
Ці ведаеш ты дні віхораў і агня?
Ці ведаеш ты сказ аб волатах пакутных?
Ці ведаеш ты спеў аб вечным ззянні дня?

Ці чуў ты часам быль аб сэрцах аб мяцежных?
Ці чуў ты гімнаў кліч аб шчасці на зямлі?
Ці чуў ты гул грымот аб гордасці бязмежнай?
Ці чуў ты пра байцоў, што за цябе ляглі?

* * *

Вячэрнія гаснуць зарніцы
Палоскаю бледнай над лесам.
Мой бацька іграе на скрыпцы
Хасідскую сумную песню.

Ён цягне смычком так дакучна,
У шафу ўтаропіўся зрокам.
У шыбах пабітых — анучы,
Праз шыбы працэжаны змрокі.

Малыя ў чаканні заціркі
Палезлі гурбой на пяколак.
— Цішэй вы там! — бацька як крыкне,—
Ты што вырабляешся, Лёлік?

А маці, як быццам з пячэры,
Крычыць з-за кутка маніфест свой:
— Яшчэ не гатова вячэра,
Сядзіце вы, чэрці, на месцы!

Падлогу з'еў грыб аж дашчэнту,
І тупаць па ёй так няёмка,
Сягоння няма атрамэнту.
Пісаць буду вершы алоўкам.

* * *

Палумесяц арэ залатыя барозны.
Над рачулкаю вольха ківае пагрозна.
Млее хвоя, дрыжыць ува сне.
Ой, чаму я згубіў супакой свой раптоўна?
Ой, чаму гэтак вочы гарацЬ непрытомна?
Ой, чаму стала сумна так мне?
І баліць, вакол шыі вяроўка пляцецца.
Нешта кажа мне сэрца.

Над лагчынай туман шэра-дымнай кудзеляй.
Сіне-росную гафту даліны адзелі.
Будзіць далі трывожны трызвон.
Гулам-гудам злосць-гнеў ён разносіць па краі.
Ой, чаму мне здаецца, што нехта канае?
Ой, чаму чую стрыманы стогн?
Ці да шчасця зачынены дзверы і дзверцы?
Нешта кажа мне сэрца.

Птушкай лезе ўспамін з абяздоленай вёскі.
Там замёрлі жыцця галасы, адгалоскі.
Людзі сталі маўклівы, як пні.
Пазадушана ўсё пад цяжарам магілы.
Чорным крыллем бяда нават сонца займгліла.
І прапалі, патухлі агні.
Цішыня. Анямеласць галечы і смерці.
Нешта кажа мне сэрца.

* * *

На горне душы я жывы верш каваў,
Мне молатам гора служыла;
Зык песні паўночнай у сэрцы хаваў,
І сэрца свой боль гаварыла...

На струнах душы жывы верш я заграў,
Насіліся рэхі далёка,
Ратай пры іх шнур свой глыбей заараў
І слёзы туманілі вока...

## ПЕСНЯ

О, сонейка так яснае...
Так весела пяецца...
Чаму табе, дзяўчыначка,
Так благанька жывецца?

Ты будзь, як тая яблынька,
Што, вун, цвіце на волі...
Ты будзь, як тая рэчанька,
Што, вун, блішчыць на полі.

Глядзі, як летні ветрычак
Закалыхаў бярозкі.
Чаму, мая дзяўчыначка,
Ліеш гарачы слёзкі?

Яна, як бы русалачка
Пужлівая, маўчала,
Галубанька гаротная
Мацней засумавала...

Паваленае дзераўца,
Ой, не зазелянеець...
Пакрыўджанае сэрцанька,
Ой, не павесялееЦь...

## ПРЫЙДЗІЦЕ...

Прыйдзіце вы, добрыя... Вечна кахаючы,
Шчасце вы свету даруйце!
І гора-нуду і пракляцце ахвяраю
Вашай руйнуйце!..

Прыйдзіце вы, светлыя... Днём сямісонечным
Наша жыццё атуляйце!
І цені магільныя з ночнай паганшчынай
Ветрам пускайце!..

Прыйдзіце вы, шчырыя, сэрцам адкрытыя...
Праўда хай служыць вам мэтай!
І гніль фарысеяў і хітрасць распуснікаў
Счэзнуць са свету!..

Прыйдзіце вы, моцныя, бурамі званыя...
Ворагам гібель грыміце!..
І з нашай дарогі сыдуць злыя шкоднікі...
Хутка прыйдзіце!..

* * *

Б'еццa восень халодная ў рэчную шыбу.
Безупынку трасе адзінокай вярбой.
Я далёкі вандроўца. Хачу да сялібы.
Па калена ў гразі на дарозе глухой.

Вунь стагі, нібы волаты, спяць на балоце.
Вунь узняў многа рук ясянёвы шкілет.
Дождж лупцуе па шыі, цапамі малоціць,
Мне здаецца, хаджу многа зім, многа лет.

А за мной непрытульнасці ў полі імглістым,
І крычыць варанне, як на нейкі пажар.
Ногі лезуць у цеста, у квохат багністы.
О, задушыцца дзень пад дзяругамі хмар.

## Дзед Дзяніс

### БАБЫЛЬ

Эх, жыццё — багацце!
Гол, як той сакол:
Сані без палоззяў,
Калёсы без кол,

Без аглобель сошка,
Без кляшчоў хамут,
Без абораў лапці,
К ім каравак жмут...

Хіліцца хаціна,
У зямлю ўрасла;
Была і скаціна —
На даўгі пайшла.

Была жонка, дзеткі,
Мілая сям'я;
Бач, і іх не стала...
Эх, бяда мая!

Сходзяць год за годам,
Як тая рака;
Віхры-непагоды
Нішчаць бедака.

## Мірко

### ПЕСНЯ СІРАТЫ

А той цёмны лес сасновы
Маркотна шуміць;
А беднае маё сэрца
Так крэпка баліць!

Ой, пайду я ў лес сасновы,
Пачну я гукаць:
Ой, не маю шчасця, долі,
Буду іх шукаць.

Хаджу, блуджу я па лесе,
Забіваюся,
Слёзынькамі гарачымі
Абліваюся...

Ой, ты, доля, мая доля,
Прыйдзі да мяне!
Прыгалуб хоць на дзянёчак,
Як дзіця свае...

Так мне сумна! Ў свеце цяжка
Жыці сіратой...
Ой, прыйдзі ты, мая доля,
Зжалься нада мной...

І хадзіла я, шукала,—
Долі не знайшла;
Мабыць, тая мая доля
Далёка пайшла?

Ой, пайшла яна, не прыйдзе.
Не угледжу ёй!
І век цэлы буду жыці
Круглай сіратой...

## Лявон Лобін

### ЗАЛОМ У ЖЫЦЕ

Жыта, як гай! Што за людскае жыта!
Шчыра ж хрысціўся, як сеяў, Мікіта,
Ў добрую пору пасеяў,— расло
Густа, зялёна, шумела яно.
Часам над жытам і хмара звісала
Цёмна, сярдзіта яна бушавала;
Вецер гнуў колас і краску зрываў,
Дождж з шумам падаў, і град начынаў.
Але бог міlаваў збожжа ад граду:
Жыта паспела людзям у нагpаду.
Беднае сэрца ужо не баліць:
Будзе чым дзетак галодных карміць!
Цешыцца сэрца і ў цёткі Алёны:
Будзе і хлеб і хвартух ёй чырвоны,
Будзе за што і дзяўчынку вучыць,
Бога за бацьку Мікіту прасіць...
Рана устала Алёна — да сонца,
Нешта шаптала, зірнуўшы ў ваконца,
Доўга хрысціла дзіця, а пасля,
Ўзяўшы сярпочак, на ніву пайшла.
Жне цётка,— жыта трашчыць пад сярпочкам!
Сноп каля снопа стаўляе радочкам.
«Дзякаваць богу!» — ўздыхае яна:
«Эх, каб Мікітка... не жала б адна!»
Вось і пражала на добрую лаву;
Зірк тут Алёна,— аж бачыць праяву:
Жыта паломана дужа ляжыць,
Кукла завіта ў жыце стаіць!..
Серп сам з рук выпаў: бяда ўжо здаецца!
Цётка збялела, і сэрца трасецца,
Ногі калоцяцца, пот на лабе,

Вусты дрыжаць ей,— і кажа сабе:
«Неча ж, як конскія, ногі таптalі,
Сцежку зрабілі і жыта памялі;
Неча ж рука (каб яму ўвасохла!)
На крыж ламала, як краска была!»
Плача Алёна і надта галосіць,
Слёзы ліюцца, быццам-то ў бабра,
Плачучы, кажа сабе: «Не з дабра
Мужа Мікітку ў зямельку схавала,
Дзетак траіх я за ім закапала!
Цяжкая, горкая доля мая...
Дзе ж тая воля, мой божа, твая?
Рыбай аб лёд я, працуючы, б'юся,—
Гэта ўсё робіць суседка Таклюся:
Збожжа круціла — яна тут была!—
Мусіць зрабіла, каб я не жыла!
Першай нядзелькай яна варажыла,
Дзетак каб я у труну палажыла:
Грошы малола, дала на званы,
Свечкі ламала,— памерлі яны!
Сама апошня жывець толькі Ганька,
Адна ўцалела!.. Ой, бедная хатка!
Божа, дай гэта, яна каб жыла,—
Косці каб мо яна мне прыграбла!..
Ногі і рукі мае ўжо папухлі,
Вочы не свецяць, як трэба: патухлі!
Быццам, як кол вось у спіне стаіць,
Дужа і часта у грудзях баліць...
Годзе, суседка! Цяпер не дарую:
Кошту і часу ужо ахвярую!»—
Кажа Алёна, сярпок узяла,
Слёзы уцёршы, дахаты пайшла.
Лён, палатно яна ў торбу згарнула,
Цяжка ўздыхнуўшы, на образ зірнула.
Баба-знахарка у вёсцы жыла,
Дык вось Алена да ей і пайшла.
Скора да бабы-знахаркі прыходзіць;
«Вось і гасцінчык! — рукамі разводзіць,—
Толькі ўжо, бабка, ты мне памажы:
Што мне з суседкай рабіці, скажы?»
Бабцы Алёна ўсё стаўкавала,
Як ведзьма ў жыці заломы вязала,
Бабка й тлумачыць ёй, як адчыніць:

«Добра, параджу, як ведзьме адмсціць.
Слухай жа вухам: залом трэба вырваць,—
Ворагі самі прасіць цябе прыйдуць,
Хутка ж дахаты цяпер ты бяжы,
Вырві залом, і ў чарон палажы:
Будзе той схнуць, як у коміне жыта,
Будзе цягацца ён сам, як забіты,
Покуль паморак яго не зграбе;
Смерці ж не будзе чакаць на цябе!»

. . . . . . . . . . . . . . . .

Вечар. Спіць вёска, Алене не спіцца:
Неяк, як хвора, чагосьці баіцца.
Ціха. Вось брэшуць сабакі: чутно,
Быццам-то нехта пастукаў ў вакно.
Выйшла і сені яна адчыніла,
Зірк: аж Таклюся стаіць гэтак міла!..
Шэпча Алене: «Ты, кажуць, была
Ў бабкі, ды бабцы мяне удала...»
Тут і дрыжаць ужо стала Таклюся;
Шэпча: «Нядобра... страх нейкі... баюся:
Бабка-знахарка, як бач, пракляне;
Ты ж не здарма ёй уперла мяне,
Быццам залом я круціла у жыце.
Гэта ж няпраўда! Мо так, а мо дзеці...
Злога людзям не хачу я рабіць:
Ведаю добра — усім трэба жыць!»
Доўга суседкі у хаце шапталі,
Быццам кляліся, ды цяжка ўздыхалі.
После Таклюсю узяў нейкі смех:
«Мусіць я,— кажа — прыйшла, як на грэх...»
После Алена за ёй зачыняла,—
«Ну ж і суседка!» — сабе мармытала.
Зірк: аж у печы залому няма!
Вось, які грэх і якая дума?
После Алена, махнуўшы рукамі,
«Хай і бярэ,— сабе кажа,— з чарцямі!
Я не шкадую, каб толькі жыла!..»
Скора пасцельку паслала, лягла.
Ганька-дачушка яе ўжо спала;
Крэпка Алена дачку абнімала:
«Дзіцятка,— кажа,— не бачыш бяды:
«Хочуць ўтапіць мяне ў лыжцы вады!»

. . . . . . . . . . . . . . . .

Ганечка, спі! Ты ужо мо прачнешся,
Кінеш залом і сама засмяешся,
Пойдзеш другой мо дарогаю ты,
Плакаць не будзеш ад тэй цемнаты!

## Альфонс Петрашкевіч

### НЕ СМЕЙСЯ...

Ты не смейся з мужыка,
Што ён цёмны, бедны;
Не ўважай, што ў бедака
Твар маркотны, бледны,—
Не ўважай!

Ты не смейся, што мужык
Ўвесь свой век гаруе;
Не ўважай, што нудны зык
У душы пануе,
Не ўважай!

Ты не смейся з яго рук,
Што крывёй абліты;
Не ўважай, што многа мук
Зносіць ён, забіты,—
Не ўважай!

Ты не смейся, што ў лапцях
Ходзе ён абуты;
Не ўважай, што на дзяцях
Мох парос пакуты,—
Не ўважай!

Ты не смейся, што ў шынку
Прапівае світку;
Не ўважай, што у гаршку
Сала ні на нітку,—
Не ўважай!

Ты пасмейся лепш з таго,
Кім ён век загнаны,
Хто ўзяў волю ад яго,—
Ты пасмейся з пана...
Ты ўважай!

* * *

Скачы, браце, ў роднай хаце —
    Хто там забароне?
Весяліся, не смуціся,
    Такі дзень сягодня!

Доўга ждалі, выглядалі
    Мы гэтага святца...
Што ж вы ѐелі, спахмурнелі?..
    Весяліцесь, братцы!

Весяліцесь, не смуціцесь,
    Як людзі ў грамадзе,
Бо ўсё тое, ўсё благое,
    Што было — узадзе!..

Бо і мы ж людзі!.. Дакуль будзе
    Цемната і гора?..
Эй, танцуймо, галасуймо,—
    Доля прыйдзе скора!..

## ТРЫЯЛЕТ

І мой ахвярнік не астыў.
Гарыць яшчэ агонь на ім
І рвецца ў гору сіні дым...
І мой ахвярнік не астыў,
Магу сказаць во гэта ўсім,
Хто мае песні палюбіў:
І мой ахвярнік не астыў.—
Гарыць яшчэ агонь на ім.

## Алесь Гурло

### ВЕЧАР

Закацілася сонца чырвонае,
І даліна спяшыць пацямнець...
Узышлі ў небе зоркі чароўныя,
Сталі весела, ясна гарэць...

Ў люстра возера месяц ўглядаецца,
Блескам срэбным ён хвалі абліў,
Каля лесу туман рассцілаецца
І ўсё поле сабой ахапіў...

Ўсё замоўкла... І хочацца, хочацца
Ў ласцы ціхага сну спачываць,—
Сэрца б'ецца у грудзях і просіцца
Невядомае шчасце спазнаць!..

## ВІХОР

Вось віхор-стрэхадзёр
Загудзеў, зашумеў;
Стрэху здзёр і папёр,
Пыл замёў ён з палёў.

Зашугаў, застагнаў,
Павярнуў, скавытнуў,
Ўзняў пясок і пагнаў
Цёмнай хмарай яго.

Затрашчэў, засвішчэў
Злосна-моцна ў бары,
Лістам дрэў шамацеў,
Дуб рвануў і звярнуў.

Стук і гук скрозь пайшоў
Рэхам, смехам аддаў...
На што йшоў, што найшоў,
Ці злаваў, ці гуляў?..

## СВІТАННЕ

Сціішна вецер падуў
З мора вольнага,
І туман агарнуў
Шыр прасторную...

Лес кругом зашаптаў
Байкай-казкаю,
І усход засіяў
Дзіўнай ласкаю...

Зарунелі палі
Пад праменнямі,
Стала крыцца ралля
Цветам-зеллямі...

Заспяваў салавей
Звонкім голасам,
І запахла з палёў
Спелым коласам...

## НЕ ГАСІЦЕ АГНЕЎ

Не гасіце агнёў!.. Хай гарацъ весялей,
Хай пылаюць іскрыста ў цьме ночы...
Не гасіце агнёў... Хай праменні ясней
Асвячаюць праспаныя вочы.

Не гасіце! Бо досі ўжо цьме панаваць —
Няхай полымя жаркае ўецца...
Ўжо дарогу ад цемры пара асвячаць,
Ўдаль туман ужо рэдкі нясецца.

Не гасіце агнёў, пакуль ноч не міне,
Пакуль сонца зямлі не сагрэе...
І прыгожы дзянёк серабром не бліcне,
Як дарожка жыцця прасвятлее!..

* * *

Я не раз у дрэнны час
Думаю-гадаю...
А над чым і за чым?
— Долі я не маю!

Прыкра мне, бы ў турме,
Час жыцця без долі,
І штодзень думак цень
Цісне дух да болі.

Час бяжыць і ляціць
Быстраю стралою,
А нуда і бяда
Не даюць спакою.

## ЗАБЛІШЧАЛІ У ЦЕМНАЙ ДАЛІ МАЯКІ

Заблішчалі ў цёмнай далі маякі...
Ну, садзіцеся за вёслы, маракі;
Ну, тужэй, тужэй навалімся назад,
Перарэжам хваль сустрэчных цэлы рад!

Нам не страшны вецер сіверных старон,
Пусцім быстра, пусцім шпарка мы свой чоўн,
Хай імчыцца, хай калышацца ад хваль —
Неўзабаве нам заззяе шчасцем даль.

Песня, ліся і звіні, галосная струна,
Падганяйце бег вы нашага чаўна!..
Бліжай сталі залатыя аганькі —
Вось і бераг! Здзеньце вёслы, маракі!

## В. Станкевічанка

* * *

Гудзіць вецер, завывае,
Стогне-плача ў полі;
А на сэрцы так тужліва,
Жаль мінуўшай долі...

І пад енк тых страшных тонаў
Душа замірае:
Хтось жывы, здаецца, плача,
Стогнучы канае.

І так цяжка тады жыці,
Ў сэрцы столькі болю,—
І ляцела б я, здаецца,
З ветрам дзесь у поле!

Маладых дзён усе мары
І тое, што згубіла,
І за чым душа так тужыць
Я б тады забыла.

І ў шырокім бы прасторы
З ветрам я лятала,
Дзён мінуўшых, дзён шчаслівых
Я бы пашукала.

## Пранцішак Красоўскі

* * *

Цесна сэрцу у грудзях,
Як арлу у клетцы;
Усё на нейкі новы шлях,
К новым зорам рвецца...

Цесна сэрцу песняра,
Тут, на слёз падоле...
— Ах, ці прыйдзе к нам пара,
Лепшай долі-волі?!

## В. Явар

### ЧАКАННЕ СОНЦА

Ці скора ты, ночка, пяройдзеш,
Сярдзітая, хмарная ноч?!
Ці скора ты, сонейка, ўзойдзеш,
Пацёмкі разгоніш ад воч?
Мы ходзім ў пацёмках нямыя;
Брат брата не бачым ў цямне,
Мы ходзім, як ворагі злыя,
На гэтай панурай зямле.
Ўзыдзі, ты магучае сонца!
Гарачае, вольна — ўзыдзі,
Пячы ты цямноту бясконца
І хмару святлом развядзі!
Хутчэй узыдзі ты з усходу,
Паглянь, як тут сумна у нас!
Хутчэй дай ты свету народу,
Бо цемрачны губіць нас час.
Сярод тугі, пагарды, нядолі,
Сярод прыкрага жыцця свайго,
Сярод цемры і цяжкай нядолі
Не бачым мы свету твайго.
Узыдзі ты нам анёлам светлым
Для нас — Беларусі дзяцей,
Узыдзі пачуццем прыветным,
Узыдзі ты! Сірот пажалей!
На ніву зыйдзі ты худую,
Дзе горкія кветкі растуць,
Дзе хмары сілу благую
Ветрамі ночы нясуць.

## Ванда Лев-ая

### МАЙСКІЯ НОЧЫ

На палі, на лугі,
На пагуркі, лясы
Майскі вечар паволі спусціўся.
Звільгатнела зямля,
Легла густа раса,
Ясны дзень цёмнай ночкай змяніўся.
У нябёс вышыне,
Ў карагодзе-гульне
Дружна-весела зоркі стаўпіліс;
Ужо праца людзей
І клапоты звярэй
З наступаючай цемрай спыніліс.
Ночка... Сціша кругом...
Маладзік серабром
Увесь свет божы блескам злівае;
Як гусей караван,
Па даліне туман
Белым полагам землю ўсціла.
Няма следу зімы:
Май, каханак вясны,
Прыбраў поле, узгоркі травою,
А чаромхі кусты,
Бэз, язмін і сады
Скрозь квяцістай акрыў пеляною.
Ясна ноч... цішына...
Салаўя трэль чутна —
Сцішна, міла ў кустах раздаецца.
Ён пяе жыцця сон,
Аб каханні тне тон;—
Ад той песні ў душы ўскалыхнецца.
Тады ўспомніш нудзьгу,

Свае мары, тугу,—
Памім волі зліешся слязамі...
Усё «былое» прайшло,
Больш не вернеш яго,
Сэрцу болесна, цяжка...
Між намі,
Брат, прыгледзься к сабе,
Есць няшчасней цябе:
У цябе хоць «мінулась» міла,
Ў іх няшчасных нідзе,
Няма ўпыну ў бядзе,—
Сэрца шчасцем ніколі не біла.

. . . . . . . . . . . . . . .

Як люблю цябе я,
Беларусь ты мая!
Твае ціхія майскія ночы,
Спек і працу удзень,
Золкай раніцы цень,
Цяпло сонца і зоркі... як вочы —
Звон далёкі люблю,
Плач жалейкі лаўлю,
Песню жаўранка ў высі глыбокай,
Гранне дудак, ражкі,
Поле, лес і лужкі,
Што вакола ляжаць — вун далёка.
Залацісты блеск ніў
І «пятроўкі» матыў,
Калі косы зіхцяць, серп мігае,
Постаць ўсю тваю я,
Ты, Айчызна мая,
Я люблю, Беларусь, дарагая!..

## Зміцер Сеўрук

* * *

На сэрцы нудна, ў думках вяла,
І як жа быць мне весялей:
Работы шмат — карысці мала,
Пад цяжкай ношкай жыцця млей.

Жыццё саўсім нам не мацуе,—
Што больш жывём — больш сілы гінуць;
На старасць беднасць апануе,
Пацехі, радасці пакінуць.

І горб на плечы узбярэцца,
Хваробы свой прыпын саўюць,
Хрыпотны кашаль адазвецца,
Прадсмертны спевы запяюць.

І ты маленькімі шагамі,
Б'ючыся ў некальстве, ў трудзе,
Брыдзеш блуднымі пуцінáмі,
Пакуль аж смерць не набрыдзе.

## М. Ландыш

### АРАТЫ

З гора спяваючы песню маркотную,
Лейцы ў руках мазалістых трымаючы,
Ціха ідзе ён за сошкай сагнуўшыся,
Долю сваю тут у полі шукаючы.

Конік старэнькі чуць цягне дрыжачую
Матку-карміліцу, сошку драўляную,
Сам жа араты наш, ею кіруючы,
Шчыра ўзрыхляе зямельку жаданую.

З горкай нудою нідзе не расстаўшыся,
Шчасця век цэлы у полі шукаючы,
З сошкай крывенькаю, з коскай сталёваю,
Ходзіць, марнеець, свой пот выліваючы.

## ХМАРА

Цягнецца па небе
Хмара дажджавая,
Цёмнай паласою
Ўсю шыр закрывае.

Ляціць без дарогі,
Куды вецер гоніць,
На людзей і птушак
Жуду, страх наводзіць.

Вось закрыла сонца,
Моцна зашумела,
Каршуном магучым
Над зямлёй ляцела.

Зрабілася цёмна,
Як у варывенцы,
У якой ёсць толькі
Малае вакенца.

Па дарозе пылкай
Каплі забрынчэлі,
Як мага, ўсе птушкі
Ў гнёзды паляцелі.

Пастушок на полі
Пад ёлку схаваўся,
А дождж на волі
Добра разгуляўся.

## Міхалка Скарэўскі

* * *

Разгані па небе,
Вецер, цёмны хмары,
Разнясі па полі
Мае сумны думы.

Уздыхаюць цяжка
Ад іх мае грудзі,
Ныець маё сэрца
І баліць бязмеры.

Вяну я ад думак,
Як былінка ў полі,
Не жыву — марнею,
Як птушка ў няволі.

Ох, зляціце думы,
Дайце мне прастору,
Сіле маладое
Дайце толькі волю.

І знайду я шчасце,
Будзе жыцце ў згодзе.
Зару новай долі
Відна на усходзе.

## ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ

Францішак Казіміравіч Багушэвіч нарадзіўся 21 (9 ст. ст.) сакавіка 1840 г. у фальварку Свіраны, недалёка ад Вільні. Скончыў Віленскую гімназію і некаторы час займаўся на фізіка-матэматычным факультэце Пецярбургскага універсітэта. Прымаў удзел у паўстанні 1863 г. Пасля падаўлення паўстання быў вымушаны надоўга пераехаць на Украіну. Там у 1868 г. скончыў Нежынскі юрыдычны ліцэй і пасля шмат год быў судовым следчым у розных мясцінах Украіны. Толькі ў 1884 г. Багушэвіч вярнуўся ў Вільню, дзе працаваў адвакатам у акруговым судзе. У сярэдзіне 90-х гадоў пакінуў службу і пераехаў у свой фальварак Кушляны на Ашмяншчыне. Памёр 28 красавіка 1900 г.

Літаратурную дзейнасць Багушэвіч пачаў у студэнцкія гады. Пры жыцці ён выдаў два зборнікі вершаў «Дудка беларуская» (пад псеўданімам Мацей Бурачок. Першае выданне — Кракаў, 1891, другое — Кракаў, 1896), «Смык беларускі» (пад псеўданімам Сымон Рэўка з-пад Барысава, Познань, 1894). У 1892 г. у Кракаве выйшла ананімна апавяданне Багушэвіча «Тралялёначка». Зборнік «Беларускія расказы» быў забаронены цэнзурай і свету не ўбачыў.

Са зб. **«Дудка беларуская»**

**Мая дудка** (стар. 12).
**Дурны мужык, як варона** (стар. 15).
**Воўк і авечка** (стар. 17).
**Праўда** (стар. 19).
*Найда* — навіна.
**Бог не роўна дзеле** (стар. 21).
*Сает* — тонкае фабрычнае сукно.
*Аплатак* — праснак.
**Кепска будзе!** (стар. 23).
*Прандзей* — хутчэй, скарэй.
*Злыдні* — дробныя гаспадарчыя рэчы.
*Цёнгле* — заўсёды.
*Не прыпісаны да сказкі* — у дадзеным выпадку не прыпісаны да спіскаў.
*Звеставанне* — благавешчанне.
**У астрозе** (стар. 34).
*Найда* — у дадзеным выпадку дзела.

Са зб. **«Смык беларускі»**

**Песня** («Чаго бяжыш мужычок...») (стар. 38).
**Калыханка** (стар. 39).

**Ахвяра** (стар. 41).
**Не цурайся** (стар. 42).
*Скаэа* — праказа, заразная хвароба.

## КАРУСЬ КАГАНЕЦ

Карусь Каганец (Казімір Карлавіч Кастравіцкі) нарадзіўся 10 лютага (29 студзеня ст. ст.) 1868 г. у Табольску, куды царскі ўрад саслаў яго бацькоў. Скончыў Мінскае гарадское вучылішча. Вучыўся ў Маскве майстэрству скульптуры. Каганец быў адным з заснавальнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады. За ўдзел у падпольных гуртках двойчы сядзеў у астрозе (1905—1906, 1910—1911).

Першы твор напісаў яшчэ ў 1893 г., але ў друку творы Каганца пачалі з'яўляцца толькі пасля рэвалюцыі 1905 г., калі сталі выходзіць газеты і часопісы на беларускай мове. Пісаў вершы, апавяданні, драматычныя творы, якія ў большасці выпадкаў з'яўляюцца перапрацоўкай народных легенд і казак.

Каганец склаў «Беларускі лемантар, або першую навуку чытання», працаваў над укладаннем «Беларускай граматыкі». Памёр 20 мая 1918 г.

**Кабзар** (стар. 44). Друкуецца па «Нашай Ніве», 1910, № 3. Датуецца годам апублікавання.

**Песня зіме** (стар. 45). Друкуецца па «Беларускаму календару на 1914 г.». Датуецца годам апублікавання.

## ЦЕТКА

Цётка (Алаіза Сцяпанаўна Пашкевіч) нарадзілася 15 (3 ст. ст.) ліпеня 1876 г. у вёсцы Пешчына Лідскага павета Віленскай губерні (зараз Гродзенская вобл.) у заможнай сялянскай сям'і. Вучылася ў Віленскай гімназіі, а затым на агульнаадукацыйных курсах Лесгафта ў Пецярбургу. Пасля заканчэння вучобы вярнулася ў Вільню, дзе з 1904 г. працавала ў Новавілейскай псіхіятрычнай бальніцы. Прымала актыўны ўдзел у рэвалюцыйных падзеях 1905 г. Асобныя яе вершы гэтага часу («Хрэст на свабоду», «Мора» і інш.) друкаваліся як рэвалюцыйныя пракламацыі.

Пасля падаўлення рэвалюцыі 1905 г. выехала ў Галіцыю, вучылася ў Львоўскім універсітэце. Там жа выдала ў 1906 г. два зборнікі сваіх вершаў: «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская». У 1911 г. вярнулася на радзіму. Цётка актыўна супрацоўнічала ў беларускіх газетах, арганізавала выданне часопіса для моладзі «Лучынка» (1913). У час першай імперыялістычнай вайны працавала ў шпіталі. Памёрла 18 (5 ст. ст.) лютага 1916 г.

Са зб. **«Скрыпка беларуская»**

Вершы **«Скрыпка»** (стар. 47), **«Вам, суседзі»** (стар. 49), **«Вера беларуса»** (стар. 50), **«На магіле»** (стар. 51), **«Суседзям у няволі»** (стар. 52) друкуюцца па зб. «Скрыпка беларуская». Датуюцца годам апублікавання.

Са зб. **«Хрэст на свабоду»**

Вершы **«Хрэст на свабоду»** (стар. 53), **«Мора»** (стар. 55), **«Добрыя весці»** (стар. 57), **«Бура ідзе»** (стар. 58), **«Мой сад»** (стар. 59), **«Родная вёска»** (стар. 60), **«Музыкант беларускі»** (стар. 61) друкуюцца па зб. «Хрэст на свабоду». Датуюцца годам апублікавання.

*** **«Гэй, братка, ты, новы годзе...»** (стар. 63). Друкуецца па «Нашай Ніве», 1908, № 1, дзе змешчаны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

**Вясковым кабетам** (стар. 64). Друкуецца па «Нашай Ніве», 1908, № 2, дзе змешчаны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*** **«Скора прыйдзе вясна...»** (стар. 65). Друкуецца па «Нашай Ніве», 1908, № 5, дзе змешчаны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

**З чужыны** (стар. 66). Друкуецца па «Нашай Ніве», 1909, № 2, дзе змешчаны ўпершыню з паметкай: Кракаў, 1 студзеня 1909 г.

**Грайка** (стар. 67). Друкуецца па «Нашай Ніве», 1909, № 5, дзе змешчаны ўпершыню з паметкай: Кракаў. Датуецца годам апублікавання.

## ЯНКА КУПАЛА

Вялікі беларускі паэт Янка Купала (Іван Дамінікавіч Луцэвіч) нарадзіўся 8 ліпеня (25 чэрвеня ст. ст.) 1882 г. у фальварку Вязынка Вілейскага павета ў сям'і дробнага арандатара з беззямельных сялян. У 1898 г. скончыў народнае вучылішча. Да 21 года працаваў на гаспадарцы. Пасля быў вандроўным настаўнікам, пісарам у судовага следчага ў Радашковічах, чорнарабочым на броварах. У 1908 г. Я. Купала пераехаў у Вільню, дзе супрацоўнічаў у газеце «Наша Ніва» і працаваў бібліятэкарам у бібліятэцы Даніловіча «Знание». У канцы 1909 г. ён пераязджае ў Пецярбург і паступае на агульнаадукацыйныя курсы А. Чарняева.

Увосень у 1912 г. Купала вярнуўся ў Вільню і зноў стаў працаваць у «Нашай Ніве». У пачатку 1915 г. супраць яго, ужо як рэдактара «Нашай Нівы», была ўзбуджана судовая справа за апублікаванне артыкула «Думка». У жніўні 1915 г., у сувязі з вайной, Я. Купала эвакуіраваўся з Вільні. У 1916 г. яго прызвалі ў тылавое апалчэнне і залічылі старшым рабочым у дарожна-будаўнічы атрад, з якім ён пераязджае з Мінска ў Полацк, а затым у Смаленск. У Смаленску Янка Купала сустрэў Вялікую Кастрычніцкую рэвалюцыю. 21 студзеня 1919 г. ён вяртаецца ў Мінск, дзе і жыве да Вялікай Айчыннай вайны. У 1925 г. Урадам БССР Купалу нададзена годнасць народнага паэта. У 1939 г. Івана Дамінікавіча ўзнагародзілі ордэнам Леніна. Янка Купала абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Ён быў акадэмікам Украінскай і Беларускай акадэмій навук. У 1940 г. паэт быў удастоены звання лаўрэата Дзяржаўнай прэміі. У час Айчыннай вайны Купала жыве некаторы час у Маскве, а потым пераязджае ў пасёлак Печышчы каля Казані. Памёр у Маскве 28 чэрвеня 1942 г.

Першы верш Я. Купалы «Мужык» з'явіўся ў друку 15 мая 1905 г. на старонках газеты «Северо-Западный край». Яшчэ да рэвалюцыі выйшлі зборнікі яго вершаў «Жалейка» (1908), «Гусляр»

(1910), «Шляхам жыцця» (1913). У савецкі час былі выданы «Спадчына» (1922), «Безназоўнае» (1925), «Песня будаўніцтву» (1936), «Беларусі ардэнаноснай (1937), «Ад сэрца» (1940). Пры жыцці паэта ўбачыў свет і першы збор яго твораў (1925—1932). Пасля смерці Янкі Купалы ў 1961—1963 гг. Інстытутам літаратуры АН БССР было ажыццёўлена выданне Збору твораў Янкі Купалы ў шасці тамах.

Вершы друкуюцца па Збору твораў 1925—1932 гг. Спасылка на гэта выданне ў каментарыях давацца не будзе. Аўтографы твораў паэта захоўваюцца ў Літаратурным музеі Янкі Купалы.

**Мужык** (стар. 68). Упершыню — газ. «Северо-Западный край», 1905, № 746, 15 мая. Датуецца годам апублікавання. У аўтографе паметка аўтара: «Верш гэты быў надрукаваны ў мінскай расійскай газеце «Северо-Западный край», 15.V 1905, у № 746. Гэта першы мой выступ у беларускай літаратуры».

**Чаго б я хацеў** (стар. 70). Упершыню — зб. «Жалейка». Датуецца 1905 г.

*Пахлебства* — ліслівасць.

**З песень а бітвах** (стар. 72). Упершыню — зб. «Жалейка», дзе датуецца 30 сакавіка 1906 г.

**Зашумеў лес разгуканы** (стар. 73). Упершыню — пад назвай «Урывак», «Полымя», 1930, кн. 5—6, дзе датуецца 2 чэрвеня 1906 г.

**Спрасоння** (стар. 75). Упершыню — зб. «Жалейка», дзе датуецца 10 верасня 1906 г.

*Патоля* — палёгка.

**Што ты спіш?** (стар. 77). Упершыню — кніга І. Свянціцкага «Відроджене білоруського письменства» (1908), з падзагалоўкам «Пабудка», за подпісам: Марка Бяздольны. У Зб. тв., 6, 1932 датуецца 1906 г.

**Там** (стар. 80). Упершыню — кніга І. Свянціцкага «Відроджене білоруського письменства». У Зб. тв., т. 6, 1932 датуецца 1906 г.

**Вясна** (стар. 82). Упершыню — зб. «Спадчына», дзе датуецца 1906 г.

**Хай жа вам так не здаецца** (стар. 83). Упершыню — зб. «Спадчына», дзе датуецца 1906 г.

**На службе** (стар. 84). Упершыню — «Полымя», 1929, кн. 2, дзе датуецца 1906 г.

**Вы кажаце...** (стар. 85). Упершыню — «Полымя», 1929, кн. 2, дзе датуецца 1906 г.

**Ворагам Беларушчыны** (стар. 86). Упершыню — «Наша Ніва». 1908, № 12, за подпісам: Янук Купала. У Зб. тв., 2, 1926 датуецца 1907 г.

**Я не для вас...** (стар. 88). Упершыню — «Полымя», 1929, кн. 2, дзе датуецца 8 чэрвеня 1907 г.

**Перад бурай** (стар. 90). Упершыню — «Полымя», 1929, кн. 2, дзе датуецца 14 чэрвеня 1907 г.

**Не чакай...** (стар. 91). Упершыню — «Полымя», 1929, кн. 2, дзе датуецца 14 чэрвеня 1907 г.

**Лета** (стар. 92). Упершыню — «Наша Ніва», 1907, № 24, за подпісам: Янук Купала. Датуецца годам апублікавання.

**Праступнік** (стар. 93). Упершыню — зб. «Спадчына», дзе датуецца 1907 г.

**З маіх песень** (стар. 94). Упершыню — зб. «Жалейка». Датуецца ўмоўна 1905—1907 гг.

**А хто там ідзе?** (стар. 95). Упершыню — зб. «Жалейка». Датуецца ўмоўна 1905—1907 гг. У аўтографе загаловак адсутнічае.

**Песня вольнага чалавека** (стар. 96). Упершыню — зб. «Жалейка». Датуецца ўмоўна 1905—1907 гг.

*** **«Я відзеў душы сільныя...»** (стар. 98). Упершыню — зб. «Жалейка», дзе змешчаны пад загалоўкам «Я відзеў». Датуецца ўмоўна 1905—1907 гг.

**Воля** (стар. 99). Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1925, раздзел «Жалейка». Пад аўтографам подпіс: Янук Купала і паметка: У «Жалейку». Датуецца ўмоўна 1905—1907 гг.

**З песень беларускага мужыка** («Я — багач, я — магнат!..») (стар. 100). Упершыню — зб. «Жалейка», нізка «З песняў беларускага мужыка». Датуецца ўмоўна 1905—1907 гг.

**Вось тут і жыві...** (стар. 102). Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1925, раздзел «Жалейка». Спачатку меў загаловак «З песняў мужыцкіх». Датуецца ўмоўна 1905—1907 гг.

**Якія** (стар. 103). Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1925, раздзел «Жалейка». Датуецца ўмоўна 1905—1907 гг.

**Захад сонца** (стар. 104). Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1925, раздзел «Жалейка». Пад аўтографам подпіс: Янук Купала. Пад другім аўтографам, які напісаны лацінкай, паметка: У «Жалейку». Датуецца ўмоўна 1905—1907 гг.

**Зіма** (стар. 106). Упершыню — зб. «Жалейка». Датуецца ўмоўна 1905—1907 гг.

**Я не паэта** (стар. 108). Упершыню — зб. «Жалейка». Датуецца ўмоўна 1905—1907 гг.

**Аратаму** (стар. 110). Упершыню — «Наша Ніва», 1908, № 9, за подпісам: Янук Купала. Тэкст — у рукапісным зборніку «Шляхам жыцця». Датуецца годам апублікавання.

*Злыдні* — нягоды.

**Роднае слова** («Магутнае слова, ты, роднае слова!»... (стар. 111). Упершыню — зб. «Спадчына». Датуецца 1908 г.

*** **«Грымну я, грымну па струнах бунтарных...»** (стар. 112). Упершыню — «Полымя», 1930, кн. 5—6. Датуецца 1908 г.

**Перад вясельняй** (стар. 113). Упершыню — «Полымя», 1929, № 2. Датуецца 1908 г.

**Зваяваным** (стар. 116). Упершыню — «Наша Ніва», 1909, № 8, пад назвай «Вучыцелям людскім», за подпісам: Янук Купала, з паметкай: Вільня. 3.II 1909 г.

**Не ўздыхай** (стар. 117). Упершыню — «Наша Ніва», 1909, № 24, без загалоўка, за подпісам: Янук Купала, з паметкай: Вільня, 8.II 1909 г.

**Памяці Шаўчэнкі** («Ад гасцінца да гасцінца...») (стар. 118). Упершыню — «Наша Ніва», 1909, № 11. Друкуецца па тэксту зб. «У вянок Т. Г. Шаўчэнкі», дзе датуецца 26.II 1909 г.

**Паводка** (стар. 119). Упершыню — «Наша Ніва», 1909, № 15, за подпісам: Янук Купала, з паметкай: Вільня. 27.III 1909 г.

**Песня-байка** (стар. 120). Упершыню — «Наша Ніва», 1909, № 21, за подпісам: Янук Купала, з паметкай: Вільня. 30.IV 1909 г.

**Заклятая кветка** (стар. 121). Упершыню — «Наша Ніва», 1909, № 26, за подпісам: Янук Купала, з паметкай: Вільня. 16.VI 1909 г.

**Вісельнік** (стар. 123). Упершыню — «Наша Ніва», 1909, № 37, без загалоўка, за подпісам: Янук Купала, з паметкай: Вільня. 18.VIII 1909 г.

**Перад світаннем** (стар. 125). Упершыню — зб. «Шляхам жыцця». У рукапісным зборніку пад аўтографам подпіс: Янук Купала і паметка: Бенін. 20.X 1909 г.

**Адцвітанне** (стар. 126). Упершыню — «Наша Ніва», 1909, № 44, за подпісам: Янук Купала. Датуецца годам апублікавання.

**Снег** (стар. 127). Упершыню — «Наша Ніва», 1909, № 49, з падзагалоўкам: «Па Пшыбышэўскім» за подпісам: Янук Купала, з пёметкай: Вільня. Датуецца годам апублікавання.

**Песня званара** (стар. 129). Упершыню — «Першы беларускі каляндар «Нашай Нівы» на 1910 год». У Зб. тв., т. 2, 1926 і прыжыццёвых выданнях датуецца 1909 г. Друкуецца з папраўкай 21-га радка па рукапіснаму тэксту зб. «Шляхам жыцця».

**Тут і там** (стар. 131). Упершыню — зб. «Спадчына». Пад аўтографам подпіс: Я. Купала. 1909 г.

**Песня сонцу** (стар. 132). Упершыню — «Наша Ніва», 1910, № 27. Пад тэкстам паметка: Пецярбург. 26.IV 1910 г.

**Явар і каліна** (стар. 134). Упершыню — «Беларускі каляндар «Нашай Нівы» на 1911 год». Пад тэкстам паметка: Пецярбург. 6.V 1910 г.

**Я ад вас далёка** (стар. 135). Упершыню — «Наша Ніва», 1910, № 33, з паметкай: Пецярбург. 17.VII 1910 г.

**Мая думка** (стар. 137). Упершыню — «Наша Ніва», 1910, № 36, з падзагалоўкам «Ахвярую Канстанцыі Буйла», з паметкай: Пецярбург. 19.VIII 1910 г.

*** **«Я нясу вам дар...»** (стар. 138). Упершыню—зб. «Гусляр», дзе апублікаваны без загалоўка ў якасці ўступа да зборніка. Датуецца ўмоўна 1908—1910 гг. Вершы **«Гуслі-самаграі»** (стар. 139), **«Адгукніся, душа!..»** (стар. 140), **«Вясна»** (стар. 141), **«З песень аб мужыцкай долі»** (стар. 143), **«Зімой у лесе»** (стар. 145), **«Знямога»** (стар. 146), **«Наша мінуўшчына»** (стар. 147), **«Песня»** («Па зімовай па дарожцы...») (стар. 148), **«Пакахай мяне, дзяўчына»** (стар. 149), **«Сірочая доля»** (стар. 151), **«Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?»** (стар. 153), **«Як тут весела спяваці»** (стар. 155). Упершыню — зб. «Гусляр». Датуюцца ўмоўна 1908—1910 гг.

**Гэй, наперад** (стар. 156). Упершыню —«Наша Ніва», 1912, № 24, за подпісам: Янка Купала. Пад аўтографам паметка: Я. Купала. Акопы. 2.VI 1911 г.

**Дуб** (стар. 157). Упершыню — «Наша Ніва», 1911, № 23. Датуецца годам апублікавання.

**Хохлік** (стар. 158). Упершыню — зб. «Шляхам жыцця». Маюцца два аўтографы, на адным з іх загаловак «Царства Хохліка»; пад тэкстам паметка: Янка Купала. 8.VI 1911 г.

*Хохлік* — чорт.

**Песня мая** (стар. 159). Упершыню — зб. «Шляхам жыцця». Аўтограф датуецца 15 чэрвеня 1911 г.

**Жняя** (стар. 161). Упершыню — зб. «Шляхам жыцця». У рукапісным зборніку пад вершам паметка: Акопы. 21.VI 1911.

**З летніх малюнкаў** (стар. 162). Упершыню — «Наша Ніва», 1911, № 28—29. У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» пад тэкстам паметка: Акопы. 25.VI 1911 г.

**За свабоду сваю...** (стар. 163). Упершыню—зб. «Шляхам жыцця». Пад аўтографам паметка: Акопы. 13.VII 1911 г.

**Над ракою ў спакою** (стар. 164). Упершыню — «Наша Ніва», 1911, № 31—32. Пад аўтографам паметка: Акопы. 30.VII 1911 г.

**Летняя раса** (стар. 165). Упершыню — «Наша Ніва», 1911, № 35, з паметкай: Акопы. 1911 г.

**Слугам алтарным** (стар. 166). Упершыню — «Полымя», 1929, № 2. Маюцца два аўтографы, абодва пад загалоўкам «Служыцелям алтарным». Датуецца 1911 г.

**Выйдзі...** (стар. 167). Упершыню—«Наша Ніва», 1912, № 19—20, з паметкай: Пецярбург. 10.III 1912 г.

**З кутка жаданняў** (стар. 169). Упершыню —«Наша Ніва», 1913, № 7. У рукапісным зб. «Шляхам жыцця» пад вершам паметка: СПб. 25.X 1912 г.

**Я люблю** (стар.170). Упершыню — зб. «Шляхам жыцця». У рукапісным зборніку пад вершам паметка: СПб. 1.XI 1912 г.

Вершы «**Вёска**» (стар. 171), «**Дзе ты, шчасце маё?..**» (стар. 172), «**Жнеям**» (стар. 173), «**Маладая Беларусь**» (стар. 174), «**Наша песня**» (стар. 176), «**Не для нас...**» (стар. 177), «**Паляці, мая мысль...**» (стар. 178), «**Суды**» (стар. 179), «**Ці ж не доля мая?!**» (стар. 181), «**Шлях мой...**» (стар. 182). Упершыню — зб. «Шляхам жыцця». Датуюцца ўмоўна 1911—1912 гг.

**Усюды лета** (стар., 183). Упершыню — зб. «Спадчына». Пад аўтографам паметка: Акопы. 19.VI 1913 г.

**Будзь смелым!..** (стар. 184). Упершыню — газ. «Беларусь», 1919, № 53. У зб. «Спадчына» датуецца 3.VII <19>13 г.

**Жар не згас** (стар. 185). Упершыню — «Наша Ніва», 1913, № 30. Датуецца годам апублікавання.

**Янка і свабода** (стар. 186). Упершыню — «Наша Ніва», 1913, № 43, пад загалоўкам «У мутным віры», за подпісам: К-а. У Зб. тв., т. 6, 1932 датуецца 1913 г.

**Дзе ні кінь — дык клін** (стар. 187). Упершыню — «Калядная пісанка» (1913), за подпісам: К-а. Датуецца годам апублікавання.

**Моладзі** (стар. 189). Упершыню — часоп. «Лучынка», 1914, кн. 2, з паметкай: Вільня. 23.I <19>14 г.

**На полі тае** (стар. 190). Упершыню — зб. «Спадчына». Датуецца 23.I 1914 г.

**Б'юць на трывогу званы...** (стар. 191). Упершыню—«Наша Ніва», 1914, № 16, з паметкай: Вільня. 27.I 1914 г. Друкуецца па зб. «Безназоўнае», 1928, выд. 2-е.

**Маё цярпенне** (стар. 193). Упершыню — «Наша Ніва», 1915, № 2, без загалоўка. Датуецца 3.I <19>15 г.

**Плача восень** (стар. 194). Упершыню — часоп. «Беларускае жыццё», 1919, № 14. Датуецца 1915 г.

**Мая вера** (стар. 195). Упершыню — зб. «Зажынкі». М., 1918 г. Дакладна дата напісання невядома, па меркаваннях даследчыкаў, напісана да Кастрычніцкай рэвалюцыі.

## ЯКУБ КОЛАС

Выдатны беларускі паэт Якуб Колас (Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч) нарадзіўся 3 лістапада (22 кастрычніка ст. ст.) 1882 г. у вёсцы Акінчыцы Мінскага павета (зараз Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.) у сям'і лесніка. У 1902 г. скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю і працаваў у вясковых школах на Палессі. За ўдзел у нелегальным з'ездзе беларускіх настаўнікаў (1906) быў звольнены з пасады і асуджаны на тры гады турэмнага зняволення. Пасля выхаду

з турмы настаўнічаў. Увосень у 1915 г. Канстанціна Міхайлавіча мабілізавалі ў армію. Быў на фронце.

Упершыню ў друку выступіў у 1906 г. Да Кастрычніка выйшлі яго зборнікі «Песні жальбы» (1910), «Апавяданні» (1912), «Родныя з'явы» (1914).

У савецкі час талент Я. Коласа бліскуча разгарнуўся ва ўсіх галінах літаратурнай творчасці — паэзіі, прозе, драматургіі, літаратурнай крытыцы, публіцыстыцы. Убачылі свет зборнікі апавяданняў «Казкі жыцця» (1921), аповесці «У палескай глушы» (1923), «У глыбі Палесся» (1927), «Адшчапенец» (1932), «Дрыгва» (1934), п'еса «Вайна вайне» (1938); кнігі вершаў «Водгулле» (1922), «Нашы дні» (1937), «Адпомсцім» (1942), «Голас зямлі» (1943), паэмы «Новая зямля» (1923), «Сымон музыка» (1925), «Суд у лесе» (1943), «Адплата» (1944) і інш.

У 1952 г. Дзяржаўнае выдавецтва БССР выпусціла ў свет Збор твораў Я. Коласа ў 7 тамах. Чатырохтомнае выданне твораў паэта ў перакладзе на рускую мову выйшла ў 1951—1952 гг. у Маскве.

У 1961—1964 гг. было ажыццёўлена выданне дванаццацітомнага Збору твораў Я. Коласа.

У 1926 г. Урад БССР прысвоіў Якубу Коласу званне Народнага паэта Беларусі. Паэт быў двойчы ўдастоены звання лаўрэата Дзяржаўнай прэміі.

Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч праводзіў вялікую грамадска-палітычную, культурную і навуковую работу. Ён з'яўляўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР і дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР, быў адным з арганізатараў Акадэміі навук БССР, а з часу яе ўтварэння нязменным віцэ-прэзідэнтам.

Памёр 13 жніўня 1956 г.

Амаль усе вершы Я. Коласа друкуюцца па 1 тому апошняга прыжыццёвага выдання яго твораў (Збор твораў у сямі тамах, 1952), таму спасылкі на гэта выданне ў каментарыях не даюцца.

**Наш родны край** (стар. 196). Упершыню — «Наша доля», 1906, № 1. У Зб. тв., т. 1, вып. I, 1928 датуецца 1906 г.

**Ворагам** («Багачы і панства...») (стар. 197). Упершыню — Зб. тв., т. 1, вып. II, 1928. Датуецца 1906 г. У «Гісторыі беларускай літаратуры» М. Гарэцкага (Вільня, 1921, выданне другое) верш змешчаны пад назвай «Нашым ворагам».

**Дарога** («Між палёў шырокіх») (стар. 199). Упершыню — «Наша Ніва», 1906, № 4. Датуецца годам апублікавання.

**На Новы год** (стар. 200). Упершыню—«Наша Ніва», 1907, № 1. Датуецца годам апублікавання.

**Вёска** (стар. 201). Упершыню — «Наша Ніва», 1907, № 13. Датуецца годам апублікавання.

**Месяц** (стар. 202). Упершыню — «Наша Ніва», 1907, № 14. Датуецца годам апублікавання.

**Сябрам** («Ой, сябры мае вы мілы...») (стар. 203). Упершыню — «Наша Ніва», 1907, № 20, дзе друкаваўся з прысвячэннем: «Народным вучыцелям, што пацярпелі за свабоду». Датуецца годам апублікавання.

**Не бядуй** (стар. 204). Упершыню — «Наша Ніва», 1907, № 28. Датуецца годам апублікавання.

**На гасцінцы** (стар. 205). Упершыню — «Наша Ніва», 1907, № 36. Датуецца годам апублікавання.

**Вецер** («Ой ты, вецер неспакойны») (стар. 206). Упершыню —

«Наша Ніва», 1908, № 9. У Зб. тв., т. 1, вып. I, 1928 датуецца 1908 г.

**Пясняр** (стар. 207). Упершыню — «Наша Ніва», 1908, № 10. Датуецца годам апублікавання.

**Доля батрачкі** (стар. 208). Упершыню — «Наша Ніва», 1908, № 11. Датуецца годам апублікавання.

**Рольнік** (стар. 210). Упершыню — «Наша Ніва», 1908, № 12, пад назвай «Хлебароб». Датуецца годам апублікавання.

**На полі вясною** (стар. 212). Упершыню — «Наша Ніва», 1908, № 13. Датуецца годам апублікавання.

**Мужык** («Я — мужычы сынок») (стар. 214). Упершыню — «Наша Ніва», 1908, № 15. У Зб. тв., т. 1, вып. I, 1928 датуецца 1908 г.

**Усход сонца** («На усходзе неба грае») (стар. 216). Упершыню — «Наша Ніва», 1908, № 18. У Зб. тв., т. 1, вып. I, 1928 датуецца 1908 г.

**За падаткі** (стар. 218). Упершыню — «Наша Ніва», 1908, № 19. Датуецца годам апублікавання.

**Чыгунка** (стар. 219). Упершыню — «Наша Ніва», 1908, № 23. Пад тэкстам паметка: Мінск. У Зб. тв., т. 1, вып. I, 1928 датуецца 1908 г.

**Маці** (стар. 220). Упершыню —«Наша Ніва», 1909, № 39. У Зб. тв., т. 1, вып. II, 1928 датуецца 1908 г.

*** **«Думкі ўюцца, томяць грудзі...»** (стар. 223). Упершыню — «Наша Ніва», 1909, № 46. У Зб. тв., т. 1, вып. I, 1928 датуецца 1908 г.

**Удовіна хата** (стар. 224). Упершыню — Зб. тв., т. 1, вып. I, 1928. Датуецца 1908 г.

**Вярбіна** (стар. 225). Упершыню — «Наша Ніва», 1909, № 3. Пад тэкстам верша паметка: Мікалаеўшчына. Датуецца годам апублікавання.

**Песні вясны** (стар. 226). Упершыню — зб. «Водгулле», дзе датуецца 19. I 1909 г.

**Не дамся** (стар. 227). Упершыню — зб. «Водгулле», дзе датуецца 3.II 1909 г.

**Ноч** («Між палёў шырокіх...») (стар. 229). Упершыню — «Наша Ніва», 1909, № 28—29. Пад тэкстам паметка: Мікалаеўшчына. Датуецца годам апублікавання.

***«**Сохну марна я ў астрозе...**» (стар. 230). Упершыню — «Наша Ніва», 1909, № 33, пад назвай «Родныя абразы»; пад вершам паметка: Мікалаеўшчына. У зб. «Песні жальбы» змешчаны пад назвай «Думкі ў турме». 24-ы радок выпраўлены самім аўтарам у машынапісу 1950 г. Датуецца годам апублікавання.

**Родныя песні** (стар. 232). Упершыню — «Наша Ніва», 1909, № 51—52, пад вершам паметка: Мікалаеўшчына. У Зб. тв., т. 1, вып. I, 1928 датуецца 1909 г.

**Я не знаю...** (стар. 233). Упершыню — зб. «Песні жальбы», дзе першая страфа адсутнічае. У Зб. тв., т. 1, вып. I, 1928 апублікаваны пад назвай «Родныя абразы». Датуецца 1909 г.

**Мужык** («Я — мужык, бядак пахілы...») (стар. 234). Упершыню — «Вольная Беларусь», 1917, № 35, дзе змешчаны разам з вершам «Канстытуцыя» пад агульным загалоўкам «З недалёкай прошласці». У Зб. тв., т. 1, вып. I, 1928 датуецца 1909 г.

**Горкая доля** (стар. 235). Упершыню — Зб. тв., т. 1, вып. I, 1928, дзе датуецца 1909 г.

**Неба** («Дружа! Кінь на неба вока...») (стар. 236). Упершыню —

